— На работу хаджу, на будаўніцтва.
— А што робіце?
— Раней пры машыне стаяў—зямлю на канаве чэрпалі. А гэта—зараз муравань пачнём.
— Вы хіба муляр?
— Э-э, тут усяму навучаць. На ўсякую справу майстрам зробяць.
— А я тут, каб прышлося, мог-бы дзе прыстаць?
— Ці гэта-ж трэба яшчэ пытацца? Адно толькі ідзі, будзь ласкаў. Работу ў рукі дадуць і яшчэ падзякуюць.
— Дык-жа добра. Я пытаю, бо тутэйшых парадкаў не ведаю. Трэба будзе, мусіць па сваёй сіле работу апытаць. Да Несцяровіча яўлюся і... Сказаць праўду—рамяство маё цяпер на заняпад пайшло. Можа пасля там, а цяпер—калгасы, знаеце, рэзрух...
— То гэта вы толькі з дарогі?
— З дарогі.
— Чаго-ж вы стаіце! Скідайце кажух, ды на печ лезце. Зараз перакусім чаго. Пакуль што асталёўвайцеся тут, што-ж рабіць, нейк-жа будзе.

Кравец пачаў распранацца. Ен паглядаў на гэтага ветлівага свайго суседа, заўважаў яго задаволены і вясёлы выгляд і думаў: „добры чалавек, бач як прыняў адразу, ні то што іншы які. У ботах добрых, жыкетка якая на ім, зарабіў. Відаць народ добра зарабляе і жыве сабе. А як толькі явіўся сюды, такі быў небарак лапцявозік!“ У краўца адлягло ад сэрца. Яму хацелася выказаць ветліваму чалавеку такую сваю думку: „Калі Несцяровіч тут самы большы начальнік, то можа і добра, што той, падла, Наўмыснік, маю хату прыбраў. Трухліна была, каб на яе агні. Цяпер можа мне хату дадуць такую, што... Антон Несцяровіч мне пашкадуе ці што? Сусед з даўных. Я-ж яму яшчэ памагаў калісьці бандытаў браць“. Але гэтай думкі ён не выказаў. Баяўся: „а што, калі гэта, як-небудзь пашкодзіць справе? Ніколі не трэба наперад нічым хваліцца.“

Назаўтра ён пашоў шукаць Несцяровіча і не знайшоў—той недзе ад‘ехаў да вечара. Вечарам павінен быў скончыцца суд, кравец пашоў у клуб, Несцяровіча ўбачыў, але пакуль падышоў, той некуды вышаў. І кравец не астаўся на судзе. Ен пашоў, лёг на печ і ўвесь вечар—то курыў, то лушчыў гарбузікі. Ен так раздумваў: „на год які мне аднаму пражыць—будзе за што, не ўсё-ж пражыў, што падзарабіў. А там—бог бацька. Так што паспею яшчэ знайсці Несцяровіча.“ Пасля, аднак яго брала злосць: „хоць ты к яму к канцу ночы заходзь! і ўдзень заходзіў, і ўвечары—няма дома, што ты зробіш!“ Нарэшце ён такі злавіў Несцяровіча. Гэта было ўжо на другі дзень пасля сканчэння суда. Несцяровіч быў дома. Ен жыў на ранейшых хутарах на ўзгорку, за лесам. Змеркласся, ён запаліў лямпу, Зося, адзетая ў дарогу, сядзела каля дзвярэй на табурэце.

— Назарэўскі паехаў,—гаварыў Несцяровіч,—на месца свае сталай працы паехаў. Але ён мне гаварыў пра вас. Калі вы захочаце астацца тут на работу, я вас заўсёды прыму. Нам работнікі патрэбны.

— Я з ім гаварыла, ён мне раіў астацца тут на работу. Гэта і праўда, мне туды варочацца, гэтўлькі было ўсяго... Але я не ведаю яшчэ, я вам напішу з дому, калі што якое і вы мне адкажаце ці можна прыязджаць.

— Можаце напісаць і я вам адкажу, але і без гэтага можаце заўсёды. Вы-б раздзеліся, яшчэ з гадзіну чакаць. Да горада вас давязе наша грузавая машына, якраз праз гадзіну пойдзе.

У гэты момант у хату увайшоў кравец. Зосю, абкручаную вялікай

хусткай, ён не пазнаў, а яна аж прыўстала са свайго месца: гэта нешта дзіўнае, гэты чалавек аж сюды явіўся, як-бы нейкі лёс час-ад-часу ставіць перад яе вачыма гэтага чалавека.

— Здароў, братачка Антон, ці пазнаў ты хаця мяне?

— Гэта ты? Дзе-ж ты бадзяўся?

— Або ты не ведаеш майго рамяства?

— Э-э, лысіна ў цябе пабольшала. А сам—такі-ж рухавы. Пехатой усё ходзіш?

— Няўжо-ж так, як ты на аўтамабілі. Хто гэта мог спадзявацца, што ты так выскачыш!

„Усюды ён усіх ведае"—думала Зося.

— Хата твая здаецца растала?

— Як гэта ты дапусціў да гэтага? Я к табе і прышоў—будаўніцтва маю хату сплавіла, то ты-ж тут начальнік, дай мне які-небудзь прытулак.

— Ты ўжо можа другі раз ажаніўся?

— Табе жарты ўсё.

— Якія там жарты!

— Дзе бачыў! Я па гадах і не стары, але жывецца так, валочышся вечна па свеце. Ці тут у цябе якая-небудзь работа мне знойдзецца?

— Чаму не?

— То пастаў мяне, браце, дзе-небудзь на работу, па маёй сіле і каб прытуліцца дзе.

— Займай якую-небудзь тут кулацкую хату, ці Багараўскіх, ці чыю іншую—даўно ужо тут няма іх.

— А хіба хаты пустуюць?

— Некаторыя пустуюць. Дзве брыгады рабочых перабраліся ў барак, па той бок лесу, цэглу рабіць будуць. Хаты запуставалі.

— То ты хіба, братачка, выдай мне хату Багараўскага. Не таго, што над рэчкай, а таго, што туды, пад дарогу. Ведаеш якога? Таго, што з індыком біўся.

— Ну, добра,—зарагатаў Несцяровіч.—Ты нейкага індыка памятаеш, Я пазабываў усе гэтыя інтарэсы.

— Ну, у цябе галава іншым забіта.

Тут кравец пачаў прыглядацца да Зосі і раптам пазнаў:

— І вы тут! На судзе былі? Прышлося вам! Бывае не пашанцуе чалавеку. (Павярнуўся да Несцяровіча) Некалькі тыдняў таму я-ж у іх начаваў у хаце! Хто гэта мог думаць! От бо ўсё на свеце круціцца.

Кравец сеў за стол і як мае быць расклаў на стале капшук з махоркай, паперу і локці. Пасля доўгай паўзы, ён уздыхнуў і павярнуў твар да Зосі:

— Я вам у вочы скажу, хочаце сабе майце на мяне крыўду, хочаце—не. Я такі чалавек. Я да людзей шчыры і хачу каб і да мяне былі шчырыя. Я ніколі свае думкі не затаю. Яшчэ даўно, калі я шыў у вас кажух, памятаеце? То сусед Сцяпуржынскі прыходзіў часамі паглядзець, як я шыю. Раз ён мне так сказаў: Тварыцкі, кажа, бедніцца і стогне, а каня адразу купіў. Нейкую, відаць, гатоўку мае. То цяпер я і думаю: раз меў як пражыць на свеце, то на чорта ён у гэтую авантуру палез? Што ён выграў? Выграў тое, што будзе цяпер адбываць прымусовыя работы.

Зосю як разанулі нажом па сэрцу. Яна ўспомніла: сапраўды была калісці такая справа: трэба было набываць усё ў гаспадарку. І ў Міхала раптам з'явіліся аднекуль грошы. Яна запытала: дзе ты ўзяў? Ён адказаў: „Як дзе ўзяў! Хіба ты не бачыла? Я-ж увесь час збіраў." Ён то збіраў, але не мог гэтулькі сабраць. Так яна тады падумала. І пасля

забылася на ўсю гэтую гаворку. Цяпер новая думка кальнула яе: „можа ён і тады ўжо ў якіх нечыстых авантурах быў!“ Пасля, праз пэўны час, усё высветлілася, стала ясным да самых найдрабнейшых дэталей. Цяпер-жа, апроч аднаго толькі Міхала Тварыцкага, ніхто нічога не ведаў.

Каля хаты спыніўся аўтамабіль. Зося развіталася і паехала. Дома яна застала Славу заплаканую. Дзіця з крыкам кінулася да маці і не магло ад яе адарвацца. Суседка сказала, што Слава бесперапынна пыталася „дзе мама“ і не верыла, калі казалі, што „мама скора прыедзе“.

— Яна нейкая напалоханая, вельмі баязлівая—гаварыла суседка.

Зося вярнулася ў сваю хату. Гэтыя сцэны душылі яе. Усё тут ёй было брыдкім, яна адчула ненавісць і да гэтай хаты і да ўсяго, што было з ёй звязана. Трымаючы Славу на руках, яна доўга сядзела і думала. Яна ўспаміна знаёмых, былых сваіх таварышак, думала пра іх. Некаторыя з іх пакончалі вышэйшыя школы, некаторыя ўжо выявіліся і выславіліся на рабоце вялікіх маштабаў. Пра адну сваю колішнюю таварышку яна чытала ў газеце, як пра выдатнага інжынера. А яна— у самыя лепшыя свае маладыя гады глядзіць гэтай нары, тхланіць гэтую цесную і, разам з тым, ненаедную прорву. Самыя лепшыя яе гады праходзілі ў блізасці з гэтай клыкастай авечкай (яна ніяк не магла забыцца слова Кандрата Назарэўскага пра Тварыцкага).

І яна пачала дзейнічаць. Былі-б рады, каб яна асталася ў калгасе, але ёй хацелася з'ехаць хоць на нейкі час з гэтага месца. І праз некалькі дзён яна напісала ліст да Антона Несцяровіча.

А яшчэ праз колькі дзён, Зося трымала Славу на руках пры выездзе з горада: яна чакала грузавой машыны з будаўніцтва. Каля яе стаяў чамадан і мяшок з рэчамі. Быў ранні вечар, свяцілі зоры, у гарадку было ціха. Здарожаная Слава флегматычна пытала:

— Мама, калі мы вернемся назад дадому?

— Мы зараз прыедзем дадому, але гэта будзе новы дом.

— Гэта далёка ад старога дому?

— Сама паглядзіш, зараз паедзем на машыне.

— А ў якім доме лепш, у новым ці ў старым?

— У новым.

— А чаму тут такі самы месяц, як і дома?

— Бо гэта той самы месяц.

— А чаму гэта месяц адзін?

Пасля доўгай паузы Слава зноў пытала:

— Я ў новым доме буду вучыцца?

— Будзеш, Славачка.

— А ты будзеш працаваць?

— Буду.

— Мяне будзе вучыць Ірынка.

— Ты будзеш у яе вучыцца.

— Яна малая?

— Не, яна вялікая.

— Раскажы мне яшчэ раз пра Ірынку.

Зося пачынала расказваць:

— Я тады была яшчэ не такая вялікая, як цяпер, а Ірынка зусім малая. Ірынчын брат біў на вайне буржуяў і паноў, а Ірынка адна жыла ў гэтым самым горадзе, дзе мы цяпер з табой чакаем машыны. Адзін раз уночы бандыты напалі на горад...

— Мама, а наш тата біў бандытаў, буржуяў і паноў?

Так Слава—дзіця,—дзяўчынка, Слава Тварыцкая ўваходзіла ў свет чалавечага жыцця.

5

Несцяровіч паказаў Зосі на будыніну пры лесе:

— Бачыце? Хата запуставала. Кулак з яе выселен даўно, там жылі нашы рабочыя, пасля выбраліся ў барак—ад'ехалі далей на работу. Ідзеце займайце і жывеце. Там некалькі баковак, у адной жыве той кравец, якога вы ведаеце.

— Кравец?

— Ён вам перашкаджаць не будзе. (Несцяровіч усміхнуўся.) Нічога, мне ён таксама надакучае, стары дзівак. Няхай сабе жыве ў кутку.

Зося пашла. Вялікая хата была прыткнута ў самы рог прагаліны паміж хвойніку, проста ў окны зазіраў арэшнік, агарод цягнуўся паўз дарогу. Мокры лёд укрываў двор, па ім цяклі раўчукі снегавой вады. На ганку стаяў кравец, кідаў далёка ад сябе хлебныя крошкі і падзываў курыцу. Курыца выцягвала шыю і баялася падыйсці бліжэй. Другая курыца была на прывязі: адзін канец шпагата завязан за курыную нагу, другі за слупок пры ганку. Замест таго, каб хоць запытаць, чаго ў гэтай старане зноў з'явілася Зося, або каб даць дзень-добры, кравец адразу пачаў растлумачваць:

— Дастаў дзве курыцы. Каб на іх паморак, ніяк да хаты не прывыкнуць. Пазацягаюцца, чорт ведае куды, бегай тады, шукай („Пачнецца гаворка"—думала Зося). Здаецца—курыца, плёвая справа, а тымчасам... Тут-жа народ тысячамі кішыць. Зловіць курыцу, адкруціць голаў, ды ў гаршчок.

— Хто гэта?

— Народ, я-ж кажу. Курыцы і тае пільнуйся.

Зося пашла ў хату, нічога не кажучы. Збянтэжаны кравец убег следам.

— Я сюды прыехала на работу. Несцяровіч мне сказаў, каб я тут жыла.

— Ён-жа мне гэтую хату адпусціў!

Зося моўчкі пачала аглядаць: кухня і тры пакоі, і з кожнага ў кухню асобны ход.

— Вы які пакой занялі?—запыталася Зося.

— Як які? Усе! Жыву.

— Адзін?

— А на што мне хто?

— Вы хіба банкеты якія збіраецеся рабіць? Нашто вам гэтулькі пакояў?

— У кожнага чалавека свая фантазія. І паводле, братачка, гэтае фантазіі, ён мае густ.

Зося стаяла і раздумвала. Кравец раптам да чагосці дадумаўся, змяніў тон:

— Божа мой, то вы-б адразу так і казалі. Займайце, які сабе хочаце пакой.

— Каторы спакайнейшы, каб праз яго не хадзілі... Гэты я вазьму.

— Бярэце сабе гэты, мне ўсё адно. Праўда, гэты большы, але як з вас, то я даражэй браць не буду. Адна цана будзе што за гэты, што і за той.

Зося ўсміхнулася і пашла па Славу і рэчы. Назаўтра кравец даведаўся, што Зося нічога яму плаціць не будзе і паімчаўся да Несцяровіча.

— Што гэта робіцца?—закрычаў ён,—хіба гэта парадкі! Маю хату раскідалі? Раскідалі. Калі ласка! Замест мае хаты ты мне даў другую? Даў.

— Калі ласка,—перафразіраваў краўца Несцяровіч.

— Табе смех! А нашто-ж ты мне людзей жыць пасылаеш? На чорта мне гэтыя кватаранты!

— Ну добра, калі не хочаш мець кватарантаў, то сам стань за кватаранта ў таго, хто там з табой жыве.

— Падай мне маю хату.

— То давай, калі так, ацэнім тваю хату і за яе табе будаўніцтва сплаціць.

— Добра. А колькі дасце?

— Падумаем колькі можна даць за тры шуркі трухлявых дроў.

— Э, брат ты мой, ты мусіць ужо зусім забываеш на наша даўнейшае суседства?

— Мы табе за хату заплацім, але ты не думай тут нажыцца. Мы табе заплацім не больш, чым твая хата варта. А цяпер табе далі дзе жыць? І ты жывеш? То чаму ты на работу не ходзіш? Кулацкія хаты цяпер належаць будаўніцтву і там могуць жыць толькі нашы рабочыя. Людзей нам патрэбна многа, але такіх, якія працуюць.

— Дай-жа мне абжыцца!

— Як абжыцца? Абжывацца трэба працуючы.

— А я што, з чужой ласкі абжываюся?

— Не хапала яшчэ гэтага. Станавіся сёння з паўдня на работу.

Не чакаючы такога рашучага тону, кравец адступіў на крок ад Несцяровіча.

— Я і сам думаў ужо станавіцца на работу. Чаго ты так вельмі ўсхадзіўся?

У глыбокім задуменні кравец пашоў дадому, а назаўтра зранку пашоў на работу. Некалькі чалавек ачышчалі месца пад забудову—seклі кусты і раўнавалі грунт. Кравец узяў у рукі сякеру. Праз гадзін дзве яму гэта работа страшна апрыкрала і ён сказаў брыгадзіру:

— Прызнацца сказаць, то я рамеснік, а гэта чорнарабочая справа. Я не кажу, вядома, што на гэтым будаўніцтве трэба даць мне голку ў рукі і аўчыну—на, шый кажух. Хоць калі сказаць праўду, кажух рабочаму чалавеку трэба ці не?

— Трэба.

— Гэта факт. Але тут не да гэтага. Тут сеч, капаць і мураваць трэба. То я-ж не толькі кравец, а і муляр. Я не толькі кажухі шыў, а і печы рабіў. Я не горшы муляр, як кравец. Я яшчэ ўмею гонту рабіць, у ганчарні гаршкі круціць.

— Добра, я скажу ў канторы, што вы муляр.

— Скажэце, братачка.

Такім парадкам, неўзабаве, кравец быў далучан да адной з мулярскіх брыгад. Як пасля выявілася, муляр ён быў вельмі добры. Хоць ён ужо і не думаў больш пра тое, каб браць кватэрную плату з Зосі, хоць і пагадзіўся з тым, што не адзін займае цэлы дамок, аднак-жа звысоку паглядаў на Зосю: што яна тут перад ім, спрадвечным тутэйшым тубыльцам, які не толькі ведае ўсю гэтую мясцовасць і тутэйшых людзей, а нават самому Несцяровічу гаворыць „ты“. Аднак-жа неўзабаве адбылася справа, пасля якое ён пачаў глядзець на Зосю інакш. Больш таго, часам нават пачаў яе пабойвацца. Аднойчы, у выходны дзень, у клубе адбыўся агульны сход. Перш за ўсё далі слова Несцяровічу. Ен гаварыў пра тое, што ўжо скора год як на гэтым месцы явіліся будаўнікі, што за гэты год—праведзена галоўнай асушальнай магістралі больш як тры чвэрткі ўсёй даўжыні (ён сказаў дакладную лічбу). За гэты год распачата будаўніцтва галоўнага корпусу электрастанцыі, арганізавана мясцовая вытворчасць цэглы, тут-жа кілометраў за шэсць ад самога

будаўніцтва, так што няма патрэбы прывозіць цэглу здалёк. (Несцяровіч гаварыў усё падрабязна, ён нават называў людзей, якія кіравалі і кіруюць пэўнымі галінамі). Так ён сказаў:—я сам тутэйшы і здаўна ведаў, што па той бок хвойнага лесу за берагавымі ўзгоркамі, ёсць добрая гліна. Доследы паказалі, што там яе гэтулькі, што можна было-б зрабіць вялікі цагельны завод. Пакуль што нам вялікага заводу не трэба, мы зрабілі невялікі, каб мець сваю цэглу на будаўніцтва. У нас ужо ёсць запасы і нястачы цэглы не будзе. Лепшай брыгадай цагельнікаў там кіруе Наўмыснік.

„Той, што маю хату раскідаў"—думаў кравец.

— Таварыш Наўмыснік—сказаў Несцяровіч,—гэтымі днямі мы пачынаем бесперапынную кладку сцен. Не будзе ў нас простояў з-за нястачы цэглы?

— Не будзе,—абазваўся дзесці з сярэдзіны зала голас.

Кравец аж падскочыў. „Што гэта! Што гэта за голас? Усё адно як брата роднага, такі знаёмы голас! Чый гэта голас, хто гэта, дзе я гэтага Наўмысніка чуў, дзе я яго бачыў?" Гэтая думка можа з гадзіну свідравала краўцовы мазгі, ён выцягваў шыю, круціў галавой, перабіраў вачыма кожнага чалавека, стараючыся ўбачыць—каторы гэта Наўмыснік. Нарэшце зашаптаў да суседа:

— Дзе гэта Наўмыснік, каторы ён?

Сядзіць там недзе на сярэдзіне,—нехаця адказаў сусед,—ціха,—дай паслухаць.

Кравец адшатнуўся ад суседа і пакрысе яго думкі набылі такі кірунак: „От бо здаецца часам чалавеку! Абазваўся чалавек адным словам, а мне ліха ведама што пачулася. Каб сапраўды быў знаёмы голас, то я ўспомніў бы хто! І прозвішча незнаёмае—Наўмыснік нейкі. Ліха яго бяры, здалося мне і больш нічога."

Пасля Несцяровіч сказаў, што зараз пачнецца будаванне дому на сорак кватэр—гэта будуць кватэры інжынернаму персаналу і лепшым ударнікам.

— Мы зараз, таварышы, разгледзім архітэктурны праект дому і пакрытыкуем гэты праект. (Несцяровіч усміхнуўся). Бо бачыце, гэты дом можа быць пачаткам будучага сацыялістычнага горада і трэба каб пачатак быў добры.

На сцэну падняўся інжынер-архітэктар, раскруціў вялізны ліст паперы і прыкалоў яго кнопкамі да падсунутага к самому краю дэкарацыйнага палотнішча. Гэта быў праект дома. Людзі прыўсталі са сваіх месц.

— Садзецеся!—закрычалі ззаду.

— Каму падабаецца праект, каму не?

— Добра, што там, інжынер лепш ведае,—загулі галасы.

Рысунак усё-ж разглядалі доўга, распытвалі, інжынер даваў тлумачэнні. Нарэшце к самай сцэне праціснулася жанчына. Усе заўважылі, як яна штосці загаварыла да інжынера, паказваючы на рысунак. Але гаварыла яна так ціха, што толькі бліжэйшыя да сцэны яе чулі. Інжынер прыгнуўся са сцэны, каб яе расслухаць:

— Мацней!—загукалі ззаду.

Устанавілі цішыню. Жанчына загаварыла мацней. Усе пачулі:

— Чаму-ж такі нізкі дом?

— Як нізкі—паціснуў плячыма інжынер.—Гэта чатырохпавярховы дом. Хіба-ж ён нізкі?

Чатырохпавярховы, але вельмі здаецца нізкі. Можа гэта так нарысавана?

— Ага,—усміхнуўся інжынер.—Я ведаю, што вы хочаце сказаць. Бачыце, дом высокі, але так здаецца. Гэта стыль такі.

Дык чаму-ж каб ён здаваўся нізкі, калі сапраўды ён высокі?

А чаму вам не падабаецца?

Я, таварыш інжынер, не магу разабрацца ў гэтых справах, я нідзе не вучылася і ў вялікіх гарадах не была, якія-небудзь вялікія там будовы бачыла толькі калі-небудзь на здымках, на рысунках. Тут на будаўніцтве разглядала нядаўна альбом. І можа я гавару няпраўду. Але калі запыталі, то хачу выказаць сваю думку. Вы мяне выбачайце.

— Ну, калі ласка.

— Можа, гэта будзе смешна...

— Калі ласка, калі ласка.

— Бачыце, як тут сказаць... Можа гэта ў мяне ў адной такое...

— Калі ласка, я слухаю.

— Мне самой хочацца, калі будаваць ужо што новае, і дарагое, то каб яно мела выгляд... Мне здаецца, што ўсё нізкае—непрыемна. Я сама колькі жыла, дык усё ў нізенькіх трухлявых хатах. Столь здаецца прыдушвае нават голас. Паднімеш руку—і дастанеш столь, дастанеш страху, дастанеш усё сярод чаго жывеш. Усё нізкае, як прыгінаецца да зямлі. Няма прастору. А тут, такі даміна—і таксама здаецца сцелецца па зямлі, а не ўзнімаецца ўгару.

— Ага, я вас разумею. Вы хочаце іншы стыль.

— Каб самы выгляд быў высокі, угару каб ішоў. Каб не было падобна да гэтай нізкай спрадвечнай столі. Яно то не так тут, высока, але ў вочы кідаецца быццам нізка.

— Правільна,—абазваўся з свайго месца Несцяровіч.—Сапраўды гэтая глухая паласа сцяны над верхнім радам акон.

Гутарка ідзе пра стыль.

Жанчына адышлася на свае месца і села.

— Што гэта за яна? зашапталіся ззаду.

— Работніца з пабудовы, хто-ж.

Інжынер пачаў шукаць вачыма жанчыну.

— Я, таварыш, не ведаю, як вас...

— Тварыцкая...

— ... Таварыш Тварыцкая, некалькі слоў з вамі яшчэ, калі ласка, пасля сходу, наконт праекта...

Думка, выказаная Тварыцкай, паклала пачатак спрэчак і праект быў адхілен. Усе бачылі, разыходзячыся са сходу, як інжынер гаварыў з Тварыцкай і ставіў на рысунку карандашныя адзнакі. Кравец спыніўся на выхадзе, паківаў галавою, гледзячы на інжынера і Тварыцкую і прагуў сам сабе пад нос:

— От-жа бачыш, хто гэта ад яе спадзяваўся.

І пашоў, зусім ужо забыўшыся на тое, што Наўмыснікаў голас здаўся яму знаёмым.

Тут трэба сказаць, што Наўмысніка ў клубе даўно ўжо не было. Здарылася так, што ён пашоў са сходу пасля выступлення Несцяровіча і не чуў, як на абгаварэнні праекта дома жанчына сказала, што яе прозвішча—Тварыцкая. Каб ён пачуў тут гэтае прозвішча, ён-бы не ішоў бы так спакойна цяпер у свой бок, ён-бы напэўна ламаў бы галаву што цяпер рабіць. Таксама ён нічога яшчэ не ведаў і пра тое, што на пабудове з'явіўся кравец, хату якога ён так стараўся разбурыць. Каб ён пра гэта ўсё дазнаўся, у галаве яго напэўна пашлі-б спецъ рашучыя планы. Але нічога гэтага не было, ён спакойна падзьмухваючы прз вусы, пашоў за кілометраў шэсць па той бок лесу, дзе яго брыгада рабіла цэглу. Там ён і жыў і вельмі мала калі з'яўляўся

на самай пабудове па гэты бок лесу. Душа гэтага чалавека была цяпер зусім спакойнай. Калі судзілі Тварыцкага, ён на суд не прыходзіў. Толькі разявіўся ўвечары, пастаяў у самых дзвярах, зірнуў на дробную Тварыцкага галаву і адразу падаўся назад, маўклівы як магіла. І ні адна душа тут пра яго нічога дрэннага не думала. І наогул—мала пра яго думалі: ён сваю работу рабіў добра, але нікуды наперад не патыкаўся. Ен быў задаволен сам сабой, але не тым, сярод чаго хадзіў сваёй роўнай хадой. Надышоў час, калі яго душа адкрылася перад усімі. І хоць гэта было не задоўга пасля гэтага часу, аднак-жа першая чарга будаўніцтва ўжо тады канчалася. Тады адбыліся справы, якія прымусілі многіх азірнуцца назад, некаторых нават у свае маленства. Былі адразу ўспомнены імёны двух нябошчыкаў, быццам іх закаранелыя цені з'явіліся раптам сюды і прайшлі па гэтай пературанай ужо тады мясцовасці. Ператварэнне-ж гэтае ішло намаганнямі тысяч людзей. Пра ўсё будзе расказана сваім парадкам.

Крыху збянтэжаная ад гутаркі з інжынерам Зося Тварыцкая павярнулася к выхаду. Раптам да яе падышла маладая дзяўчына. Зося яе не ведала. На Зосіным твары былі яшчэ рэшткі наіўнай нясмеласці, з якой яна выказвала інжынеру свае думкі. Каб у гэты момант быў тут Кандрат Назарэўскі, ён з аднаго гэтага выразу твару мог-бы ўспомніць колішнюю дзяўчынку ў той даўны момант, калі яна з дзіцячай наіўнасцю пыталася ў Скуратовіча чаму ён не запрог хвораму чырвонаармейцу лепшага каня.

Дзяўчына сказала Зосі:

— Я чула, як вы гаварылі. Вы быццам выказалі мае думкі. Я даўно ведала, што вы тут, але і знайсці вас не магла, я вельмі занятая. Я сястра Кандрата Назарэўскага. Брат мне гаварыў, што вы пра мяне ў яго пыталіся.

Зося яшчэ горш збянтэжылася і нават адступіла на крок, глянуўшы ў Ірынін твар. Яна ўбачыла перад сабою чырвонашчокую дзяўчыну, вельмі з выгляду маладую. Сіняе пальто з чорным цікавым каўняром было моднае, шчыльна аблягала яе постаць. Чамусці ў пальце яна здавалася высокай. Пасля ўжо, калі Ірына была без пальта, Зося бачыла, што яна куды меншая ростам. На галаве была такая-ж чорная, як і каўнер, мехавая шапачка. Усё па модзе і з густам, пад гарнітур.

З братавых расказаў я ведала даўно, што вы ёсць на свеце, але якая вы не ведала дагэтуль. Я вас бачыла раз на судзе, але не смела падыйсці да вас тады.

„Да мяне не смела падыйсці? Да мяне заўсёды ўсе падыходзілі вельмі смела. Што гэта яна гаворыць".

Хвілін тры абедзве не ведалі, што сказаць адна адной.

— Вы мяне раз бачылі, яшчэ ў маленстве, на вакзале, вы былі бяспрытульніца. Чырвонаармеец прыехаў забіраць вас.

Чырвонаармейца памятаю, а вас не магу ўспомніць.

— А чаму вы не смелі, кажаце, на судзе падыйсці? Як гэта?

— Ну што-ж у такі час трывожыць чалавека?

— Я сёння тут гаварыла, а мне здаецца, што ўсе на мяне пальцамі паказваюць і ачэй не зводзяць. Усе, здаецца, думаюць—от яна, тая самая, жонка таго самага Тварыцкага.

— Менш за ўсё вам пра гэта трэба думаць.

— Вядома, я не вельмі над усім гэтым раздумваю. Я працую і рада. Усё што прайшло—тое прайшло.

— Вашу дачку я ўбачыла раней як вас. Учора я заходзіла ў дзіцячы сад. Мне паказалі Славу Тварыцкую. Я з ёю крыху пагаварыла. Яна неахвотна мне адказвала, найбольш моўчкі глядзела на мяне.

Ірына і Зося ішлі ўжо з клуба прымерзлаю к ночы сцежкаю. Быў блізкі вечар. Краем леса прайшлі яны да былых хутарскіх хат—дзве хаты былі пад дзіцячым садам. Яны ўвайшлі. Зосі трэба было забраць Славу. Быў час разыходу дзяцей. Некаторыя аставаліся нанач—тых пераводзілі ў другі пакой цераз сенцы. Жанчыны адзявалі сваіх дзяцей, каля нізенькай вешалкі дзеці самі бралі сваю адзежу. Выгуквалі асобныя словы, штосьці расказвалі, пыталі, скардзіліся. Чуўся Славін галасок:

— Я ведаю свае месца на вешалцы: у мяне там прыклеен піанер. Мама мне выразала з газеты, а я сама зарысавала чырвоным карандашом. А ты гаварыла, што я не пазнаю дзе мая адзежа вісіць. Эх, ты, якая...

Зося ўсміхнулася, падышла да Славы, пацалавала ў лоб, пагладзіла па стрыжаных „пад грыўку“ валасах і памагла ёй апрануцца. Ісці дадому было недалёка, усе краем леса, узгоркаватым лясным берагам. Унізе павольна варушылася пад сінім льдом рэчка. Месцам вада ўжо вышла наверх, лёд асеў, гатовы ламацца і рушыць. Лес рос над рэчкай высока; бесперапынна стукалі дзятлы. Па той бок рэчкі нізка і роўна ляжала балота. Далёка на ім чарнеліся хмызнякі, за іх спускалася вялікае сонца. Ружовыя водсветы дрыжэлі на мерзлай зямлі, на імшыстым куп‘і, на сінявай вадзе. У адным месцы, пры высокім беразе, лёд зусім праламаўся і адпоўз пад напорам вады к нізкаму берагу. Вада бесперапынна білася ў берагавы схіл, нараджаючы бесперапынны меланхалічны звінючы гук. Водыр леса і вады цёк скрозь.

Слава трымалася за Зосіну руку, Ірына ішла наперадзе. Слава распытвала пра лёд, пра спуск сонца за далёкія хмызнякі, пра берагавы мох і леташнюю траву. Пасля папрасілася на рукі „ненадоўга, толькі на адзін раз сказаць на вуха“, прытулілася губамі да Зосінага твару і шапнула:

— Мама, хто гэта ідзе з намі?

— Памятаеш я табе многа разоў гаварыла пра Ірынку Назарэўскую.

— Гэта яна-а-а?

— Яна.

— Гэтакая вялікая? Ірынка-ж малая.

— Яна ўжо вырасла.

Слава не зводзіла ачэй з Ірыны. Зося сказала Ірыне:

— Слава дзівіцца, што вы не малая, а вялікая.

І яна перадала Ірыне ўсю нядаўную гаворку з Славай.

— А чаму яна так?

— Я ёй часта расказвала пра вас малую і яна ўжо цяпер мне любіць расказваць „казку пра бяспрытульніцу Ірынку“.

— Раскажы, Славачка,—папрасіла Ірына, узяўшы Славу на рукі.

Славу доўга ўпрошвалі. Нарэшце Зося сама пачала:

— Жыла малая Ірынка...

— Не, не так,—перабіла Слава.—Трэба так гаварыць: „У Ірынкі быў тата, і яго забіў буржуй, тады маладая Ірынка асталася без таты, і ёй было без таты вельмі кепска. У Ірынкі быў брат... Мама, гэта той, што на машыне к нам прыязджаў?

— Той. Ну дзе-ж ён быў тады, калі ў Ірынкі не было таты?

— Ён быў на вайне і там біў гадкіх буржуяў.

— А што рабіла Ірынка?

— Ты ўсё мне не даеш расказваць! Ірынка была бяспрытульніца. Бандыты спалілі той дом, дзе жыла Ірынка і тады Ірынка пашла начаваць на вакзал. Мама, бандыты буржуі?

— Буржуі.

— Ірынка была хворая і хацела есці. А адзін дзядзька, такі самы гадкі як буржуй, гаворыць, што Ірынка хітрая і каб ёй не давалі есці. А там была малая дзяўчына Зося, ёй стала шкада Ірынкі і яна закрычала на таго брыдкага дзядзьку, каб ён ішоў вон і каб не гаварыў так пра Ірынку.

— Пачакайце, гэта сапраўды было!—аж спыніла хаду Ірына і з непаразуменнем спыніла на Зосі доўгі позірк.

— Гэта была я, там на вакзале.

— Праўда, вы мне ўспаміналі пра гэта. Я толькі цяпер успомніла гэты момант. А пасля на ганку мяне трымаў чырвонаармеец на руках, а падышоў хлапец і сказаў мне, што мой брат мяне не любіць, калі пакінуў мяне адну, а сам пашоў ваяваць.

— Гэта быў Тварыцкі.

Слава ўвайшла у ролю расказчыцы:

А пасля чырвонаармеец забраў Ірынку і завёз да брата і тады пабілі ўсіх буржуяў і Ірынка пачала падрастаць.

— Славачка!—туліла да сябе Ірына Славу.

З гэтай хвіліны ў Ірыны нарадзілася і пачало вырастаць пачуццё вялікага замілавання да Славы. Цяпер яна скрозь несла яе на руках і пашла шпарчэй. Зося старалася не астацца. Ірына ведала, дзе жыве Зося, але павярнула ўбок. Зося хацела ўзяць Славу, Ірына сказала, што „толькі на хвілінку зойдзем“. У адной з былых хутарскіх хат жыў Несцяровіч. Ён быў дома. Ірына ўнесла Славу.

— Антон Паўлавіч,—адразу загаварыла Ірына,—у гэтага дзіцяці ўжо складаюцца ў галаве, ні то казкі, ні то легенды.—Нават пра маё пакаленне, пра мяне, а ні то што пра майго, скажам, бацьку. Бяспрытульніцтва, голад, сіротства,—усе гэта ім будзе толькі як казка пра мінуўшчыну.

Славу пасадзілі за стол, сталі частаваць і яна зноў, ужо з новымі, нечаканымі варыянтамі, расказала пра бяспрытульніцу Ірынку.

— Не будзе яна любіць мінуўшчыны, і ніколі не будзе на яе аглядацца. Яна будзе любіць сваю сучаснасць. Мы яе павінны навучыць ненавідзець рэшткі мінуўшчыны ў сучасным. Але для гэтага трэба, каб яна ведала мінуўшчыну такую, якая яна была—гаварыла Ірына.

Гэта быў вечар нейкага як-бы з'яднаняя трох чалавек,—Антона Несцяровіча, Ірыны Назарэўскай і Зосі Тварыцкай. Праўдзівей кажучы—Зося Тварыцкая далучылася да першых двох. З імі была Слава, малое дзіця, Слава Тварыцкая.

Несцяровіч правёў сваіх гасцей і паціху варочаўся дадому. Было позна, ужо была ноч. Лес маўчаў. Ішлі павевы вясны. Несцяровіч стаў перад лясною прасекаю. Далёка ішла паласа зорнага неба над балотам. Вада плюхала ў бераг мацней. На месцы кладкі сцен гарэла некалькі ліхтароў, асвятляючы чырвоны колер цэглы. Вельмі рэльефна выдзялялася постаць ў жоўтым кажуху з вінтоўкай вартаўніка. На высокім грудзе свяціліся восемдзесят чатыры акны двух першых баракаў; адтуль чуўся гармонік і песня хорам—ніяк не маглі ўгаманіцца. Несцяровіч стаяў і думаў: „яшчэ толькі пачатак. За гэты год трэба, каб відаць стала, што не балота пануе, а над балотам пануюць“. Як быццам ён адчуваў цяжкую і непадатлівую сілу дзікага прастору. За баракамі вырысоўваўся чорны сілуэт „Двух хат“. Там цяпер была толькі адна хата, у якой ён пражыў свае маладыя гады. „Зараз у хаце ўпадзе столь. Ужо чалавек паставіў дзве падпоркі“. Узнімаўся вецер, цягнуў вострую свежасць, водырам прастораў даў чалавеку ў твар.

*(Канец будзе)*

Якуб Колас

# НА ШЛЯХАХ ВОЛІ

## XXVI

### ЗНОЎ У ТЫЛУ

Пад жвавы бег аўтамабіля
І мяккі шум яго калёс
Паміж прысадзістых бяроз
Гадае мой Дзяжа аб былі,
Аб шчасці тым, што разгубілі,
Аб мары той, што сцяў мароз.
Ён зноў падводзіць падрахункі
І доўг яшчэ раз аддае
Сваім паступкам і яе.
Замлелі ў сэрцы яго ўсчункі,
А скрозь журботныя рысункі
Зноў постаць Насціна ўстае.
Наперакор яго рассудку
І ўсёй цвярозасці разваг
Стаіць яна ў яго вачах,
Адна, пакінутая ў смутку
І шкода Насці-баламуткі,
І жаль, што скончыўся так шлях.
Навошта злосць, варожасць гэта?
Каму патрэбен іх разлад?
І хто з іх болей вінават
У тым, што песня не дапета?
Што сэрца ласкай не сагрэта?..
Ідзе настрой яго на спад...

Бяжыць машына плыўка, жвава.
За ёю следам, як дымок,
Снуецца лёгенькі пылок,
А сонца ветла і ласкава
Глядзіць на дрэвы і на травы
І песціць кожны іх лісток.
Шацёр блакітны і бяздонны,
Падпёршы долам берагі.
Пылае ў сінечы смугі,
А гай успоўз на скат адхонны,
Глядзіць, як сведка бесстаронны,
З налётам ціхае тугі.

Бягуць узгоркі і лагчыны
Ї хвалі ніў уздоўж прысад...
Не ўгледзіш ты іх болей, брат.
Не вернеш страчанай хвіліны
Ї той пяройдзенай пуціны,
Што адышла далёка ў зад.
А вы, адвечныя прасторы,
Ї заўтрашніх спадзевак дні,
Заўседы поўны глыбіні!
У вас свае уцехі, гора,
Свае прывідныя уборы,
Свае прывабныя агні.

Дарога, новыя прыгоды,
Як тая матчына рука,
Адводзяць мыслі юнака
Ї лечаць без узнагароды
Яго згрызоты і нягоды
Ї ў свет выводзяць з тупіка.
А гэты свет—прастор бяскрайны,
А ў тым прасторы безліч іх,
Асколкаў мар, згрызот пустых.
Ды хто раскажа пра іх тайны?
Яны не новы і звычайны—
Мільёны знойдзецца такіх.
У гэтым свеце сцежак многа,
Ї многа вычварных пуцін,
Што сеццю ліпкіх павуцін
У вір зацягваюць слабога
Ї томіць роўная дарога
Бясшумным ходам каляін.
Прымаю вас, нізіны, горы,
Падняцце, спад крутых дарог
Ї многалучны той разлог,
Дзе і скрозь мрок мільгаюць зоры,
Дзе многалікі шум гутарыць
Акордам вечных перамог.

Ї далей, і далей адыходзіць
У зад і Луцк і той шпіталь...
Самота горкая і жаль...
Ён зноў у змушаным паходзе
Адзін у свеце калабродзіць
Па цёмных напісаў скрыжаль.
Абрыўкі вобразаў, малюнкі,
Праявы, сны апошніх дзён
Снуюцца следам наўздагон,
Як неадчэпныя лятункі.
Ды з імі кончаны рахункі,
Хоць іх жывы яшчэ палон.
Калыша, гойдае машына,
Ї туліць сцень крывых бяроз.
Куды закіне яго лёс
Ї дзе цяпер яго айчына?
Ї хіліць галаву хлапчына
У ціхі сум дрымотных кроз.

Адна, другая паваротка
Яшчэ кілометры са тры
І—дом утульны на гары
Бялее скрозь галін рашоткі.
Прыпынак будзе тут кароткі,
І сёстры зноў і дактары.
Разгледзяць хворасць і прычыну
Пад паху градуснік дадуць
Ды зноў на новы пункт пашлюць,
Як палагаецца па чыну
Ваеннай строгай медыцыны,
А волю ты сваю забудзь.
Пакуль прайшоў ён круг турботы
І санітарную кадрыль,
Дык адмахаў з поўсотні міль.
Нарэшце едзе ў пуць зваротны
І тон захоўвае журботны
І расчараванасці стыль.
Прайшоўшы розныя заставы
Вайны, дакторскіх установ,
У тыл Дзяжа мой трапіў зноў,
Не заслужыўшы громкай славы,
Але растраціўшы забавы
Юнацкіх мар сваіх і сноў.
Зноў тая-ж лямка тылавая,
Рагламант дня, яго расклад,
Славеснасць, тактыка, парад
І песня сцёртая, старая,
Як і трапар за Мікалая,
Што пеўся часам і пад мат.
Хоць полк другі, другія людзі,
Але настрой і лад адзін,
І той-жа самы нудны млын
У надаедлівым перагудзе,
Аб тым, аб сім, што было, будзе,
Што ўжо агоркла як палын.

Замкнуўся круг майго героя.
Ну, што-ж? пачне ён круг другі,
Хоць трохі збіўшыся з нагі.
Сказаць-жа, ён не вышаў з строю
І рана складваць яму зброю—
Яшчэ-ж не пройдзены шляхі.
Агляд ён робіць новы, сталы
Ранейшых цэннасцей сваіх,
Дарог пяройдзеных, старых
Ды ўжо на іншыя прагалы
Свой курс зварочвае памалу,
Каб потым цвёрда йсці да іх
Перш-на-перш трэба строгім чынам
Свой цесны кут разгарадзіць,
З людзьмі і светам пагадзіць
Ды выбраць верную пуціну,
Каб быць сапраўдным яго сынам,
Сваю-ж замкнёнасць асудзіць.

І тут Дзяжа адчуў міжволі,
Што ў афіцэрскай грамадзе
Чужынцам быў ён, як нідзе
І, як відаць, ужо ніколі
Ён не падойдзе да іх ролі
І штацкай шляпай прападзе.
Як прыклад вываду такога,
Прад ім паўстаў яго паход
І з чэхам прыкры эпізод...
Наскочыў бы ён на другога,
Было-б там гутаркі не многа:
Раз, раз—і вывелі ў расход!
Зацяўся мой Дзяжа на чэха,
Бо гэты чэх—ён сапраўды
Пасеяў сварку, нелады.
І гэтак-жа, брыда, пад'ехаў!
Ён, ён, віна ўсяму, памеха...
Ды як знайсці яго сляды?
У ткань развагаў аб новых вешках,
Аб тым, як далей будзе жыць,
Другая нітка набяжыць
І пройдзе блутанаю сцежкай,
Глядзіш—і нейкая разбежка,
І колер нейкае імжы.
І свет зірне, як сутарэнне,
Дзе усё прыціснута вайной,
На смерць асуджана, на гной.
Куды-ж ідзе ён праз суценне,
Праз дым і кроў і разбурэнне
Дарогай змрочнай, патайной?
І хто адзначыць яе звівы?
І дзе прарок, каб ставіць ёй
Слупы з табліцай верставой?
Глядзіш ты, далеч дзён маўклівы,
Прывабна часам ці тужліва,
Як хто снуе на розум свой.

Што дзень у пэўныя гадзіны
З казарм ці лагерных палат
На пляц выводзілі салдат
Пад строгім вокам дысцыпліны,
Пад вокрык грозны, рык звярыны,
Пад злы фельдфебельскі пагляд.
Дзядзькі плячыстыя з вусамі,
Загнаўшы ў кадрах сабе жыр,
Узводы строяць пад ранжыр.
І грамавымі галасамі
Сякуць паветра як, бічамі,
Налёгшы з сілаю на „рыр"
Паслухаць часам было люба,
Як пачынаецца той дзень,
Надзеўшы шапку набякрэнь
І сонцам сыпнуўшы з-пад чуба.
Само паветра ўстане дуба,
А гукі—спуджаны алень.

То тут, то там у перабежку,
Бы з лёгкіх скінуўшы засоў,
Рвануцца залпы галасоў,
Ї расплывуцца дзесь на ўзмежку
Ды грымне песня ўперамежку
Пад націск ценараў, басоў.
Праходзяць роты ў ногу чотка,
Їх крок адрывісты, глухі,
У рытм калышуцца штыкі,
Свабодных рук удар кароткі
Ды аднатонна, як бразготкі,
Звіняць пустыя кацялкі.
А ззаду цягнуць саматугам,
Без хітрых выдумак і штук
Прылады воінскіх навук:
Станкі, мішэні з чорным кругам
Ї ў рамы ўціснутыя туга
Анучак жмут, саломы пук.
Вязуць на дрэнненькіх калёсцах,
На самадзелках дзерваных
Узоры чучалаў дзіўных,
Як сымбаль сілы „венцаносца“,
А ты, салдат, наш пераможца,
Вучыся мудрасці на іх.
Як бура, кідайся ў атаку!
Крычы „ура“, як той вар'ят.
Калі з разгону, дай назад—
У зубы немцу, аўстрыяку,
Хай знаюць рускага ваяку,
Як зналі... дзвесце год назад.

Дзяжа пры роце неадлучна
Ї не таму, што ён—службіст.—
На гэты конт герой мой чыст,
Але з салдатамі спадручней,
Яго ўзнімае гоман гучны
Ї песня іхная пад свіст.
І ці да твару від пануры
Ї суму смужныя сляды
Сярод салдацкай грамады?
Салдаты—дужыя натуры,
Жартаўнікі і балагуры,
Салдаты—ворагі нуды.
Далоў сумоту, сэрца плесень!
Вышэй ускінься, галава!
Рабяткі, ногу ўзяць! раз! два!
Эй, запявалы! давай песень,
Каб громам грымнула па лесе,—
Не абы што наша братва!

„Ой, на гары маліна,
Пад гарою каліна!
Каліна, каліна,
Чубарыкі-чубчыкі, каліна!
Там дзяўчына стаяла
Ды каліну ламала“...

Ї падбадрыцца разам рота,
Лягчэй, цвярдзей ідзе нага,
Ї гіне чорная смуга,
Аж разбірае ўсіх ахвота—
Эх, запявалаўскія ноты!—
Прастор рассунуць, як мага.
Дзяжа самоту забывае
Ї ў гэтай песні грамавой
Ён зліт з салдацкай грамадой,
Ї гэта сувязь іх жывая:
Адна іх доля баявая,
Бо ён з той ротай пойдзе ў бой.

За гарадком на ўскрайку леса
Выходзіць рота на прагал,
Яе тут месца і прывал
Ї мітусня і коламеса—
Як патрабуць інтарэсы
Ваенных спраў і генерал.
Дана каманда стаяць вольна,
Аправіцца і пакурыць,
Сказаць-жа, справа не гарыць,
Няма начальнікаў няўмольных
А несці службу рота здольна—
На што ёй галаву дурыць?
Любота з ротным ліберальным!
Ды ён-жа ў роце не адзін
Ї не высокі яго чын,
Каб мог адкрыта і легальна
Парушыць дзень, расклад нармальны
Ї праявіць тут свой пачын.
Але дзядзькі—народ бывалы
Ї лоўка ў вочы пусцяць дым
Службістам бойкім палкавым:
Салдат разводзяць на прагалы
Ї расстаўляюць прычандалы
А час займаюць абы чым.
Але не дрэмле і іх вока—
Даваць не можна зевака:
Наскочыць камандзір палка
Ці ротны кадравы—марока.
Усіх аблаюць на усе бокі,
Не пашкадуюць языка.
А ротны маршавы тым часам,
Статут забыўшы і расклад,
Збярэ вакол сябе салдат
Ї без праграмы, самапасам,
Разводзіць розныя балясы
Гадзіну добрую падрад.
Ї раз у часе гэтых бавак
З вучастка ротнага сігнал:
Брыгадны едзе генерал!
Дзядзькі забегалі рухава.
Ну, будзе лазня і расправа,
А ротны ў лесе дзесь—скандал!

Падбег Дзяжа, ды з апазненнем,
Ї голас той нібы загразъ.
Падаў каманду, ды не ў час
І без належнага натхнення.
Канфуз і поўны, без сумнення,
Ї на вачах салдат якраз.

Генерал:

Вы—шляпа, прапаршчык, да-с!
Праўдзіва прыказка пра вас,
Ї верна ўзяты вы на мушку,

Кавалер:

Курыца—не птушка,
Прапаршчык не афіцэр!
Ї кончыў тым сваю прамову
Што тут-жа вынес пастанову,
Ї не вялікі яе змест:
На трое сутак пад арэст!

14/III 1935 г.

Сяргей Знаёмы

# ПАЧАТАК ЖЫЦЦЯ

(Нарыс)

## I

Недалёка ад Магілеўскага вакзала буйна і весела ўзвышаецца першая усебеларуская дзіцячая комуна. Сабраныя з ўсёй рэспублікі перарosткі дзіцячых дамоў і звычайныя беспрытульнікі навучаюцца тут сапраўднаму пазнанню жыцця і людзей. Усіх іх сто семдзесят пяць чалавек і вонкава яны вельмі падобны адзін да аднаго. Але варта прыглядзецца ў паедзены воспаю твар і хітрыя шэрыя вочы, варта цікавіцца іх нядаўнім мінулым, як паўстане перад вамі своеасаблівы вобраз кожнага са складаным і цяжкім пройдзеным шляхам.

Жыццё на гадзіну, жыццё без надзеі, жыццё без ніякіх перспектыў і ўпэўненасці ў сваім наступным дні—вось яно мінулае гэтых людзей, якія так прагна і настойліва імкнуцца пазнаць складанасці дзён, якія ўсё глыбей пранікаюць у рэчышча бурлівага і радаснага патоку нашых дзён. Штодня, кожную хвіліну настойліва і ўпэўнена перарабляе іх лёс комуна, па інакшаму раскрываючы іх вочы на жыццё і людзей, нават на саміх сябе. І ніводзін з гэтых былых ападкаў не скажа, калі іменна адчуў пад нагамі глебу, калі настаў канец „злётам“ і халоднаму ды галоднаму вандраванню. Але яны добра ведаюць, што ўсё гэта звязана з комунай—вось з гэтымі нанава-пабудаванымі будынкамі агульных памяшканняў, школы, сталовай, майстэрань, з гэтай невялікай, але добра арганізаванай і дагледжанай гаспадаркай, з гэтым нізкарослым і таўставатым партызанам—дырэктарам Глевіцкім і з клапатлівымі чулымі выхавацелямі.

Вось Зіна Гаховіч. Па гадах яна равесніца Кастрычніку. Яна дрэнна памятае бацькоў, нават абрысы іх твару не засталіся ў памяці. Зіна не памятае твару маці, бацькі і брата. Але яна добра ведае тое, што брат забіты Калчаком, бацька—гэты стары чыгуначнік, павешан Балаховічам, а маці памерла ад голаду.

Зусім невялічкай дзяўчынкай прывезлі Зіну з Казані ў барысаўскі дзіцячы дом імя Самойлавай. Уласна, тут і пачалося жыццё. Ужо разумеўшая ўсё, але абураная і сярдзітая Зіна, нікога не слухала, нікому не падначальвалася. Ей—зусім яшчэ дзіцяці—здавалася тады, што ў згубе маці, бацькі і брата, роднага кута вінаваты ўсе—вось гэтыя нянькі, настаўнікі і нават больш дарослыя за яе дзяўчаты. І было тады адно імкненне—зрабіць ім усім што-небудзь такое дрэннае, калючае, да болю прыкрае. І часам, калі прыходзілі да адчаю нянькі ці выхавацелі, Зіна весялілася, і нават плакала ад радасці ўласнай перамогі. Яна расла замкнёнай, злой і неахайнай.Ваўкаватасцю і прыкрасцю да людзей блішчэлі яе шэрыя і хітрыя вочы.

Калі ўзнялася Зіна на ногі, то з іншымі дзяўчатамі ўцякла на вуліцу. І, кленчачы на вуліцы за капейку, крадучы з кішэняў рублі, прымасціўшыся пад паравозамі, яна аб'ездзіла ўсю рэспубліку, пабыла ў пяці прыёмніках і васьмі дзіцячых дамах. Як падростка ў канцы 1931 г. яе накіравалі на фабрыку „Дубровенская мануфактура", але папрацаваўшы там усяго некалькі тыдняў Зіна ўцякла. І тады, вось, накіравалі яе сюды ў комуну.

Зіна ўбачыла і тут знаёмыя парадкі, яны нічым не адрозніваліся ад парадкаў іншых дзіцячых дамоў і разам з тым тут было нешта своеадменнае, зусім непадобнае на знаёмыя звычкі. Нешта новае выступала на кожным кроку, само жыццё больш шырака і проста паказвала сябе. У комуне ўсе працавалі. Кожан меў сваю брыгаду, меў свой участак работы. І дзіўная рэч, работа выконвалася. І кім... Зіна разводзіла рукамі і пацішу групавала вакол сябе „нехацімцаў". Тое, што знікла на час сярод дзяўчат, цяпер зноў з'явілася. Пачалі прападаць прадукты і рэчы. Сплеткі, сваркі, зладзейства зноў запанавалі па пакоях.

Быў такі выпадак. Зініна суседка—Кажуліна, атрымаўшы за добрую працу прэмію, паклала яе пад падушку. Гаховіч заўважыла схову і, не губляючы часу, падсела да Кажулінай. Яны доўга аб нечым гаварылі, покуль нарэшце гутарка сама не пераскочыла на жарты. Вакол сабраліся дзяўчаты з іншых пакояў. Зіна расказвала. Асабліва спадабалася ім гутарка пра тое, як злодзей грахі ачысціў. Апусціўшы галаву і наморшчыўшы лоб, Зіна сур'ёзна гаварыла:

— Дык вось. Было гэта перад ўсенашнай, на вялікадне, значыць. Сабраўся багаты селянін з жонкаю пасвянцонку да царквы несці. Толькі звычай у яго такі быў, перш чым да малення ісці, трэба ўсю гаспадарку абглядзець. Ва ўсе куткі нікне, тады пойдзе. Вось і цяпер абышоў ён хлявы і пуню, зірнуў пад павець ды завярнуў у клець. Стаў ён там на калені ды давай маліцца. А як адмаліўся, тады пачаў бога прасіць: „божухна", кажа,—я столькі награшыў, што і сам не ведаю, як ласкі тваёй прасіць, каб грахі ты мне збавіў. Адзін ты бачыш, як часам, прагневаўшыся на парабка за нівошта, я яго адлупцую. Адзін ты бачыў, як у суседа я мяжу заараў, паплавоў закасіў... Чорт падбіў мяне Марфушу ў жыце абнеславіць... Прасці ты мне, божа, усё гэта, ачысці ад грахоў".

— Ачышчу—кажа нехта боскім голасам з-пад самай страхі. Перапалохана пачаў жагнацца багатыр. Зірнуў угару—цемень, нічога не відаць. Запаліў ліхтар, наўкола клеці абабег—няма нікога. Тады ён зноў у клець, зноў пачаў прасіць, каб бог грахі ачысціў. І голас з-пад страхі зноў пераказаў „Ачышчу".

Тады рашыў селянін, што гэта голас духа, ды і яшчэ аб адным папрасіў:

— То можа-б, божа, зміласаўся-б, ды і брата майго ачысціў.

— Ачышчу!

Абрадаваны селянін, ідучы на ўсенашную, забыўся і пазачыняць свае будынкі. А для злодзея толькі гэтага і не хапала. Ён гладка абчысціў усю гаспадарку ў абодвух братоў.

Рабяты рагаталі над дурным багатыром. Ім раптам усім захацелася прыгадаць выпадкі са сваёй уласнай практыкі, як часам яны самі абдурвалі людзей і кралі рэчы і грошы з неахайных кішэняў даверлівых людзей. Рабяты рагаталі, а ў той самы час, непрыметна выцягнуўшы з-пад падушкі свой здабытак, Зіна Гаховіч ішла на свой ложак...

Агледзіўшыся, Кажуліна ўзняла такі вэрхал, што збеглася ўся комуна. Усе ведалі, што гэта справа не мінула Зініных рук, а таму злыя і абураныя яны сцяной рушылі на Гаховіч. А Зіна, нібы загнаны

звяруга, з акамянелым тварам і ашчэранымі зубамі стаяла каля печы і моўчкі чакала нападу. Мабыць усё скончылася-б страшэннай бойкай, панажоўшчынай, а то і стрэламі з самадзельных пісталетаў, калі-б у гэты рашаючы момант не з'явіўся дырэктар. Ён заспакоіў крыху дзетвару і, узяўшы з сабой Зіну, выйшаў на двор. Ён нічога ёй не сказаў, нічым не пакрыўдзіў, хаця Зіна, ідучы за ім усяго чакала. Яна думала, вось, падвядзе гэты тоўстапузы чорт да варот і паказаўшы сваім кароткім і тоўстым пальцам на дарогу, скажа:

— Убірайся, патаскуха, каб і нагі тваёй не было!

Так, прагоняць з комуны, і яна пойдзе зноў на вуліцу, а то прыстроіцца да каго за наймічку. Папрацуе некалькі дзён пакрыўджанай і прыстойнай дзяўчынкай, а агледзеўшы, дзе што ляжыць, у зручную хвіліну ўкрадзе і знікне. Так было не раз, так напэўна будзе і цяпер, калі яна апыніцца за варотамі комуны.

Але вось дзіва. Яны мінулі вароты, яны прайшлі апошні корпус комуны, Зіна адчувае, як дырэктар бярэ яе за руку. У яе не зусім яшчэ вопытнай жаночай галаве узнікаюць сотні думак і здагадак. Ёй хочацца радавацца і плакаць. Але чаму, ад чаго? Мо' таму, што так прыемна, так добра адчуваць нейкую невядомую цяплыню, блізкасць і чуласць гэтага чалавека. Ён нешта гаворыць, здаецца, словы тычацца Зіны. Яна прыслухоўваецца:

— Я ведаю, Зіна, што ты не вінавата, што ты не брала. Зіна незразумеючымі вачыма глядзіць яму ў твар.

— Так, так, ты не брала, я гэта бачу. Але зразумей, дружок мой,— і ён гладзіць Зініну галаву, папраўляе з'ехаўшую на галаву хусцінку.— Так, зразумей, усё гэта ад таго, што ты да гэтых пор нічым яшчэ не давяла, што не крадзеш. А ў мінулым крала. Вось рэбята і думаюць, што ты ад іх і цяпер цягнеш.

Зіне зрабілася як-та нядобра. Нібыта збоку зірнула яна на сябе і ўбачыла, адчула, што вельмі пакрыўджана ўсімі, што ўсе за нішто валяць на яе гару, крыўдзяць яе невінаватую, васпаватую і непрыгожую дзяўчыну. Нават вось ён, гэты таўставаты дырэктар і то з асцярогай і па службе трымае Зіну за плечы і ўсё гаворыць і гаворыць над самым вухам. І зрабілася Зіне ў гэты момант вельмі шкада самой сябе, так шкода і крыўдна, што яна не вытрымала і заплакала.

— А вось гэта ты дарма, дарма, плачаш... Табе нельга плакаць, ты павінна быць моцнай, устойлівай, ты-ж не такое бачыла, то-ж не першая стрэчка ў цябе з рэбятамі... ты... ты...

І ён сам губляўся, не ведаючы што сказаць, чым супакоіць. Яму хацелася дапамагчы, але чым і як—не ведаў. І Зіна плакала яшчэ мацней і ўжо не ўсхліпамі, як раней, а раўла голасна, як глыбока пакрыўджанае дзіцянё. Слёзы каціліся адна за аднэй па яе пабітаму воспай твару і капалі на белую, крыху бруднаватую блузку. Яна цяпер зусім абаперлася на Глевішчакага і разгублены дырэктар пасадзіў яе проста на бульбянік каля маладых сажанцаў. І толькі калі рукаў натыркнуўся на сажанец, тады ўспомніў, што для нейкай мэты павёў за сабою Зіну, меў намер сказаць ёй штосьці. Зіна перастала плакаць і толькі зрэдку ўсхліпвала падазрона пазіраючы на дырэктара. Ёй здавалася, яна была ўпэўнена, што тоўсты мае да яе нейкі інтэрас. Але той замест якіх бы не было падазроных захадаў спакойна гаварыў аб рашэнні дырэкцыі пра перавод Зіны на садоўніцкае аддзяленне сельгасвуча. Яна нічога не сказала, але зразумела, адчула, як вахістаўся і пачаў адплываць даўнейшы склад яе жыцця, ранейшыя звычкі і намеры.

Гэты адыход яшчэ вастрэй яна адчула, калі праз некалькі дзён

апынілася ў садзе на працы. Даглядаючы вызначаную ёй колькасць сажанцаў, яна цэлыя дні не разгібала сярэдзіны, пазней за ўсіх з'яўлялася ў інтэрнат, раней за ўсіх выходзіла на работу. Самая заўзятая раней кампаньёнка, цяпер яна чуралася кампаніі, адбілася ад дзяўчат. Але гэта было толькі ў пачатку. Крызіс хутка прайшоў. Ї ўсе ўбачылі, якім блізкім і родным зрабіўся для Зіны пітомнік, сад, кожнае дрэва.

Зіну пацягнула да садоўніцкай кніжкі, у аўдыторыі сельгасвуча. Адчула і ўбачыла яна тады, як усё наўкола пашыраецца і расце, пранікаючы ў яе нутро настойліва і груба, як некалі яна ў чужыя кішэні і чамаданы. Ї калі зусім яшчэ нядаўна яе не цягнула ні на сходы ні ў гурткі ні на чытку газет, ні ў пашывачную майстэрню—усё гэта здавалася лішнім, непатрэбным і нецікавым,—цяпер усё набыло іншую афарбоўку і нечым яшчэ незразумелым для Зіны вабіла да сябе. Ї ў той самы час багата чаго з мінулага, у свой час цікавага, адыходзіла назад, як цмяны успамін пераджытага.

Зіна не разумела ды і адкуль ёй было разумець, што было ўсё гэта звычайным пачаткам новага жыцця. Ї акрамя ўсяго іншага гэты новы пачатак прымусіў Зіну падумаць аб усім: аб чыстай адзежы і абутку, аб чыстым і добра прыбраным ложку, аб памочніку садоўніка і сотнях іншых дробязяй да тых пор зусім не цікавіўшых яе.

Так склалася гэта новае і цікавае для Зіны жыццё ў комуне, жыццё, якое зрабіла яе лепшай ударніцай у школе, прыкладнай дзяўчынай у комуне... Праз поўгода Зіна скончыць сельгасвуч. Яе выпусцяць у свет з ведамі кваліфікаванага садоўніка і з глыбокімі парасткамі новага чалавека.

## II

Комуна ў такім выглядзе, які мае сёння, існуе нядаўна—усяго трэці год. Добра арганізаваная гаспадарка, дагледжаны сад і пітомнікі, уласныя майстэрні—усё гэта спрыяе пераробцы і выхаванню новага чалавека з былога бяспрытульніка, вулічнага злодзея і „вандроўніка“ па чужых кішэнях.

Комуна мае сельскагаспадарчы ўхіл. Сельгасвуч, што існуе пры комуне, рыхтуе з гэтых былых праванарушальнікаў спецыялістаў садоўніцтва, жывёлагадоўлі і слесароў-механікаў па рамонту сельгасмашын, Пабыўшы тры гады тут у школе, рэбята выходзяць навучанымі і прызвычаенымі да жыцця і працы. Першы выпуск, які адбыўся ў гэтым годзе, цалкам апраўдаў сябе на практычнай працы, а тыя, што перайшлі ў тэхнікум, на вучобе.

Багата хто з іх каторы працуе каля гораду, ці займаецца у Магілеве, прыходзіць у комуну, як да сябе дамоў. Багата хто, не маючы куды ехаць у час сваіх вакацый, прыязджае сюды. Любоў да комуны да таго моцная ў рэбят, што шмат хто з іх у сваіх лістах просяць дырэкцыю, каб прынялі на работу ў комуну. Але прывучаныя да дысцыпліны, атрымаўшы моцную закалку, яны не кідаюць сваёй работы. Ї ніводнага выпадку яшчэ не было, калі-б выпушчаны з комуны хлапец ці дзяўчына зноў пайшлі на вуліцу, ці нават дрэнна працавалі. Разгарнеце архіў лістоў і вы ўбачыце шматлікія водгукі аб комунарах, як харошых адданых работніках.

Толькі адзін выпадак ведае комуна з Данілавым. Прышоўшы ў комуну ў ліку першых, ён хутка трапіў у медычны тэхнікум. Пачаў займацца і не дрэнна. Але вось стукнула нешта ў галаву і хлапец забунтаваў. Яго пацягнула назад у комуну. Ї прыехаўшы ў Магілеў, ён прышоў у дырэкцыю і са слязамі на вачах папрасіў:

— Не выганяйце мяне, дайце якую-б ні было работу.

Ведалі, хлопец добры, здатны, працавіты. Прынялі на пасаду камен-данта інтэрната. І вось ужо другі год, як ён добра выконвае свае абавязкі і па сур'ёзнаму, настойліва рыхтуецца ў медычны Інстытут. Ён усё-ткі хоча быць доктарам і бясспрэчна будзе ім.

Хоча вучыцца і добра займаецца цяпер Федзя Ткачоў. Біяграфія гэтага прысадзістага і панурага хлапца не падобна на іншыя... Ён не быў бяспрытульным у звычайным сэнсе гэтага слова. Ён не быў на вуліцы, не ездзіў на тэндэрах, не аб'ездзіў ўсяго Совецкага Саюза, як гэта зрабіў, скажам, Марк Галачоў. Федзя Ткачоў не меў ніводнага міліцэйскага прыводу і да комуны не быў ні ў адным прыемніку ці дзіцячым доме; Марк жа быў у дваццаці дзіцячых дамах і меў больш за дваццаць міліцэйскіх прыводаў.

Федзя да комуны быў звычайным батраком і за кавалак чорнага хлеба ды абноскі вопраткі з гаспадарскіх дзяцей пасвіў кароў, нібы жук, капаў кулацкую зямлю і вартаваў багатыя кулацкія гумны і клеці. Так і жыў, пакуль, нарэшце, не прышла пагібель на гаспадарку. Як не круціўся, што ні рабіў і за ўнука і за пляменніка выдаваў Федзю, і кароў прадаў, і гумно сам падпаліў,—нічога не дапамагло. Тады вось і пашоў Ткачоў па вёсках ад хаты да хаты, просячы кавалак хлеба.

Так прышоў ён у комуну. І здалася яму комуна пасля ўсіх вандраванняў проста раем. Ён-жа не тое, што Галачоў, які прайшоў больш за два дзесяткі дзіцячых устаноў, ён не быў ні ў адным дзіцячым доме. Можа таму так лёгка ўздыхнулася калі апынуўся тут.

Уздыхнуў Федзя лёгка ды насцярожыўся. Шмат што ў комуне здалося яму незвычайным і падазроным. Ён не разумеў, чаму яго раптам залічылі ў лік „жлобаў", чаму павінен быў звацц іншых, што прышлі з гарадскіх вуліц „блатнымі". Незразумела было і тое, чаму гэтыя два лагеры увесь час між сабою „ў контрах". Гэта было незвычайна і праз месяц Федзя пачаў аб усім гэтым гаварыць з верхаводам „блатнякоў" Галачовым.

— Разумееш, Марк, не добра гэта. Чаму мы між сабою на нажах, калі-б нам усім у дружбе быць. Раўня-ж мы, разумееш.

— Кінь падлізвацца, аграры, нам з вамі не па аднэй дарозе.

— Ну і ідзі сабе к чорту... Падумаеш, аўтарытэт мне такі—блатняк!

Ну і пашла патасоўка. Яна ўсе пакоі ўзняла на ногі. Біліся доўга і ціха каб не разбудзіць дырэктара ці дзяжурнага выхавацеля. Супакоіліся перад самым днём. Пераможаныя „аграры" пад ціхае шыканне папраўлялі разбураныя ложкі і клаліся спаць. Гэта было не аднойчы. Толькі з цягам часу усё больш і больш улягалася варожасць між рэбятамі. Асабліва надыход міра прынесла з сабою вясна. „Аграры" для таго, каб іх не лічылі „замухрышкамі", хутка далі адчуць сваю сілу. Калі выйшлі на палявыя работы, то гэтак узяліся за працу, што „ворагам" даводзілася пацець не адным потам, абы толькі не быць у хвасце. За працай пачыналася дружба. Калі аднойчы „блатнякі" не выканалі сваёй нормы, то Федзя, сабраўшы сваіх хлопцаў, падаўся на дапамогу Галачову. Той дзень і быў пачаткам дружбы між Ткачовым і Галачовым, а за імі і між астатнімі хлапцамі...

Ткачоў, заняты ў кароўніку ці свінарніку, калі часам сустракаў свайго прыяцеля—садоўніка Марку Галачова то доўга расказваў яму пра кароў пароды „швіц", „ангель", а той у сваю чаргу уводзіў таварыша ў складаныя лабірынты садоўніцтва, гаварыў пра тое, што ў Беларусі ёсць сто семдзесят сартоў яблыкаў, што гэтыя сарты не вывучаны, не даследваны, ён расказваў пра Бербанка і Мічурына, пра новыя

прышчэпы, аб чорнай смародзіне, што яна вельмі ходкі тавар за мяжой. Так спынілася „контра“ між „блатнымі“ і „жлобамі“.

І калі ў час эпапеі чэлюскінцаў, жадаючы першым убачыць, а можа і дапамагчы свайму земляку Отто Юльевічу, Марк вырашыў збегчы з комуны, Ткачоў зрабіў усё што мог, каб толькі затрымаць таварыша. Дзве халодныя ночы яны разам прашвендалі па магілеўскіх вуліцах і на трэці вечар сумныя і злосныя прышлі ў комуну. Малодшыя з асцярогай глядзелі на іх, нечага чакаючы. Усім здалося, што Марк і Федзя „засыпаліся“. А яны доўга яшчэ хадзілі сумныя, разгубленыя і задуменныя. Аб чым яны думалі? Можа бачылі яны сябе ў ролі Молакава ці Каманіна, якія самааддана, не шкадуючы ўласнага жыцця, выратоўвалі чэлюскінцаў; ці на месцы мужнага большэвіка і арганізатара Отто Юльевіча Шміта... Хто іх ведае, аб чым думалі тады хлопцы? Адно было зразумела, што абодвум ім хацелася ў Арктыку.

Аб ёй марыць яшчэ і цяпер Марк Галачоў. І ён верыць, што гэтая мара здзейсніцца. Ён хоча быць садоўнікам у Арктыцы, самае малае на выспе Врангеля. Ён добра цяпер займаецца і з нецярплівасцю чакае таго моманту, калі будзе мець мажлівасць трапіць у Маскоўскі рабфак імя Пакроўскага, а адтуль у арктычны інстытут.

— Падумайце толькі, Шміт таксама з Магілева, а такі чалавек. Я таксама хачу быць палярнікам.

Сапраўды, чаму не так, чаму-б не зрабіцца Марку Галачову палярнікам. Перад ім яшчэ ўсё жыццё. Дык пажадаем яму поспехаў.

III

У комуне шмат рэбят—надзвычайных вылучэнцаў на будучых вялікіх людзей нашай краіны. Яны самі мараць аб гэтым і настойліва вучацца для таго, каб здзейсніць свае мары. Тут ёсць свае вучоныя і артысты, паэты і дактары, інжынеры і аграномы. Пакуль усе яны ў меру дуроныя і крыклівыя навучаюцца простым сродкам пазнання складанага жыццёвага механізма. Яны любяць працу і любяць вучобу. І шэраг дробных недахопаў чыста арганізацыйнага парадку, зусім непрыметна для іх праходзіць. Рэбяты заняты сваім. Ім як мага хутчэй хочацца ўбрацца ў пер'я, стаць на ўласныя ногі ды самастойна, па сапраўднаму, не як раней, сустрэцца з бурным струменем дзён. І карапузы—пуплы, гледзячы на рэбят старэйшых класаў сельгасвуча, зайздросцяць тым, каторыя праз некалькі месяцаў пойдуць на самастойную працу—садоўнікамі, паляводамі, брыгадзірамі, механікамі і жывёлаводамі...

Вось Піонераў Макар, ён не ведае сваіх бацькоў. Уласна гэта пытанне яго і не займае.

— Думай колькі хочаш, а не даведаешся, хто яны былі—кажа ён.

Пакінуты некім на Віцебскім вакзале, ён быў падабраны і накіраваны ў дзіцячы дом. Там ён вырас, там склаўся ў чалавека, там яму далі імя Макар і прозвішча Піонераў.

— Вось бацьку толькі не прыдумалі, так і застаўся без імя па бацьку. А спатрэбіцца гэта. Як скончу сельгасвуч ды стану жывёлаводам, то і захочацца каму па далікатнаму назваць, а назваць—то і няма як,—гаворыць Макар і па сур'ёзнаму, як дарослы, перавальвае цяжар свайго цела на левую нагу і заспакоена глядзіць, як жуюць жвачку каровы. Макар вучыцца на жывёлавода і зусім не грэбае падзяліцца сваімі ведамі ў гэтай галіне. Пры першай мажлівасці ён імкнецца быць у кароўніку. Ён смела падыходзіць да вялізных быкоў і, пагладзіўшы іх аднаго за адным па тоўстых тлустых баках, лезе ў кармушкі, выграбае

адтуль аб'едкі кармоў, чысціць кармушкі. Ён любіць жывёлу, але яго любоў не дзіцячае захапленне, а глыбока гаспадарчая работа, свядомая работа спецыяліста-жывёлавода, у якога пачаў ужо фармавацца Макар Піонераў.

Але Макар кажа, што быць толькі жывёлаводам мала, ён часам думае і над авіяцыяй. Гэта ў яго спалучаецца з наступнай праблемай кароўніка—з механічнай падачай кармоў. Ен запэўнівае, што можна зрабіць невялікі самалёт на колцах і на доўгім тоўстым дроце ад пуні проста ў кароўнік падаваць кармы.

Над удасканаленнем гэтай сваёй вынаходкі настойліва працуе Макар. Ён упэўнен, што з гэтага нешта можа выйсці. І ён бясспрэчна мае рацыю. Праблема механізацыі падачы кармоў у кароўнікі комуны патрабуе свайго неадкладнага вырашэння. І сярод спецыялістаў, якія працуюць над праектамі механізацыі, сярод іх мадэлей—будзе мадэль і Макара Піонерава—вылучэнца ў вялікія канструктары будучага...

Улетку разам з іншымі рэбятамі Макар часта бывае ў самага меншага пакалення комуны—у дзіцячым доме. Добра абсталяваны і забяспечаны адпаведным складам выхавацеляў гэты дзіцячы дом выхоўвае пяцьдзесят тры маленькіх, яшчэ бесклапотных хлопчыкаў і дзяўчат, пераважна ўкраінцаў. Дом абкружаны надзвычайнай увагай комуны і зусім нездарма з'яўляецца адной з лепшых дзіцячых устаноў не толькі у раёне, але і па ўсёй рэспублікі.

І гэта вельмі радуе комуну. Комунары ўжо адчуваюць, як, выпраўляючы свае паламанае жыццё, яны спрыяюць уласнай увагай і працай выхаванню гэтых сірот. Яны вырастуць, гэтыя малышы, зразумеюць і ацэняць клопаты краіны аб іх жыцці, як гэта ўжо зразумеў Макар Піонераў.

Макар быў тры разы на курорце, ён паправіў сваё папсутае вуліцай здароўе і паправіў сваю пакалечаную нагу. Вось ён глядзіць цяпер на мяне сваімі праніклымі і даверлівымі вачыма і па сур'ёзнаму, нібы сталы, гаворыць.

— У мяне няма ні маці, ні бацькі, але мне вельмі добра жывецца. Аб іншым так бацькі не клапоцяцца, як аба мне комуна.

Ён схіляецца над нейкай мадэллю і, нядоўга памаўчаўшы, зноў кажа:

— Не, вы толькі падумайце, я ўсё разумею. Але, вось якая з мяне карысць, а мяне даглядаюць, навучаюць, кормяць. Нават на курорт і то тры разы пасылалі.

Ён стругае колічкі і чаранкамі нажа заганяе іх у дошку, і асцярожна, падвесіўшы балкі, як бы сам сабе гаворыць:

— Вось няхай я толькі выраcту. Я тады такое зраблю, што ўсе даведаюцца, хто такі Піонераў.

Макар не ведае, чым пакажа ён сябе, калі вырасце, перад светам. Ён яшчэ не ведае, што гэта будзе. Будзе гэта самалёт, новая канструкцыя маста ці добрае вытворчае вынаходніцтва. Але ён верыць, ведае, бачыць, што вырошчвае, выхоўвае яго краіна для сур'ёзных і вялікіх спраў.

Уладзімер Хадыка

## ПРЫ СВЯТЛЕ ТВАІХ УСМЕШАК

Кожны раз, як дах намокне
Пад дажджамі,—
Чырванелі твае вокны
Вечарамі.

Кроплі сыпаліся цветам
З ліп і з яблынь.
Прыцем рукі нёс над светам
Быццам граблі.

Плыў ён ціха і ўрачыста
З гор далёкіх.
Дагаралі залаціста
Хмарак шчокі.

Сонца падала з дрыготкай
За павеці...
Не то ты грымела форткай
Не то вецер.

Падуладжанае грому
Шкло звінела...
Ты тады не выйсці з дому
Гонар мела.

Абступалі злыя рэчы
Чорнай стаяй...
Без цябе спяваў той вечар
Песні мая.

Сэрца горкую прычыну
Помніць будзе...
Хай пакрыўдзілі дзяўчыну
Злыя людзі.

Хай нягода, хай разбіта
Ў хаце шыба,—
Толькі смех, вясной здабыты,
Згіне хіба?

---

Кожны раз, калі пярэйдуць
Буры ў далі,—
Нам на хмарах сіняй крэйдай
Ліст пісалі.

Ліст пісалі, нас віталі
Ў час сукрыты.
Цёплай фарбай малявалі
Шыр блакіту.

І дарогай мчалі дрогкай
Ў нетры ночы...
Ты чытаць умела лёгка
Іхны почырк.

Там былі не словы—зоры,
Кветкі кветак.
Прагла пець радкі-разоры
Тое лета.

І, аблашчаная вуліц
Ціхатою,—
Ты ішла сябе расчуліць
Ночкай тою.

Адхвалёванае ўдосталь
Жыта спела.
Маладая твая постаць
Залацела.

Ў свет слядоў ад ножак босых
Бег вяночак...
Змрок звісаў на чорны посах,
Пяліў вочы.

Кляў ён золак чалавечы
Грыб бязногі—
Як гарэлі нашы стрэчы
Край дарогі.

Рваў ён зоры, роў, як злыдзень,
Сыпаў пылам.
Абсмяяць яго, як прыдзем,
Ты любіла.

Нас не страшыла нікога
Ўсё на свеце.
Гаварыць хацелі многа
Мы аб леце...

І, стуліўшыся ў застрэшак,
Усё стаялі—
Пры святле тваіх усмешак
Слоў шукалі...

---

Мы з табой, як дрэмле восень,
Глухне ў свісце,—
Дум у радасці не просім
Залацісцей.

З намі наша ўсё бывала
У поўным складзе.
Толькі свету не ставала
У даляглядзе.

І вячэрняю зарою
У раме белай
Не тваё вакно—чужое
Зіхацела.

Колькі ночак перад святам
Ты не спала:
Не сваю—чужую хату
Шаравала.

Колькі лёну напрадала
Добрым людзям,
Колькі збожжа нажынала
Іх арудзе.

Дратавалі шлях твой горкі
Свету выжлы...
Гаспадарскія апоркі
Плечы грызлі.

Гаспадарская апека
Кроў труціла.
Па дзявочым долі—веку
Сэрца ныла.

Ўпрочкі мары і надзеі
Беглі часам:
Век дзявочы твой зладзеі
Кралі ласа.

Звалі: наша парабчанка
Наша служка...
Месяц выпаўзе над ганкам
Срэбнай дужкай.

Блісне серп маладзіковы
Вострым ўзмахам—
Над душой збярэш ты бровы
Чорным дахам.

(Цяжкіх крыўд слязмі не згоніш,
Зла—не раніш...)
Выйдзеш ціха на гармонік
У пару станеш

І, забыўшыся аб смутку,
Ты не плачаш,—
У вечным бацькаўскім абутку
Польку скачаш.

Час вясёлымі ладамі
Мчыць, як віхар...
Хай мы доўгімі гадамі
Помнім ліха;

Хай яно не раз ускрыкне
З дальняй даты,—
З песні воч тваіх не знікне
Бляск узняты.

Не асенняй прошлай слоце—
Першым вёснам,
Думкам, выкутым у бядоце,
Снам дзівосным,

Ясным зорам, цёплым росам,
Палкім летам,
Нашым дням светлавалосым,—
Песня гэта.

---

Дзе агнём, дзе ценем хмаркі,
Дзе і лёдам—
Прамільгнулі ў лёце шпаркім
Год за годам.

Їх крылатай чарадою,
У штормах раты—
На вадзе і пад вадою—
Усё узята.

Усё узята, усё здабыта
Дружным шквалам.
Нэндза белыя капыты
Пагубляла.

Прагула, правыла ў зімах.
Тлом варожым...
Мы цяпер усякі клімат
Знесці можам.

Нам цяпер жыццё усюды,
Усюды яснасць.
Усе прасторы, усе аруды—
Наша ўласнасць.

Мы прайшлі за стромай строму
Поўным ходам...
Знік абрыс чужога дому
Назаўсёды.

Скрух бязрадасныя пушчы,
Сум імглявы—
Змыты светлай, неўмірушчай
Бурнай явай.

Быццам гэтак, без сутрымку
З дзён бясконцых—
Паланелі на ўздымах
Край і сонца.

Край далёкі, край нязнаны,
У марах петы,
Край, спрадвеку казкай званы,
Сэрцам грэты...

Край, які мы ад калыскі
Вечна снілі,—
Ён узняўся ў злотабліску
З лютай былі.

Ён будуе дні, з прыветам—
Усёй планеце...
І трашчыць, шуршыць шкілетам
Ліхалецце.

---

Хай скрыгоча, б'е трывогу
Лёд на рэках.
Прывяла зямля жывога
Чалавека.

Не яго палохаць крыкам
Мгле бязладнай.
Блізка крок вясны вялікай,
Крок ўсеўладны.

Брудных ног ён след абхвошча
Пад дажджамі.
Перамые, прапалошча
Кожны камень.

Мутных вод вякі ў абрыве
Прагалосяць...
Каб прывольней і шчаслівей
Нам жылося.

Каб заўсёды быў нам дораг
Дзень наступны...
Узыйдзе плён турбот на долах,
Долах рупных.

Пад блакітнымі вятрамі,
Май устане.
Залатымі вечарамі
У вокны гляне.

Весялей і галасісцей
Будуць песні...
Нам з табой цяпер-бы выйсці
У пошчак весні.

Узяць бы гаму маладую,
Грымнуць светам...
Не шкадую і шкадую
Я аб гэтым.

Мы-ж з табой усё роўна ходзім,
З сэрцам чыстым,—
Ты—ў квятлівым карагодзе,
Я—ў агністым.

Мы ідзем аднэй дарогай—
Сонца людзі.
Шмат нам радасці і многа
Думак будзе.

Будзе песня залатая,
Будуць стрэчы...
Добры дзень, мая любая!
Добры вечар!..

1935 г.

Андрэй Оршык

# ЖОЎТЫ БІЛЕТ

**(З кнігі „Паўвека")**

У кватэры дзе я жыў, змяшчалася ў трох пакоях каля сарака чалавек, прычым у пяці кутках жылі сямейныя. Ложкі ляпіліся ўздоўж сцен, стаялі пасярод пакояў, як у казарме. Двое нават спалі на палатках у кухні.

Я прымасціўся ў гаспадарскай бакоўцы, на гаспадарскім куфры. Каля ног маіх спаў фанаршчык, Архіп Лукіч Качанаў, а ад галавы— дзяўчына Луша. Пасцель Качанава была ўсталявана на двох скрынках, пакладзеных уздоўж сцен, трэцяя, пастаўленая каля галавы, служыла замест стала.

Луша спала на вузенькіх казелках, уціснутых між трох сцен, і хавалася ад нас за старэнькім паркалёвым полагам.

Качанаў і Луша былі старажыламі і цяперашняй гаспадыні дасталіся разам з кватэрай. Качанаву шэсцьдзесят пяць год. Ён высокі, згорблены, мала рухавы, быццам з дошчак збіты кораб. У яго навечна асвоеная выпраўка нікалаеўскага салдата і ў адносінах да людзей і асабіста ў быту. Ён штодзень голіцца, раніцою на каленях моліцца богу, гаворыць „так точно", „никак нет", „слушаюс" і г. д. Ад ягонай пасцелі і ад яго самога заўсёды смярдзіць газай. Але да гэтага ўсе прызвычаіліся, прынюхаліся. Каб адбіць пах газы, стары смаліць тытунь.

З Качанавым за месяц я сышоўся блізка. Улетку ён меў вольны час і заўсёды сядзеў дома. Стары быў гаваркі, асабліва любіў апавядаць пра ваенную службу, ды пра абарону Севастопаля. Але зблізіла нас піццё гарбаты ў складчыну: у дзеда быў бляшаны чайнік. Ён даваў на засыпку чаю, а я капейку на гатаваную ваду. Але галоўнае—я бегаў у тракцір за гатаванай вадой. Тракцір ад нашага дому быў не блізка і для натруджаных дзедавых ног такая праходка за гатаванай вадою была стомнай, а для мяне, чатырнаццацігадовага хлапчука—прыемнасцю.

Лушы я зусім не ведаў. За месяц бачыў яе ўсяго разы тры. У святочныя дні два разы яна сядзела каля акна і нешта зашывала, а за трэцім разам чытала нейкую замаслычаную кніжку. Мелькам я чуў, як гаспадыня кватэры, кажучы пра Лушу, празывала яе няпутнай, якая не ўмее ўзяць шчасце ў свае рукі. Маладыя мужчыны, гаворачы пра яе, хіхікалі і падміргвалі, а жанчыны панура адмахваліся, уздыхалі і шкадавалі.

Аднойчы, п'ючы гарбату, я спытаў у Качанава, што робіць Луша. Стары дапытліва зірнуў на мяне, паторгаў пальцамі свае вусы і, адвярнуўшыся, працадзіў:

— Ходзіць на падзённую .. Мыць бялізну.

Зноў паглядзеў на мяне і мне здалося, што ў яго жылкі каля носу задрыжэлі, быццам ён хацеў заплакаць.

— Шкада дзеўкі... вартая, парадачная... а білет у яе... жоўты білет...— стары змоўк і цяжка ўпёрся позіркам у сцяну.—Каб яна якая гуляшчая была, ні божа мой... Я вось якую яе ведаю,—паказаў стары рукою на аршын ад падлогі.—Нябожчыцу маці яе ведаў. З вёскі яны тады прыехалі, на заработкі. Ноўгарадскія... Ціхвінскія яны.—Стары прыбраў кубкі і чайнік, змахнуў крошкі са скрынкі і дадаў, як-бы заканчваючы сваю думку:

— Тоісь, такая зараза гэты білет... як-бы жывога ў магілу. Куды ты паткнешся з такім дыплонам? Прыстыгугка... Бо „сапраўдны“ чалавек блізка да сябе яе не дапусціць, а не то што работу якую ёй .. Вельмі прыліпае да жанчыны гэты білет. Нанесла—хочаш не хочаш, а насі, пакутуй! Ты ведаеш, хлопец, што гэта такое? —спытаў ён у мяне.—Ну, дык ведай.

II

У суботу я не пашоў на работу,—распух вялікі палец на правай руцэ і фельчар завода даў адпачынак на тры дні.

Была дома і Луша.

Мы ўтраіх пілі раніцай гарбату з дзедавага чайніка і закусвалі. Гаварылі. Гэта значыць, гаварыў дзед, а мы слухалі. Амаль незнаёмыя, прыглядваліся адзін да аднаго. Па выгляду Лушы, у яе паводзінах, словах я „наўмысля“ шукаў невядомага мне чагосці асаблівага, бруднага, за што, як казаў дзед „сапраўдныя людзі блізка да сябе не дапушчалі, за што даюць жоўты білет, а бачыў скромную, мілавідную, толькі ўжо вельмі схудалую і вельмі бедна апранутую дзяўчыну, якой было год семнаццаць—васемнаццаць. Звычайную дзяўчыну. Яна сядзела на сваім ложку і з апетытам піла гарбату. Вось яна жуе і ўвесь яе малады твар у рухах і вялікія шэрыя вочы паблісқваюць ад здавальнення.

Час ад часу я адчуваю на сабе яе ўважлівы насцярожаны позірк і я думаю, што яна адгадвае мае думкі.

Маўчым. Гэтая маўклівасць і няёмкае разглядванне адзін аднаго рабілася цяжкім, а гаворкі ніяк не пачнеш. Нарэшце, перамагаючы сваю хлапецкую нерашучасць, пытаю:

— А якую гэта ты кніжку тады чытала?

— „Гуак“—узрадавалася майму запытанню Луша.—Вельмі цікавая кніжка...—і торапка, быццам баючыся прапусціць выпадак, спытала ў сваю чаргу:

— А ты дзе працуеш?

У ліцейным гільзавым аддзеле патроннага завода,—поўнасцю адчаканьваю ўвесь тытул сваёй вытворчасці.

— А гэта... дзе гэта?

— На Ліцейным, насупроць акруговага суда.

— А-а-а! Гэта дзе пушкі стаяць?

— Ну так.

— А колькі ты там зарабляеш?

— З шэсць грывен у дзень выганяю,—выхваляючыся дабавіў я цэлую грыўню.

— Ого! А я калі раблю... мне больш сарака капеек не плацяць,—уздыхнула Луша.—А у вас там жанчыны не працуюць?

— Не, не працуюць. Жанчыны працуюць на бумага-прадзільнай фабрыцы, на Новай канаве.

— Была. Мяне не прынялі.—Прыціхла Луша і на яе твары ўспыхнулі чырвоныя плямы.

— Хто-ж вінаваты, што ты такая дурніца!.. Шчасця свайго не разумееш... Каб я з тваім патрэтам-та,—заскрыпеў з-за дашчанай перагародкі насмешлівы голас кватэрнай гаспадыні.

Лушыны вочы злосна блеснулі і твар збляднеў. У руцэ хадуном захадзіў кубак. Яна хацела нешта сказаць, але дзед Качанаў, махнуўшы рукою, загаварыў:

— Кінь! Кабылу не пераржэш...

---

Расчыніўшы насцеж дзверы, шумна ўвайшоў старшы гарадавы з трэцяга вучастку Александра-Неўскай часткі і наш дворнік Лімоныч.

— Эй, хто тут будзе гаспадар?—бразгаючы сабляй па табурэтцы, спытаў гарадавы.

— Я, я,—што такое здарылася?—лісліва і напалохана заспешалася кватэрная гаспадыня, праціскаючыся бокам у дзверы і папраўляючы тлустымі рукамі спадніцу, якую распіралі ў бок крывыя ногі.

— Дзе тут у вас прыстытутка Лукер'я Цыганкова,—строга запытаў „старшой".

— А во яна самая... во яна,—кніжачку чытае,—угодліва і насмешліва паказаў на Лушу Лімоныч і яго касыя лупатыя зялёныя вочкі чакальна ўпіваюцца ў пашарэлы твар Лушы.

— Што-ж вам трэба?—непакойліва пытае гаспадыня.

— А што нам трэба?!—вылупіў вочы гарадавы.—А тое трэба... Чаго яна не з'яўляецца на агляд, шкура?!.

Гарадавы блізка падыйшоў да Лушы,—хадзіць мне яшчэ трэба за кожнай на фатэру? Ну, жыва!

Ён вырваў з рук Лушы кніжку і кінуў яе на падлогу.

— „Юры Міласлаўскі"...—падымаючы кніжачку чытае Лімоныч.—Пачытаем у вольны час.

— Ты чаго-ж сядзіш? Што, я балавацца сюды прышоў? Ну!.. Гарадавы ткнуў кулаком Лушу ў плячо.

— Нікуды я не пайду! Рэжце! Забіце, а не пайду!—у роспачы заенчыла Луша.

— Пойдзеш!.. Ты думаеш табе дазволяць заразу па панелі разносіць? А ну, дворнік, вазьмі яе ..

Лімоныч схапіў Лушу за каўнер, а другою за сукенку каля спіны і паставіў на ногі.

— Я нікуды не хаджу! Я хаджу толькі мыць бялізну, падзённа, спытайце, вунь, у гаспадыні!—крычала Луша.

— Ведаю, ведаю: патыліцай навалачкі мыеш...—нахабнічаў гарадавы.— Ну, пакажы, дзе твой білет?

— Няма ў мяне білета: я спаліла яго!

— Спаліла? Ладна, у вучастку новы дадуць, а за стары прыпаяюць тыдні два. Не палі дакумант. Казённае, брат, у агні не гарыць і ў вадзе не тоне.

— Чаго дзеўку за нішто мучыць?—падышоў стары Качанаў.— Нядобра, кажу, дзеўку мучыць: дзеўка чэсная, смірная, працавітая! Харошая дзеўка.

— А ты што, стары чорт, спрабаваў?—пахабна засмяяўся Лімоныч.

Луша вырвалася з рук Лімоныча, зашылася за стол і выставіла для абароны рукі.

— Бяры!—злаваўся гарадавы.

Лімоныч рвануў Лушу з-за стала і ўзяў яе за абедзве рукі.

— Адыйдзі, смурод! Пайду, сама пайду!—вырывалася як было сілы Луша.

— А табе,—звярнуўся гарадавы да гаспадыні,—гаспадзін прыстаў таксама пратакольчык прыпаяе: калі трымаеш на фатэры гуляшчых дзевак, выконвай інструкцыю. Калі ў дзеўкі жоўты білет, значыць, павінна дзеўка на агляд з'яўляцца. Гаспадыня павінна пасылаць яе на медыцыну.

— Можа самой замест яе трэба пайсці?

— Ну дык штраф прыпаяюць.

— Ну і заплачу! Думаеш, напалохаў.

Лушу павялі ў вучастак. Я пашоў следам за імі. На лесвіцы Луша вырвалася з дужых рук Лімоныча. Яна моцна ўдарыла яго локцем у грудзі.

— Асцярожна!—злосна, праз зубы, прашыпеў Лімоныч.—А то, брат...

— Ліпнеш, падла смярдзючая? Дачакаешся ў мяне сякеры.

— Вось чуеце, гаспадзін гарадавы? Якія яна выражэнні намякае, а?

— Чую. Вядзі, у вучастку разбяруць.

Пры выхадзе з варот на вуліцу Луша зноў вырвалася ад дворніка. Яна не хацела, каб вуліцай яе вялі за рукі.

— Пусціце мяне, я сама пайду!—упрошвала яна, але абражаны дворнік выкручваў ёй рукі так, што Луша пачынала стагнаць.

Пан у панаме, у чэсучовым гарнітуры, з партфелем пад пахай, два разы здымаў акуляры і выціраў іх, потым падыйшоў да гарадавога і нясмела сказаў:

— Навошта ж так жанчыну?.. Гэта-ж... нельга-ж так...

— Гэта прыстытутка, ваша высокаблагароддзе,—усміхаючыся, узяў пад казырок гарадавы.—У паліцыю вядзем, значыць...

— А-а...—махнуў рукою пан у панаме і пагардліва зморшчыўся.

Я ішоў за імі да трэцяга ўчастка, які змяшчаўся на рагу Боровой і Вяздзвіжанскай вуліц. Я бачыў, як штурханулі Лушу ў дзверы. Штурханулі наўмысля, прычыняючы боль. Штурханулі, калі гэта зусім не было патрэбна, бо яна ішла ўжо не працівячыся, а толькі закрываючы твар рукамі і нізка на вочы апусціўшы сваю карычневую хустку.

Не гледзячы на тое, што ў гэты час я безагаворачна ўспрымаў „власть придержащую" і ўвесь парадкавы побыт, усё-ж я быў прыдушан ахальствам гарадавога і дворніка.

Луша вярнулася ўвечары, а гадзіне дзевятай, калі амаль усе жыхары былі дома. Многія, атрымаўшы заробак, крыху выпілі.

Быстра праскочыўшы між ложкаў у свой куток, яна нырнула за сваю занавеску.

Плакала. Потым пачала стагнаць. Стагнала глуха, як відаць, у падушку і скрыпела зубамі. Мне здавалася, што яна захварэла. Жыхары шумелі і да яе ніхто не падыходзіў. Нешта трэба было зрабіць, а што—я не ведаў. Я адхінуў рог занавескі і спытаў:

— Можа табе вады даць?

Луша сапраўды ляжала ўнурыўшы твар у лахманы пасцелі. На мой вокліч яна не абярнулася і, як мне здалося, з нейкай агідлівасцю і злосцю крыкнула:

— Адыйдзі прэч!

Пачуўшы стогн, вылезла з сваёй каморкі заўсёды паўп'яная гаспадыня.

— Чаго гэта яна?

Я паціснуў плячыма.

Гаспадыня адхінула занавеску.

— Чаго гэта ты тут не ацелішся, карова? У-у-у! Чаго ты мычыш?

— Адыйдзі!—прахрыпела Луша.

— Адыйдзі...—перадражніла гаспадыня.—Адыйдзі... Пайду, чаго ты скіголіш, душу выматваеш?

Луша ўскочыла і ўставіла на нас затуманеныя вочы. Яна была п'яная.

— Адыйдзі, бандарша!—Шэра зялёны твар яе сударгава падрыгваў.— Адыйдзі, падлюга!—Луша ўпілася ў тлустыя плечы гаспадыні і злосна драла іх пазногцямі. Потым пачала біць кулакамі.—Заб'ю! Пагубіцельніца ты мая!—хрыпела яна.

Гаспадыня, як відаць прызвычаяная да скандалаў і боек, не здзіўлялася ад Лушыных паводзін. Адкінуўшы ад сябе, яна паваліла сударгава трапятаўшую Лушу на ложак і ўсё яшчэ злосліва гаварыла:

— Бачылі? Біцца палезла, дурніца! Якая муха цябе ўкусіла?—Потым, звярнуўшыся да мяне, ад самага шчырага здзіўлення развінула рукамі.— Ей богу, бо і каплі ў рот хмельнага не брала... Нават піва не піла, а сёння, бачце, п'яная, ісцінны бог!—і зарагатала.

— Зладзейка ты!—ускочыла зноў Луша.—Змяя! Праз цябе я пакутую! Праз цябе з мяне ўсе здзекуюцца!.. Ад роспачы рвала яна на сабе валасы.—А сорам які! Які сорам, госпадзі! Памерці лягчэй... Агаляюць, аглядваюць...

— Падумаеш... Сорамна ёй... Хіба ты адна такая, ці што?... Сорамна... А ты не саромяйся. Свайго няма чаго сароміцца... З тваім бы патрэтам я... я зарабіла ды такога енерала падчапіла-б...

— Куды я падамся з жоўтым білетам? Загінула мая галоўка горкая!— і Луша горка, як дзіця зарыдала.

Пачуўшы шум, у нашу каморку набіліся жыхары. Смяяліся. Пахабнічалі і я бачыў, што Лушына бяда, яе гора нікога не кранала. Яны бачылі ва ўсім нешта займальнае і толькі. Я таксама няясна разумеў, у чым справа, але адчуваў усю жорсткасць чалавечай абыякавасці. Я адчуваў глыбіню трагедыі і я хацеў дапамагчы, але што я мог зрабіць.

## IV

Нядзеля, раніца. У кватэры цесна і шумна. А восьмай гадзіне некаторыя толькі што ўсталі, іншыя паспелі апахмяліцца.

У нашай каморцы было ціха. Дзед Качанаў сядзеў на сваёй пасцелі і ўголас варажыў:

— Альбо, што свята, пойдзем, хлапец, у чайную, альбо за гатаванай вадой сходзім? Як?—Кажы.

Я сядзеў каля акна і пісаў на вёску бацькам ліст. Пасылаў я ім чатыры рублі грошай: усё, што засталося ад дзвёх палучак.

— Давай, схаджу за гатаванай вадой. У чайнай сёння цесна.

— Так... Разумны ты, хлапец, як бачу. Ну дык, сітнага возьмеш, рубца свежага, у Фецістава...—дзед высыпаў на далонь з кашалька дробязь.

— Дзед, дай мне паўрубля... Зараблю—аддам,—падышла да яго Луша.

— Ай, апахмеліцца захацелася пасля ўчарайшага?—засмяяўся дзед, але згледзеўшы, што ненаўмысны жарт пакрыўдзіў Лушу, ён дадаў, як-бы перапрашаючы:

— Вось, дзеванька,—і ўсё. На снеданне толькі...—Падкідваў ён на далоні капеек дваццаць медзякоў.—Чыноўнік я, мілая, сапраўды чыноўнік: дваццатага градская ўправа плаціць нам пенсію. Пасля заўтрага абавязкова дам.

— Я ўчора дастала ў яе,—кінула Луша на гаспадыніну каморку.— Трыццаць капеек, ды патраціла... А сёння... Трэці дзень, як не ела...

Да нас падыйшоў п'яны Васька Сухаў, альбо як яго празывалі жартам—Васька з вухам—вывесачнік, у зашмальцаванай ад фарбаў блузе. Засунуўшы рукі ў кішэні, загудзеў:

— Пра што ваша гаворка? А-а? Мілітрыса Корыбіцьеўна!.. Вам поўрубель патрэбен?.. Калі ласка: я дам і ўвесь рубель, а толькі... ваш тавар, а мае грошы.—Ён засмяяўся, паказваючы свае гнілыя зубы.— Ну, згодна?—не вымаючы з кішэні рук, падыйшоў ён блізка да яе.

Луша зблядняла ад крыўды, але, стрымліваючы сябе, моўчкі адштурхнула яго ад сябе.

— Ну, ты, цішэй, не казырся! Якое ты маеш права адмаўляць, калі гэта твае рукамясло? Я пішу шыльды, а ты... Я, брат, у пяцірублёвых быў, там, брат, у шоўку... духамі ва ўсіх месцах... а не то што якая рваніна?

Калі-б я быў вялікім, а не чатырнаццацігадовым хлапчуком, дык бы гэтага агіднага, гнілазубага Ваську вынес на двор на кулаках. Не толькі за тое, што ён так нахабна абыходзіўся з Лушай. Гэтая жорсткая подласць маленькага чалавека крыўдзіла і мяне. Я выняў падрыхтаваныя ў вёску грошы і падаў Лушы рубель.

— Вазьмі, пасля аддасі,—і не аглядваючыся, пабег за гатаванай вадой.

Васька паддаў мне пад зад нагою і зарагатаў.

— Хо-хо-хо! Матчына малако на губах не абсохла, і ён... Побач ложкі... Зразумела!

---

А што Луша пакутвала—гэта было ясна, але прычын яе пакут я не мог зразумець, вярней—успрыняць у тыя гады, бо прычыны гэтыя былі і маральнага і праўнага парадку, гэта была часта афіцыйная, абавязковая пагарда і зневажанне ад усіх... Нават нікчэмная доля чалавечай вартасці і тая не магла зміріцца з гэтым. Нарэшце такое становішча было непаправімым, відавочна непаправімым: наперадзе была толькі прорва падзення. А Луша не хацела гінуць. Успрыняць і ўцяміць гэтую трагедыю мне дапамог бы толькі жывы, прычынны факт. Я сам быў неабмежавана забіты, абязлічаны і прывучаны да ўсведамлення сваёй нікчэмнасці: на многае мае самалюбства не рэагавала. І я, бадай, гатоў быў разам з гаспадыняй параіць Лушы: напляваць на ўсё. Гэта, раз, потым: як магло здарыцца, што прыстойная дзяўчына, арганічна не схільная да прастытуцыі, атрымала жоўты білет?

Аб усім гэтым я і расказаў, п'ючы гарбату, дзеду.

— Так точна, хлапец, дзіўна. Проста наскочыла на сваю бяду, а яна-ж не такоўская: я яе ведаю год сем...

Ноўгарадскія. Сем год таму назад дзесяцігадовай дзяўчынкай прыехала з маткай у Піцер шчасця шукаць. Хадзілі ў багатыя дамы мыць бялізну. Так прайшло два гады. У адным з дамоў, дзе яны не адзін раз мылі бялізну, была патрэбна нянька і Луша засталася за няньку. Лушу добра адзелі, не з чалавекалюбства, зразумела, а таму, што гэта было так прынята. Каля дзяцей Луша навучылася чытаць. Прызвычаілася кожны дзень быць сытай. Аднойчы прастудзілася яе маці і захварэла не бедняцкай хваробай: была на нагах—у бальніцу не бралі, і рабіць не магла. Луша пакінула мейсца нянькі. Цяпер яна хадзіла замест маткі мыць бялізну і за маткай даглядвала. Потым матка памерла. Пятнаццацігадовая дзяўчынка засталася адна. Выпадкавая падзёншчына. Напоўгаладнае жыццё. Успаміны аб тым, што яна была некалі

нянькай і служанкай у „добрым доме“ бралі яе за сэрца. Цяпер яе, такую закіданую, ніхто не найме. Яна жыве на кватэры ўжо ў Федос'і Ільінічны Крываротавай—новай гаспадыні. Таксама прачка. Ходзіць разам з ёю мыць бялізну. Так мінула яшчэ два гады. А гады гэтыя такія, калі хочацца дыхаць на ўсе лёгкія, калі хочацца пасмяяцца, пагуляць, добра адзецца, а замест усяго гэтага на плячах і на нагах зноскі, купленыя на талкучцы.

Васька Жырноў, сын пограбшчыка, малады хлапец, даўно пучыў вочы на Лушу, і за чацвяртны ды за пачастунак кватэрная гаспадыня Крываротава зрабілася зводніцай. Луша захапілася і самім Васькам, прыгожым хлопцам і ста рублямі, якія ён абяцаў. З ног да галавы апранулася Луша за гэтыя сто рублёў.

І не прадалася Луша за сто рублёў, не. Яна шчыра пакахала Жырнова. У чаду кахання яна забылася, што ён ёй не пара.

Хутка Васька пачаў ухіляцца ад Лушы. Надакучыла. Цяпер Луша шукала Ваську. Яна гатова была для яго на ўсё.

І вось аднойчы ён павёў яе ў Кабызеўскія нумары. А калі выходзілі адтуль, іх спыніў акалодачны надзірацель. Запытаў дакументы.

— Муж і жонка? Не?

Ваську адпусцілі, а Лушу павялі ў паліцыю і... там выдалі ёй жоўты білет.

У Крываротавай было многа дамоў, дзе яна мыла бялізну. Луша хадзіла з ёю па ранейшаму.

У прачак, перш чым даверыць ім бялізну, бяруць пашпарты, а ў Лушы цяпер у пашпарце прыпіска: „к гэтаму дадаецца білет за № такім-та, выданы паліцэйска-санітарнай камісіяй, на прадмет... і г. д.

Мыццё бялізны заўсёды больш за ўсё тычыцца жанчын. Як дачытаюць у Лушыным пашпарце на прадмет чаго ёй выдадзен білет—пачырванеюць, нават затрасуцца ад абурэння і пагарды. Накінуцца на Крываротаву.

— Як ты адважылася ў харошы дом нейкую брудную, гуляшчую дзеўку прыводзіць?! Нейкая брудная шлюха будзе маю бялізну ў руках трымаць! А можа ў яе нядобрая хвароба... Зараз-жа ганіце вон!..

## V

Домаўласнік Феакцістаў запрасіў да хворай жонкі Івана Кранштадскага. Гэты Кранштадскі пратапоп карыстаўся велізарнай папулярнасцю святога цудатворца і праведніка не толькі сярод жыхароў Ямскай ускраіны Піцера. Пра яго пісалі ўсе газеты.

Вестка, што да Феакцістава на Варанежскую вуліцу прыязджае Іван Кранштадскі, абляцела ўвесь раён, раён рамізнікаў, рамеснікаў і дробных крамнікаў. І усюды—і па дварах, і ў крамах і ў трактірах толькі і гаворкі было, што пра Івана Кранштадскага і яго цуды. Усе хацелі хоць вокам зірнуць на божага чалавека, а можа выпадзе шчасце атрымаць бласлаўленне ад яго... Паглядзець на жывога святога, які творыць цуды, захацеў і я. Я не пайшоў на работу. Чакаючы Івана Кранштадскага асабліва нервавалася Луша. Па яе ўрачыстаму выразу на твары відаць было, што яна прыняла або прымае нейкае вельмі важнае для сябе рашэнне. І на тое, што прыязджае Кранштадскі бацюшка, ускладае нейкія асаблівыя надзеі. Яна ўжо не плакала ўначы, як гэта было ў апошні час... У гаспадыні і ў старых людзей на двары яна асцярожна распытвала пра „бацюшку“: ці строгі ён, ці дапушчае да сябе бедных і г. д.

А на Феакціставым двары і на вуліцы быў сапраўдны кірмаш. З'яві-

лісяя нейкія нікому невядомыя бабулькі і старцы прафесійна-багамольнага тыпу. Яны аўтарытэтна растлумачвалі кудэю бацюшка пойдзе, дзе спыніцца бласлаўляць праваслаўных. Ставілі ў чаргу публіку і навучалі, як трэба трымаць сябе і што казаць бацюшку. І ўсе слухалі і згаджаліся і без супярэчанняў давалі на нешта гэтым бабулькам і старцам пятачкі і грыўні.

Чакалі двое сутак, начуючы тут-жа, на двары і на вуліцы. Прыехаў ён каля двух гадзін дня. Карэта пад'ехала пад аховай гарадавых і акалодачнага.

З лесвіцы параднага ходу, цераз тратуар, да самых дзверак карэты быў разасланы яркі чырвона-жоўты дыван. У дзверах параднага ходу сустракаў айца Івана сам Феакцістаў, лысы, з доўгой сівой барадою, у даўгім сурдуце-сібірцы, і ў ярка начышчаных змазаных ботах з даўгімі халявамі. І гэтая доўгая барада, доўгі сурдут і высокія халявы не маглі схаваць абвіслай купцовай тлустасці.

З карэты спачатку вылез кучаравы складны хлапчына, у партыкулярным гарнітуры, не то асабісты сакратар, не то ахоўнік бацюшкі. Ён папярэдне агледзеў напіраўшую з усіх бакоў публіку і, пераканаўшыся, што паліцэйскія надзейна стрымліваюць яе, падаў руку свайму патрону і дапамог яму вылезці з карэты.

Хаця мне, сціснутаму ў натоўпе, і дрэнна было відаць, але я вельмі добра запомніў: як айцец Іван вылазіў і на хаду уздзяваў на галаву ліловую камілаўку, як наладжваў—настрайваў сваю фізіяномію на ўсенародны паказ.

Рэдзькападобная, вялікалобая галава ў гэтага паважанага папа была даведзена вялікай муштрай да таго становішча святога вялікаснага спакойства—нерухомасці, калі прастачкам нічога другога не застаецца, як хрысціцца, гледзячы на яе. За тое яго рысіныя вочкі пад нахмуранымі брывамі бегалі быццам дзве зялёных яшчаркі.

Устроіўшыся на дыване, ён разагнуўся, паправіў сваю ўзорчатую ліловую расу, паторгаў рэдзенькую бародку і рушыў, узяты пад локаць сваім ахоўнікам, да чакаючага Феакцістава.

Публіка з енкам: „бацюшка“, „угоднік божы“, рынулася з усіх бакоў, змяла паліцэйскіх. Плач, візгат. Непадалёк ад мяне білася ў сударгах клікуша... Я ледзь выбраўся з гэтага жудаснага жывога цеста.

— Неабузданыя! Што вы з ног хочаце збіць пастыра?!—крычаў акалодачны, стараючыся быць ветлівым.

— Дык-жа ён ад Феакцістава чорным ходам у шорнае завядзенне да Махтанава пойдзе!—Быццам не даверанчы сабе развінуў рукі высокі хударлявы масцеравы з суседняга двара. І, сагнуўшыся, кінуўся бегчы на двор. Я падаўся за ім.

Жаданне зблізку разгледзець славутага Кранштадскага Івана было такім вялікім, што я з вышак дваровага флігеля, дзе была наша кватэра, па даху перабраўся на вышкі суседняга флігеля, у якім жыў Феакцістаў, і адтуль злез да дзвярэй кватэры.

На чорнай лесвіцы, пагражаючы абвалам, таўпілася чалавек пяцьдзесят з нашага двара. Тут каля самых дзвярэй ціснулася і Луша. Мне добра было відаць, як на бледным яе твары расплываліся плямы хваравітай чырвані, як гарэлі яе вялікія шэрыя вочы. Хваляваласяя і трымалася рукой каля сэрца і наша Пракопіха, жонка шорніка. Незразумелая для мяне захапляючая напружанасць адчувалася і ва ўсіх астатніх.—Чаго яны чакаюць?—думаў я. Мне асабіста было проста цікава зірнуць на чалавека, пра якога столькі гавораць і пішуць—і усяго. Але я нічога не чакаў ад яго. Яны ўсе нечага-ж чакаюць. Пры гэтым хаця я быў зусім зялёны хлапец, але хітры, недобры твар гэтага „бацюшкі“ не

выклікаў у мяне давер'я, аднак, агульнае благавейнае ўшанаванне, амаль абажаственне, узганялі страх на маю крытычную смеласць, і ўсё-ж рэшткі сумненняў распальвалі маю дапытлівасць. Вядома, уся гэтая дапытлівасць круцілася навакол Лушы.

— Ідуць..—уздрыганулася ўся лесвіца.

Спачатку вышлі два гарадавых.

— Сыдзіце з дарогі! Сыдзіце...—штырхаючы і ў грудзі і ў спіну, расчышчаў дарогу адзін. Другі адцягваў ад дзвярэй Лушу. Яна ўпілася ў дзвярную скабу. Гарадавы пыхцеў, але хутчэй бы адарвалася скаба, чым бы яе выпусціла Луша.

— Не трэба...—махнуў вадзяністай пухлай ручкай айцец Іван. Голас ціхі, сіпаваты, але ўпэўнены. Ён стаяў перад дзвярмі, напалохана паглядваючы то на кучаравага свайго ахоўніка, то на рассыпаны на лесвіцы народ.

Вылез і пайшоў наперад сам Феакцістаў, за ім кучаравы. У гэты момант Луша выскачыла з-за дзвярэй. Забегшы наперад, яна кінулася на калені перад айцом Іванам, выцягнула перад ім рукі і замерла.

— Гэта, што гэта?—адступіў айцец Іван.

— Бацюшка! Я... я...—Луша працягвала да папа свой жоўты білет.— Я, я не хаджу... я не хаджу! Я... не! А гэта... Дапамажы!..

Луша была, як непрытомная.

— Што з ёй?—звярнуўся айцец Іван да падышоўшага са двара акалодачнага.

Акалодачны ўзяў з рук Лушы білет, прачытаў і лісліва ўсміхнуўся.

— Гэта... Гэта, ваша высокапрападоб'е, прастытутка...

— Што ёй?—нецярпліва спытаў поп.

— Бацюшка! Угоднік божы! Загадайце адабраць ад мяне гэты пракляты білет! Жыцця няма!... Я... я...—і Луша зарыдала.

Гэта хвалюючае рыданне закранула прызвычаенага да чужога гора пратаіерэя. Бачучы такія горкія, шчырыя слёзы яго рысіныя жорсткія вочкі абтухлі і як бы замерлі на хвіліну. Ён неяк адразу абвіс і плаксіва зморшчыўся. Потым, быццам змахнуўшы з сябе жаласць, строга і спачувальна засоп:

— Трэба цярпець... Бог дапаможа... Перад богам усе роўныя,—падбіраў ён словы, адчуваючы няёмкасць ад незвычайнай для яго просьбы Лушы. Пасля упэўнена, быццам намацаўшы цвёрдую глебу пад нагамі, ён працягнуў для благаслаўлення руку.—Марыя Магдаліна, Марыя Егіпецкая былі таксама блудніцамі, а заслужылі ў бога і цяпер святая царква шануе іх, як вялікіх праведніц. Устань і ідзі!—соваў ён Лушы руку для пацалунку.—Кожны чалавек усім сваім становішчам павінен служыць богу і бліжнім.—І хутка адвярнуўшыся, пачаў сыходзіць па апусцелай лесвіцы.

Увечары жыхары смяяліся.

— А Лушка... надумала да Івана Кранштадскага падкаціцца.. Можа, вызваліць яе ад білета... Ей богу! Вось безгаловая,—рэзанёрстваваў тачыльшчык Адзінцоў, набожны кастраміч.—Тут святога жыцця чалавек, а яна з білетам. Будзе ён з нейкай гуляшчай звязвацца...

— Дурніца,—хрыпела гаспадыня.—Я-б на яе месцы, з яе патрэтам... Раз і два барыняй бы зрабілася, а яна да Івана Кранштадскага... Хм!

— Ох, гора, гора! Ніхто і не пашкадуе...—уздыхнуў шорнік Савелаў.— Вось прыліп гэты білет.

— Як зараза праказная,—сцвердзіла яго жонка.

— Ніхто, кажаш дзед Савел, не пашкадуе? А? Я часта хацеў яе пашкадаваць, ды яна сама не хоча... Яна, дзядзька Савел, сама нос задзірае. Вось твая Марына дык чула, як ёй сам Іван Кранштадскі казаў,

што, моў, кожны чалавек усёй сваёй натурай служыць богу: а я на шармака не хочу... У мяне калі ёсць грошы... Я, брат...—круціў галавою вывесачнік.

— Фрэліна, як-жа—пагардліва зморшчылася гаспадыня.—Падумаеш, крануць нельга... А ўжо калі не хочаш насіць жоўтага білета ў кішэні, ідзі ў манастыр...

## VI

Зноў Луша дзень працавала, а тыдзень шукала работы. Зноў плакала ўначы.

Аднойчы ўначы я прачнуўся ад нейкай дзіўнай трасяніны: быццам нехта гушкаў усю маю пасцель. Я сеў упоцемку і нічога не мог зразумець. Пасцель калацілася і шумела. Нарэшце я пачуў нейкі хрып. Я запаліў запалку. Занавеска Лушынай пасцелі дрыжала і падскаквала. Я запаліў другую запалку і ўбачыў, што з-за полага выткнулася голае калена і сударгава задрыжэла. Я адхінуў занавеску—Луша вісела на прывязанай да цвіка вяроўцы, упершыся адной нагою ў маю пасцель, другая нага агалілася і выткнулася з-за полага. Рукі з растапыранымі пальцамі былі развінуты, быццам яна збіралася сесці. Твар пасінеў, язык выпхнуўся з роту, яле яна была яшчэ жывая. Я закрычаў. Я, як мне здавалася, цэлую вечнасць не мог дастаць свой кішанькова нож. Потым упоцемку ўсё яшчэ крычаў і крыку вышэй галавы перарэзаў вяроўку. І калі напалоханыя жыхары з лямпамі падышлі да ложка, Луша звалілася на пасцель і ляжала без руху.

Усе варушыліся і ніхто не ведаў, што трэба рабіць. Яе выпрасталі на ложку. Адзін ліў ваду на галаву, на грудзі, другі трос, трэці размінаў жывот. Я чаранком дзеравянай лыжкі расчапіў ёй зубы і хацеў увапхнуць у рот распухлы язык і не ведаю, ад чаго, але яна раптам пачала неяк ікаць. Калі прышоў фельчар, які жыў у двары, Луша ачуняла.

Увечары, пасля работы, я застаў на кватэры таго самага фельчара, які быў раніцою, і акалодачнага з дворнікам. Акалодачны пісаў пратакол. Ён распытваў у людзей, як была справа. Дапытваў у гаспадыні, у старога Качанава, а больш за ўсё звяртаўся да Лушы, але Луша ўпарта маўчала.

— Чаго маўчыш, калі цябе пытаюць афіцыяльна,—нерваваўся акалодачны.

Луша з абкручанай хусткай галавою ляжала бледная і маўчала. Убачыўшы мяне, яна зашаптала:

— Вельмі баліць галава...

— Вось дадуць табе месяцы тры,—тады загаворыш,—злаваўся акалодачны.—Ну, а ты што ведаеш?—звярнуўся ён да мяне.

Я расказаў, што ведаў, і, не сцярпеўшы, запытаў:

— А за што-ж яе судзіць будуць?

Акалодачны здзіўлена выпучыў на мяне вочы. Мая смеласць яго збянтэжыла.

— Многа будзеш ведаць—хутка пастарэеш, паршывец!—праз зубы працадзіў. Але згледзеўшы, што ўсе жыхары самым сур'ёзным чынам нічога не разумеюць: навошта, уласна, складаюць пратакол на хворую Лушу, ён растлумачыў:

— „Всякий проживающий в Российской империи обязан подчиниться ее законам". Зразумеў? А ў законе-ж не паказана, каб кожная, як кажуць, шантрапа, магла душыцца, непакой ствараць. Потым быццам шкадуючы, што гаворыць з „шантрапой", ён сур'ёзна растлумачыў, пагардліва ўсміхнуўшыся:

— Калі спатрэбіцца начальству, яно само каго трэба павешае.

— Ц-ц-ц..—зацокаў стары Качанаў, пагладжваючы свае калені.— Ай, барын, як непутна язык твой пляце...

— Што? Як ты адважыўся, дурань стары? А? Ды я цябе...

— Не палохай, барын, мне ўсёроўна хутка паміраць.

— Гаспадыня, гэтта што такое? Гэтта твой жыхар, а?

— Так точна, барын. Жыхар яе. Запісвай: служу фанаршчыкам у гарадской думе,—ужо зусім насмешліва загаварыў Качанаў.—Пішы, за глупства, моў...

— Скаціна! У мяне, брат, хутка паразумнееш,—шыпеў акалодачны.

І ўсе разумелі, што адказ акалодачнага быў неразумны, што дзед Качанаў яго не спалохаўся... І не гледзячы на ўсю забітасць гэтых людзей, пагарда да яго адчувалася ў кожным іх руху.

— Па нашых законах самагубства і замах на самагубства сурова караюцца,—не вытрымаў фельчар.

— Эх!.. як пратаколам страшыць, дык лепш бы палячылі дзяўчыну, вось яна шавяльнуцца не можа,—бурчэў дзед.

— Вось закон!.. Хоць душа з цябе вон, а жыві,—уздыхнула Марына.

...Пашлі акалодачны і фельчар, разышліся і жыхары па сваіх ложках. Толькі мы з дзедам засталіся піць гарбату. Я схадзіў за гатаванай вадою, наліў па шклянцы. Не хацелася піць. Падаў сваю шклянку Лушы.

— Выпі.

Яна скасілася на шклянку, усміхнулася, потым наморшчыла бровы.

— Дай! Глыну. Дапамажы!

Я падняў яе галаву і паднёс кубак да губ. Яна прагна выпіла палову і зноў лягла. Потым узяла мяне за руку.

— Навошта ты перашкодзіў мне? Як было хораша! Быў ужо канец, а ты... Навошта?..

— Ды як-жа,—напалохаўся я. Яна ўсміхнулася і ўздыхнула.

— Дурны ты, хлопча... А я-ж табе яшчэ рубель вінавата... Ты не бойся: зараблю—аддам. Потым, памаўчаўшы, сказала:

— Галава страшна баліць. Як быццам учадзела.

— А навошта? Навошта ты так рабіла?

— Навошта?—яе вочы пакрыліся вільгаццю і па твары пацяклі слёзы.—Як хочацца пажыць, як людзі! Робіш.. а ў свята пайсці пагуляць і... каб людзі на цябе пальцамі не паказвалі, не крыўдзілі...

— А што каб напісаць прашэнне?—прапанаваў я.

— А каму?

Мне стала сорамна за сваё няведанне, але я не здаваўся.

— Я спытаю ў сваіх знаёмых, яны мяне з-пад баркі выцягнулі, вось людзі...

— Я падавала ў камітэт па дапамозе паўшым жанчынам. Дык пляла, пляла мне нешта добра прыбраная барынька, потым кніжачку дала...— па твары Лушы прабег цень, а ў шэрых вачах сабралося столькі ненавісці, што мне зрабілася страшна.

— Хадзіла нядаўна ў дзявочы манастыр,—прахрыпела яна.—Прасілася за служку.

— Ну?

— Выгналі вон...—Луша сціснула зубы.—Сказалі, што манастыр не публічны дом.

— Гэта манастыр не публічны дом?!—засмяяўся дзед, закашляўся, папярхнуўшыся гарбатай.—Гэта, брат... Няма больш брыдкага прытулку, як манастыр... Верна кажу!

## VII

Увосень, у лістападзе, я пераехаў на Выбаргскую старану, каб у зімнія халады быць бліжэй да завода.

Зімою я неяк заходзіў на старую кватэру, але ні дзеда Качанава, ні Лушы не застаў дома. Луша маё наведванне тлумачыла па свойму. Яна прыслала мне паштоўку, у якой пісала, што жыве як і раней голадна, ды ніяк не можа сабраць рубля, каб расквітацца са мною.

Дзіўны чалавек... Я даўно ўжо не лічыў, што яна мне вінавата, наадварот; яна разы тры мыла маю бялізну, папраўляла яе...

Сустрэліся мы з ёй праз поўгода ў Александраўскіх бараках, дзе мяне лячылі... пасля допыту на Гарохавай.

Быў канец мая. Луша прынесла мне булак, кілбасы, сыру. І прынесла доўг.

Я вельмі здзівіўся.

— Не пазнаеш?—засмяялася яна, убачыўшы маё здзіўленне. Крыху на чалавека стала падобна? Праўда?

— Так, Луша, вы цяпер...

— Так, я цяпер пазбавілася ад жоўтага білета.—Яна раптам зрабілася сур'ёзнай і глыбока ўздыхнула.—Замуж вышла.—Яна коса глянула на мяне, каб бачыць якое ўражанне гэта зрабіла на мяне?

— За каго?

— За дзеда Качанава. Я цяпер Лукер'я Сцяпанаўна Качанава. Запомні—пажартавала яна.—Цяпер запісана на яго пашпарт. Развязалася з гэтым...

Яна аглянулася па баках.

— Дык-жа Качанаву хутка семдзесят. Які-ж ён муж табе?—здзівіўся я.

— Што-ж рабіць... А табе пятнаццаць. З табою не сталі-б вянчаць. Апрача-ж вас дваіх мяне ніхто не ўзяў бы. Праўда-ж—жартавала яна.

Хацелася пра многае спытаць. Але ўсё гэтае тычылася няроўнасці іх сямейнага становішча. Было няёмка. Луша сама здагадалася загаварыць пра гэта.

— Пашкадаваў мяне стары: адарваў мяне ад жоўтага білета. Абяцаў даць асобны від... і даў-бы, каб не жыхары... А колькі ў мяне цяпер сталых харошых дамоў... Работы многа...

— А што жыхары?

— А жыхары натрубілі старому ў галаву... Цяпер рэўнуе. Прыдзіраецца, біў два разы.—Луша ўсміхнулася.

— Ну і што цяпер?

— Пацярплю. Што-ж... Ад бацькі цярпець можна.

— Памрэ хутка.

— Што ты!—спалохалася Луша.—Няхай жыве. Папраўляйся і ты! Паправішся, прыходзь. Пагаворыш з ім. Ен цябе паслухае.—Потым яна ўсміхнулася сваёй цудоўнай усмешкай.—Усё-такі я цяпер зусім як супраўдны чалавек... А ўсё ён... А ты кажаш, памрэ... Няхай жыве!

Міхась Багун

# ШЧАСЛІВЫЯ ЗОРЫ ЎСТАЮЦЬ

Паміж двух,
акіянаў
і трох марэй
такі
разгорнут прастор,
што
покуль сонейка
Менск сагрэе
—ноч выстудзіць
Владывасток.

Размах
у грудзях
і ў плячышчах—во!—
Такая
краінішча ў нас,
што, скажам,
Кубань
пачынае жніво
—канчае сяўбу
Дзвіна.

Жыты і пшаніцы,
ячмені,
аўсы,
а рэшта—прышло пазней.
... Як дзед
колісь вышаў,
так бацька
і сын
ішлі і па яго баразне.

Рабілі за ласку
кулацкіх аддзяк...
Аж хрыпнуў са злосці бізун:
кабыла на нораў
была ў медзьвядзя,
на сілу-ж і рост—у казу.

Варочалі скібы
аж пухнуў язык

і вочы раслі
— на ілбе...
... Цяпер толькі шпораю трактар
разы
у два пераверне глыбей.

Заплачаны з процантам спадчыне доўг
і памяць аб ёй
— адкінь!
Між прошласцю й намі
— дзесяткі гадоў...
Куды там гадоў
— вякі!

Вялікія справы нас горда завуць
к свайму баявому кастру;
каспійскія рыбы плывуць на Маскву
і Ладага рвецца к Дняпру.

Па сталінскім компасе
ленінскі курс
трымае краіна мая
і ёсць ганаровае месца радку
паэта
ў рашучых баях

Глядзіце
ўзгараецца сонца ярчэй,
гідчэе традыцый аскал:
сціраецца з сэрца,
з мазгоў
і з вачэй
прадзедаўскай скуры луска.

Краіну ўздымаючы, ўсе мы расцём—
з нас кожны сябе пераржыў,
і той,
хто сябе адчувае гасцём—
бясспрэчна, не наш, а чужы.

У нас перамогі прыбоем грымяць,
бушуе вясны акіян
і мы ганарымся, што носім імя
краіны такой грамадзян,
дзе волі і розуму творчы уздым
прымусіў прад класам скарыцца
арктычнае Поўначы вечныя льды,
паўднёвых пустынь таямніцы.

Мы здолелі
плечы свае распрастаць,
наш розум даўно раскаваны,
— і, першымі ў свеце,
рванууца на старт
краіны маёй стратапланы.

Нам першым
энергію сонечных рэк
раскрые разгромлены атам,
каб быў у краіне маёй
чалавек
на сонца і шчасце багатым,

каб вораг наш,
хто-б ён і дзе-б ён ні быў—
ці ў блізкіх краях, ці ў далёкіх
—у клічы чырвонаармейскай трубы
чуў гібелі грозныя крокі.

Вы бачыце?
— Блішча ўральская медзь,
два моры злучае рука,
каўказская нафта пайшла грымець
у нашых рухавіках.

Бясплодныя стэпы паўзе апладняць
хібінскі апатыт.

Дужэе
саюзных рэспублік радня,
перакінуўшы рук масты.

Вы чуеце?
— Хваляй шумлівых пшаніц
калгасная слава ўстае,
і коннік старожкі на дужым кані
суровую песню пяе.

З Чырвонае плошчы даносіцца гул—
наш класавы компас не згублен:
у маршах святочных чаканяць нагу
брыгады саюзных рэспублік.

Паміж двух акіянаў
і трох марэй
шчаслівыя зоры ўстаюць...
Як майская песня
расці-ж і дужэй,
вялікі Советаў Саюз.

Менск, 34—35 г.

Віктар Кудзімаў

# ДЗІВАК КРАУЗЕ

**(Эцюды на раман)**

Ён меў шэсць год ад нараджэння і на носе ў сталёвай аправе акуляры. На бацькаву думку, у хлапчука былі дзве асноўных заганы: любіў салодкае і часта праз глупства плакаў.

Безумоўна, вінавата жонка. Хто, скажыце, шасцігадовае дзіця напіхвае казкамі Гофмана і наігрывае яму „Элегію“ Покера?

У нядзелю, калі не было работы, стары Іаган Краузе гаварыў суседу Квінту.

— Калі ў чмурлівай маткі адзін сын—дзіця будзе калекам.

Квінт, пацягваючы з фужэра свойскае піва, асцярожна кідаў:

— Чужая краіна...

— Так, сусед, Расія...

— О, Расія,—многазначна гаварыў Квінт.—У Расіі ніхт ляйх*, каб яго чорт...

Паўднёвае сонца ў паўдня стаіць якраз над кірхай. Новы Данцыг загубіўся ў катліне херсонскага стэпу, але, калі падняцца на кірху—відаць Буг, што рэжа стэп да Чорнага мора.

— Добра ў Берліне, Іаган?

— Ах, сусед...

— Накруці музычную скрынку, Іаган, я паслухаю родныя песні.

Двое мужчын, асавелых ад піва і херсонскага сонца, слухаюць, схіліўшы галовы на бок, а малаточкі меладычна выстукваюць:

Варта на Рэйне
верная, моцная..
Бацькаўшчына любая,
Можаш быць спакойна...

Маленькі Карл здзіўлена заглядае ў пакой і, таксама схіліўшы галаву, слухае, а на шасцігадовым носе паблісківаюць акуляры ў сталёвай аправе. Карл штохвіліны іх папраўляе, яму здаецца, што яны трымаюцца дрэнна і гатовы зваліцца. У акулярах грае сонца...

* * *

Шмат пазней Карл насіў акуляры ў чарапашай аправе. Вось яны і зараз ляжаць на начным століку, падняўшы чорныя дужкі ўгару. Гэтыя акуляры прайшлі цяжкі шлях ад Берліна да глухіх вёсак Галіцыі, да халоднай Расіі—сапраўднай бацькаўшчыны Карла Краузе. Яны сумленна служаць, надаючы дзелавы, крышку нават вучоны выгляд бугал-

* Не лёгка.

тару канторы Дзяржгандлю—Карлу Краузе. Усё гэта так. Але незразумела адно—як ён, Краузе, апынуўся тут і ляжыць на чужым ложку. Маладзенькая жанчына-доктар напісала рэцэпт, мякка пасварылася за тое, што ў пакоі накурана і тут-жа, забыўшыся, закурыла сама. Адыходзячы, яна нешчыльна прычыніла за сабой дзверы і Карл бачыць частку пакою гаспадароў.

Алеаграфія мадонны крыва вісіць на сцяне і, здаецца, зараз зваліцца, а блакітны ліхтар на пачарнелых ланцужках, як шыбенік, гушкаецца пад столлю...

— Значыць, я хворы,—думае Краузе, і, па прывычцы, кратае пераносье, але акуляры, бескарысныя і халодныя, ляжаць на століку, побач з каробкай ад пудры. Ліхтар і мадонна назольна лезуць у вочы, а за сцяной кватэрная гаспадыня размаўляе з дачкой. Гэты шасцігадовы бандыт увесь дзень носіцца па пакоях, кідае крэслы, рагоча і спявае. Яна капрызная.

— Яна вельмі падобна на Валю,—думае Краузе.

Дзіцячы голас, крышку шапялявячы, спявае на матыў будзёнаўскага маршу:

> О том, как ночью ясною
> Охрапили колпасную,
> Потым в лесу,
> Делили колпасу...

Мадам Круглікава, калі злуецца, бывае афіцыйнай:

— Нэлі Круглікава, перастань спяваць!

— Мама, а мы пойдзем Першага Мая на вуліцу?

— Адчапіся.

— Мама...

— Нэлі Круглікава перастань капрызіць!

— Мама, скажы...

— Нэлі, адыйдзі, у мамы... жыватoк баліць.

Краузе душыцца ад смеху. Мадонна глядзіць на ліхтар і таксама смяецца. Краузе ўстае і прычыняе дзверы. Кладучыся, ён успамінае, што калі, яшчэ ў пачатку хваробы, ішоў да ложка, дык заўважыў—карункі прасціраdлаў з-пад коўдры выглядалі, ян ніжняя спадніца ў жанчыны, какетліва—ледзь-ледзь. А ўвесь ложак выглядаў утульна. У пакоі ён толькі, пэўне, і быў у парадку. Гэта гаварыла аб тым, што гаспадыня да цела свайго адносілася клапатліва. А астатнія рэчы? Чалавек з дасужай фантазіяй узяўся-б вызначыць характар уласніка іх.

Вось стол. Абрус на ражку працёрся і нядбайна залатаны. На стале—пісьмовы прыбор, запылены, у чарнільных плямах, і побач тры кнігі: том Плеханава не разрэзаны, разгорнуты раман Локка, між старонкамі крошкі пшанічнага хлеба. Асобна ў шэрай вокладцы—„Гандлёвае рахункаводства“. Вокладка скрэмзана сінім алоўкам. У той вечар, калі Краузе, размаўляючы сам з сабою, убачыў гэтыя сінія лініі, ён зрабіў паўзу і ўсміхнуўся—работа Нэлі Круглікавай—ах, маленькі бандыт! Яму нават не шкада было кнігі, якую месяц назад узяла ў яго Валя і не звярнула. Ён яшчэ не ведаў, што ў яго грып. Было толькі крышку горача і круцілася галава; але гэта, пэўне, пасля гутаркі з Валяй і Олінным. Ён яшчэ тады, скончыўшы гэтую непрыемную гутарку, спакойна ўстаў і, апранаючыся, сказаў:

— Валя, я пераходжу да цябе. Ты з ім астанешся тут. Двух пакояў вам хопіць.

Валя, не гледзячы на Краузе, сказала:

— Ты дзівак, Краузе, цябе ашукалі, а ты аддаеш кватэру.

Карл Краузе паправіў акуляры:

— Не, Валя, ты ашукала толькі сябе. Да пабачэння.

У часе гэтай гутаркі Олін сядзеў, разглядаючы альбом з паштоўкамі. Краузе хацеў альбом узяць. Гэта была матчына памятка, але, вырашыўшы, што рэчы забярэ пазней, вышаў і асцярожна зачыніў дзверы.

Прышоўшы на кватэру да Валі, ён стаяў каля акна і доўга думаў. Ён уголас размаўляў сам з сабой.

— Ёсць бухгалтар канторы Дзяржганлю Карл Краузе.

— Так, ёсць.

— Ён блізкавокі (Краузе пакратаў акуляры)

— У яго лёгкая форма шаленства, якую называюць каханнем.

— Так.

— Ён вельмі блізкавокі, гэты Краузе, і каханая жанчына яго ашукала.

— Гэта ўстаноўлена.

— Вывад?

— Спакойна распрануцца і... заснуць.

У гэты момант Краузе ўбачыў скрэмзаную вокладку „Гандлёвага рахункаводства“ і, зрабіўшы паузу, усміхнуўся. А, падыходзячы да ложка, дадаў:

— У разуменні іншых людзей вывад некалькі ідыёцкі, але ў даны момант правільны.

... пасля мадам Круглікава выклікала доктара і той устанавіў, што ў хворага грып.

У гаспадароў ціха. Нэлі ўгамавалася і Краузе заплюшчыў вочы. Але сну не было. Думкі рабілі гіганцкія скачкі і было дзіўна, што даўнае, забытае, усплывае так выразна. Ну, прычым тут, напрыклад, музычная скрынка і мелодыя:

Варта на Рэйне
верная, моцная...

Ах, так: ліст цёткі Грэтхен з Берліна. Ёсць надзвычайная дзяўчына фрэйлейн Эмілія. Бацька яе нядаўна на Унтэрдэнліндэн* адчыніў галантарэйны магазін. Карлу дваццаць першы і ён, папраўляючы акуляры, падскоквае ў тарантасе суседа Квінта... Пара сытых коняй, ёкаючы селязёнкамі, імчыць па стэпавой пыльнай дарозе. Новы Данцыг з беленькімі акуратнымі домікамі і самотным флюгерам кірхі, астаўся недзе там, у катліне. Бліснуў Буг, насунуліся два вялічэзных элеватары ў порце, але тарантас ужо нясецца па каменнях Слабодкі—прадмесцю горада і міма, міма проста пад белы вакзал. Але прычым тут музычная скрынка? Карл Краузе не можа ўспомніць. Ён, злуючыся, нават пераварочваецца на бок. Перад вачамі на століку акуляры, пад столікам веер рознакаляровых паштовак. Ах, Карл, Карл, якая блізкавокая стала твая памяць! Ці гэта старасць? Што намалёвана на паштоўках—не разглядзець: можа крымскі пейзаж, ці мо' з птушынага дуазо від на Берлін, ах, хіба не ўсёроўна? Гэтая чорнавалосая Валя любіць збіраць паштоўкі, як скнара—грошы. Эмілія—тая любіла слоеныя піражкі, так, так, і шмат смяялася. Усе бялявыя смяюцца. У яе смех гучэў таксама, як малаточкі музычнай скрынкі. У Карла ўсплыў гэты ўспамін яшчэ ў харчэўні. Гэта было праз месяц пасля прыезду ў Берлін. Яны наладзілі яму праводзіны і ўсе перапіліся. Кампанія таўстых крамнікаў размахвала валасатымі рукамі і смяялася: як-жа прыехаў чалавек жаніцца, а тут вайна—і проша ў армію.

Але-ж толькі месяц, самае большае два—і гэтыя рускія...

---

* Вуліца ў Берліне.

Ах, дзівак Краузе, яму, пэўне, сумна па іншай прычыне. Ён шкадуе, што бялявая рагатушка Эмілія не слала яму ложак. Але-ж яны згавораны.

Ён зласней будзе ваяваць і атрымае жалезны крыж.

Які-небудзь месяц і рускія варбары пазнаюць, што такое кайзер.

О-го-го кайзер! Гох, кайзер, гох, гох! Ва ўсіх чырвоныя фізіяноміі, усе размахваюць кулакамі і, шырока разяўляючы п'яныя раты, крычаць:— Гох, кайзер, гох, гох!..

Бацька бялявай Эміліі, гэты крамнік, падобны на карпа, цягне праразліва з п'янай настойлівасцю:—о-о-о, кайзер...

Шум мацнее.

Гімн, гімн!

Усе ўстаюць. Мятусіцца шынкар...

Ага. Вось яна, музычная скрынка... Так, так, шынкар хутка круціць ручку і малаточкі выстукваюць:

Варта на Рэйне
верная, моцная...

Усе стаяць і слухаюць.

Захапленне і смех таўстых сваякоў мала абыходзяць Карла. Ён паволі цягне піва з фужэра і хмурыцца. Ён думае, што праз тры дні полк іхні выязджае, а там цяпер, у беленькім Данцыгу, у херсонскім стэпе бацька і сусед Квінт, пэўне, таксама накруцілі музычную скрынку і крычаць: Гох, кайзер! О-о-о, кайзер. І ўпершыню гэты дзівак Краузе задае сабе дзіўнае пытанне: навошта гэта ўсё—кайзер, піва, музычная скрынка і жалезны крыж? Галоўнае-ж гэта—Эмілія. Вось, адвярнуўшыся, ён папраўляе галстук, што з'ехаў на бок. Цётка Грэтхен засмучона глядзіць на Карла. Яна, пэўне, адзіны чалавек, хто разумее яго. Баязліва кратаючы пакладзеную на стале каску пляменніка, цётка Грэтхен нясмела гаворыць:

— Ты напішы матцы, Карл, скажы, што я не вінавата, я не ведала...

Краузе ківае галавой і думае: яна дагэтуль не разумее, у чым справа, яна-ж толькі хацела мяне ажаніць з Эміліяй. А ў Данцыг ён, вядома, напіша. Праўда, гэта прымусіць матку плакаць і сумна наігрываць на разбітым піяніна „Элегію“ Покера, але...

* * *

За вакном сузмрокі разліты бледым чарнілам. У пакоі яшчэ светла. Чуецца голас мадам Круглікавай, нізкі і павучальны:

— Мілая, муж любіць, каб жонка была вясёлая.—І доўгае расказванне напоўголаса—з уласнага жыцця. Бубнявы голас гаспадыні перабівае другі, нецярплівы, на дзіва падобны да валінага.

— Ах, як я люблю рахат-лукум. Вы былі на поўдні, Феня Маркаўна?

— Я ўсюды была, мілая...

— Рахат-лукум. Гэта дзе-ж было?.. Здаецца, на поўдні. Немцы, румыны, грэкі, французы збіліся клубкамі ў гэтым вясёлым горадзе Нікалаеве. Супроць бульвара на пляцу яшчэ ляжала вялічэзная бронзавая ідаліна—Грэйч. Помнік абвалены.

Ашчапіўшы босымі нагамі шыю волата, хлопчык з чорнымі злачыннымі вачамі і друзлым старэчым тварам крычаў:

— Рахат-лукум, камму рахат-лукум...

Нехта высокі і смуглявы ў форме грэцкага афіцэра, прытрымліваючы на белай перавязцы руку, сур'ёзным шэптам пытае:—Малтшык... какаінэ... ест?.. Хлопчык, размахваючы рукамі, весела гарлае:—Толькі рахат-

лукум, толькі рахат-лукум, добры рахат-лукум. І больш нічога. І больш нічога...

... Чалавек некалькі секунд савіным нерухомым позіркам глядзіць на немцаў, што валяюцца ў крыві. Чалавек апрануты ў цывільнае, ён доўгавалосы, падобны на пераапранутага манашка, ён крывіць вусны абыякавага, зямліста-жоўтага твару і адрывіста гнеўна выкрыквае:— І больш нічога! І больш нічога!!! Чалавек крута паварачваецца і, накульгваючы, ідзе прэч. Доўгі, як жэрдка, лейтэнант зваліўся павольна на бок і перабірае нагамі, запыльваючы глянец шаўровых ботаў. П'яны Кійко не мог за адзін узмах адсеч лейтэнанту галаву і дабіваў яго ляжачага. Краузе адвярнуўся і ўбачыў, як Кійко, пахістваючыся, ішоў да яго, завушніца, бліскучая і мудрагельная целяпалася ў адстаўленым, як лопух, вуху. П'яны погляд мясістых вачэй быў нясцерпна бяссэнсоўны. Доўгі палаш—крывавы і няўнікнёны, бліснуў над галавой, і радавы Карл Краузе, узлавана тарглнуў галавой насустрэч сталі. Быў момант кароткі і непаўторны. Злосць наліла рашучасцю цела і, быццам паддаючы футбольны мяч, Краузе ударыў ботам у ніз жывата Кійко. Кат, падаючы, хвараваіта ўскрыкнуў і страціў прытомнасць. Было гэта на станцыі Канстантынаград пасля славутага загада немцаў аб знішчэнні Махно. На пяты дзень чалавек у цывільным (гэта быў ён) выразаў нямецкі атрад, а афіцэраў прымусіў двое сутак бесперастанку гуляць з сабой у карты. Але затое, што афіцэры быццам-бы „асмеліліся абгуляць", бацька вынес рэзалюцыю: „Парубаць іх—і толькі". Краузе быў адзіным радавым, што прымаў удзел у гульні—і адзіным, што астаўся жыць за адвагу, па хаценню бацькі. Нясцерпна ўпартыя вочы Махно доўга разглядалі грузную постаць Краузе. Цэлы дзень ён піў з ім самагонку, угаварваючы астацца ў атрадзе, але, пераможаны ўпартасцю Карла, на раніцу вынес рэзалюцыю: „Выпусціць к чарцям—і толькі". І вось вясёлы горад Нікалаеў...

Чырвоная армія займала горад, немцы адступалі пад завод Наваля, а грэцкая кавалерыя на смешных маленькіх аслах уцякала да параходаў у порт.

Камандзір інтэрнацыянальнага атрада Якуб Дрылле стаў поруч з Краузе, і, гушкаючыся ў скрыпучым сядле, спяваў адэскія частушкі:

Чы ты дурна, чы ты п'яна—
Палюбіла шарлатана...

Рослы, у яблыках, жарабок Дрылле выгінаў шыю дугой і прытанцоўваў у тахт песні, а кітаец Лі-чан на худой гнедай кабыліцы, захоплена шаптаў:—У-у-у, шыбака шанго конік...

А калі завулкамі выехалі на ваколіцу, пад могілкі, каб міма прыгараднага сяла Вадапой зайсці ў тыл ворагу—разарваўся першы знарад. Ён развярнуў белую сцяну глінянай халупы, і чырвоныя чарапіцы пасыпаліся з грукатам. Нямецкая батарэя акапалася ля каменаломняў, прыкрываючы часці, што адыходзілі на Багаяўленск.

Лі-чан, як кошка, узабраўся на гліняную сцяну могілак і адтуль радасна заенчыў:—У-у-у, мала, мала, цякаў немса. Якуб Дрылле прыўзняўся на страмёнах і скамандаваў:

— Арш, ааарш...

Краузе не паспеў нават папрацаваць акуляры. Вецер працяжна запяяў у вушах, і атрад панёсся проста ў порт. Рытмічна, нібы ў калысцы гушкаючыся ў сядле, Краузе ў той момант успомніў бронзавую шыю Грэйча, а вецер мацней запяяў у вушах голасам хлапчука:

— Рахат-лукум, камму рахат-лукум...

— Ах, як я люблю рахат-лукум, Феня Маркаўна!

Гаспадыня мудра гаворыць:

— Не трэба, мілая, дазваляць роспачы хапаць вас „пад горла“. Ідзіце да яго і прасіце прабачэння. Ён дзівак у вас...

Дзверы паволі адчыняюцца, як рот, што пазяхае. Краузе шчыльна заплюшчвае вочы. Ён ляжыць так некалькі імгненняў, потым ледзь-ледзь прыадкрывае адно вока і бачыць у раме дзвераў Валю, а за ёй на сцяне ў сузмроку—мадонну. Мадонна, захліпаючыся, рагоча, падкідаючы дзіця на руках і ліхтар ад смеху яе гушкаецца.—Хвароба, толькі хвароба—мільгае думка і робіць новы скачок у мінулае.

Гэта было праз два гады. Ад берлінскіх сваякоў, ад дзіцячых казак Гофмана, ад сантыментальна-смутнай „Элегіі“ Покера і нават ад вершаў вялікага Гейне—у радавога Карла Краузе не засталося і следу. Ён, як і астатнія, ціханька мацюгаўся і курыў паскудныя папіросы—дар добрачынных фраў з Курфюрстэндам *.

Брэст-Літоўск з мізернымі яўрэйскімі халупамі астаўся ў мінулым. Доўгі лейтэнант—ён ніколі не згінаўся—не зважаючы на ліпеньскую гарачыню, быў у белых пальчатках, ён проста сядзеў, як кій, у сядле і, падбадзёрваючы шпорамі каня, падганяў атрад. З левага боку разляглія вішнёвыя сады, дарога пайшла ўгару, проста да руін замка нейкага польскага магната. Сады ценям сваім вабілі салдатаў, але лейтэнант загадаў звярнуць у скапаную знарадамі лагчыну. І толькі пярэднія рады павярнулі туды—з садоў грымнуў залп. Ад руін замка бегла на іх руская пяхота. Краузе ачуняў гадзіны праз дзве. Гарачыня стаяла нясцерпная. У некалькіх кроках ад яго, з колатай ранай у жываце, стагнаў таварыш па ўзводзе—Якуб Дрылле. У гарачцы ён паўтараў ціха і жаласна:—Вассер, вассер **. Часамі Грылле ў голас дэкламаваў:

Бі ў барабан і не бойся,
Цалуй маркітантку пад стук...

Выяўляецца, гэты нямецкі латыш з Ведынга *** таксама любіў Гейне. Але раптам Краузе ўбачыў, што да яго паўзе нешта шэрае і вялікае. Гэтае рудабародае, з перабітымі нагамі, выкручвалася, як чарвяк. Гэта быў рускі. На выцягнутай бруднай далоні ён трымаў чатыры вішні і са скрыўленым ад болю тварам—марудна поўз, трымаючы вішні, як найдаражэйшы скарб.

— Дай, камрад, яму... Гэтая штыком у пуза... камрад... Краузе заплакаў, гэты дзівак у дзяцінстве быў вялікі плакун. Калі ён над раскрытым ротам таварыша душыў вішні, Дрылле трызніў і неўразуменна гаварыў:

Grau teuer Freünd, ist alle
Theorie und grün des
Lebens ewig Baum ****.

На іх таемна глядзеў рудабароды рускі, навокал ляжалі забітыя, навокал гарачыня. Вішнёвыя пыльныя сады падалі ў незнаёмае беларускае неба. Знясілены болем, Краузе адкінуўся на высмаленую сонцам траву, ён ужо не бачыў, што з гары ішлі санітары.

Пазней, калі яны капалі дол для забітых, пазней, ужо ў слабасільнай камандзе—Краузе расказаў Дрылле пра чатыры вішні. Таварыш праслухаў расказ моўчкі і задуменна сказаў:

---

* Арыстакратычная частка Берліна.
** Вады, вады.
*** Рабочае прадмесце Берліна.
**** Тэорыя, дружа, мой, шэрая, але зелена вечнае дрэва жыцця („Фауст“—Гётэ).

— Хацеў-бы я знайсці гэтага рускага. У яго сэрца вялікае і дужае. а потым сустрэць-бы нашага лейтэнанта.

Яны стаялі на беразе галіцыйскага Буга і ўпершыню пасварыліся. Краузе расказваў, што вось цячэ гэтая рака праз вясёлы горад Нікалаеў, апаласквае нават палі калоніі Новы Данцыг. Там маці, бацька, а ад Эміліі паўгода ўжо няма лістоў. Дрылле зарагатаў:

— Пакінь думаць пра гэтую самачку, яна, пэўне, ужо замужам за шынкаром.

Краузе люта кінуўся на прыяцеля, але Дрылле спрытна сарваў у яго з носу акуляры і, адбегшыся ў бок, сур'ёзна сказаў:

— Слухай ты, кракадзіл. Табе патрэбны акуляры з дужымі шкельцамі. Ты шмат чаго не бачыш.

— Аддай мае акуляры,—злаваў Краузе.—Аддай, ну!

Памірыўшыся ў той вечар, яны доўга сядзелі на беразе Буга. Дрылле гаварыў:

— Ты дзівак, Краузе, твая любая не папрасіла бацьку абладзіць табе вызваленне ад вайсковай службы. Ты-ж блізкавокі. Які-небудзь малойчык з Курфюрстэндам гуляе на волі, а цябе замест яго паслалі забіваць людзей. Эмілія хацела, каб ты атрымаў жалезны крыж і табе ў „Зіг-алеі“ * паставілі помнік. Вось глядзі: у гэтай брацкай магіле (мы капалі яе з табой)—тут гара трупаў, а цяпер слухай... вось канада—гэта новая для нас работа—капаць магілы. Ты нарадзіўся ў Расіі праз дурнецкі цётчын ліст паехаў у Берлін жаніцца і рабіць кар'еру, а цябе паслалі біць рускіх. А я прычым? Я—латыш і вырас у Рызе, у Ведынгу я жыў таму, што там таннейшыя кватэры, а на „Сіменс-Шукер“, калі я заікнуўся аб прыбаўцы, мяне выставілі вон...

Лежачы ў вільготнай зямлянцы, Дрылле, ужо засынаючы, гаварыў:

— Ты дзівак, Краузе, у цябе ў галаве пераблыталіся Гейне, Гофман і „Варта на Рэйне“, пэўне, у дзяцінстве цябе шмат напіхвалі салодкім.

У той вечар Якуб і Карл пасябравалі яшчэ мацней і нездарма ў 1920 г.—пасля Махно, страмёны іхніх сёдлаў сутыкаліся адно з другім, калі атрад кар'ерам імчаў у нікалаеўскі порт, а вецер, як хлопчык на пляцы, пяяў—рахат-лукум, камму рахат лукум...

* * *

Пазней яны зноў сустрэліся. Краузе няўважліва пацягнуў да сябе дзверы. На іх дошчачка — „Кіраўнік канторы“. Краузе ўвайшоў у габінет.

За вялікім пісьмовым сталом сядзеў чалавек.

Краузе абыякава сказаў:—З біржы працы.. Чалавек зірнуў на ўвайшоўшага.

— А, гэта ты, Карл, гут морген!

— Дрылле... Колькі-ж мы з табой не бачыліся?

— З той пары, як у садзе херсонскага генерал-губернатара елі абрыкосы. Памятаеш?

— О, так, так. Дзесяць год.

— Ты па пуцёўцы гаркома, Карл?

— Не, я з біржы, бухгалтарам...

— А-а-а! Добра... Гэты блазен Олін усё пераблытаў. Мы са справаздачай корпаемся паўгода.

— Якуб, дружа, што-ж ты рабіў гэтыя дзесяць год?

— Шмат што, Карл, вось гандляваць прымусілі. Ты ведаеш, спяша-

* „Алея перамогі“.

юся на паседжанне. Ты ідзі. Знаемся са справамі, пагаворым потым, пасля...

Лёгкая крыўда засела ў сэрцы Краузе. Але пагаварыць так і не ўдалося. У Дрылле вольнага часу не было.

Справаздачнасць была запушчана. Краузе займаўся вечарамі. Шмат працуючы, ён недасыпаў і стаў няўважлівым. Няўважлівасць даходзіла да смешнага. Аднаго разу, займаючыся лічбамі галоўнай кнігі, ён працягнуў, не гледзячы руку па прэс-пап'е, але апошняга на месцы не было. Ён узяў прэс з чужога стала. Потым Краузе паклікалі да тэлефона. Вярнуўшыся, на сваім стале ўбачыў запіску:

„*Тав. Краузе!*

Праўда, уласнасці цяпер няма, але чужое прэс-пап'е ўсё-ж трэба класці на месца. Калі вы закахаліся, тады вашая няўважлівасць зразумелая. А прэс на вашым стале з правага боку. *Валя*".

Краузе ўсміхнуўся. Рахункавод Валя Скакоўская глядзела на Краузе і таксама ўсміхалася.

— Не, я не закахаўся. У мяне справаздача не сыходзіцца,—ціха сказаў Краузе.

Валя, разумеючы, матнула галавой і тут-жа перакінула касцяшкі лічыльнікаў. Олін, памочнік Краузе, заўважыў іх усмешкі і люта пачаў круціць ручку арыфмометра. Олін зайздросціць. Прабіла чатыры. Заняткі скончыліся. Краузе глянуў на Оліна.

— Ажур?

— Канчаю.

Даючы падпісаць зводку, Олін акуратна прыціснуў прэс-пап'е тлусты росчарк. Краузе здзіўлена падняў галаву.

— Навошта, я магу сам...

— Карл Іаганавіч, але-ж хутчэй...

Магчыма, Олін мае рацыю. Якое можа быць лакейства, калі памочнік папярэдліва прыстуквае подпіс прэсам. Краузе акуратна абцірае рандо кавалачкам паперы і кладзе асадку.

Олін не ідзе дамоў. Погляды бухгалтара і яго памочніка скрыжоўваюцца. У вачах Краузе—утома, у Оліна—гатоўнасць служыць і дрэнна захаваная пагарда.

— У вас ёсць справы?

— Усё, Карл Іаганавіч.

— Трэба праверыць рахунак загатоўкі ракаў.

— Добра.

---

Дрылле быў няўлоўны. Але аднойчы прыяцелі ўсё-ж сустрэліся. Яны нават знайшлі час для ўспамінаў. Было гэта так. Олін зноў наблытаў з рахункам „загатоўка ракаў". Краузе прышоў у кантору ўвечары, каб праверыць рахунак. Было дванаццаць ночы. У цішы касцяшкі лічыльнікаў шчоўкалі, як більярдныя шары. Рука выводзіла стройныя калонкі лічбаў, а вусны часам шапталі незразумелыя словы: брутта, нетта, франко... Раптам дзверы габінета Дрылле адчыніліся:

— І ты, стары, вечарамі працуеш?

— Справаздача, Якуб.

— Я чуў, ты шукаеш капейку.

— У рабоце патрэбна дакладнасць, Дрылле. Не смейся.

— Я не смяюся. Кінь справаздачу, давай пагаворым. Хутка тры месяцы, як мы збіраемся ўспомніць мінулае.

— Мінулае? Навошта яго трывожыць?

— Ну, як-жа. Вось пайшоў ты тады ў выведку...

Краузе раптам ажывіўся.—Ага, ага, атрад спыніўся ў маёнтку, ты памятаеш? Гэта было на палове дарогі ад Нікалаева да станцыі Новы Буг. На беразе Інгула, у баўгарскіх гародах, акапаліся немцы і маёнтак абстралялі. На ваданапорную вежу, што стаяла ў садзе, мы паставілі кулямёт і прымусілі іх сціхнуць. Потым мы рвалі з табой абрыкосы. Я пайшоў у выведку пад Данцыг.

Краузе перасунуў лічыльнікі на стале і закурыў. Дрылле слухаў.

— Калонію зруйнавалі артылерыйскім агнём. Я сустрэў там толькі адну жывую істоту. Ля руін кірхі сядзела звар'яцелая старая, яна была ў дзіцячай шапачцы і на руках трымала вялікую фарфаравую лялькў Яна рупліва адганяла ад лялькі мух і спявала нешта пяшчотнае-пяшчотнае.

Ад нашага дома асталася толькі паўднёвая сцяна, а ў кутку ляжала нейкім дзівам цэлая музычная скрынка. Я пакруціў ручку і скрынка зайграла „Варту на Рэйне“. Тады я выдзер ручку і адкрыў ёю бляшанку кансерваў. Калі я вярнуўся ў атрад, ты быў паранены і нікога не пазнаваў.

— Слухай, Карл, а чаму ты не ўступіў у партыю?

Краузе памаўчаў.

— Навошта? Я комуніст сэрцам...

Дрылле ўсміхнуўся.—Гэта не зусім правільна, прыдзецца нам шмат яшчэ гаварыць на гэтую тэму. Я зараз стаміўся, іду спаць. Заўтра зноў у раён. Гэтую папку перадай сакратару. А яшчэ, ведаеш, калі я бываю хворы, дык, лежачы ў ложку, каб не нудзіцца, я паказваю на сцяне зайчыкаў. Ты-ж і гэтым, здаецца, не можаш сябе пацешыць.

— Мяне, Дрылле, выратоўвае работа. Ведаеш, Эдысон сказаў: „клопаты робяць дух чалавека моцным, а яго думкі чыстымі“. Мне не нудна.

Дрылле ўсміхнуўся, і лэпнуўшы таварыша па плячу, вышаў.

Краузе дыміць люлькай і глядзіць на тое месца, дзе стаяў Дрылле. Ён павольна думае:

— Не, Дрылле, мая справа карысна не менш, хоць я і не ў партыі. Не, Дрылле: толькі мне зразумелы законы баланса і прынцып нейтральнага сальдо. Я адчуваю прылівы і адлівы кан'юнктур. Ніхто не можа так хутка і дакладна пры вызначэнні нетта знайсці фусты або куляж, ці зрабіць прапарцыянальны раздзел прыбытку. Не, камрад, апроч фінансавых дысцыплін бухгалтар Краузе таксама ўмее павесці атрад ў штыкавую атаку і страляць з кулямёта. Не, Карл Краузе робіць карысную справу. Так...

... Па абедзе Краузе прызвычаіўся поўгадзіны драмаць. Ён адкрыў вочы, збіраючыся ўстаць. У дзверы пастукалі. Нешта вялізнае, загорнутае ў паперу прасунулі, паставіўшы ў парозе. У сузмроках густы бас пасыльнага прагучэў стомлена:

— Ад Дрылле... Ледзь давалок, чорта...

Не разумеючы, у чым справа, Краузе асцярожна разгарнуў паперу. Вялізнае—было старанна запакаваным фікусам. Між лістоў была запіска:

„Камрад, дарую гэтага звера табе. Ты любіш кветкі. Баюся, што прападзе—паліваць няма каму. Я выязджаю ў раён. Дрылле“.

Краузе ўсміхнуўся. Ах, Якуб, у тваіх вачах мароз, а сэрца гарачае, як херсонскае сонца.

... Адчыняючы дзверы, Краузе пачуў прыглушаны смех супрацоўнікаў і голас Оліна:

Олін размаўляў па тэлефону і пацяшаў супрацоўнікаў. Тыя нічога не рабілі—і тут Краузе сказаў першую сваю прамову, пасля чаго мянушка „дзівак“ за ім умацавалася трывала.

— Сябры, у нас справаздача, мы будзем працаваць звыштэрмінова. Але гэтая работа не павінна быць цяжарам, мы павінны ведаць... Мы забываемся пра музычнасць лічбаў. Душу работы мы не адчуваем і не разумеем. Вось, я ведаў аднаго бухгалтара, ён касцяшкамі на лічыльніках умеў выстукваць нескладаныя мелодыі і лічыў з заплюшчанымі вачамі. Ён разумеў душу работы. Сябры, давайце працаваць бурна.

— Ён п‘яны—напаўголаса сказаў Олін.

Краузе павярнуў да яго галаву.

— Не, паважаны Олін, вы памыліліся, я патрабую чоткай работы і не займацца па тэлефону ідыёцкімі размовамі.

Супрацоўнікі маўчалі, схіліўшыся кожны над сваім сталом. Валя парыўчаста ўстала.

— Таварышы! Краузе безумоўна мае рацыю. Паўгода мы сядзелі са справаздачай, і канца работы не відаць. Я прапаную ў месячны тэрмін пакончыць з гэтым. Мы-ж ударнікі, чорт яго ведае, мы-ж заключылі дагавор на спаборніцтва, мы... Валя кашлянула, а Краузе так і не пачуў канца фразы. Да яго падышла прыбіральшчыца Улянка і шэптам паклікала:

— Ідзі-тка, бацюхна, да тэлефона. Завуць быццам цябе.

Званіў Дрылле з прыгараднага раёна. Краузе ўзрадаваўся.

— Камрад, камрад! Якуб, я, ведаеш, здаволены. У мяне тут мітынгуюць. Вячэрнія заняткі ўвялі. Так, так, будзь спакойны. Справаздачу падрыхтуем у тэрмін. Спаборніцтва? Вось іменна. Усё ідзе, як трэба... Так, так...

У канцылярыі зашумелі. Шум перашкаджаў слухаць і Краузе зморшчыў твар. Улянка прычыніла дзверы і ціха, як мыш, пачала вазіцца перастаўляючы шчоткі.

— Так, так, слухаю, Якуб... Добра чуваць. Ты затрымаешся надоўга. О-о-о... Вайна, кажаш? Я таксама прыеду ваяваць. Чаму нельга? Справаздачу зраблю і прыеду. Ліквідацыя кулака? Гэта я ведаю. Складаней за наступленне на Мазурскіх вазёрах? Не веру... Што? Памыляюся? Магчыма. Ну, добра, буду чакаць твайго ліста. Пра справаздачу не думай... Так, так... Ад‘е!

Аднаго разу Краузе доўга сядзеў перад вакном. Вакно загароджваў фікус, сузмрокі, густыя і шчыльныя, аселі па кутках пакою. Краузе закінуў плечы шалікам. Ён сядзеў у крэсле, згорбіўшыся, адчуваў сябе нездаровым. Ён закурыў люльку і заплюшчыў вочы. Шыбы ў вакне пяюць, пяюць. У вакно б‘ецца, падвываючы, сакавіцкі вецер. У дзверы пастукалі.

— Уваходзьце.

Краузе ад здзіўлення прыўзняўся.

— Валя!.. Таварыш Скакоўская...

— Не чакалі? Я крыху шалёная... Захацелася паглядзець, як жывяцè. Чаму вы дома? Хворы? Ну, вядома, тэмпература. Дзе лямпа, я запалю святло.

— Не, не трэба, яшчэ відна.

— Я зайшла на хвілінку, зараз пайду.

— Ды сядзіце, божа мой, сядзіце, я вельмі рады, што вы прышлі!

Краузе здзівіўся, пачуўшы ва ўласным голасе просьбу. Ён нават пачырванеў, успомніўшы, што перад прыходам Валі думаў пра яе. У апошнія дні думкі былі ўсё пра адно і тое-ж і раптам нейкім чынам—гэта здарылася надзіва проста. Ёй захацелася бачыць, як ён жыве. Гэта

было так натуральна, як і тыя ўчынкі, што адбыліся паміж імі ў той вечар. Усё гэта падрыхтавалася непрыметна для іх абодвух: усмешкі, кароткія размовы, яшчэ раней сустрэча на імянінах у аднаго з супрацоўнікаў. Гэта-ж мінула ўжо тры месяцы, як працаваў Карл Краузе ў канторы Дзяржгандлю. Мінула два тыдні з дня ад'езда Дрылле ў раён. Як хутка бяжыць час!

... Валя ў той вечар дадому не пайшла. Краузе адзін раз за ўвесь час астаўся дома. Калі ён запаліў лямпу і накіраваўся да вешалкі, Валя спытала:

— Карл, ты куды?

— У кантору, працаваць. Валя не здзівілася, яна толькі ціха сказала:—Не хадзі, Карл, гэта бывае адзін раз.

Краузе махнуў рукой. Засмяяўшыся, ён набіў люльку і сеў каля Валі на ложак. Паліто было забыта.

Немаведама якім чынам, але праз некалькі дзён у канторы ведалі пра іхныя адносіны. Калі Валя з'явілася на службе, мужчыны таямніча пасмейваліся і двухсэнсоўна глядзелі ўслед. Олін хмурыўся і з Валяй не размаўляў. Неяк Краузе спытаў:

— Валя, табе непрыемна ўсё гэта?

— Нікольні, Карл.

— А Олін? Ён-жа, здаецца...

— Олін—блазен... Ён аднаго разу прызнаўся мне ў каханні і ўяўляе чорт ведама што.

— Ты праўду кажаш. Гэта не галоўнае.

— Вот іменна. Ведаеш, Карл,—Валя ў гэты час, з нагамі забраўшыся ў крэсла, разглядала альбом.—Ты ведаеш, Карл, вось альбом, я гляджу на гэтыя паштоўкі, тут столькі многа гарадоў і мясцін, мне нават крышку страшна і ад гэтага добра-добра. Падумай, якая велічэзная зямля, а чалавек на ёй такі малюпценечкі, меншы за камара, у міліярды разоў—нішто. Вось від Неапаля, мора. А вось Берлін, глядзі, якія багатыя дамы. Калі я гляджу на гэтыя паштоўкі, мне хочацца ўсюды пабыць, шмат ездзіць.

Карл павольна хадзіў па пакоі.

— Так, так. Ты гаворыш, Валя, прыгожа. Але, ведаеш, у гэтым Берліне з багатымі дамамі, там нядаўна беспрацоўныя, ашалеўшы ад голаду, кінуліся ў пякарню і хапалі з прылаўка хлеб. Пра гэта пісалі ў газетах. А яшчэ вось хаця-б сама наша справаздача...

— Нудна, Карл. Я ведаю, ты зараз пачнеш гаварыць пра музычнасць процантаў, пра душу работы. Не трэба ў бухгалтэрыі шукаць палітыку.

— О-о-о, няправільна, Валя.

— Ты дзівак, Краузе.

— Так, я дзівак. Добра, давай пра другое. Ты астанешся сёння ў мяне?

— Не ведаю, Карл. Мне нудна.

Краузе паправіў акуляры і голасам мірным сказаў:

— Хутка скончым справаздачу, а потым у цябе-ж спаборніцтва...

* * *

Краузе атрымаў ліст у замусоленым шэрым канверце. Адрас, напісаны алоўкам, ледзь можна было прачытаць. Пэўне, ліст не адзін дзень праваляўся ў кішэні. Пісаў Дрылле.

> ... Камрад, тут вясна, дарогі правальваюцца, але мы разгортваем наступленне. Фронт супраціўніка прарваны. Вёскі зараз—адказны баявы ўчастак, супраціўнік шалёна адбіваецца. Сёння атрымаў ананімны ліст з пагрозай ліквідаваць мяне— і ад гэтага весела. Барацьба, Карл, гарачая і бязлітасная.

А змагацца, значыць, жыць, а жыць—заўсёды весела. Вось вясна, хіба гэта дрэнна? Вясна заўсёды мне ўзбунтоўвае кроў і хочацца рабіць глупствы. Дзівішся, што большэвік Дрылле гэтак разважае? А я хіба не чалавек? Але, калі патрэбна, Карл, я здолею растаптаць хоць якое пачуццё. Большэвік Дрылле ніколі не забываецца, што на фронце ўмець знішчаць і будаваць—у гэтым вялікая навука,—я ёй, здаецца, аўладаў. Пішы пра дзяржгандлеўскія навіны, камрад. Пішы. Хацеў-бы напісаць больш, але, разумееш, няма калі...

Краузе адклаў ліст. Падышла Валя.

— Карл, Олін працуе ў час перапынку на снеданне. Ён сёння астаецца пасля абеду і хоча працаваць да дзесяці гадзін вечара. Я не адстану.

— Гэта надзвычайна! Я таксама буду працаваць, хоць усю ноч...

— Ну, не, ноч... мы прабудзем у цябе.—Валя засмяялася.

— Не тое, Карл, я хачу з'агітаваць усіх з бугалтэрыі.

— О так, так, працаваць і назаўтрае скончыць са справаздачай.

— Кропка. У перапынку паспрабую агітнуць.

Валя адышлася і Карл з захапленнем глядзеў ёй услед. Якая добрая сяброўка. Эмілія, тая больш любіла рагатаць і есці слоеныя піражкі. О, камрад Дрылле, тут таксама фронт. Але тут у кожнага крэсла прывязана да ножкі стала. Кожны прызвычаіўся да свайго крэсла і ўпарта праседжвае яго. Хутчэй-бы справаздача, а там... Вось учораа старшыня мясцкома гаварыў, што ў падшэфны калгас патрэбен бухгалтар. Раён глухі. Барацьба. Патрэбны людзі. І ён, Краўзе, дакажа, што можа біцца добра. Тут не яго месца. Ен-жа ўдзельнічаў у двух войнах і прывык біцца.

Стрэлка падышла да чатырох і спынілася. Не спяшаючыся, як царкоўны звон, гадзіннік прабіў канец. Ніхто не пайшоў, усе асталіся, нібы не чуючы звона гадзінніка. У невялікім пакоі паветра было чыстае, табачнага дыму, як заўсёды, не было. Ніхто не курыў—працавалі.

У адзінаццаць гадзін за адным служачыя пакідалі кантору. Валя падышла да Краузе.

— Карл, ты хутка?

— Не ведаю. Напэўна, прасяджу ўсю ноч. Бачыш?—Краузе паказаў на груд бланкаў і форм справаздачы.

— Але заўтра будзе дзень, Карл.

— Заўтра будзе дзень і работа. Я павінен усё праверыць і раніцай адаслаць.

Валя крута павярнулася і злосная пайшла апранацца. Следам за ёй вышаў Олін.

---

У пяць гадзін раніцы, зачыняючы выходныя дзверы, заспаная Улянка зашаптала:

— Карл Іванавіч, а ты глядзі, кажу...

— Чаго глядзець?—не зразумеў Краузе.

— За краляй сваёй глядзі. Ты не думай, што яна маленькая. Яна—жох дзеўка, а ты смірны, цябе лёгка ашукаць.

— Пра што вы гаворыце? Я не разумею.

— Пра Вальку Скакоўскую. Учора з Оліным гэтым апранаюцца, пра цябе гавораць і рагочуць, а потым падручку пайшлі, разам.

— Ну, і што-ж?

— А нічога. Мая справа папярэдзіць, я даўно за імі сачу, а ты, бацюхна, добры, а добрыя, вядома, дзівакі.

Краузе абыякава паглядзеў на старую і нічога не сказаў.

Яму вельмі хацелася спаць. Нават ранішная свежасць не магла развеяць гэтага жадання. Да самага дому адзіная думка блукала ў галаве: зараз ён ляжа спаць і галава патоне ў падушцы...

Ён адамкнуў дзверы сваім ключом і зняў паліто. Прайшоў праз пакой і адсунуў парт'еру ў спальню. Зрабіў крок наперад—і спыніўся. На ложку спала Валя і побач—чужая галава. Жаданне заснуць умомант пакінула Краузе. Ён асцярожна апусціў парт'еру і паправіў на носе акуляры. Да болю прыкусіўшы губы, ён ціха адышоў і ўсеўся ў крэсла. На вакне, раскінуўшы вольна лісце, стаяў фікус. Краузе доўга глядзеў на яго, быццам бачыў упершыню. Не ўстаючы—узяў з вакна чайнік і наліў у шклянку вады. Яму стала горача і хацелася піць. Але, раздумаўшы, ён паліў вадою фікус і падняўся з крэсла.

Знайшоўшы прымус, ён распаліў яго і паставіў чайнік на агонь. Рыканне прымуса ўварвалася ў цішыню кватэры пераможна і ўладарна. У спальні пачуўся спалоханы шэпт. Краузе, набіваючы табакай люльку, весела паклікаў.

— Сябры мае, уставайце, зараз будзе гатоў чай.

Пасля чаю, Краузе хутка скончыў гэтую непрыемную гутарку і, апранаючыся, сказаў:

— Я пераходжу жыць на тваю кватэру, Валя. Ты з ім астанешся тут. Двух пакояў вам хопіць...

Пасля ўжо ў валіным пакоі, Краузе, хворы, успамінаў: музычную скрынку, херсонскае сонца, Берлін, доўгага лейтэнанта і палон у Махно. Успаміны разгарнуліся да таго моманту, калі інтэрнацыянальны атрад, на чале з Дрылле, віхрам нёсся ў Нікалаеўскі порт, вецер запяяў голасам хлопчыка: „рахат-лукум, камму рахат-лукум",—і Валін голас за сцяною паўтарыў: „Ах, як я люблю рахат-лукум, Феня Маркаўна". Краузе тады падумаў: божа мой, але-ж Валя—гэта Феня Маркаўна ў будучым. Які-ж ён быў блізкавокі, як мог ён недабачыць, што Валя гнуткае цела сваё насіла разбэшчана і радасна, а жыла хітра, па-лісінаму... І ўсё гэтае супольнае жыццё, усе глыбокія размовы—гэта-ж ўсё-усё было паказное і хлуслівае...

* * *

На пяты дзень, калі тэмпература стала нармальнай, Краузе папрасіў газету. За вакном хмуры сакавік шалеў апошнімі зімовымі ўспышкамі. Завіруха, як птах белым крыллем, білася ў вакно.

На першай старонцы тлустым шрыфтам было набрана:

Учорашняй бурай сарваны тэлеграфныя правады, што злучаюць з Масквой. Нумар вышаў без іншагародніх тэлеграм.

Краузе прагледзеў газету і, калі зірнуў на апошнюю старонку, дык ад хвалявання хутка паправіў акуляры.

Другое паведамленне, у жалобнай рамцы, крычала кожнай літарай, яно біла па нервах і сваёй нечаканасцю было падобна на недарэчнасць. Каб усвядоміць сэнс яго, Краузе мусіў перачытаць паведамленне некалькі разоў.

> Гарком і абком ВКП(б) паведамляюць пра смерць члена партыі Якуба Дрылле—атручанага кулакамі. Вынас цела з клуба чыгуначнікаў у 5 гадз. дня. Пахаванне на брацкіх могілках. Запрашаюцца ўсе члены і кандыдаты гарадской партыйнай арганізацыі.

Краузе ад хвалявання скамячыў газету і хутка пачаў апранацца. Божа мой, ён некалькі дзён быў зусім адарваны ад жыцця і вось—камрад Дрылле загінуў. Няма яго. Значыць, барацьба ідзе, больш моцная, чым ён, Краузе, уяўляў. Ён, з гэтай дурнецкай любоўнай сувяззю, забыўся на ўсё. Значыць, трэба самкнуць рады, калі падае сусед. Гэта-ж так бывае, калі калона ідзе ў наступленне. І ён, Краузе, ён дэзертыр, не збярог таварыша. Трэба было ехаць тады-ж, Якуб-жа папярэджваў... ананімны ліст... пагрозы... Трэба зараз-жа неадкладна, зрабіць крок, каб адчуць пляччо суседа. О, так ён зробіць гэта. Апрача фінансавых дысцыплін бухгалтар канторы Дзяржгандлю Краузе ўмее-ж павесці атрад у наступленне, страляць з кулямёта і добра ведае законы работы кавалерыйскай сабляй. Але толькі спакойна. Пасля гэтага ідыёцкага грыпа, ад слабасці дрыжаць ногі. Аддаць апошні доўг таварышу, глянуць на знаёмы, дарагі твар...

На вуліцы буйны снег, вільготны, ён растае на твары. Вецер—не прадыхнеш. Вось надыходзіць, цяжка варочаючы коламі, грузавік, на ім белыя постаці людзей. Вецер гуляе крэпам жалобных сцягаў, людзі на грузавіку, моўчкі, прыціснуліся адно да аднаго. Аўтамабіль спыніўся. Яму замінаюць вагоны, што пазбіраліся наперадзе.

З пахавання. Спазніўся я, думае, Краузе. Да грузавіка блізка падыходзіць закрыты легкавы аўто, сірэна трубіць доўга і плакуча. Са снежнай завірухі з'яўляецца конь, ён натужна валачэ сялянскія развалкі. Конь, нібы пераклікаецца з аўтамабілем, іржэ працяжна і журботна. Спазніўся, думае Краузе, пахавалі камрада... Ну, нічога...

Падняўшы каўнер паліто, ён паварочваецца і ідзе дамоў.

Услед яму чуюцца званкі трамваяў. Вось адзін вагон, пабліскваючы крывавымі ліхтарыкамі, пабег. Радыё праз вецер і снег закрычала нешта, захліпаючыся...

Ну, нічога... толькі не аднаму. Барацьба па адным не мае сэнсу. Зараз ён прыдзе да дому і будзе пісаць заяву аб прыёме ў партыю. Неабходна-ж замяніць камрада Дрылле. Барацьба працягваецца.

* * *

Сёлета яблыні цвілі рана і ўжо адцвіталі. Краузе ішоў на работу, ён прыцішыў крокі і доўга сачыў за палётам белых пялёсткаў. Трэба спяшацца, трэба хутка-хутка скончыць з гэтым, ужо адцвітаюць яблыні. Будзе позна. Так, так, адказвае ён думкам. Сёння, зараз-жа...

І вось ён на ўсходах багатага былога панскага дому. Вось прыёмная і габінет сакратара. На вокнах цяжкія зялёныя шторы. З рам—хітры прыжмур ленінскіх вачэй, добрадушная ўсмешка Сталіна. Вялізныя палотны:—„Расстрэл бакінскіх камісараў“ і „Паседжанне Комінтэрна“. Карл Краузе, блытаючыся і чамусьці чырванеючы, тужыцца расказаць чалавеку маленькаму, чорнаму, з вялізнай асірыйскай барадой. Ён, Карл, суне яму падрыхтаваную заяву і бязладна гаворыць: я хачу, разумееце, хачу, я прышоў да вывада... Дрылле меў рацыю... Я, як былы партызан... Чалавек спакойна бярэ заяву і чытае, часам падціскаючы ружовыя губы. І нельга зразумець, ці ён стрымлівае смех, ці яму хочацца пазяхнуць. Карл хоча расказаць, не спяшаючыся, грунтоўна, ён ловіць няўлоўныя думкі, ён падбірае ў галаве патрэбныя словы, каб зусім раскрыць сваё сэрца. Іменна раскрыць. Гэтае слова яму чамусьці здаецца значным і ўвесь час круціцца на языку. Але сакратар раптам узнімае галаву і абыдзённа гаворыць. Гэту заяву, таварыш Краузе, трэба падаць у парт'ячэйку па месцы вашай работы. Карл раскрывае рот і хоча сказаць, але...

— Згадзіцеся, таварыш Краузе, што абком не можа разбіраць усе заявы аб прыёме ў партыю. Бываюць, вядома, выключныя выпадкі...

— Так, так, я разумею.

Краузе ўстае. Сакратар уважліва разглядае яго твар, не гледзячы, працягвае руку і націскае кнопку настольнага званка.

— Што-ж тычыцца вашага жадання працаваць на вёсцы—гэта абгаворым.

У дзверы прасунулася галава кіраўніка спраў.

— Клікні-тка, дружа, Карачарава, ён у вучотна-размеркавальным. Так, зараз і абладзім. У соўгас хочаце? Па сваёй спецыяльнасці. Гаспадарка вялікая, арганізавана нядаўна, работы шмат.

— Мне ўсёроўна,—ціха гаворыць Краузе.—Дрылле гаварыў...

— Вы блізка ведалі Якуба?

— Гэта мой сябра, мы разам служылі ў нямецкай арміі. Яго смерць...

У габінет ціха ўвайшоў паджылы чалавек. Выгляд яго быў непрыглядны і невясёлы, а вочы бескаляровыя і несмелыя. „Гэткаму можна ў трамваі аддушыць нагу і не папрасіць прабачэння", падумаў Краузе. Чалавек, не гледзячы на Краузе, моўчкі сеў супроць сакратара і паклаў на стол рукі.

— Атрымлівай, Васільевіч, бухгалтара,—весела ўсміхнуўся сакратар. Краузе нахмурыўся: што ён мяне прапануе, як рэч... У чалавека на адзін момант змяніўся твар. У бескаляровых вачах мільгнула радасць, але такая поўная і чыстая, што бледныя шчочкі пачырванелі і рукі з вялікімі вузлаватымі пальцамі, спакойна пакладзеныя на стол, раптам ажылі. Яны заварушыліся, хоць гаспадар іх і далей спакойна сядзеў, яны красамоўна выдавалі яго хваляванне, выбіўшы ў момант нейкі рытм і па машыннаму драпянуўшы зялёную абіўку стала.

— Гэта дырэктар соўгаса „Ленінскі шлях"—сказаў, звяртаючыся да Краузе, сакратар.

— Ну, ідзіце, таварышы, знаёмцеся. Перад ад'ездам, Васільевіч, забяжы да мяне. Па людзях не плач, назбіраем памаленьку. Знойдзем трактарыстаў.

У абкомаўскім калідоры, развітваючыся, Карачараў доўга трос руку Карла і, знізу ўверх заглядаючы яму ўважліва ў вочы, глухавата і спяшаючыся гаварыў:

— Значыць, дагаварыліся?! Праз тыдзень будзем чакаць, Карл Іаганавіч. З нецярплівасцю будзем чакаць. І, выпусціўшы руку Краузе, ён ужо хацеў завярнуцца назад, але, схамянуўшыся, зноў:—Вы тае, як будзеце выязджаць, стукніце тэлеграму, я вышлю каня, бо дарогі ў нас тае, разумееце, не зусім „аўтадорыстыя".

* * *

Першую ноч на новым месцы Краузе спаў спакойна. Але ўжо на другую, калі прайшла дарожная стомленасць, яго атакавалі клапы. Сон сагналі нейчыя галасы. Яны пачуліся раптоўна і блізка, пад самым вакном. Карл прыслухаўся і пазнаў: гаварылі Каліна і Карачараў. Дырэктар і конюх ішлі пад дом і Краузе ўчуў толькі ўрыўкі фраз:

— А я табе, Васільевіч, скажу байку,—гаварыў Каліна.—Цыган купіў кабылу, не карміў дзень, два дні, тры дні. На чацверты дзень кабылка ўзяла ды і здохла. Цыган падышоў да яе і плача: „прывучаў, прывучаў я цябе, кабылка, не есці, толькі прывучыў, а ты ўзяла, ды здохла". Так вось і твая справа, Васільевіч.

Дырэктар ціха засмяяўся.—Злы ты, Каліна.

— А з якой-бы гэткай радасці, Васільевіч, каласок мой залаты, добрым мне быць?

— Справа не ў добрасці, дзед, а ў асцярожнасці. Ліфанава не возьмеш голымі рукамі.

— Гэта правільна, круціцца вужакай, нашатырваецца вожыкам старэнькі...

— Вось іменна. Ты думаеш, мне лёгка? Сёння вунь бухгалтар-жа паказвае мне рахункі, а я вочы не ведаю, дзе падзець. Адчуваю падазрэнне ў чалавека, а сказаць нічога не магу.

— А ты асцярожна, дазнаецца, каму не трэба, яшчэ пад суд упякуць.

— Усё можа быць.

— Ну добра, кінь журбу-смутак, ідзі-тка на спачын. Як гаворыцца: „бог не ўкрыўдзіць—свіння не з‘есць“.

— А ну яго да д‘яблаў, твайго бога!

— Ну во, я з людзьмі не ў ладзе, а ты ў прыдачу і з богам ваюеш а яшчэ кажаш пра маю злосць. Ну ідзі, даражэнькі, на золаку я забягу, ты спі сабе.

Галасы заціхлі, стукнулі ўваходныя дзверы. Праз некаторы час гулкія крокі і рыпенне паркецін пачуліся ў зале. Відаць, Карачараў вярнуўся.

Карл атайбаваўся на падлозе, але доўга яшчэ не мог заснуць, думаючы над незразумелай размовай. Напэўна тут хаваецца злоўжыванне,— вырашыў ён—і стары звязаны цесна з дырэктарам. Трэба сачыць і не падаваць віду... Усю ноч Карлу чуліся нейкія невыразныя шолахі, быццам у гэты стары дом зляцеліся ўсе веснавыя шумы і, напоўніўшы сабою высокія гулкія пакоі, расплываліся ў іх, тонкія і няўлоўвыя. На золаку, калі бяссонне пайшло на спад і прышоў сон, пад нейкімі хуткімі крокамі ў зале заскрыпеў паркет. Краузе адкрыў вочы і настаражыўся. Тонкая палоска святла выслізнулася праз шчыліну не зусім прычыненых дзвярэй. Да Карачарава пастукалі ціха і часта, рыпнулі дзверы, пачуўся спешны шэпт. Хрыплы зпрасоння голас дырэктара, сарваўшыся, прагучэў раптам нечакана звонка: „Маніш ты, стары, гэтага быць не можа?!“ Краузе прыўзняўся. Пэўне, зноў гэты гарбаты—учарашняя размова. Зараз я ўсё буду ведаць. Ён, асцярожна ступаючы босымі нагамі, падышоў пад дзверы. Цяпер словы даносіліся выразна. Гаварыў стары:

— Ты цішэй гавары, цішэй, гатоў бухгалтар пачуць. Хадзем. Можа і памыліўся—у мяне вочы слабыя...—і зноў асцярожныя крокі, але ўжо адыходзячыя, спешныя. Краузе, спяшаючыся і блытаючыся ў вопратцы, пачаў апранацца. Чаравікі не слухаліся і не хацелі ўзлазіць на ногі, ён доўга зашнуроўваў іх, не трапляючы і адрываючы кручкі. Ён забыўся нават уздзець на плечы шлейкі і яны матляліся ззаду, пярэстыя і доўгія. Запхаўшы іх у кішэні штаноў, бухгалтар узяўся за ручку дзвярэй. Ад штуршка дзверы прыадчыніліся, стрыманыя рукой. Людзі ўжо вярталіся, яны амаль не беглі і ўзрушана, перапыняючы адзін аднаго гаварылі:

— Ну, дзед, цяпер я ні чорта ні баюся, цяпер справа пэўная.

— Вядома, пэўная, чаго-ж тут баяцца.

— Але ўсё-ж, дзед, выграбаць мы пачнем, калі ўсе на работу разойдуцца.

— Ну, гэта само сабой. На заднім двары ссыплем, глядзіш, яно і правяне. Цяпер ужо, Васільевіч, сам глядзі, справа, як кажуць, гаспадарская.

— Ах, як я рады, дзедка, як я рады!

— Вядомая справа. А я думаеш не рады? Ты во што, Васільевіч, не крыўдзіся толькі, я ад чыстага сэрца... Краузе прытуліўся да дзвя-

рэй, ён бачыў постаці старога і дырэктара. Апошні ў руках трымаў вялікую белую талерку.

— Ты, Васільевіч, талерку пастаў у сябе, каб не бачыў ніхто. Так, ты, кажу, пастаў, Васільевіч, талерку, і, як партыі член, не крыўдзіся ты на мяне, старога.

— Ну, чаго валаводзіш, гавары зразумела!

— Не падганяй, голубе, і так усё ясней за яснае. Я кажу, беражы во яе, праклятую. Думаю, пачнем сеяць, на пачын, глядзі, і прыдасца.

— Ты, кажы, дзед, проста.

— Бярог, каб выпіць, блаславіўшыся, на пачын сяўбы. А цяпер, бач ты... Немагчымая справа, Васільевіч, каб з радасці, ды не выпіць, ты, вядома, як комуніст...

— Ну, і дзівак, Каліна!.. Дырэктар засмяяўся і голас яго ўздрыгнуў:—Я зусім разумею цябе і ані не крыўджуся. Пасля гэтых перадзелак і хваляванняў... Эх, дзед, комуністы таксама людзі... Валачы сваю праклятую. Не прывык я, але ў такі момант...

— Ух ты, колас залаты, ух і дагадзіў-жа старому! Зараз я прывалаку яе за вушы. Ты талерку пастаў покуль да сябе...

Усё зразумела! Яны ўдала зрабілі нейкае злачынства і, з радасці, будуць піць. Краузе адышоўся ад дзвярэй і пачаў шукаць рушнік—пара было ісці рабіць гімнастыку. Палова неба была ахоплена пажарам. Пачыналася раніца.

... Карл Краузе канчаў ранішнюю гімнастыку, а думкі, бязладныя і ўпартыя, лезлі ў галаву. Навошта ён, уласна, паехаў сюды? Вучыцца? Працаваць? Але на свае гады ён мае ведаў дастаткова. Працаваць-жа тут немагчыма, тут патрэбен следчы, а ён, Карл, толькі бухгалтар, толькі бухгалтар... Пакінуць усё гэта, перайсці ў іншае месца, дзе можна працаваць па-сапраўднаму. Вось пажыць крышку, паназіраць, вывесці на чыстую ваду гэтых марнатраўцаў.

— Карл Іаганавіч, Карл Іаганавіч!—Краузе здзіўлена падняў галаву. (У вакне другога паверху паказаўся ўзрушаны дырэктараў твар).—Ды пакіньце ваш спорт, ідзіце да нас, толькі хутчэй, хутчэй!.. Спяшаючыся, выкруціўшы мокры рушнік, Краузе, нічога не разумеючы, пайшоў у дом. Ён падняўся ў другі паверх,—у дзвярах прыхожай стаяў Карачараў, размахваючы нейкай талеркай.

— Сюды, сюды, таварыш Краузе, тут можна заблудзіць, тут шмат пакояў! Зусім збіты з толку, Карл ішоў за дырэктарам. Яны праходзілі праз цэлы шэраг напоўразваленых, запушчаных пакояў. Карачараў ледзь не бег, на хаду кідаючы незразумелыя фразы:

— Мы асталяваліся ў бібліятэцы. Гэта мой любімы пакой... Вялізная навіна, вы павінны быць у курсе мясцовых падзей... з сельсовета, сын Чумачонка прывалок... Яна едзе, разумееце—едзе...

Дырэктар расчыніў масіўныя карычневыя дзверы і яны апынуліся ў пакоі, застаўленым шклянымі шафамі. Дырэктар моцна прыхлопнуў дзверы і нешта ціха і меладычна зазвінела. Краузе падняў галаву і ўбачыў пад столлю вялікую люстру дзівоснай старасвецкай работы. Яна падобна была на вялізнае хрусталёвае дрэва і звон шкляных падвесак яе нагадваў звон набору найдрабнейшых званочкаў. Пад люстрай, за вялікім круглым сталом, у глыбокім стыльным крэсле сядзеў Каліна. Пасярод стала на невялічкім узвышшы стаяў бронзавы бюст Вольтэра, а калі яго—пачатая поўлітроўка і талерачка з ачышчаным ад лушпіння радысам.

— Карл Іванавіч, голубе шызы мой, ідзі ў кампанію!—Каліна падняўся з крэсла і пайшоў насустрач Краузе. Бухгалтар запытальна зірнуў на дырэктара. Той развёў рукамі і ніякавата сказаў:

— Гэты цень мінулага спакусіў мяне і... у соўгас едзе аграном. Гэта падзея для нас вялікай важнасці.

Каліна ўрачыста наліў усім чаркі. Краузе раптам нахмурыўся і, гледзячы сурова на дырэктара, раздзельна і выразна сказаў:

— А дзе, таварыш Карачараў, вы былі сёння ўночы?

Дырэктар замяшаўся ад нечаканасці і хутка пераглянуўся з Калінам...

... Я... мы...

Стары спусціў вочы і ціха параіў:—Скажы яму, Васільевіч! Ён павінен зразумець.—Але дырэктар ужо аўладаў сабою і насмешліва, але ў тон Краузе, спытаў:

— А чаму, таварыш Краузе, вас гэта цікавіць?

— Стой, Васільевіч, не гэтак, дай я яму скажу!—зварухнуўся Каліна. Ён блізка падышоў да бухгалтара і паглядзеў на яго ва ўпор.—Я не адказаў табе, голуб, учора, што такое, „індзейскае жыццё“, цяпер ты даведаешся... Не думай дрэнна пра нас... Мы вырошчвалі насенне...

— Насенне?!

— Але, натуральны лён.

— Я нічога не разумею.

— А вы кульніце чарку—і адразу зразумееце. Выпіце і слухайце.

— Я вас слухаю з вялікай увагай.

— Так... Мужык плача рэдка, скупа, але калі падкаціў смутак—журба, слёзы бываюць па гарошыне і мутныя-мутныя. Гэта зпоўбяды. Але, скажам, здохла ў мужыка апошняе канянё ў рабочую пару, а кругом нястача, кругом даўгі і поўна хата дзяцей ад малога меншых,—гэткім часам бярэ мужык вяроўку і ідзе ў лес задавіцца. Але жыццё не жалейка, у якую пайграеш ды кінеш. І не лёгка рашыць жыццё. Уздымае тады мужык твар да неба і пачынае маліцца: „Божа мой, гаворыць, за што ясі пакрыўдзіў раба твайго“. Але неба—яно блакітнае толькі і, вядома, маўчыць. Тады грукае з вялікага смутку-журбы мужык у грудзі сабе кулаком. „Я жыццё свае парашу, божа мой,—за што караеш?“ А неба маўчыць, і лес маўчыць, і птушкі маўчаць, і жыць хочацца і навокал ні душы, і стаіць пад зялёным дубам мужык і не ведае, што яму рабіць. Страшна. . Я аднаго разу спрабаваў, выцягнулі мяне з пятлі... Так... Страшна, кажу, робіцца, Карл Іванавіч. І ад страху вялікага валіцца мужык на зямлю, як падстрэлены і раве на ўвесь лес, раве бялугаю і слёзы коцяцца, мутныя-мутныя, па гарошыне. І дзе спадуць яны, там не расце трава. Вось гэтыя пакуты мужычыя, гэты смутак-журба і ёсць, Карл Іванавіч „жыццё індзейскае“... Вып'ема!

— Вось і нашае мясцовае жыццё, Карл Іванавіч, не намнога лепшае за „індзейскае“. Месяцы з два назад прыехаў Васільевіч гаспадаравацъ у соўгас. Быў да яго прайдзісвет, сукін сын, тут за дырэктара і гаспадарку дабіў да „ручкі“. Працавала ў яго усё кулаччо нашае, і раскашаваліся. Была ў іх думка маёнтак пад арэнду зняць, а нам ніякага голасу не было. Але мы вазьмі ды і напішы Марынцы, як і што. Ну, тут і заварылася, браце, справа. Праз тыдзень—бух з гораду таварыш, царства яму нябеснае, Дрылем звалі.

— Як, як ты сказаў?!

Краузе ўскочыў і схапіў канюха за плячо.

— Дрыль—звалі яго, справядлівы чалавек быў, але з'елі хлопца...

— Божа мой!.. Дрылле... Тут быў Дрылле, ён можа быў у гэтым пакоі, сядзеў тут...—Краузе, хвалюючыся, паправіў акуляры і хутка пачаў хадзіць ад стала да дзвярэй.

— А ён што, прыяцель табе?

— Божа мой, Дрылле Якуб быў сябра мой! Гады пакутванняў, вайна, як гэта... у нас з ім таксама было „жыццё індзейскае“. Ну, расказвайце, гаварыце, будзьце ласкавы, мілы дзед. Усё, усё расказвайце. Што ён казаў, што рабіў, ці быў у гэтым пакоі?

— Ды што-ж расказваць,—гаварыў стары.—Брахаць не буду, мала гаварыў ён, але дзялоў нарабіў шмат. У гэтым пакоі ён быў часта і сядзеў на гэтым самым крэсле, на якім я сяджу. Здарылася гэта пад вечар. Завіруха тады бушавала, і я запаліў у каміне, было холадна, а ён сядзеў і дапытваў нашага дырэктара, а ранічкай, як мяцеліца суцішылася, адправіў дырэктара ў горад з панятымі, неўзабаве і сам паехаў. Дзён праз пяць, кажуць, і памёр, атруцілі быццам.

— Так... дык вось перабіў ты мяне, прыязджае да нас гаспадараваць Іван Васільевіч, таварыш Карачараў і з самага пачатку да мяне:

— Ты, кажа, дзед Каліна, з лёнам абыходжанне можаш мець?

— Як, кажу, таварыш Карачараў, не магчы, яно хоць у пана быў я за кучара больш як дваццаць гадоў, але па сялянску даводзілася справу мець—быў і сам гаспадаром. До-бра. А ён мне, таварыш Карачараў і адказвае:

— Я, кажа, больш разумею ў морскіх катлах і ўсялякую слясарную работу магу, але партыя вось паслала лён сеяць, а з лёнам і не даводзілася мець дзялоў, дык ты, кажа, калі што якое, навучы і растлумач. А сам, між іншым заўважаю, вечарамі ўсё з кніжкамі возіцца, паводле навукі даходзіць.

— Гэта, кажу, з поўнай нашай прыемнасцю. Так... І вось было гэта ў сярэдзіне вялікага посту, кругом раставаць пачало, прыходзіць ён да мяне, у флігель, пад вечар і гаворыць:

— Трэба, дзед Каліна, да ранняй сяўбы рыхтавацца, а спачатку праверым усходжасць насення. Я, вядома, далікатна раблю заўвагу.

— Гэта, таварыш Карачараў, у нас, я кажу, лён з сярэдзіны Фаміногa тыдню сеюць, ці не зарана?

— Не, кажа, на Фаміным мы пасеем позьнія гатункі. Самая натуральная сяўба павінна быць, як толькі снег сойдзе. Корань, кажа, сілы набярэ і ўсякі яму сухмень хоць-бы што.

Я, вядома, трошкі засердаваў і абыякава адказваю:

— Справа, вядома, гаспадарская, але самі-ж вы прасілі, калі што якое, растлумачыць. Зусім правільна, гаворыць, але я ўжо і сам пра што-ні-што з кніжак даведаўся, і ты, бацька,—проста гэтак і сказаў: бацька, аж за сэрца крануў—ты, кажа, бацька, не крыўдзіся і падрыхтуй мне моху ды зямлі, ды анучак суконных штук з пяць, пойдзем мы, кажа, заўтра ранічкай у засекі спробу браць. Добра. Узялі мы гэта з усіх засекаў, па ўсіх кутках і з сярэдзіны, спробу. Васільевіч не дае мне веры і з шуфлем сам лазіць усюды.

— Ты, кажа, стары, я маладзейшы і лягчэйшы—хітры. Ну і да чаго-ж, думаю, далікатны народ пайшоў, каб цябе камары заелі. І вось пасадзілі мы для прарастання першыя сто зернят. Васільевіч разоў па дваццаць на дзень бегае, ды глядзіць, ці не прараслі. Ранавата, кажу, турбуецеся, не менш як дзесяць-восем дзён патрэбна будзе.

— Ведаю, кажа, сам. Няўсцерп мне. Мінула восем дзён, дзесяць, дванаццаць. Васільевіч з твару спямнеў. Мінае пятнаццаць, у Васільвіча, калі гаворыць, брыво правое скакаць пачало і на галаву стаў скардзіцца. А насенне не ўзыходзіць. Я, вядома, таксама трывожыцца пачынаю, але Васільевіч ужо насення ў торбачку насыпаў і з чалавекам у горад, у лабалаторыю. Са мной ні слова—здароў, бывай, прынясі тое, падай гэта... Пасадзілі новых сто зернят, з другога засека, Васільевіч талерку ўжо да сябе ў пакой перанёс і ў шафу паставіў. Прашло

яшчэ дзесяць дзён. Васіль еespecialmente ічпачарнеў з твару, не есць нічога, а твар усё торгаецца.

— Гэта, кажа, фронтавая хвароба да мяне вярнулася.

А насенне не ўзыходзіць. Пасадзілі мы з трэцяга засека. Праз дзён пяток — бух з горада пакет тэрміновы. Чытае, зубы сціснуў, а твар як і скача, так і торгаецца, проста глядзець шкода. Прачытаў.

— Дай, кажа, вадзіцы, Каліна, з сэрцам нядобра ў мяне. Бачу, справа не на добрае, перакручваецца. Але ён быццам і нічога, устаў, усміхнуўся, папяросу скруціў, зацягнуўся дымам глыбока і гаворыць звычайным голасам:

— Ну, вось і адказ з лабараторыі прыслалі. Які-ж, кажу, Іван Васільевіч, адказ? А ён мне адказвае, натуральна, пытаннем на пытанне:

— А чаму, кажа, Каліна, наш лён не прарастае, як ты мяркуеш? А я, праўду кажучы, яшчэ раней сцяміў, у чым закавычка і спакойна яму заяўляю. Ты, заўчасна, Васільевіч, не канай, насенне на ўсходжасць мы яшчэ не ўсё спрабавалі, але з гэтых трох засекаў насенне прапашчае, бо, натуральна, запаранае.

— Як гэта, пытае, яно запарваецца? Я, вядома, тлумачу: дапусцім, кажу, лён у снапах падмокне ў полі. Перад абмалотам яго ў сушні падсушваюць, а калі на падавіне распаліць гарачы агонь, дык ад вялікага накаплення пары яно, насенне, і запарваецца і ўзысці ні ў якім разе не можа.

— А хто, пытаецца, прыкладам, у вас гэтай справай кіраваў, гэта значыць, сушкай загадваў?

Загадваў, адказваю, шмат хто, вядома, без гаспадара двор—сірата. Ад самага пачатку сушыў Лявон Ліфанаў і іншыя астатнія, а пад канец і мне даводзілася. На гэтым гаворка ў нас і скончылася. Нічога ён мне не сказаў і пайшлі мы спробы браць з апошняга засека. Яшчэ да гэтага, голуб мой, Карл Іванавіч, пачаў я маліцца. Ночы скрозь прастойваў у каморцы перад абразом. Божачка, прасіў я, зрабі цуд, пашлі, благадаць тваю на злакі мёртвыя. Але міналі дні ў мятушэнні, і ад смутку-журбы пачала трэсціся мая галава. Настала аднаго разу ноч, цёплая і ціхая. Я паклікаў да сябе кума Цімаха і, прызнаўшыся яму, папрасіў памаліцца са мною. Аліва ў лампадцы бралася на канец. Ноч навылёт мы чыталі і спявалі псальмы і каноны, і вось на золаку, калі, знясілены, ляжаў кум крыжам на падлозе, заплакаў я перад абразом, б'ючы кулаком убогія грудзі свае: госпадзе, на сорам тым, хто лае цябе, з'яві цуд—прасіў я. І раптам агоньчык у лампадцы міргнуў і згас. Я падумаў, ці не знак гэта нябачны і, устаўшы, пабег да насення. У пакоі, дзе стаяла талерка, я ўжо застаў Карачарава. Ён стаяў, як скамянелы, з вар'яцкім позіркам і вусны яго нешта шапталі. Стаялі мы гэтакім парадкам, не гаворачы ні слова, хвілін мо' з дзесяць. І ад смутку-журбы напаўнялася гневам сэрца маё. Узяў я талерку асцярожна ў дзве рукі і паклікаў з сабою Васільевіча. Мы прышлі ў каморку маю ўбогую і паставіў я талерку на стол, і паставіў яе на стол і сказаў, звяртаючыся да Васільевіча:

— Вось, саколік мой, маліўся стары Каліна праз усё жыццё сваё, але ніколі гэтак моцна не маліўся ён, як сёння ўночы. Я спаліў за гэты месяц літр алівы ў лампадцы, а на лобе ў мяне скура зацвярдзела ад паклонаў, як скура на пятах. Мы маліліся з кумам, каб госпад найлітасцівейшы зрабіў цуд і льняное насенне дало парасткі. І вось ён, абраз, блаславенне бацькі майго. І звярнуўся я да абраза.

— Вось ты ёсць абраз, лік святы збавіцеля нашага. З дзіцячых год маіх быў я шчыры слуга богу і шанаваў цябе, абраз. Чаму-ж ты бязгласны ёсць і бяздушны, як ідал або дрэва? Адказвай! І з кожным

словам гнеў усё больш і больш растручваў маё сэрца.—Адказвай!— крычаў я.—Пакарай, калі можаш, я-ж лаюся на бога! Але маўчаў абраз. Васільевіч маўчаў, і кум маўчаў, распасцершыся крыжам на падлозе. І яшчэ больш распалены маўчаннем іхнім, хапіў я талерку і з мацернай лаянкай запусціў яе, натуральна, у аблічча збавіцеля. Кум з жахам закрычаў, Васільевіч засмяяўся, а я канчаткова і назаўсёды страціў веру і ўсцервілася сэрца маё. Васільевіч панаракаў мне за пабітую талерку, тут я са злосці аблажыў і яго мацюгом. Што-ж, кажу, хіба мая вера не варта шчарбатай талеркі? Ён зразумеў і змоўк, і пайшлі мы спробы браць з апошняга засека. І вось прышлі апошнія дзесяць дзён і прышлі нашы пакуты цяжкія. Ні ўночы, ні ўдзень мы не мелі спакою, мы страцілі сон і нічога не елі. Мы заганялі на станцыю конных, пасылаючы торбачкі з пробай у горад. Мы ўжо хісталіся ад стомленасці і амаль не адыходзілі ад талеркі, не давяраючы адзін аднаму. Але на адзінаццаты дзень з сотні зернят дзевяноста пяць далі парасткі і скончылася наша „жыццё індзейскае“. Заўтра мы пачынаем сяўбу. Аман, давайце, дап'ем рэшту—чарка любіць чыстату!

Гэтак скончыў расказ свой гарбун Каліна.

І пачаў раскрывацца ў гэтую раніцу Карлу Краузе свет, дасюль нябачны і незразумелы—свет новых адчуванняў і дум. Ён зразумеў, якім памылковым было ягонае разуменне рэчаў і людзей, ён зразумеў, што прапушчана ім вялізнае важнасці дэталь — учынкі людзей, што толькі справы і ўчынкі іх надаюць асвятленне рэчам, якія напаўняюць свет, просты і разам з тым складаны.

---

Увесь дзень Краузе быў пад уплывам расказанага старым. Часам ён нават адчуваў лёгкую хваравітасць, асабліва гэта адчувалася пад канец дня.—Напэўна, вынік бяссоннай ночы,—вырашыў Краузе. У дырэктара-ж увесь дзень на твары была радасць. Як-жа, сёння пачалі ў соўгасе „Ленінскі шлях“ араць пад лён.

У абед прывезлі пошту, чытаючы лісты, дырэктар раптам засмяяўся і сказаў: Сёння дзень нечаканасцяй—да мяне прыязджае жонка. Былі сказаны апошнія словы такім поўным пачуцця голасам, што Карла ўзяла зайздрасць. Чорт яго, вось чалавек, які ўмее радавацца добра і натуральна. А дырэктар падышоў да Краузе і ўссеўшы на кончык крэсла, памахаў сабе ў твар лістом—было горача.

— Хутка Карл Іаганавіч, пачнем купацца—ужо цёпла. Вы любіце купацца?

— О так, але рэчка...

— А возера! Ого, мы гэткую купальню на ім абсталюем—люлі, маліна... Жонка прыязджае—паведаміў ён другі раз, але ўжо цішэй. Дырэктару хацелася гаварыць і перажываць з кім-небудзь сваю радасць.

— Вось цяжкі народ—жанчыны, Карл Іаганавіч: да гэтай пары зваў, зваў, не ды не, гаворыць, а тут—раз і ніякіх—еду. Яна ў мяне ў сталоўцы працуе—паварыха, ведаеце, курсы прайшла. Надоечы ў партыю ўступіла...

— А дзеці ў вас ёсць?—пацікавіўся Краузе.

— Як-жа, хлапчына такі—піянерына—аддай усё ды мала. Эдысон—сам, напрыклад, радыёпрыёмнік сканструяваў. Але жонка, далажу я вам... Гэта надзвычайна, што яна наважыла ехаць! Яна мне шмат у чым тут дапаможа. Мы з ёй папрацуем. Мы наробім з ёй дзівосных спраў, вось убачыце!— адухаўляючыся гаварыў дырэктар.

І Краузе ўсё больш дзівіўся з шматграннасці гэтага чалавека, ён

рабіўся, гэты нізкарослы чалавек, як-бы на галаву вышэйшым за яго, Краузе, ён, які ўмеў па-чалавечаму любіць, радавацца і ненавідзець. Так, яго нянавісць я сёння ўбачу на сходзе. Яна выбухне там з поўнай сілай і гэты чалавек устане перада мной ва ўсёй аголенасці пачуццяў— гэтак думаў Карл Краузе.

Карл Краузе на сход, аднак, спазніўся, правільней, прышоў амаль пад канец. Яму нават не прышлося бачыць нянавісць Карачарава. Ды і цяжка было яе ў той вечар заўважыць у дырэктара. Падзеі разгорталіся нечакана і стыхійна. Краузе спачатку не мог зразумець нічога, ён ледзь мог прабрацца да месца, дзе сядзеў Карачараў. Некалькі хвілін яго сціскала тугая маса гарачых чалавечых целаў, а потым выпхнула наперад да стала. Яму далі месца і ён пачаў глядзець. Усе гаварылі напаўголаса, панавала нейкая нацягненасць. Краузе аглянуўся на Карачарава, але той таямніча ўсміхнуўся. Раптам дзверы зборні шырока расчыніліся і ў іх ледзь пралез Чумачонак. Старшыня нёс на плячы мех мукі. Ён скінуў яго на падлогу і мучны белы воблак падняўся вакол меха. Ля печы, абапіраючыся на кіёк, стаяў Ліфанаў, ён са скрухаю паківаў галавой і мякка паглядзеў на Чумачонка:

— Навошта-ж, Дзёма, дар госпадаў кідаць на падлогу гэтак нядбала?

— Забірай свой дар, Ліфанаў і... каціся адсюль!

— Доўг—святая справа, Дзёма, а злосць вастрыць на мяне няма за што.

— А я кажу—забірай свой доўг, Ліфанаў і пакінь зборню!—Чумачонак з пагрозай звёў бровы і ноткі шалёнае злосці пачуліся ў голасе.

— Ды што ты прычапіўся да старога, канчай сход і не трымай людзей...—Голас таго, хто сказаў гэта, быў хрыплы і сур'ёзны. Чумачонак, быццам яго падсцёбнулі, ускінуў галаву ў бок таго, хто сказаў, і насмешліва заўважыў:

— Уношу, таварышы, прапанову—папрасіць Ліфанава з нашага сходу. Прагаласуй, Васільевіч,—павярнуўся ён да Карачарава.

— Якія матывы?—спакойна спытаў Карачараў. Ён вёў сход.

— Матывы? Ці патрэбны сходу матывы аб вывадзе кулака Ліфанава?

— Ага, ага, ты матывы прывядзі,—пачуўся той самы хрыплы голас.

— Добра. Матывы, таварышы, вось якія. У нас сёння сход бедняты, а на Ліфанава ёсць матэрыял аб пазбаўленні яго права голасу...

— Памылішся, Дзёма!—ціха адгукнуўся ад печы Ліфанаў.

— А яшчэ—сёння раніцай сельсовет пастанавіў даць Ліфанаву індывідуальнае заданне ў... тысячу рублёў.

— За што-о-о?—узвыў раптам стары.—За што тысяча рублёў?!

— За эксплаатацыю рабочай сілы пакуль, грамадзянін Ліфанаў!

— Пакуль! До-обра, сынок, дзякую, Дзёма!..—Ліфанаў спяшаючыся пачаў шныпарыць па кішэнях і за пазухай, ён чамусьці нават паправіў аборачку, якой быў падпяразаны, і на галаве падраную шапку. Ён, відаць, ад нечаканасці не ведаў, што рабіць і бессэнсоўна мармытаў:— Дзякуй, сынок, дзякуй, Дзёма!

— Не варта падзякі,—іранічна адгукнуўся Чумачонак.—Падзякуй сельсовет, а не мяне.

— Сельсовет, сельсовет, значыць... Не, брэшаш, Дзёмка!—дзікім голасам выкрыкнуў Ліфанаў.—Брэшаш!!!—і ў яго заняло дух. Чумачонак нават уздрыгнуў ад нечаканасці, такі незвычайна прарэзлівы быў голас старога, і твар яго пачырванелы, з шырока расплюшчанымі вачыма, пачаў раптам бялець і торгацца. Краузе здавалася, што ста-

рога зараз калі не стукне паралюш, дык ён абавязкова кінецца на старшыню і, учапіўшыся па-сабачаму, пачне душыць таго. Краузе нават прыўзьняўся, калі Ліфанаў, прыгнуўшыся, зрабіў два хуткіх крокі да Чумачонка і падняў угору руку, збіраючыся таго ўдарыць. Але рука застыла з выцягнутым пальцам, і голас старога прагучаў у настаўшай раптам цішыні палка і ўпрошліва:

— Даруй ім, госпадзе,—не ведаюць бо, што твораць...

Гэта было недарэчна па сваёй нечаканасці і Краузе збянтэжана міргнуў вачыма, калі ў парозе нехта з захапленнем вымацюгаўся. Але Ліфанаў сурова аглянуўся і, не зменьваючы позы, усклікнуў:

— „Сія глаголе господ: сахраніце суд і сатварыце праўду, прыбліжыся бо спасенне маё прысці і міласць мая адкрыціся". Памятай пра гэта, Чумачонак, а мяне господ у сваёй літасці не пакіне.—Ліфанаў крута завярнуўся і, ні на кога не гледзячы, пайшоў са зборні.

— Вучыся ў ворага вытрымцы, Чумачонак,—ціха сказаў Карачараў,— і на паваротах бяры лягчэй. Гэтыя словы не паспелі дайсці да свядомасці Краузе, ён зусім быў збіты з панталыку ўсім, што адбывалася. Раптам, распіхаючы народ, нехта пайшоў ад парога.

— Пусці, дзед Зюзя, дай-тка я скажу. Дай-тка, Дзём, мне выказаць.

— Прасі слова ў старшыні,—хмура адказаў Чумачонак і сеў побач з Краузе. Да стала вышаў худы, белабрысы, у дзіравай салдацкай гімнасцёрцы мужык. Быў ён аднарукі і высокім вісклівым голасам, быццам было тут некалькі тысяч народу, закрычаў:

— Братцы, таварышы, ды што-ж гэта такое—га? Тысячу рублёў!.. Куды-ж гэта варта! Ці сельсовет на чале з Чумачонкам смяюцца? Што-ж гэта, на смех мы ім здаліся? Бабы! Жанчыны! Да вас мае галоснае слова. Што вы маўчыце, макрахвосткі, як вады ў рот набраўшы—га?

— Ты не гакай, гавары да толку—ты за ці супроць?—спытаў прамоўцу Чумачонак. Той абсекся і змоўк. Ён залыпаў вачамі часта, быццам збіраючы думкі і закрычаў яшчэ мацней.

— Ты-ж не перабівай мяне, Дзёмка! У мяне памяць аслабеўшы ад германскага газу, я зблытацца магу, ага... Ён змоўк і безнадзейна махнуў рукой.

— Ну, во і зблытаўся.

— Ты наконт тысячы скажы: за ці супроць?—спытаў нехта.

— Беспракаслоўна супроць! Ён вытрымае... пяць тысяч, ён крывасмок, якіх мала... Ага, успомніў, во... Таварышы! Хто я гэткі ёсць? Я ёсць пастух Шлыкаў і больш нічога. Магу я быць гаспадаром і працаваць, як усе астатнія? Магу, і беспракаслоўна магу. Я за японскую вайну два георгіі меў, я за германскую яшчэ два георгіі меў, калі быў-бы я пісьменны, мяне маглі-б падпрапаршчыкам зрабіць—во як! У мяне шэсць дзявок—дочак маіх, як пачнуць касіць—хоць якому касцу пяты падрэжуць—во як! А тры з паловай тыдні яны матыкавалі ў Ліфанава, за што? За тры пуды мукі матыкавалі, во як. Я праз усё жыццё хацеў зрабіцца гаспадаром і праз усё маё жыццё рабіў на чужога дзядзьку. Гэта правільна? Не, гэта няправільна. А калі гэта няправільна, дык, значыць, што-ж? Кальгас? Добра—я не супроць кальгасу? Пабачым, што гэта такое за кальгас, а на Ліфанава пішы пяць тысяч, во як...

У пачатку прамовы Шлыкава бабы, што стаялі воддаль ад мужыкоў, пачалі ажыўлена перамаўляцца і некага падштурхваць са сваёй групы. Калі скончыў пастух, ажыўленне іх перайшло ў гуд і асобныя выкрыкі:

— Ведама, няправільна!

— А ты-ж скажы, калі разумная!

— А во, і скажу, што ён мне. На голым месцы лысіну зробіць?!

Але, заглушаючы бабскія крыкі, ад печы, дзе стаяў раней Ліфанаў, адышоў маленькі стары ў жаночым каптаніку.

— Мне слова, Васільевіч, ягадка. Дайтка я на старасці год пабрашу. Ён выбраўся з-за ўпартых мужыцкіх спін і, выхапіўшы з кішэні кісет, на хаду набіў табакаю мясісты нос, падобны на дулю. Стаўшы каля стала, ён выставіў наперад правую нагу і махнуў у бок шумлівых баб.

— Цішэй, бабы, што гэта вам—ігрышча? Спыні голас, кажу!

Карачараў узяў са стала маленькія лічыльнікі і патрос касцяшкамі іх замест званка.—Будзе гаварыць дзед Зюзя. Цішэй, таварышы! Сход прыціх. Стары адкінуў руку ўперад, як гэта робяць прамоўцы, і ўрачыста крыкнуў:

— Слухайце слова маё, лугоўцы! Я казаў і казаць буду, ядры вашу шапку, што вы... Стары спыніўся і, зрабіўшы здзіўлены твар, гулка чхнуў некалькі разоў у запар. Стаяўшыя наперадзе засмяяліся, але стары, не збянтэжыўшыся, працягваў: ...—што вы—дурні восемдзесят шостай пробы. Я да вайны яшчэ казаў, будзеце каяцца, браткі, наконт хутароў. Як шэрыя ваўкі, будзеце сядзець на сваіх хутарах і слёзы кулаком абціраць. Памешчыкамі захацелі зрабіцца? Дацкіх кароў захацелі?—маці вашу ў ядраную ноч. Ліфанавых, Бычковых, Наздровых паслухаліся. А яны на старым корані асталіся, яны вунь усе канапельнікі, усе гародчыкі сабе прыгрэблі. А вам што? Вам суглінкі, вам чорталысіны, вам усё няўдобства земляное—рабіце, лугаўцы, ламіце хрыбетніцу, цешцеся, сукіны сыны, з свае дурасці. Мне што? Я, шкадуючы вас, кажу... Да зямлі гэтае ў мяне год з пятнаццаць, як прапала ахвота. Мая справа—прышла вясна—вядзёрца ў рукі, пэндзэль, на плячо—і марш у горад. Я маляр, а вы земляныя жукі. У горадзе, я скажу вам, гэткага бясчынства няма. Гэным-бы такога, як Ліфанаў—ураз пёрка ў зад і ляці душа ў прасветлы вырай...

З групы баб, якія ўсё яшчэ шапталіся, раптам выступіла высокая, кашчавая жанчына. Яна спакойна ўзяла Зюзю за плячо і, не гледзячы, адапхнула ў бок, як рэч: „На цябе, дзед Панас, не капае, пасля скажаш". Ашарашаны Зюзя змоўк. А жанчына, быццам засароміўшыся з свае смеласці, хутка сунула рукі пад фартух і лёгкі румянец паказаўся на запалых яе шчоках. Яна пачала гаварыць ціха, і нібы ўпрошваючы:

— Паслухайце,—тка, мужыкі, маю бабскую гаворку. І вы, бабы, слухайце, а не гэтак скажу, адразу падпраўце.

Сход насцеражыўся. Але нейчы бабскі голас раптам разбіў цішыню, задзірыста крыкнуўшы:

— Ты не бойся, Чайка, усё гавары, тут свае!

— А чаго мне баяцца, бабачкі, я ў свіран ні да каго не лазіла—сарамяжліва адказвала жанчына. Яна крута раптам павярнулася да Карачарава і, гледзячы яму ў вочы, выразна сказала:

— А нам, бацюхна, баламутаў не трэба—жылі без іх і пражывем, дасць бог. Ты чалавек нетутэйшы і жыцця нашага не ведаеш, а Ліфанаў на людзях жыве і ўсе мы яго ведаем. Ты наабяцаў шмат, а даць нічога не даў, а да Ліфанава ў ноч і ў поўнач ідзі—не адмовіць. Праўду я кажу, бабы?

— Ведама, праўду!

— Ты праз жыццё скажы, Чайка,—закрычалі жанчыны.

— І скажу, а што-ж вы думалі... Ты, бацюхна, забараніў гаварыць Ліфанаву, а дарэмна, ён шкадуючы нас гаварыў, ён дабра нам, удовам, жадае, ён работу нам даў. А ты што? Хто ты? Скуль ты прышоў і парадкі свае прынёс? Хіба Ліфанаў супроць калгаса? Не, не супраць. А чаму на яго тысячу рублёў падатку? Я ад усіх баб кажу—не чапай Ліфанава. Не смей крыўдзіць старога!..

Жанчыны з ухвалаю загулі і запляскалі Чайцы. Убачыўшы падтрыманне, тая ўзняла галаву, нясмелы голас яе ўзмацнеў, постаць выпрасталася. Словы жанчыны ўжо гучалі сурова і з пагрозай:

— Мы два дні маўчалі, мы чакалі, што вырашаць мужыкі. Вы думаеце, што, мы, бабы, так нічога і не разумеем? Усё разумеем. Маёнтак Барышнікава прапілі, прагулялі, цяпер да нашых гаспадарак падбіраецеся? Сарвецца, не выдзе справа. Ад усіх баб гавару,—не пойдзем у калгас, не хочам быць парабчанкамі. Ага, не хочам...

Але голас Чайкі раптам пакрыў другі, прарэзлівы і палкі. З групы жанчын выскачыла маленькая, з тварам, абсыпаным рабаціннем, баба. Яна спрытна тузанула сябе за канцы хусткі, тужэй зацягнуўшы яе і ўдарыла абурана рукамі аб крысо старэнькай жакеткі.

— Што-ж гэта ты, Чайка, робіш? За колькі пудоў мукі прадала сваё сумленне Ліфанаву, га? Ты-ж мне сястрой старэйшай даводзішся, га? Не, пасля гэтага ты не сястра мне, а сволач. Пасля гэтага ты падпявала кулацкая, во што...

— Крый, Паша,—бога няма! Усып ёй, Пашачка, ды пра сход не забудзься—засмяяўся пастух Шлык. Ён нахіліўся да Краузе, што сядзеў з ім побач, і з захапленнем шапнуў:

— Гэта Пашка—баба мая, ну, і гарачая жанчына, ты пачакай толькі, што тут будзе зараз...

— Грамадзяне-мужыкі, што-ж вы маўчыцё, я ў вас пытаюся? Як-жа вы можаце слухаць гэткія нахабныя словы? Га? Ды вы ведаеце, што тут цэлая зграя? Ды вы ведаеце, што ўчора на ліфанаўскім лядзе, у іх свой сход быў, і яны аднагалосна пастанавілі бабскі калгас арганізаваць, а Ліфанава за старшыню выбралі? Мы ўчора са Шлыкам жывёлу там пасвілі і ўсё ад слова да слова чулі. Не, мужыкі, відаць нездарма вас празвалі блакітна-каменнымі, і правільна, што вы—дурні восемдзесят шостай пробы...

— Во, гэта справядлівыя словы,—страпянуўся ля печы Зюзя.—Дай ім, Шлычыха. Дакажы, пачым сотня грабяшкоў.

Але Пашка сарвала ўжо з галавы хустку і, узрушана размахваючы ёй, граміла сход.

— Разявякі вы, а не мужыкі! Пакуль ходзіце, ды трасеце штанамі, усе ў Ліфанава ў батраках будзеце. Ды ведаеце вы, разявякі, што яны ўжо Дуньку Карэзу ў раён па межавога выправілі...

Апошнія словы Пашкі пакрылі крыкі і гул сходу. Некалькі чалавек адразу выскачылі ад стала, патрабуючы слова. Жанчыны перакрыкваючы гуд, навыперадкі лаялі Пашку. Прарэзлівыя галасы іх зліліся ў нейкі дзікі канцэрт, дзе нельга было разабраць слова. Людзі ўзрушваліся ад уласных крыкаў. Яны размахвалі рукамі і пачырванелыя твары іх наліліся раптоўнай злосцю. Людзі рванулiся, як коні, закусіўшы цуглі, і сход панёсся, расплёскваючы праз берагі крыкі і нянавісць. Гэтая нянавісць скамячыла Краузе, гэта было падобна на бурны салдацкі мітынг у дзевятнаццатым. Так, бязладныя крыкі і гамуз былі яркімі выяўнікамі гэтае нянавісці. Гэта, відаць, назбіралася ад самага пачатку схода. Якая шкода, што ён спазніўся, яму цяжка зараз разабрацца ва ўсім гэтым. Але Карачараў—што-ж ён нічога не робіць? Ён сядзіць, як і раней, за сталом і барабаніць пальцамі. Ён, відавочна прадбачыў усё і абсалютна спакойны. Нават часам усміхаецца. А можа гэта проста бездапаможнасць, можа гэтая ўсмешка вымучаная і непатрэбная зараз, як і нервовае пастукванне пальцаў? Краузе ўпарта думаў, не здагадваючыся, як блізкі ён зараз да сапраўднасці ў сваіх меркаваннях. Так Карачараў быў разгублены. Паведамленне Пашкі пра сход жанчын на ліфанаўскім лядзе было нечаканасцю, блытала ўсе карты. Непрыметна

для іншых ён збянтэжана пераглянуўся з Чумачонкам. У вачах кожнага можна было прачытаць дакор адзін аднаму, а ў чым—яны не ведалі самі. Але для абодвух было ясна без слоў, што ў Ліфанава выявілася новая якасць—хуткасць. Ён апярэдзіў іх—значыць ён і дальнабачны. Ён здольны перадугадваць падзеі. Але Карачараў, апроч таго вялізным напружаннем волі стрымліваў нянавісць. Калі-б ведаў пра гэта Краузе—ён-жа ішоў на сход з думкай падгледзець гэтую нянавісць.

І яна бурліла, яна выціскала на дырэктаравым твары прымусовую ўсмешку, яна змушала пальцы яго рук нервова стукаць па стале, яна нават крыху займала дыханне—і Карачараў спалохана душыў у сабе дзікае жаданне ўскочыць і, недарэчна размахваючы рукамі, па-мацернаму вылаяць усіх і ўсё—Ліфанава, гэты сход, сябе... Але вось шум ціша, першы выбух запалу прайшоў, хто-ніхто ўжо ахрып ад крыку і скручвае папяроску. Карачараў устае і, стукаючы па стале лічыльнікамі, заклікае да парадку. Вядома-ж, што ён ведаў пра сход на лядзе. Голас яго ціхі і роўны.

— Таварышы, вы дарэмна хвалюецеся. Пра тое, што быў сход падзёншчыц правільней, батрачак Ліфанава, пра тое, што вырашылі яны арганізаваць арцель—усё гэта мы ведаем. Усё гэта не дрэнна, таварышы, але сакрэт вось у чым...

Краузе са здавальненнем набівае табакай сваю старую, добра пракураную люльку. Ён радасна працягвае партабак пастуху Шлыку, яны прыкурваюць ад аднае запалкі. Усе супакоіліся і слухаюць Карачарава, але Краузе ўважлівейшы за ўсіх. Ён зразумеў цяпер адну ісціну. І гэтую ісціну даў яму Карачараў. Дырэктар нічога не гаварыў яму асабіста, але ісціна прышла, як вынік, як сонца пасля навальніцы і буры...

* * *

Седзячы ў сябе ў пакоі, ён усёй сваёй істотай адчуваў, што ісціна, якая прышла да яго—вялікая і складаная, што патрэбны былі дзесяць дзён, пакуль ён ледзь-ледзь стаў разумець усю шматграннасць навакольнага. Але сёння... Так, цяпер для яго становяцца зразумелымі гэтыя законы барацьбы. Упэўненасць і вера ў сваю справу паклала на гэтых людзей своеасаблівы адбітак. Гэта на першы погляд складана, але іменна ў гэтым ключ да разумення ісціны. Краузе дастаў з дна куфэрка сшытак. Гэта была вузкая, у восьмую частку аркуша, апраўленая ў зялёны саф'ян кніжка. Пагнутая металічная зачэпка ў выглядзе двух счэпленых рук заіржавела ад часу. Унізе, выціснутае золатам, стаяла імя берлінскага пераплётчыка, а на вокладцы хімічным алоўкам старанна напісана: Caesar (imperator); morituri te salutant* і размашыста побач па-нямецку: Du glaubst zu schieben und du wirst geschoben** Два нічога не гаворачых надпісы, але колькі ўспамінаў, колькі думак хаваюць у сабе гэтыя закругленыя лацінскія літары—Caesar (imperator); morituri te salutant: „Прывітанне, Цэзар; тыя, што ідуць на смерць, вітаюць цябе"—гэтак крычалі рымскія гладыятары пры з'яўленні імператара ў ложы Калізея.

Гэты іранічны надпіс зрабіў Якуб Дрылле ў казарме, 15 ліпеня, на другі дзень пасля абвяшчэння вайны, пасля ўтомлівага параду імператара Вільгельма. Гэта быў дзень адпраўкі на фронт, Карл выцягнуў сшытак—дзённік—падарунак Эміліі, каб зрабіць першы запіс—пра парад. Яго некуды

* Прывітанне, Цэзар, тыя, што ідуць на смерць, вітаюць цябе (вокліч рымскіх гладыятараў пры з'яўленні імператара ў ложы Калізея).

** Ты думаеш, што рухаеш, а цябе самога рухаюць (штурхаюць). „Фауст" Гётэ, Вальпургіева ноч, словы Мефістофеля.

паклікалі, а калі ён прышоў, дык Дрылле, ухмыляючыся, ужо дапісваў апошнія літары. Ён, Краузе, вельмі раззлаваўся на таварыша, ён нават не хацеў пісаць дзённік, але пазней ён пераканаўся, што Дрылле меў рацыю і ніжэй напісанага ім, прыпісаў сваё. Гэта было таксама іронія, але праз насмешлівыя словы Мефістофеля, як кветкі праз шчыліны садовай агарожы, выглядала ісціна. Гэта дармо, што ісціна прышла занадта позна, затое яна была нечаканая і прыгожая, як вызваленне ад бліскучага палаша Кійко. Сышоў тады Краузе ад п'янай банды бацькі Махно ў стэп, у прастор, нясучы з сабой у бакавой кішэні самае каштоўнае, што асталося ў яго—падарунак Эміліі—гэтую кніжку ў зялёным саф'яне. Ён сышоў у нябыт прасторы. Але куды-ж яму было ісці з вялізным сэрцам і думкамі? Калі-б ён не наткнуўся на дазорцаў з атрада Дрылле, хто ведае, куды-б прывялі яго дарогі херсонскіх стэпаў? Лічан ужо-ж прыклаў быў вінтоўку да вузкага пляча і, каб не здагадаўся Краузе, спешна падняць рукі, можа быць тады яшчэ спыніліся-б блуканні майго героя на гэтай зямлі. Дрылле адразу ўлічыў усё і рагатаў, як звар'яцелы. Зялёная кніжка, знойдзеная пры вобыску, дапамагла ўстанавіць нарэшце, што гэты брудны і няголены чалавек з неспакойным дзікім позіркам і ёсць Карл Краузе.

— Здароў, пудзіла!—закрычаў Дрылле, абнімаючы Краузе—і з радасці яны выпілі амаль не цэлую бутэльку спірту. Пасля першай чаркі Краузе выцягнуў з кішэні зялёную кніжку і напісаў размашыста пад фразай таварыша сваю фразу, а потым яны аж качаліся з рогату, як блазны. Потым яны спявалі „Wacht am Rhein" („Варта на Рэйне") і пры словах: „Бацькаўшчына любая можа быць спакойнай"—падміргвалі, штурхаючы адзін аднаго пад бакі і рагаталі, як вар'яты. Раніцай выведнікі далажылі, што ў Канстантынаградзе Махно ўчыніў яўрэйскі пагром. Потым Бердзянск, Гуляй-Поле, вясёлы горад Нікалаеў, Знаменка і многа, многа гарадоў і станцый праехаў Краузе з сябром і камандзірам інтэрнацыянальнага атрада—Якубам Дрылле. У кожным новым месцы ён сустракаў новых людзей і новыя ісціны. Самыя яскравыя і простыя ён запісваў на белыя лісткі зялёнага сшытка. Ён разгарнуў дзённік наўдачу.

*18 ліпеня*. З дзесяці гадзін вечара грыміць, усё ўзмацняючыся, кананада. Далёка—хмары чорнага дыму: гарaць ад знарадаў вёскі. Штаб палка праходзіць у Дзямбіцу...

Не, не тое...

*25 ліпеня*. Зноў сузмрокі, праз усе дні кананада не сціхае ні на гадзіну, ні на хвіліну. Нейкае цмянае ўдушша, падобнае на шалёнства. Мінулага няма, пра яго дзіка нават зараз успамінаць.

Міма, міма...

*30 сакавіка—пад Тарновам*. Поўны разгром рускіх. Полк фарсіраваным маршам ідзе пад Дунаец. Я не магу больш, я знарок зраблю сабе раненне. Гэтая-ж дзікая мясарубка.

Удзень мы забеглі ў адзін польскі хутар напіцца вады. На парозе дому стаяла прыгожая жанчына ў чорнай параздзіранай сукні. Павольна хістаючыся, яна нешта мармытала і хавала аголеныя поўныя грудзі, ледзь захінутыя шкуматамі тканіны; калі падышлі мы, яна выцягла рукі да нас.

Я спыніўся, моцна ўражаны, я не мог далей ісці, я не мог зазірнуць у вочы жанчыне—у іх было шалёнства. Раніцай тут прайшлі мадзьяры. Але я заўважыў, як хціва глядзеў мой таварыш на аголеныя жаночыя грудзі. Вось ён паклаў стрэльбу і пачаў адшпільваць ранец. Я нічога не разумеў. Калі-ж ён, спяшаючыся, пачаў адпярэзваць дзягу, я ўсё зразумеў. Ён кінуўся да жанчыны, але я крыкнуў і ўскінуў він-

тоўку. Таварыш здзіўлена паглядзеў у мой бок, тымчасам жанчына схавалася ў сярэдзіне дому. Таварыш, вырашыўшы, што я хачу апярэдзіць яго, зарагатаў і памахаў мне кулаком. Ён кінуўся ў дом за жанчынай і я... стрэліў. Ён узмахнуў рукамі і абваліўся на спіну. Прыкладам вінтоўкі я адсунуў яго ногі і прычыніў дзверы. Мне было не шкода, хоць гэты вясёлы баварац быў добрым хлапцом. Мне было не шкода. Так было патрэбна... Я не баюся, хоць мяне, калі гэтая гісторыя раскрыецца, чакае ваенна-палявы суд. Што для мяне шкадаванне і страх перад судом. Затое я пазнаў ісціну простую, мудрую ісціну. Дрылле гаворыць правільна: вайна—суцэльнае злачынства, яно ператварае людзей у жывёлу. Трэба пратэставаць.

*5 жніўня—Палескія балоты.* Якую рацыю мае гэты латыш з Вединга, і па сутнасці, які я быў дурань, думаючы аб тым, каб знарок параніць сябе. Пратэставаць можна па-рознаму. Мы з Якубам пратэстуем: Мы праводзім нашу работу непрыметна, але ўпарта. У нашым узводзе ўсе нездаволены... А цікавыя лісты атрымліваюць хлопцы з дому. У Берліне ўсё яшчэ спяваюць: „Германія, Германія, вышэй ад усяго“, а ў пякарнях вісяць плакаты: „Хто шмат есць,—той здраджвае бацькаўшчыне“ замест хлеба там раздаюць брашуркі: „Дзесяць запаведзяў гаспадыням, як рыхтаваць страву з адкідаў“. Гісторыя з баварцам забыта. Зняты з забеспячэння, як зніўшы нямаведама дзе. Згрызотаў, сумлення ніякіх. Па сутнасці, танная рэч—жыццё чалавечае...

*30 верасня — палявы шпіталь.* Я паранены... Два тыдні... Шчаслівы... Увесь час з галавы не вылазіць рудабароды рускі і чатыры вішні. Дз-ж Дрылле? Дз-ж Дрылле?

Далей, далей... Ах, вось, здаецца.

*Масква, 1930 год. Студэнцкі інтэрнат...*

*Верхнеўдзінск, Усць-Кяхта...* Не, не тое. Зноў мільгаценне старонак. Вось...

... *Сакавік 1931 г.* Дрылле памёр, забіты, ён памёр, як большэвік і я павінен тут замяніць яго. Я абавязаны знайсці забойцу Дрылле Прэч любоўнае трызненне! Гэтае апошняе дзівацтва абышлося мне занадта дорага. Сябры адыходзяць адзін за адным. Бывай, камрад! Я не па сваёй віне спазніўся на тваё пахаванне. Бывай і ты, фламандская дзеўчына. Я не скажу, а ты не дазнаешся аб маёй любові. Чаму? Па-першае, я спазніўся. З маім ідыёцка мяккім характарам, я сістэматычна пазнюся на цягнік жыцця. Я няўважлівы і не чую званкоў. Смейся-ж, фламандская дзеўчына, грамчэй смейся, уедлівей. Я ўжо абсмяяў сябе і хачу паспрабаваць жыць па-новаму. Ну, „бывай, бывай і калі назаўсёды, дык назаўсёды бывай“.—Гэтак здаецца сказаў Байран.

Карл Краузе павольна і задуменна перагарнуў старонку.

На адваротным чыстым баку яе было алоўкам напісана: „Дзе будзеш ты, Карл, і што з табой будзе, калі дапішаш да гэтай старонкі“...

Дзе гэта напісана?—цяжка, немагчыма ўстанавіць ні дату, ні маленькі намёк. Памагай, памяць! Карл наморшчвае лоб і, адсоўваючы сшытак, ён набівае люльку, ён папраўляе акуляры. Месцы, падзеі, людзі ажываюць на імгненне.

Дзе, дзе, гэта было напісана? Берлін, Ніско, Тарноў, Брэст, Белая Цэркаў, Троіцка-Саўск, Усць-Кяхта... Не, не ўспомніць... А хіба не ўсёроўна? Ён кладзе люльку і, уздыхнуўшы, бярэцца за дзённік. Абмакнуўшы ў атрамант пяро, ён хутка піша:

*Соўгас „Ленінскі шлях“ 1931 год.* Прышоў са сходу. У соўгасе я дзесяць дзён. Навокал мяне кіпіць, покуль бяскроўная, вайна. Але вайна самая незамірная, палкая, жорсткая вайна. Я адчуваю, я бачу

гэта. Пакуль я—просты назіральнік, кажу „пакуль“ бо пара ўжо вызначыць сваё месца. Па дарозе са сходу ў мяне з‘явілася даўнае нязбытнае жаданне: я хацеў-бы зноў стаць падлеткам, каб зайздросціць старэйшым. Так, калі паставіць сябе з Карачаравым і Чумачонкам, дык я толькі падлетак перад імі. Іхная сіла ў тым, што, робячы цяжкое, яны вераць у гэта, як не магу верыць я. Часам я баюся прызнацца нават сабе ў гэтым нявер‘і. Я ведаю чаму гэта, ведаю і прычыну свайго нявер‘я. Але большэвік Карачараў лічыць, што канец барацьбы будзе пераможным. Гэтак лічыць і партыя. У гэтым і ўвесь сакрэт. Людзі, упэўненыя ў правільнасці сваіх меркаванняў, непераможныя. За гэта гаворыць іхная спакойнасць і ўпартая, па нечалавечаму палкая работа. Ісціна—у правільнасці патрабаванняў. Патрабаванні законныя і непахісныя—як сама ісціна. Я, Карл Краузе ў трыццаць восем год, пасля доўгіх хістанняў, пасля ўнутраных падзенняў інтэлігента, гэтым запісам падвожу ітог. Я лічу, што новы этап майго жыцця, этап, перад якім я стаю, павінен быць да берагоў напоўнены барацьбой і работай на карысць працоўных.

Краузе паставіў кропку і захлопнуў сшытак. У гэты-ж час паставіў кропку і Дзям‘ян Чумачонак. Ён адсунуў спіс і паклаў аловак. Радыён Кургуз, які ўвесь час уважліва сачыў за рукой старшыні, уздыхнуў і недаверліва спытаў:

— Няўжо, Дзём, дадуць насенне?

Чумачонак усміхнуўся.

— А што-ж ты думаў, мы гэта так сабе, за даруй божа, народ узбаламуцілі?

— Дзіўна, неяк, Дзём.

— Дзіўнейшыя бываюць справы, Родзя. Ты во, паглядзі, на сходзе запісалася сем чалавек, а цяпер ужо дзесяць. Ты якраз дзесяты. Чаму? Ды таму, Родзя, народ разумее, што іншага выхаду няма. І запомні праз месяц-два самі прасіцца будуць і першая Чайка прыдзе, пабачыш...

З печы звесілася бялявая галоўка чумачонкавага сына Хведзькі і прагучэў тоненькі, настойлівы ўсхліп:

— Е-е-есці дай, тата.

У куце на палатках, нібы ўторачы, аказаўся другі голас:

— Дай хлеб-са-а-а...

Чумачонак павярнуў да палатак галаву, і па-сяброўску, са смехам сказаў:

— Сукіны вы парасяты, гвардзейцы, ну дзе я вазьму хлеб? Сказана, заўтра.

Меншы Саўка, спяшаючыся і картавячы, папрасіў:

— Авалацак маленьсі.

— Маўчы, Саўка, я-ж табе казаў, што абоз недзе заграз, а пякарня зблудзіла. Ты-ж ведаеш, як на фронце—па два дні, не еўшы...

— Дык, тое на фронці.

— Ты-ж гвардзеец, Саўка?

— Ну, гвардзеіс.

— Ты-ж яфрэйтар?

— Ну, яфлейтар.

— Ну, дык і маўчы, бо ў радавыя разжалую.

Дзеці прыціхлі. Чумачонак павярнуўся да Кургуза і пачасаў патыліцу, нібы збіраючыся з думкамі:

— Вось, Родзя, і запомні, што ўсе ўдовы-салдаткі, як адна, прыдуць. Без калгасу ім не пражыць. А Ліфанаву мы дамо рады, хоць і дзесяць нас пакуль чалавек.

— Ну, а араць, Дзём, на чым-жа?

— Араць... Будзе, Родзя, і араць на чым, пакуль тры коні ёсць, твая кабыла не лічыцца—жарэбная. Заўтра вось паеду ў раён.

— Хлеб-са-а-а!

Чумачонак, не паварочваючы галавы, спытаў выразна і ціха:

— Сынок, Хведзя, ты не бачыў, дзе мая дзяга?

Працяжнае слова „хлеб-са-а-а“ адразу абарвалася, але на печы нечакана пачалася тузаніна. Старэйшы, Хведзька, грукаючы нечым у сцяну, зароў:

— Хлеба давай, есці давай, чорт!.. Нешта вялікае і чорнае сарвалася з печы, і прарабіўшы ў паветры крывую, гоцнулася Кургузу на калені. З палатак зляцеў пявучы шэпт: „Солт хлысаногі“. Кургуз узяў з кален растаптаны валёнак і, задуменна пакруціўшы яго ў руках, сказаў:

— Сур'ёзныя ў цябе хлопцы растуць, Дзём. А дзе-ж кума Фёкла?

— Пайшла.

— Куды пайшла?

— Зусім... да бацькі...

— Да Ліфанава?!

— Ага.

— Та-а-ак.

— Пайшла, Родзя, забрала анучы свае і змылася, а я на сходзе быў.

— Та-а-ак.

— Пайшла, Родзя, а мяне з гэтымі бандытамі пакінула, а мукі ні пылінкі. Апошнюю аддаў Ліфанаву.

— Так, так.

— Увесь мой гарнізон узбунтаваўся, Родзя.

— Ну, не чакаў я гэтага ад кумы, хрысці яе маць.—Кургуз насунуў на галаву старую, з патрэсканым брылем, салдацкую шапку і пайшоў. Чумачонак задуменна пакруціў фарсіста свае вусы і скоса зірнуў на палаткі. Там было ціха. Ён пацягнуў да сябе затропаную старшынскую папку, каб перапісаць пратаколы, але рукі яго раптам апусціліся. Жахлівы роў, нечаканы і звонкі, разлёгся і з палатак і з печы:

—Е -е-е-есці-і...

— Хлеба... Вячэру давай...

Чумачонак апусціў галаву на грудзі і сядзеў некалькі хвілін моўчкі. Гарнізон бунтаваў. Але раптам Чумачонак узняў галаву і па-балаўному засмяяўся.

— Саўка, Хведзька! Што-ж гэта вы робіце, бандыты,—га? Зважай, гвардзейцы, ну!

Дзеці на хвіліну заціхлі.

— Матка пайшла да дзеда ў Лугі, дзед абяцаў даць бульбы, зараз яна прыдзе і будзем варыць бульбу.

Хведзька высунуў з-за коміна белую галаву і ўедліва заўважыў:

— Чаго брэшаш, матка сказала, назусім сыходзіць.

— Ту на цябе, галава парасячая, яна-ж пажартавала.

— Але, па-ажартавала...—недаверліва і плаксіва аказаўся Саўка.

— Ну так, пажартавала, я-ж сустрэў яе, ідучы са сходу. Кажа, ты пастраш хлапцоў, быццам я назусім пайшла. Хлопцы, кажа, неслухі, балаўныя, кажа, юстынінай курыцы сёння нагу перабілі. А я ёй кажу: кінь, ты, баба, хлопцы нашыя—пашукаць гэткіх, нашыя хлопцы—арлы, гвардзейцы адным словам і чужым курам зроду ног не перабівалі. Гэта-ж не ты ёй ногі перабіў, Саўка?

— Пальсам не крануў, яй-жа богу, тата.

— Ну во, бачыш, я гэтак і падумаў.

Чумачонак раптам падышоў да палатак і, заклаўшы рукі за спіну, пачаў зусім сур'ёзна даводзіць.

— Думаю, няйначай набрахала на Саўку Юстына. Думаю, ніяк Саўка не можа чужой курыцы ногі перабіць, да таго ж ён не маленькі і чын яфрэйтара мае. І чаму гэта, Саўка, на цябе Юстына вока мае?— Пэўне, за леташняе, калі ў гародзе цябе злавіла.

— Ды гэта Пецька Васічкін лазіў!—заступіўся за брата Хведзька.

— Ну во, а брахалі—Саўку Чумачонка злавілі, Саўка моркву павыдзіраў... Не-е-е, мае хлопцы не такоўскія, мае хлопцы залатых грошай вартыя. А вырастуць я іх няйначай, на камандзіраў вучыць буду. Выедуць гэта Саўка з Хведзькам на конях перад фронтам—у поўнай форме, з шашкаю, леварверам—кругом народ, музыка, сцягі! А начальнік атрада, як убачыць вас:—По-олк, зважай! Раўнанне направа! Шашку, р-раз, на-каравул і на ўвесь кар'ер з рапартам.

— Гэта мне, тата?—жыва перапытаў Саўка.

— Табе, табе, Савушка, і Хведзьку, вы ўдвух парад прымаць будзеце.

— А мы што?—пацікавіўся і Хведзька.

— Ну, вы, вядома, прымеце рапарт, прывітаецеся з палком, усё, як мае быць, а начальнік атраду каманду:

— Цэраманіяльным маршам, па-эскадронна, арш-а-арш! Ну, тут ужо музыка як грымне...

Дзеці слухалі, як зачараваныя. Яны звесілі галовы—адзін з палатак, другі—з печы і затоілі дух. Расказванні пра парады, расказванні з вайсковага жыцця—было самае любімае, чым цешыў не раз Чумачонак сыноў. Яны нават мелі чыны: Саўка быў яфрэйтар, а старэйшы Хведзька меў чын узводнага.

Чумачонак раптам змоўк і пазяхнуў. Схамянуўшыся, ён ласкава прапанаваў:

— А ці не пакласціся, дзеткі, нам спаць? Пэўне, матка прыпазнілася, уранку прыдзе...

— Не-е, тата, пачакаем, есці хочацца,—засупярэчыў Хведзька.

— Ну, што-ж, можна пачакаць крышку—не знайшоў што сказаць Чумачонак. Ён павольна адышоў ад палатак і сеў каля стала. Злез з печкі і Хведзька.

— Байку расказаў-бы, ці пра Карпаты што...

— Пазабываў я нешта байкі, сынок,—стомлена адгукнуўся Чумачонак.

— Не, тата, давай-тка песню. Завядзі пра „арпаты"—крыкнуў з палатак Саўка. Ён спрытна саскочыў уніз і, заклапочана падцягнуўшы порткі, сеў побач з бацькам.

— Зачынай, я падгалос'ам буду.

Чумачонак адвярнуўся і цяжка ўздыхнуў.

— Ну, Саўка, песню дык і зусім-бы нярварта. Не ў голасе я сёння—ахрып, разумееш?

— Давай, давай,—ажывіўся і Хведзька.—Мы падможам.

Чумачонак засмучона паглядзеў на хлапцоў і ціха сказаў:

— Эх, белагаловыя мае, ні чорта вы не разумееце... Мой бацька, а ваш дзед—Чумак праўду казаў: „Спявай песні, хоць трэсні". Добра, будзем спяваць. Чумачонак прытуліўся спіной да сцяны і, уздыхнуўшы, набраў у грудзі паветра. Ён падняў угару галаву і, заплюшчыўшы вочы, заспяваў высокім тэнарам. Журботная песня з'явілася, як уздых:

Покрыты костями Карпатские горы
Озера мазурские кровью красны,
И моря людского мятежные взоры
Дыханьем горячим полны.

Дзеці крыкліва і дружна падхапілі знаёмую песню. А Чумачонак, яшчэ мацней заплюшчваючы вочы, усё вышэй і вышэй выносіў журботны напеў:

Зарницами ходит тут пламя пожаров,
Земля от орудий тут в страхе дрожит,
И вспаханы смертью поля боевые
И много тут силы солдатской лежит...

Ён мацней заплюшчваў вочы, каб не бачыць спяваючых галодных дзяцей. Ён сам не еў нічога ад рання і голас яго дрыжаў. Але стары салдат, першы ў палку запявала, не здаваўся. Яго прыгожы тэнар часам зрываўся, ён слабеў на ўзлётах, яму замінялі часам дзіцячыя, няўпэўненыя галасы, але ўсё-ж песня расла, расла, як чалавечы смутак, як светлыя слёзы.

Как свечи, далёкие звезды, мерцают.
Как ладан кадильный, туманы плывут.
Молитву отходную вьюги читают
И быстрые реки о смерти поют...

Гэта старая ўзрыдная песня ўзнікала, як стогн, як немінаючы смутак аб расстраляных гадах, аб чорных крывавых днях, там, на далёкіх Карпатах, там, дзе страціў Дзям'ян Чумачонак нагу. І мацней заплюшчваліся вочы, мацней сціскаліся павекі, каб лішні раз не ўбачыць спяваючых галодных дзяцей, зусім не бачыць цёмных кутоў старое хаты, не заўважаць нясмелага дрыготнага аганька саматужнай капцілкі, забыцца на тое, што ў рассохнутым кубле няма ні пылінкі мукі, што сышла жонка. Ён ведае, што гэта пратэст супроць падатку кулаку-бацьку, пратэст супроць галоднага жыцця, што даў ёй Дзям'ян Чумачонак. Яна не верыла больш у ягоны бесклапотны смех і моцныя рукі— дзе там калеку пракарміць сям'ю... „А на Магнітагорску даюць і паек і пенсію"—яна гэтак і сказала. Яна проста ў твар кінула яму свае бабскія крыўды, там, ля Блакітнага камення, дзе сустрэў яе Чумачонак, ідучы са сходу... Праклятая... Песня, ты рвеш з сэрца жаласць—будзь ты праклята...

— Не трэба песень... Хопіць, дзеткі!—Чумачонак страпянуўся і пабалаўному бліснуў цыганскімі вачамі:—А ну-тка, хлопцы, вясёлую Саўка, а ну, грымнем, сукін кот. Валяй, хто каго пераскача, давай, давай...

Саўка, заядлы танцор, балаўным бацькаўскім поглядам паглядзеў на Хведзьку і, заклапочана, рукавом кашулі абцёр нос. Браты любілі бацьку за вясёлы характар. Не прымушаючы прасіць сябе, абодва саскочылі з лаўкі і, стаўшы адзін перад другім, пайшлі падскокваць, як маладыя пеўні, скокамі разахвочваючы адзін аднаго.

— Наддай, гвардзейцы! Саўка, не падкачай! Рана ўпрысядкі, Хведзька! Ах вы, сукіны каты, ах, ах, ах, што-ты, што-ты, што-ты...

Эй, ды растатурыха, ды пасвіла кароў...
Ушчымляла паміж ног казлоў...
Пралажыла я сцяжынку ды праз лёд,
Пралажыла свайму любаму праход...

Чумачонак гулка пляскаў у ладкі. Чумачонак звонка трубіў у кулак і прыстукваў аб падлогу драўлянай нагой. Ах, ах, ах што-ты, што-ты, што-ты, што-ты!.. Але ў самы разгар скокаў раптоўна расчыніліся дзверы і з вузлом пад пахай з'явіўся Кургуз.

— Во, гэта я разумею!.. Ах, маць вашу... у загробнае рыданне... Ну, і Чумакі! Ніякая халера іх не бярэ!

Чумачонак стомлена абапёрся локцямі на стол.

— Ты, кум, забыўся што?

Кургуз ступіў да стала і паклаў вузел.—Бяры, Дзёмка, тут поўпуда. Будзе—аддасі, выскраб рэшткі...

— Родзька... Кум ты мой любы!

— Бяры, бяры, мне баба не загад, яна, ведама, дыбка, але ў мяне не пабалуешся. Што-ж ім здыхаць гвардзейцам, а Саўка-ж—хрэснік... Так... Якраз паўпуда, я зважыў...

— Радзівон Сяргеевіч. Дружа ты мой акопны, Родзя. Дай пацалую цябе, Маўчуна праклятага...

— Ідзі ты, Дзёмка, ведаеш куды? Прыдзе, вядома, і баба,—што-ж зробіш: шчасце нашае, наогул, шурпатае...

— Эх, Родзька, не забудуся я пра гэта, пры дзецях сваіх табе кажу! Гэта-ж ты, ведаеш, скакаць я іх прымусіў, каб хутчэй прытаміліся ды спаць палеглі... А думкі, Родзя, думкі што камені. Ты думаеш, я жартам аддаў Ліфанаву астатнюю муку і дзяцей галодных пакінуў? Думаеш, характар трымаў...

— Добра, кум, я маўчу, я ўсё маўчу, але я ўсё наскрозь разумею. Кажу табе, што жыццё наша скарэлае, так... Трэба шчасце, кум, за горла ўхапіць, за грудзі трэсці, каб душа вон. Ты, тае, зацірку ім разбоўтай. На трэсачках заціpачку звары, ды пасалі гусцей, каб ваду глушылі... Так... Ну што слупамі пасталі? Саўка, Хведзька, памагай бацьку вячэру варыць, сып па дровы!

— Ну, пайду. Ага забыўся: апаражні мех, бо душу выме баба.

Ноч прынесла першыя крыкі пеўня, але людзі, расчуленыя і шчаслівыя, не чулі іх. Што ноч для гарачай светлай радасці? Што час і крыкі пеўняў для чалавечага сэрца? У гэту ноч, у гэту дзівосную майскую ноч кожны па-свойму быў шчаслівы: Карл Краузе—што прыняў канчатковае рашэнне, Чумачонак—што прышла дапамога. Жыццё імчалася, жыццё гнала гулкі час. Праклятае і радаснае жыццё было да берагоў напоўнена запалам.

*З рускай мовы пераклаў Міх. Б.*

Раман Сабаленка

# НА ВЕЧНЫЯ ТЭМЫ

## I. НА ВЯСЕЛЛІ

Танцавалі ў хаце
сцены і столь,
Рагатаў гармонік
галасоў на сто,
Пірагоў пшанічных
поўны стол,
За сталом—галовы чорныя
і русыя.
Госці выпівалі келіхі да дна,
Брыгадзір за свята
на кут сесці мусіў,
Першым тост гарачы
за здароўе ўзняць:
— От-жа, дарагія,
што скажу вам сёння,
Слава маладосці,
слава маладым.
Падарунак гэты
сціплы і фасонны,
Будзе вам, як памяць
праз усе гады!..
Выняў ён фіранкі
белыя, як снег,
Ды паклаў на стол іх
перад маладым:
— Хай-жа расцвітае
радасць на вакне,
Радасць вашай светлай,
вашай лепшай долі.
У старое маці
на вачах слязіны.
Свае дочкі долю
думала аплакаць...
Колісь ішла замуж,
як у дамавіну
У пасаг ад бацькі
брала адзін лапаць!
Па старым звычаю
слёзы тыя самі
Выбеглі міжволі
арасілі вочы,

Як-жа не заплакаць
па долі дзявочай.
Па дачцы, што замуж
ідзе без пасагу.
Дзе ёй, старой, ведаць,
што ў дачкі пасаг той
Больш як за дзве сотні
працадзён гарачых—
Маладосць і дужасць,
што хочаш дасягне,
Закасуе смутак,
гадзіны няўдачы.
Паглядзела маці
на гасцей застолле,
Аж ніхто не плача,
твары радасць весняць.
Пастуціла к горлу
маладая песня,
Заспявала ўголас,
як яшчэ ніколі!
Падхапілі гуртам
тую песню маці
Ды ўзнялі высока
пад ясныя зоры.
Было цесна песні
у праквольнай хаце,
Стала вольна песні
ў шырокім прасторы.
Да стала падносіў
барадаты свёкар,
Падаваў у рукі
маладым пірог:
— Жыць вам, мае дзеткі,
красавацца век вам,
Гора больш не ступіць
цераз наш парог!
У шырокіх далях
заліліся бомы,
Трыумфальнай песняй
маладосць гукала,
Песняю уздымнай,
песняю знаёмай,
Што на полі з намі
разам працавала.

Брагін, снежань 1934 г.

М. Паслядовіч

# ЗАЛАТЫ ГАДЗІННІК

Кожнага дня варочаючыся дахаты, на ўскраіне горада, Мігель Палас спяваў:

> У Саліні залаты гадзіннік,
> У Саліні новы палітон!..

І кожнага дня тоўсты гандляр Саліно Велізэс, счуўшы бесклапотны Мігелеў голас, выскакваў з крамы на вуліцу і раз'ярана крычаў:

— Ты зноў, мышанё, бадзяешся пад маімі вокнамі! Няхай заб'е мяне гром, калі я не адарву твайго паганага языка!

Мігель кідаўся на ўцекі. Яго дзеравяныя сандалі гулка грымелі сярод нізенькіх, з аблупленым тынкам, хатак. З невялікіх цесных двароў зацікаўлена выглядвалі Мігелевы сябры. Яны далучаліся да ўцекача, і, бягучы ўздоўж бруднай, смярдзючай канавы, узнаўлялі многагалосую песню:

> У Саліні залаты гадзіннік,
> У Саліні новы палітон.
> Ну і вялікі-ж дурань ты, Саліні,
> Твая крамка—злодзейскі прытон!

— Няхай пакарае вас святы Домінік!—нема роў гандляр, плюючыся і махаючы кулакамі.—Яшчэ не было на свеце горшых за вас вырадкаў, даруй мне, святая маці Марыя...

Часта ён кідаў у хлапца гнілыя мандарыны. Аднаго разу, прамахнуўшыся, выбіў смярдзючым яйцом шыбіну ў супроцьлеглым доме, дзе жыў сержант Борас. Тады прышоў у краму жандарм і налажыў на гандляра штраф за абразу афіцэра. Дык ва ўсім-жа гэтым вінават Мігель-газетчык! Гэта зусім сапсаванае, парочнае дзіця. Велізэс не такі багаты, каб раскідацца пезетамі з-за якога басяка. У краме залежваюцца, гніюць прадукты. Рабочыя зусім збяднелі, забастоўка яшчэ не дала ім нічога. Ім нават небяспечна даваць у доўг. Цяжкія настаці часы і для крамнікаў.

А тымчасам хлопцы бягуць за лінію чыгункі. Даўгія тупікі застаўлены нагружанымі вугалем вагонамі. Чорны антрацыт бледна мігціць пад ясным астурыйскім сонцам. Далёкія вяршыны гор тонуць у сіняй смузе. Стомленыя, з худымі, пачарнелымі ад вугольнага пылу тварамі маўкліва брыдуць ад шахтаў рабочыя. Яны ледзь перастаўляюць натруджаныя ногі. Густое выццё сірэны азвярэла ўсплёскваецца над іх згорбленымі спінамі. Сонца хаваецца за шэрую хмару, якую прыгнаў з акіяна вецер. Вугаль чарнее яшчэ больш улежваецца пад адхонам маўклвымі суровымі гурбамі.

Мігель спыняецца каля высокай агарожы двухпавярховага дома і працяжна свішча, паклаўшы ў рот два пальцы. Тады расчыняюцца ў доме

дзверы. Круглатвары, з пукатымі савінымі вачмі хлопец сыходзіць з ганка, на якім ляжаць сытыя каменныя львы. Тут жыве гаспадар шахты Крус. Каля зачыненых варот стаіць, паблікваючы сінім лакам, аўтамабіль. Тут заўсёды зачынены вароты. Іх адкрываюць толькі па званку і то гледзячы, хто прышоў.

Мігель садзіць руку ў кішэню. Хлапец з савінымі вачмі падыходзіць па сцежцы, абсажанай ружамі і дзікім вінаградам, да агарожы і дапытліва пазірае на Мігеля і яго сяброў.

— Я прынёс,—кажа Мігель і выварачвае зашмальцаваную брудную кішэню. Кавалак іржавага жалезка вывальваецца на зямлю. Тады Мігель згінаецца і асцярожна бярэ жалезка на рукі. Савіныя вочы хлапца распальваюцца прагнасцю. Ён працягвае пульхныя ружовыя далоні праз рашотку агарожы:

— Давай.

Мігель адскаквае, як бы на яго напаў шалёны сабака. Аднаго разу лупавокі так абмануў яго! Узяў канадскую марку і нічога не даў.

— Не, не! Раней прынясі булку і сыр. Я прадам падкову другому чалавеку.

Мігель фантазіруе. Ён знайшоў падкову ад Напалеонавага бота. Гэтай падкове больш за сто год. Настаўнік Лізаро абяцаў даць за падкову залаты гадзіннік. Але Мігелю патрэбен хлеб і сыр для хворай маці, а не залаты гадзіннік. Мігеляў брат працаваў пад зямлёю ў шахце. Увечары ён прыносіў вугольны пыл і нечалавечую зморанасць. Яму толькі дваццаць два гады, але рэдка калі ўсміхаюцца яго суровыя вусны. З чатырнаццаці год, калі бацьку засыпала зямлей, ён пачаў карміць сям'ю. Нядаўна яго звольнілі з працы. А таго, што зарабляе Мігель, прадаючы газеты, не хапае нават на лекарства. Тыдні са два таму назад хлапец быў адкрыў хлебную крыніцу каля салдацкіх казармаў. Ён,— выдумляў Мігель салдатам,—няшчасны пастух з гор. Вялікі камень сарваўся з вяршыны і забіў карову. Узгневаны гаспадар насцябаў яго плёткай і прагнаў. Бацькі хлапца жывуць у Барселоне, але ён баіцца ісці туды пешша. Грошай-жа на поезд няма. Няма хлеба... Салдаты сабралі яму пяць пезо і некалькі кавалкаў хлеба. Праз два дні ён заявіўся зноў пад казармы. Але нехта з салдат падгледзеў, што ён—тутэйшы, і зусім не з Барселоны. Яго збілі і прыгразілі, каб больш не хадзіў:

— У Іспаніі—многа жабракоў без цябе,—вылаяўся кастлявы, рыжы салдат.—Правальвай, пакуль дышаш!

Увесь час Мігель думаў пра грошы. Ён пільна прыглядаўся, ідучы вуліцай, сабе пад ногі. Можа які багаты сеньор згубіў грошы? Ён, Мігель, купіць тады хворай маці багатую ежу: ён прынясе дахаты сыр і яйкі, купіць малака. Ён справіць сабе камашы і пачне хадзіць у школу. Яму хочацца вучыцца. Ён паедзе пасля ў Савецкі Саюз, пра які гаварыў увечары брат Нікандро. У Совецкім Саюзе,—казаў ён,—усе дзеці вучацца. Дзяржава там клапоціцца пра дзяцей. Ім нават даюць грошы на адзенне, на абутак, на кнігі. Там спяваюць вясёлыя песні. Дзеці там сытыя і не носяць драўлянага абутку. Калі якое дзіця захварэе, яго адпраўляюць на цёплы поўдзень лячыцца. І за гэта плаціць дзяржава!..

Але грошай для Мігеля ніхто не губляў. Багатыя сеньоры былі скупыя. Нават купляючы газеты яны патрабавалі самай дробязнай здачы. Мігель тады надумаўся схадзіць за горад, дзе згружаюць усякае смецце. Можа, хто, забыўшыся, выкінуў якую дарагую рэч. Ён знойдзе і прадасць лупавокаму сыну Круса. Лупавокі любіць збіраць цікавыя, непатрэбныя бедным, рэчы. Ён купляе ўсякія паштовыя маркі, шкелцы розных колераў, марскія ракавіны. Ён любіць нейкага Напалеона. Калі лупавокі гаворыць

пра Напалеона, з яго вуснаў пырскае сліна. Ён сказаў Мігелю:—Напалеон вялікі ваяка. Ён быў заваяваў Іспанію, Італію і Расію. Мець штонебудзь ад яго напамяць, як аб герої—вялікі гонар. Тады Мігель знайшоў іржавае жалезка на сметніку і выдумаў, што гэта падкова з Наполеонавага бота. І ён прынёс цяпер гэта жалезка лупавокаму хлопцу, сам не ведаючы, хто такі Напалеон.

— А можа падкова не Напалеонава?—Наўмысля, каб збіць цану, не паверыў лупавокі.—Ты хлусіш!

— Няхай мяне пакарае святы Домінік,—аж перахрысціўся Мігель,— Настаўнік Лізаро сказаў, што толькі такія падковы Напалеон і насіў. Гэта падкова адарвалася, калі Напалеон зачапіўся абцасам за аўтамабільныя дзверцы...

Лупавокі збянтэжана адступіў.

— Тады-ж не было аўтамабіляў! Людзі ездзілі толькі на конях! Ты неграматны. Ты не ведаеш гісторыі. Ты не ведаеш, што пішуць у газетах, якія ты прадаеш, і крычыш пра тое, што табе скажуць у канторы.

— Няпраўда! Падкова Напалеонава!—горача і пераканана дыхнуў Мігель, з гаркотай думаючы, як нечакана выплывае ежа з-пад яго рук. Выходзячы раніцай з дому, ён абяцаў маці, што прынясе ёй булку. Ён тады хлусіў, каб узнавіць надзею хворай, што ім, газетчыкам, павялічваюць аплату. Ён цяпер нават сам паверыў, што знойдзеная на сметніку жалезка—сапраўды Напалеонава падкова. Мігель глянуў на сваіх шматлікіх абарваных, замурзаных вулічным пылам сяброў і яны залапаталі:

— Падкова Напалеонава!

— Мігелю давалі за яе залаты гадзіннік!

— Хадзем, Мігель! Ён нічога не разбіраецца.

— У яго няма за што купіць.

Твар лупавокага пачарнеў:

— Ёсць!—крыкнуў ён віскліва.—Мой тата можа купіць увесь горад! У майго таты два аўтамабілі.

— А ты не можаш купіць падковы. Хадзем, Мігель!

— Чакайце!—завыў лупавокі, згледзеўшы, як хлопцы павярнулі ад агарожы.—Я зараз.

Ён пабег у дом. Праз хвіліну ён прасоўваў булку і кавалак сыру праз рашотку. Мігель кінуў жалезка на двор і прагна схапіў ежу. І вось ён зноў спявае. Яму падцягваюць яго сябры:

У Саліні залаты гадзіннік,
У Саліні новы палітон...

— песню нявядома кім выдуманую пра хцівага крамніка Велізэса. З гэтай песняй ён падыходзіць дадому. Ён расчыняе трухлявыя дзверы і стыкаецца з крамнікам. Твар апошняга набракае крывёю, вочы круглеюць ад злосці.

— Вашы сыны—большэвікі!—крычыць ён жанчыне, якая зняможана выпрасталася на ложку.—Пазаўчора Мігель спяваў Інтэрнацыянал. Што вы скажаце?

Маці, стогнучы, прыўзнімаецца на ложку. Яе худыя маршчакаватыя рукі камечаць палапленую коўдру. У хаце ніколі не высыхае вільгаць. Жанчына дрыжыць. Жоўты як воск твар калоціцца ад кашлю. Яна рэдка калі выходзіць на вуліцу. Доктар сказаў, што хвароба абвастраецца ад недаедку. Доктар параіў ёй есці лепшае.

— Сеньор Саліні,—хрыпіць жанчына.—Вы пачакайце з тыдзень. Рабочыя патрабуюць прыбаўкі... Нам павінны яе даць... Не можам мы вечна галадаць...

Велізэс аглушальна рагоча.

— Я хацеў-бы, каб мне аддалі ўсе крамы Мадрыда! Я падам на вас у суд. Святая багамаці, яны думаюць, што нейкі дурань выкіне ім з сваёй кішэні свае грошы. Гэта—выдумка комуністаў. З таго часу, як завяліся комуністы, няма на свеце спакою. Скажыце, дзе ходзіць ўначы ваш старэйшы сын?

— Ён шукае работы... Яго яшчэ да забастоўкі зволілі з шахты.

— Уначы шукаюць работы толькі злыдні!.. Дык якой вы яшчэ чакаеце прыбаўкі? Цікава, за што зволілі Нікандро?

— Сказалі, што няма работы.

— Вы хлусіце! Яго зволілі за большэвіцкую агітацыю. Ён хоча і падбівае другіх адабраць ад чэсных людзей шахты і крамы. Ваш сын—нягоднік... Вы кажаце, што няма ні капейкі грошай. Як-жа тады гэтае мышанё дастала булку і сыр? Ці не маскоўскія тут грошы?

— Мігель нічога не ведае пра большэвікоў,—нэрвова камечачы коўдру, кажа жанчына.—Мігелю толькі трынаццаць год... Ён яшчэ дзіця.

— З гэтага дзіцяці выйдзе вялікі прахвост! Ён ужо цяпер не дае мне спакою...

Мігель выбягае на двор. Ён наўмысля не зачыняе дзвярэй. Ён на ўвесь голас выкрыквае песню. Ён гарэзліва свішча і грукае па ганку дзеравянымі падэшвамі. Толькі такім парадкам ён выцягне з хаты ненавіснага крамніка. З праклёнам той выскаквае на вуліцу. Мігель у час пералазіць цераз цагляную сцяну на суседні двор.

Мігеляў брат прыходзіць дахаты ўначы, часта са сваімі сябрамі. Тады завешваюцца вокны ў пакоі. Людзі садзяцца вакол пакрыўленага стала. Яны дастаюць з-за пазухі, з кішэняў нейкія кніжкі, лісткі, нешта абгаварваюць, пішуць. Часта чуе Мігель праказанае з пашанай слова:

— Ленін.

Ён услухоўваецца. Яны гавораць пра соцыялізм, Советы, рэволюцыю, пра далёкую вялікую краіну, якой кіруе Сталін. Вялікія словы і імёны ўспыхваюць у змрочным пакоі, як электрычныя іскры. Мігель саскаквае з ложка, каб падыйсці да стала, але брат кідае:

— Спі, спі! Табе яшчэ рана ведаць.

— Ты знайшоў работу, Нікандро?—пытаецца трывожна маці.

— Знайшоў, мама... У нас многа будзе работы.

— Прыходзіў Велізэс. Патрабуе, каб аддалі грошы.

— Хутка мы самі пойдзем да яго з патрабаваннем.

— Што ты кажаш, Нікандро?

— Мы распачынаем рэволюцыю. Далей цярпець нельга...

Мігелева галава цяжэе. Але чаму такія ясныя ў галаве мыслі? Вось ён выбягае на залітую сонцам вуліцу. Але чаму ў руках газеты? Хіба тут кантора рэдакцыі?.. Вясёлыя шахцёры варочаюцца дахаты. Яны ажыўлена гавораць між сабою. Мігелеў бацька нечага размахвае рукамі. Яго доўгія вусы варушацца ад ветру. Але чаму вусы такія белыя? Учора былі чорныя, а сёння як снег? Бацька бярэ Мігеля на рукі і ўзнімае высока над галавою. У бацькі такая добрая і глыбокая ўсмешка. Ён гладзіць сына па кучаравай галаве. Ён гаворыць, каб Мігель ішоў у свой дом. Ён паказвае рукою за лінію чыгункі, дзе спяць на ганку каменныя львы. У тым доме Мігеля чакаюць сябры, якія дапамагалі вырваць кавалак хлеба ад лупавокага. Дзіўна, дом з каменнымі львамі—іх дом!

— Тата,—пытае Мігель.—Дзе ты быў так доўга?

— Пад зямлёй, сынок. Мы капалі вугаль, каб цёпла было ў нашых хатах, каб грымелі па рэйках нашы паравозы, гудзелі фабрыкі. Ідзі, сынок, ў свой клуб...

Раптам зямля страшэнна ўздрыгвае і правальваецца. Мігеляў бацька знікае ў чорнай прорве. Мігель ускрыквае і, заплюшчыўшы вочы, кідаецца ў бок. Халодны пот сцякае па яго твары. Ён бяжыць і чуе, як недзе глыбока пад зямлёю глуха грукае яго бацька. Ён чуе яго далёкі голас: «Мігель, Мігель, адчыні дзверы!..»

Мігель расплюшчвае павекі. Гэта толькі сон!.. Ад бледнага святла лямпы застылі на вільготных сценах густыя цені. Мігель глядзіць на ложак, дзе некалі спаў бацька. Бацькі няма. Ён ніколі не вернецца!.. Тады над Овіедо плавалі азызлыя туманы. Вецер імкліва гнаў па небе спалоханыя чароды хмар з акіяну. Цярушыў халодны калючы дождж. Бацьку прынеслі на насілках дахаты. Чацвера замазаных вугалем і гразёю шахцёраў панура знялі шапкі. Бацька ляжаў на насілках маўклівы і строгі. Рукі яго былі пакарэжаны. Раптам Мігель дзіка закрычаў і рынуўся ў кут пакою. Ён схаваўся за высокую скрынку і заплюшчыў вочы, але нават праз павекі бачыў: парваную на грудзях спецоўку, праз дзірку ў адзенні павольна сачылася на падлогу кроў, шмаццё мяса выпучвалася ўгару...

— Гэта яго парвалі рыдлёўкамі, калі адкапвалі...—сказаў нехта.—Шкада сірат...

Тады паласнуў пякучы, як агонь голас:

— Гэта вінават Крус! Мы папярэджвалі, мы патрабавалі, каб былі ўмацаваны шахты. Тады-б не здарылася абвалу. Гаспадары пашкадавалі грошай. Ім не шкода толькі нашае крыві!

— Мігель! Адчыні дзверы! Да нас грукаюць,—чуе хлапец голас хворай маці.

За-аконную цемру страсянулі гулкія стрэлы. Шыба зазвінела працяжна і трывожна.

— Таварыш Нікандро! Выходзь на вуліцу!—чуе Мігель за вакном настойлівыя галасы.—Глядзіце, глядзіце, яны страляюць у мірных грамадзян!

Мігель дрыглівымі пальцамі намацвае запору дзвярэй. У рэдкім світанні раніцы ён бачыць перад дзвярмі ўзброеных вінтоўкамі людзей, чуе знаёмы голас наборшчыка Веразаса:

— Дзе Нікандро?

— Ён пайшоў яшчэ ўначы. Іх было тут многа...

Тады адзін крыкнуў здагадліва:

— Яны пашлі браць арсенал! За мной, таварышы!

Мігель выбягае следам за імі на вуліцу. Спакойная ўскраіна ажыла і бурна заварушылася людзьмі. Чуўся ляскат зброі, лаянка і ўзрушаная гаворка.

— Адабраць шахты! Выгнаць драпежнікаў у горы!

— Зямлю ад памешчыкаў адабраць!

— Мы не скаціна, каб з нас здзеквацца! Мы не хочам быць жабракамі!

Каля Велізэсавай крамкі натоўп гусцеў. Тут прыпыняліся ўсе, хто выбягаў з двароў і завулкаў. І тады Мігель радасна затрапятаў. Ён угледзеў на ганку крамы невыразную постаць Нікандро. Нехта крыкнуў:

— Трэба запаліць ліхтары. Відней будзе ісці.

Нікандро замахаў рукою.

— Не трэба. Мы тады выкрыем салдатам нашы дарогі. Хутка зусім развіднее. Ці ва ўсіх зброя?

— Не! Дзе яна? Хутчэй!

Мігель прашыўся праз натоўп да брата. Ён узлез на ганак і стаў побач з ім.

— Таварышы!.. Таварышы шахцёры, рабочыя чыгункі, заводаў! Настаў час заваяваць свабоду...

Мігель стараўся ўзняцца на цыпках, каб быць такім дарослым, як і брат. Што ён гаворыць? Мігель ніколі не чуў, каб Нікандро так моцна крычаў дома. Дома ён неяк нават асцерагаўся Мігеля. Можа баяўся, што ў Мігеля зялёны розум і ён выдасць. Дзе Нікандро навучыўся таму, чаго не ведаў замучаны бацька? Нехта чыркнуў запалкай, запальваючы папяросу, і Мігель згледзеў калючую ўпартасць безлічы вачэй.

— Мы павінны выгнаць з Овіедо і ўсёй Астурыі ўрадавае войска, выгнаць эксплаататараў... Астурыя паўстала... Мы захапілі сёння арсенал, дзе складзена зброя. Усе, хто можа насіць зброю, павінен змагацца за Советы!..

І тады з глыбіні натоўпа ўспыхнуў яркі, як раптоўны сонечны прамень у цёмным сутарэнні, голас:

**— Паўстань, з'яднаны сілай грознай,**
**сусвет галодных і рабоў...**

Натоўп выстрайваўся ў калону. Нікандро саскочыў з ганку і пабег наперад. Мігель толькі на мгненне згледзеў даўгую рулю яго вінтоўкі. Потым усё змяшалася. Яму здавалася, што кожны з вінтоўкай—гэта яго брат Нікандро. Спакойная да гэтага часу вуліца ўжо гудзе ад іх магутнай хады. Ненавісць да багацеяў грыміць кожным каменем бруку, шугае ўгару распаленымі словамі песні. Ускраіна паўстала. Ускраіна крочыць на палацы і замкі, на драпежнікаў, якія смакталі чужую кроў.

Мігель ведае цяпер, што рабіць і як размаўляць з лупавокім! Ён, як развіднее, падыйдзе да палаца. Ён свісне два разы. Лупавокі падумае, што Мігель прынёс нешта цікавае. Мігель выманіць багатага хлапца за агарожу, на вуліцу і тады добра яго наб'е. Мігель помніць старую крыўду: калі хавалі яго бацьку і доўгая працэсія рабочых, нясучы дваццаць дзве труны адкапаных з-пад зямлі ў шахце, каб зноў засыпаць зямлёй на магілках, параўнялася з палацам—лупавокі раптам зарагатаў. Ён сядзеў тады верхам на агарожы і з цікавасцю, часта міргаючы ружовымі павекамі, глядзеў на маўклівых, прыціснутых горам мацерак і дзяцей. Дык Мігель цяпер успомніць лупавокаму тую вялікую крыўду! Ён, Мігель, выцягне з-пад ложка бацькаў шахцёрскі малаток і разаб'е каменем галовы сытым львам, якія вартуюць спакой палаца. Ён насмяецца з лупавокага фашыста. Тое іржавае жалеза зусім не Напалеонава падкова. Мігелю цяпер напляваць на Напалеона і яго прыхільнікаў! І морскія, пашчэрбленыя ракавіны Мігель зусім не скрадаў з музея. Ён проста знайшоў іх на сметніку. Вось табе, сава! Мігель яшчэ пойдзе ў Велізэсаву крамку і выбярэ там найсмачнейшыя стравы. Ён прынясе іх маці і скажа:

— Еш, мама! Гэта заваёвана шахцёрамі Астурыі!

Сёння няма чаго ісці ў друкарню газеты. Сёння вялікі дзень для Мігеля. Ён будзе хадзіць па гораду і глядзець, як стойваюцца па сваіх норах крамнікі і багацеі. Мігель бяжыць дахаты і расказвае маці, што бачыў. Потым зноў нецярпліва выскаквае на вуліцу.

Страляніна ў цэнтры горада не змаўкае. Нехта высыпае жалезны боб на тонкую бляху дахаў. Гэта кулямётныя стрэлы. З-за далёкіх гор настарожана выглядвае вялізная сонечная галава. Яна ўзнімаецца над туманамі і белымі воблакамі. Белая стальная птушка ўзраўлася над горадам. Яна, як той каршун, кружыць над ускраінамі, кідаецца каменем на арсенал і раптам зноў ускручваецца ўгару. Вялізны слуп агню і дыма

ўзлятае над пустэчай каля сховішча зброі. Знізу пачынаюць абстрэл. Самалёт узвінчваецца ў сіняе неба і знікае з пагляду.

Не, Мігель не можа заставацца тут! Яму хочацца быць там, дзе страляніна. Цікава, што робіцца ў друкарні? А праз поўгадзіны ён ужо крычыць, размахваючы свежым лістом газеты, якую выдаў стары наборшчык Вэразас.

— Няхай жывуць Советы Астурыі! Фабрыкі і шахты—рабочым! Зямля сялянам! Няма больш на нашай шыі эксплаататараў!

Кулі свішчуць над яго галавой. Бяжыць боязна аглядваючыся, прыгінаючы галаву, даўгі хударлявы жандарм. Мігель крычыць яму ўслед:

— Здохлая гадзіна! Здохлая гадзіна!

Мігель варочаецца дахаты позна ўначы. Ён прыносіць выдадзены ў друкарні белы хлеб і сыр. Ён сказаў:

— Рабочыя ўзялі ўсе прадукты ў крамах без грошай. Я сам прывёў чырвонагвардзейцаў у Велізэсаву крамку. Ён мяне ледзь не задушыў за гэта... Еш, мама! Гэта заваяваў Нікандро. Ён цяпер камандзірам чырвонагвардзейскага атрада. У яго многа патронаў і даўгая вінтоўка. Цяпер у нас кожны дзень будзе хлеб і сыр. У горадзе—чырвоныя сцягі.

Ужо трэці дзень не змаўкае страляніна за горадам. Небачны шкляр часта праводзіць па звонкім сінім небе вялікім шорсткім алмазам. Мігель ведае: гэта ляціць знарад. Урадавыя войскі абстрэльваюць горад знарадамі. Урад даў бязлітасны загад: задушыць рэволюцыю, арыштаваць і расстраляць комуністаў.

Мігель зусім забыўся пра лупавокага. Што дзень ён бегаў з газетамі і лістоўкамі. Ён пранікаў на лінію агня. Закураныя парахавым дымам, аблітыя потам, радасна сустракалі яго чырвонагвардзейцы.

— Як жывеш, верабей?

— Чый гэта хлапец?

— Паласаў сын. Мігель Палас. Брат комуніста Нікандро.

— Падыйдзі сюды, верабей! Ты ведаеш старога Гвіно з вуліцы Кука?

— Ведаю.

— Перакажы, што яго сын здароў, як леў. Перадай маёй сям'і гэты пакунак з ежай. Адлятай, верабей. Хутка тут крыллі абсмаліш.

Калі страляніна з варожага боку змаўкала, Мігель прыглядаўся да вінтовак і кулямёта. Ён распытваў, глядзеў, як закладваюцца патроны і як трэба мерыцца. Кемлівае вока хлопца заўважала ўсе рухі стральцоў.

Варожае колца замыкалася вакол свабоднага горада. Дваццацітысячная армія, узброеная танкамі, самалётамі, гарматамі, задушыла паўстанне ў меншых паселішчах і цяпер падышла расправіцца з цэнтрам рэволюцыі. Здраднікі з профсаюзаў закрычалі, што дарэмна ўзнята паўстанне. Не трэба было брацца за зброю. Яшчэ не наспеў час рэволюцыі ў Астурыі. Яны, профсаюзныя чыноўнікі, знімаюць з сябе адказнасць за вынікі паўстання. Трэба было баставаць мірна, і чакаць, пакуль узнімецца Мадрыд, уся Іспанія. Рабочыя не паслухаліся профсаюзных правадыроў, дык няхай цяпер скардзяцца на сябе...

— Чуў, сокол, што спяваюць гэтыя канарэйкі?—казаў раніцаю Мігелю стары наборшчык.—Яны пішчаць, каб мы здаваліся і па-ранейшаму здыхалі з голаду. Яны ўжо завілялі хвосцікам перад золатам. Ты ведаеш, што азначаюць такія пагалоскі ў гэты вялікі час? Крычы: Ганьба профсаюзным здраднікам, комуністы сапраўдныя кіраўнікі рэволюцыі. Астурыйскія гарнякі не здаюцца! Шкада, што ты, сокол, неграматны. Усё табе трэба расказваць.

Трэці дзень не бачыў Мігель Нікандро. Той лятаў па ўсяму гораду.

У атрадзе Мігелю сказалі, што Нікандро паехаў за патронамі ў арсенал. Мігель кінуўся туды. Там адказалі: Нікандро нагрузіў машыну патронамі, адправіў яе на барыкады, а сам пайшоў у камітэт абароны Овіедо. «Я знайду яго. Я скажу, маці прасіла, каб зайшоў дахаты сказаць хоць слова. Апошнія дні маці кашляе крывёю, набліжаўся няўхільны канец...»

Мігель ішоў па галоўнай вуліцы і думаў пра маці. Яна адзінока вылежвае цэлыя дні ў змрочным вільготным пакоі. Кожны раз, як прыходзіць Мігель дахаты, маці пытае, ці на многа адагналі салдат ад горада, ці прышла ў Овіеда дапамога з дальніх шахтаў. Яна пыталася і ўчора, але Мігель не сказаў, сам не ведаючы чаму, што горад абкружаны, спыніўся падвоз прадуктаў з суседніх вёсак. Зносіны з бліжэйшымі гарадамі перарваны. Рэволюцыянеры Овіедо ўжо не ведалі, што робіцца ў Іспаніі. З усіх бакоў яны бачаць толькі густы і халодны бляск штыхоў урадавага войска.

І раптам на галоўнай вуліцы ён стыкнуўся з маці. Нейкім нервовым, таропкім крокам яна ішла разам з другімі жанчынамі. У кашолках яны неслі вату і паркаль, бутэлькі з ёдам, для перавязкі раненых.

Мігель спыніўся і закрычаў ад такой нечаканасці. Маці абярнулася. Пасталі і жанчыны.

— Мігель...

Маці не дагаварыла. Зямля цяжка скаланулася над нагамі хлапца. Паветра загрымела і таўханула Мігеля пругкім націскам да сцяны. Востра бліснулі на сонцы шкляныя іскры шыбаў, мільгануў, знікаючы за высокім домам, срабрысты хвост самалёта. Чорны пыл змешаны з дымам, ляніва гойдаўся над вывернутай ямай, каля якое заснуў з раскінутымі ў бакі пастромкамі аднавухі асёл. Паганяты, светлавалосы хлопчык, быў выкінут з двухколкі і цяпер ніцма, як-бы ўслухваючыся, што робіцца пад зямлею, ляжаў на бруку. Ярка-чырвоная лужына расплывалася вакол яго светлавалосай галавы. Мігель задрыжэў і заенчыў:

— Гэта Антоніо!.. Вэразасаў сын... Ён падвозіў паперу ў друкарню...

Чый гэта голас? «Чаму ты, Мігель, не сказаў, што абкружаны горад увесь вышаў на фронт?» Маці не ўлежаць на ложку, калі параненыя дзеці недзе сцякаюць крывёю. Яна зусім ачуняла і цяпер падгаварыла суседак ісці дапамагаць паўстанцам. Мігель стаміўся. Яму трэба адпачыць... Ідзі, хлопчык, дахаты. Я хутка вярнуся...»

Усё гэта Мігель чуе, як праз сон. Шорсткія алмазы пісажаць па сінім цвярдым небе, узлятае з саду невялікае мандарынавае дрэўца і завісае на даху двухпавярховага дома. Выбітыя з вокан шыбы працяжна звіняць у паветры. Востры даўгі аскепак шкла ўедаецца ў Мігелеву руку. Мігель падскаквае ад болю. Ён аглядваецца. На вуліцы пуста. Толькі адзін Антоніо ўсё яшчэ ўслухоўваецца як гудзе і стогне зямля. Кроў пад ім хвалюецца і дыша... Жанчыны саступаюць з тратуара і схіляюцца над забітым. Мігелева маці асцярожна паварочвае галаву хлапца тварам дагары. І раптам неяк страшна ўзмахвае жоўтымі, як воск, рукамі і валіцца ў лужыну крыві...

... а ўвечары, калі змрок ахутаў зямлю, урадавыя войскі пачалі займаць Овіедо. Ужо была захоплена паўднёвая ўскраіна. На цэнтральнай вуліцы ўспыхнуў пажар ад знарадаў. Нізкія чорныя хмары ўзгарэліся над горадам крывавым водблiскам. Вуліцы грымелі стрэламі і праклёнамі. З гор біў халодны вецер.

Вялікае зарава аблівала брук і дамы трапяткой чырвонай фарбай. Пасярод вуліцы валяліся забітыя, стагналі параненыя, сударгава грабучы рукамі па каменні. Побач былі пакіданы вінтоўкі, патроны, скрынкі гранат. Адстрэльваючыся, адступалі паўстанцы. Вось яны ўжо мінаюць камітэт абароны. Вялікі чырвоны сцяг прызыўна ўсплёскваецца і палош-

чыцца буйным ветрам над домам. Неухільна паўзе па вуліцы танк. За ім прынікаючы да сцен, падкрадваюцца да паўстанцаў салдаты. Апошні чырвонагвардзеец падцягвае кулямёт да вывернутай самалётам гурбы і б'е па танку. Салдаты кідаюцца на зямлю. Танк спыняецца.

Мігель непарушна сядзіць каля забітае маці. Кулі свішчуць над яго галавою, сыплецца з акон вытрушчанае шкло. Маці трэба перанесці куды-небудзь на двор, у хату. Яе раздушыць сталёвае страшыдла. Ён аглядваецца на кулямётчыка. Ён скажа, што Мігель—брат Нікандро, камандзіра. Забітая жанчына—іх маці. Кулямётчык дапаможа перанесці цела вось у гэты, што насупроць, двор... Там ужо нехта прыязна расчыняе фортку...

Мігель аж прысеў ад страху. Яму, які забыўся ад гора на тое, што робіцца вакол, здалося: руля вінтоўкі выторкваецца з-за форткі і мерыцца на яго. У тлуме і грукаце бою ён не чуе стрэлу з выстаўленай вінтоўкі. Ён бачыць толькі вузенькі даўгі сноп агня. І тады-ж кулямёт змаўкае. Радасныя воклічы чуваць з боку салдат. Яны ўзнімаюцца з боку і выскакваюць наперад танка. Тады з-пад варот выпаўзае тоўсты чалавек. Ён кідае вінтоўку і паварачвае кулямёт у бок паўстанцаў:

— Памажы, святая маці Марыя!

І тады ўся кроў зашумела ў жылах Мігеля. Павольна і ўпэўнена абмацаў ён шурпаты камень. Крамнік нічога не заўважыў, заняты закладваннем новай істужкі патронаў. Рабіў ён гэта ліхаманкава, бы апасаючыся, што паўстанцы паспеюць схавацца і нікога з іх не ўдасца забіць. Мігель узняў камень і з усяе сілы ўдарыў па Велізэсавай галаве...

... Кулямёт загрымеў зноў. Збянтэжаныя салдаты анямелі на момант, потым, збіваючы адзін аднаго з ног, рынуліся назад. Афіцэр, узлаваны такімі незразумелымі паводзінамі кулямёта, які біў раней па танку, потым па сваіх, паўстанцах, і, нарэшце, зноў па салдатах,—загадаў зрабіць абыход другой вуліцай. Калі праз поўгадзіны салдаты асцярожна наблізіліся да гурбы—там ужо нікога жывога не было. На асветленай пажарам гурбе ляжаў уверх тварам, ашчэрыўшы жоўтыя зубы, гандляр. Залаты ланцужок гадзінніка пабліскваў на яго жываце цмяна і незразумела...

---

Вятры дзьмулі з гор усю ноч. Усю ноч ішлі, адступаючы ў горы, паўстанцы Овіедо. У цемені да іх далучаліся атрады суседніх паселішчаў і гарадоў. Яны неслі з сабою вінтоўкі, патроны, кулямёты. Сіла ўзрастала. Цемра кіпела гневам, грымела галасамі ненавісці. Горнае рэха разносіла па далінах людскія галасы і цвярды тупат ног, як громавы заклік да яднання сілы для новага пераможнага націску. Пякучы сівер біў людзям у твар, але яны ішлі і ішлі яму насустрач.

Раніцаю, калі атрад, выставіўшы вартавых, спыніўся ў лагчыне, двох чалавек—адзін высокі, суровы мужчына, а другі юнак, яшчэ дзіця,—адлучыліся і пачалі ўзбірацца на гару. Рукі хлапца пасінелі ад холаду, пальцы пазбіваліся аб мерзлую зямлю і каменне. Але ён упарта карабкаўся за дарослым, часамі нават абганяючы яго. Дарослы кідаў на хлапца заклапочаны, цёплы позірк і гаварыў:

— Ты стомішся, Мігель. Хіба адпачні тут у зацішку, а я адзін дайду да вяршыны і прасачу, дзе паварачваюцца салдаты. І карабіна табе не трэба было цягнуць сюды на гару.

— Не! Хіба я такі слабы, Нікандро?—адказваў хлопец і ўпарта лез за братам.

На самай вяршыне яны спыніліся. Вецер тут аж гудзеў, бязлітасна б'ючы ў твар, азвярэла выючы ў шчылінах скал. Грымела, скочваючыся ў ніз, каменне. Сурова шарэў першы цяжкі іней. Мігель, забыўшыся на

стужу і вецер, якія прагна лізалі яго гарачы твар, бачыў толькі адно: паўставаў з туману, далёка ўнізе, горад, вырысоўваліся вуліцы, дамы, чыгуначны вакзал, шахты на поўдні. Недзе там цяпер гаспадарацьафіцэры і салдаты, гандляры і ўласнікі шахтаў. Лупавокі зноў будзе насміхацца з непісьменнасці такіх, як Мігель. Яму цяпер недзе цёпла ў доме. Ён можа яшчэ спіць на мяккіх пярынах... І недзе на вуліцы, на вільготным ад крыві і начнога туману бруку, каля вывернутай узрывам зямлі валяецца здрантвелы труп...

Мігель раптам часта заміргаў сухімі, распаленымі павекамі. Губы яго заварушыліся і задрыжэлі. Сінія пальцы моцна ўпіліся ў ложу карабіна.

— Мы яшчэ вернемся!—пачуў ён, суладны са сваімі думкамі, глухі братаў голас.—Тады дорага будзе каштаваць вам наша сёнешняе паражэнне...

— Мы вернемся!—цвёрда праказаў следам за Нікандро Мігель.

Вецер падхапіў іх словы і, зазвінеўшы інеем, рвануўся з гор на раўніны Астурыі.

Сакавік, 1935 г.

А. Буза

## СУСТРЭЧА

Гэты ранак радасны і дужы
Лёг на горад сонцам, сінявой.
Мы сустрэліся з табою, дружа,
На Смаленскай вуліцы крывой.

Між дамоў гуляе цёплы вецер,
Ліпне к твару мятлікамі снег.
Нечаканая з табой сустрэча
Напаўняе радасцю мяне.

Я прыпомніў нашае дзяцінства—
Дарагую сэрцу маладосць,
Калі мы за вёскай на гасцінцы
Ў перагонкі бегалі з табой.

На начлезе пад купатым клёнам
Раскладалі вечарам агні.
А цяпер—у арміі Чырвонай
Мы праводзім за вучобай дні.

У цябе зялёныя пятліцы,
Пры баку у кабуры наган.
Ты вартуеш нашыя граніцы
Ад нападу азвярэлых банд.

Пры гарачым сонцы і пры зорах
Мы гатовы выступіць у бой,
Бо мы знаем, што не дрэмле вораг—
На радзіму шчэрыцца вайной.

Калі смерць успыхне бліскавіцай,
Заплывуць крывёй гарачай дні,
Да цябе прыеду на граніцу
На кані краіну бараніць.

У баёх мы пераможам, дружа,
Сцяг чырвоны абвіе сусвет.
Будзе ранак радасным і дужым
Буду рады зноў цябе сустрэць!

Сакавік, 1935 г.

Васіль Леанідаў

# ПАГРАНІЧНІК

У цішыню прастор закован...
Ноч... Нямая глуш...
Дзеліць свет на дзве паловы
Пагранічны слуп.

Нікнуць цені за ракою,
У туман, як шпік...
Толькі ціхаю хадою
Ходзіць вартаўнік.

Вее шорахам трывожным
Ночкаю такой.
Прытаіўся стан варожы
За Амур—ракой.

... Цень мільгнуў ў цішы гранітнай,
Зашуршэў пясок,
І чырвоны пагранічнік
Прыпыняе крок.

... Ціха, ціха... Толькі вее
Шорахам з далін.
І прынік белагвардзеец
Да сырой зямлі.

Ён крадзецца лютым воўкам
За нямы бугор, —
Руля бліснула вінтоўкі,
Кашлянуў затвор.

Сцеражыся, гіцаль белы,
Крывапійца,
— Стой!..

... Пагранічнік трапным стрэлам
Абудзіў прастор.
Пракаціўся стрэл і змоўкнуў
У глыбі лясоў.

Вораг выпусціў вінтоўку
На сыры пясок.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... За далёкаю гарою
Смуглы месяц знік.
Толькі ціхаю хадою
Ходзіць вартаўнік.

М. Гвздоў

## ШЧЫРАСЦЬ

Ціха і ласкава
з цёплай спагадай—
бачыш?—
У вокны заглядвае вечар.
Я не хаваю вялікую радасць—
радасць ад нашай сяброўскай сустрэчы

Ты маладая
і я малады.
Многа агня ў нашай полымнай шчырасці.
Часта не згодзен з табою я.
Тады—
сёння пасварымся—
заўтра—памірымся...

Дай мне руку.
Пагдядзім хто мацней.
Я фізкультурнік
і ты фізкультурніца.
Помніш?—
аднойчы хвалілася мне
быццам ты брала рэкорды ў спаборніцтвах.

Дай наглядзецца ў вачэй тваіх неба.
Дай дакрануцца да кволасці вуснаў.
Ты, дарагая, злуешся?
Не трэба.
Я не люблю, калі позірк твой хлусіць.

Ты маладая,
і я малады.
Як-жа стрымаць маладосці задзірыстасць?
Ты, вось, не згодна са мной?
Што-ж! Тады—
будзем сварыцца
А потым... памірымся.

Менск, 1934 г.

Л. Бэндэ

# АБ ЛІТАРАТУРЫ XIX ВЕКА

### Артыкул другі

## ВІНЦЭНТ ДУНІН-МАРЦЫНКЕВІЧ

(1807—1884)

Пладавіты беларускі памешчыцкі пісьменнік рэакцыянер Вінцэнт Дунін-Марцынкевіч нарадзіўся ў Фальварку Панюшкевічы Бабруйскага павету. Бацька яго належаў да шляхты, але ўласнай зямлі не меў. Ён арандаваў фальваркі, памешчыцкія землі. Аб арандатарах таго часу Ігнатовіч у сваёй кнізе «Помещицкие крестьяне накануне освобождения» піша: «Арандатар меў толькі адну мэту—атрымаць найбольшы барыш, а складаная, заблытаная, сістэма паншчыны дапамагала яму ў дасягненні гэтай мэты. Думаючы толькі аб барышы і выціскаючы яго з сялян, арандатар даводзіў «рабочую сілу сялян да крайнага напружання» (стар. 222).

Пасля сканчэння Бабруйскай сярэдняй школы ў 1824 г. дзядзька Дуніна-Марцынкевіча—ксёндз С. Богуш-Сестранцэвіч—аддаў яго вучыцца да ксяндзоў-базыльянцаў у Вільню. Адтуль Марцынкевіч пераехаў у Пецярбург і паступіў на медычны факультэт, але не скончыў яго і вярнуўся дадому. З 1827 г. Дунін-Марцынкевіч пачаў служыць у Менскай духоўнай каталіцкай кансісторыі, а з 1829 г. стаў, апрача таго, членам Менскіх гранічных судоў. У 1832 г. перайшоў на службу ў канцэлярыю Менскай крымінальнай палаты. Праз два гады зноў вярнуўся ў кансісторыю і працаваў у ёй да 1839 г. У 1840 г. купіў сабе пад Менскам маёнтак «Люцынку» і адначасова працаваў пры шляхэцкай дэпутацыі.

З-пад пяра Дуніна-Марцынкевіча вышла адносна вялікая колькасць мастацкіх твораў. Нам вядомы яго: камедыя-опера «Сялянка» (1845 г.); аповесць у вершах «Гапон» (1855 г.), «Вечарніцы» (1855 г.), «Шчараўскія дажынкі» (1855 г.), «Купалле» (1856 г.), «Віншаванне войта Наума» (1854 г.), «Хвілімон на каранацыі» (1856 г.), «Травіца брат-сястрыца», камедыі «Пінская шляхта» (1866 г.), «Залёты» (1870 г.) і рад вершаў.

Біяграфія Дуніна-Марцынкевіча сведчыць, што па сваім становішчы ён належаў да эксплаатацтарскага класа, сам з'яўляўся ўласнікам купленага ім маёнтка з сялянамі.

Вядома, класавы характар творчасці пісьменніка вызначаецца не толькі яго паходжаннем. Аднак, для правільнай ацэнкі творчасці пісьменніка мы не можам ігнараваць яго паходжанне, яго біяграфію. Кожны пісьменнік у сваёй творчасці выражае ідэалогію пэўнага класа, з'яўляецца прадстаўніком і абаронцам інтарэсаў пэўнага класа, рэалізуе ў сваёй творчасці пэў-

ныя класавыя ідэі. Таму каб правільна ацаніць класавы характар таго або іншага пісьменніка трэба мець на ўвазе месца і ролю ў класавай барацьбе таго класа, чыю ідэалогію выражае даны пісьменнік, трэба вызначыць ролю яго творчасці ў класавай барацьбе ў гістарычна-канкрэтнай абстаноўцы.

Сваю літаратурную дзейнасць Дунін-Марцынкевіч распачаў у час, калі пад напорам растучага капіталізма распадаліся старыя формы прыгоннай гаспадаркі, калі на змену прыгонніцтву ішоў капіталістычны спосаб вытворчасці, калі з кожным дзесяцігоддзем перад рэформай 1861 г. узрастаў сялянскі рух. Найбольш актыўны перыяд у творчасці Дуніна-Марцынкевіча прыпадае на апошняе дзесяцігоддзе непасрэдна перад рэформай 1861 г. Пасля рэформы Дунін-Марцынкевіч таксама напісаў, яшчэ некалькі твораў, але сфарміраваўся Дунін-Марцынкевіч як пісьменнік у перадрэформенныя часы. Яго творчасць, як перадрэформенная так і пасляраэформенная, прасякнута ідэямі рэакцыйных памешчыкаў прыгоннікаў, з іх пазіцый ён успрыймае свет і адлюстроўвае ў сваіх творах акаляючую рэчаіснасць.

Характэрным для прыгонніцтва з'яўляецца «Асноўны падзел грамадства—прыгоннік памешчык і прыгонныя сяляне» **(Ленін).** Барацьба паміж гэтымі двума класамі характарызуе феадальную эпоху, эпоху прыгонніцтва. Напярэдадні рэформы 1861 г. барацьба паміж гэтымі класамі набывала асабліва востры характар і пагражала пануючым класам. Феадалы памешчыкі-прыгоннікі, асабліва іх ідэолагі, адчувалі ўсю сур'ёзнасць гэтай барацьбы, адчувалі магчымыя вынікі яе. Адсюль усе сродкі пануючай дзяржаўнай машыны былі накіраваны супроць сялянскай рэволюцыі, супроць рэволюцыйных мысляй, якія «не маглі не брадзіць у галавах прыгонных сялян» **(Ленін).**

Мы ведаем, што мастацкая літаратура не з'яўляецца простым пасіўным бесстаронні адлюстраваннем рэчаіснасці. Літаратура з'ява класавая, актыўная зброя ў руках класа ў яго барацьбе з другімі класамі. Сваімі сродкамі—вобразамі, ідэямі, якія выяўлены ў вобразах, яна ўплывае на чалавека, на яго пачуцці і свядомасць, на яго паводзіны і ўчынкі. У залежнасці ад таго, ідэі якога класа выражае літаратура, які клас яе трымае ў сваіх руках, таму класу яна і служыць.

Звернемся да творчасці Дуніна-Марцынкевіча. Характэрная асаблівасць прыгонніцкага грамадства, наяўнасць у ёй двух асноўных класаў, так ці інакш, адлюстроўваецца ва ўсіх творах Дуніна-Марцынкевіча, пачынаючы ад першага яго твора «Сялянка» да апошняй камедыі «Залёты». Праўда, як убачым далей, пасляраэформенная структура грамадства ўнесла істотныя змены і ў вобразную сістэму Дуніна-Марцынкевіча.

Творчасць Марцынкевіча, не гледзячы на адносна вялікую яе колькасць, характарызуецца невялікім, мізэрным колам праблем, ідэйнай і фармальнай аднастайнасцю. Адзінае, што ў некаторай ступені ажыўляе яе, гэта наяўнасць розных жанраў: камедыя, апавяданні вершам, паэмы. Аднак вартасць гэтай жанравай разнастайнасці зніжаецца аднастайнасцю тэматыкі, ідэйных праблем і фармальных прыёмаў.

Камедыя-опера «Сялянка» з'яўляецца першым нам вядомым творам Дуніна-Марцынкевіча. Яна напісана аўтарам у 1845 г. і доўгі час, досыць часта ставілася ў Менску, Бабруйску, Слуцку, Глуску і інш. месцах. У пастаноўках, як піша Альберт Паўловіч, удзельнічаў сам аўтар і яго дочкі.

У гэтым творы Дунін-Марцынкевіч выступае, як стала сфарміраваны ідэолаг рэакцыйных прыгоннікаў памешчыкаў, як прыхільнік самай рэакцыйнай ідэалагічнай плыні 40-х гадоў славянафільства.

Камедыя-опера «Сялянка» з'яўляецца творам складанай сюжэтнай пабудовы Разгортванне дзей ідзе на аснове двух ліній аб'яднаных адзіным зместам, адзінай ідэяй. Малады памешчык Кароль Лятальскі знаходзіцца за мяжой. Ён паехаў туды, каб у парыскіх салонах развеяць тугу, сум, каб далучыцца да заходняй цывілізацыі. Заходняя цывілізацыя, якую аўтар зводзіць толькі да салонаў і паненак-какотак, яго захапіла. Яму не хочацца вяртацца ў «дзікую глуш роднага краю». Але гаспадарчыя справы прымушаюць яго прыехаць. Ён едзе да сябе ў маёнтак з цвёрдым пераконаннем, што «не доўга прагашчу сярод той дзічы, дзе не можна мець ніякай прыемнасці». Гаспадарскія справы ў маёнтку Лятальскага вядзе Ян Дабровіч—сваяк Лятальскага, ранейшы яго апякун. Дабровіч мае маладую і прыгожую дачку, якая закахана ў Лятальскага і разам з бацькам хоча выратаваць Лятальскага ад шкоднага ўплыву на яго заходняй культуры, «выбіць яму з галавы тую франкаманію, ды прывязаць да роднага краю», зрабіць яго добрым «бацькам сваіх сялян». Для гэтага дачка Дабровіча Юля ў час прыезду Лятальскага ў маёнтак пераапранаецца ў простую сялянку, спадзяючыся, што прыгожасць яе зверне на сябе ўвагу Лятальскага і ён закахаецца ў яе. Тады ён застанецца ў родным краю разам з ёю, ачысціцца ад «сапсутых звычаяў», якія ён набыў у Францыі. «Перамога тым больш слаўнай будзе,—кажа Юля,—што ў вобразе простай сялянкі, з той касты людзей, да якіх ён адносіцца са зневагай, зраблю я гэта».

І вось Кароль Лятальскі звярнуўся. Юля яго сустракае. Ён не пазнае ў ёй Юлю, а прымае за простую сялянскую дзяўчыну—Югасю, захапляецца ёй. «Дзіўная дзяўчына! Не магу апомніцца ад здзіўлення з самога сябе! Мімавольна закахаўся ў нейкую сялянку... Я, каторы дагэтуль лічыў іх за быдла, цёмнае, нічым неўлагоджанае. О, цуда! Што-ж бы на гэта сказалі парыжанскія прыгожасці». Лятальскі, закахаўшыся ў сялянку, вызваляецца з палону заходняй цывілізацыі.

„Ах для гэтае дзявіцы
Памяць, розум я губляю!
Прэч ўсё, што з-за граніцы,
Я над імі крыж стаўляю!

Калі Кароль Лятальскі прыходзіць у маёнтак, яго горача сустракаюць дваровыя і прыгонныя сяляне. Хор сялян вітае свайго «саколіка».

„Да прыбывай-жа к нам, яркае солнышка
Да свеці-ж ты нам белы аконышка!
Да расцвітай у нас—прыгожа красачка.
Да пагалубь-жа нас—мілая ласачка!
Доўга-ж мы ждалі ця—к нам кароліку,
Палятай-жа пры нас смелы саколіку!"

Войт Наум выказвае ў сваёй прывітальнай прамове такія-ж хамскія пачуцці да свайго прыгонніка.

«Ты-ж нам, дарагі госць, як яснае сонейка; прыляцеў-жа-ж ты к нам, як чайка з-за мора, прыляцеў, каб нас сірот бедных пацешыць; чы-ж прывёз-жа ты з-за мора сэрца для нас атцоўскае? Нябошчык стары пан, дай бог яму круляванне на тым свеце, быў нам як родны бацька; хлеба солі нікому не жалеў... будзь і ты яму схожы. Тады спраўдзіцца прымоўка: якое дрэва, такі клін, які бацька, такі сын. Мы-ж табе будзем праўдаю і вераю служыць; усё, што маем, усё з радасцю табе аддадзім, бо і святая пагаворка кажа: ад дай боскае богу, а панскае пану. Толькі-ж ты, наш Каралёк, не

кідай нас болей: бо хто-ж сірот у злой прыгодзе ратаваць будзе» і г. д. у тым жа дусе. *

Юлія ў вопратцы простай сялянкі, падыходзячы да Лятальскага, таксама просіць яго: «Выслухай чыстых просьб сваіх падданых: астанься тут з намі і шукай асалоды ў шчырасці тых, для каторых, пасля бога, ты найдаражэйшы». Расчулены такой сустрэчай і павагай, пан Лятальскі загадвае камісару даць «багаты пачастунак маім сялянам». Яшчэ адна сустрэча з Юляй і Лятальскі канчаткова вызваліўся «ад дурнога ўплыву захаду» і канчаткова пераканаўся ў адным сваім жаданні. «Цяпер адзінае жаданне нарадзілася ў маім сэрцы: у шчаслівым вясковым зацішшы, далёка ад турбот і неспакою света, на ўлонні падобнае да цябе (Юлі) таварышкі, сярод падданых, як сярод уласных дзяцей, праводзіць рэшту дзён жыцця і не жадаць на зямлі іншае роскашы».

Малады пан, якога захапіла заходняя цывілізацыя, выпраўляецца, адкідае ад сябе чужое, заходняе, напластаванае на яго «папсаванай моладдзю» і робіцца сталым памешчыкам прыгоннікам.

Так разгортваецца адна сюжэтная лінія твору. Як мы бачылі, разгортванне гэтай лініі ярка выяўляе адносіны аўтара да памешчыкаў, яго яўна тэндэнцыйную, ва ўгоду памешчыкам, ідэалізацыю правінцыяльнай цішы і навязванне прыгонным сялянам хамскіх адносін да прыгонікаў памешчыкаў.

Другая сюжэтная лінія твору—гэта лінія камісар—сяляне—пан. Яна таксама падпарадкавана асноўнай ідэі твору: затушаванню класавай процівалегласці паміж прыгоннікамі і прыгоннымі, ідэалізацыі прыгонніцтва. Лінія камісар—сяляне—пан не менш ідэйна нагружана, чым лінія пан—Юля—сяляне. На гэтай лініі знаходзіцца і завязка ўсяго твора, яго інтрыгі. Банавантура Выкрутач, камісар маёнтку Лятальскага. Аўтар паказвае яго праз спеў і рэплікі Наума (Наум чэсны, сумленны селянін, войт, адданы пану) як зладзея і ката сялян. Наум падслухаў, як пісар упікаў камісара:

„Ты, камісару, замнога краў,
Людзей ты без меры вельмі глуміў,
Без бога, без веры і дзёр і біў".

Наум у другім месцы называе камісара «гадам», гаворыць, што сяляне «катаргу ад камісара церпяць». Ціт—селянін з вёскі Лятальскага, так адзываецца аб камісару і панах:

«А дай бог, што-б ад нас нячыстая сіла выгнала! бо калі ён далей будзе так над намі здзеквацца не перастане, то ўсе духі вытрасе. Кажуць, што мужык хіцёр, вораг сваім панам і іх абмануе. Як-жа нам быць шчырымі, калі яны з-пад нагця—кроў нам высысаюць і як з гадам, з мужыком абыходзяцца. А мы-ж такі з апошніх сіл добываем, што-б на іх прыхаці зарабіць».

---

* Гэтае прывітанне сялян занадта нагадвае нам карамзінскія куплеты к „Сельской комедии" напісаныя ім у 1798 г. Там таксама „хор земледельцев" хваліць сваё жыццё, свайго „барина—отца".

„Как не петь нам? Мы счастливы.
Славим барина-отца.
Наши речи некрасивы,
Но чувствительны сердца.
Горожане нас умнее:
Их искусство говорить.
Что-ж умеем мы? Сильнее
Благодетелей любить".

У гэтай рэпліцы Ціта выяўлены сапраўдныя настроі сялянства, сапраўдныя адносіны сялян да паноў. Іменна такія настроі характэрны для сялян першай палавіны XIX века. Дунін-Марцынкевіч адчуваў іх, не мог абыйсці іх. Таму ўсёй структурай свайго твору, усімі ідэямі яго ён імкнецца прыдушыць гэтыя настроі сялянства, направіць нястрымную нянавісць сялян да паноў у другі бок, на аканомаў, камісараў панскіх, паказаць іх як асноўнае соцыяльнае зло. Аднак і супроць камісара Дунін-Марцынкевіч не раіць змагацца. Рэпліку Ціта аўтар парыруе рэплікай Наума:

> «Маўчы, Ціт! Не наша дзела аб гэтым гаманіць... Бо як пачуе, чы даведаецца камісар, то і скура будзе ў рабоце і апошнюю авечку адбярэць. Ляпей прышчамі зубамі язык і кланяйся нізка, покуль яго мяцеліца ад нас не вымяце: бо знаеш пакорнае цялятка дзве маткі ссець».

Вуснамі Наума Дунін-Марцынкевіч вучыць селяніна цярпець здзекі і крыўды ад паноў і іх аканомаў і яшчэ дзякаваць ім.

Ідэалізуючы памешчыкаў Дунін-Марцынкевіч не шкадуе аднак цёмных фарбаў, каб ачарніць у вачах паноў іх аканомаў, сам таго не заўважае, што гэтым выкрывае адну з істотных сутнасцей прыгонніцтва. Аўтар дае камісару доўгі маналог, у якім камісар сам сябе выкрывае, як злодзея, як ката сялян.

Разгортваннем дзеі Дунін-Марцынкевіч паказвае, што Лятальскі даведаўся аб здзелках камісара над сялянамі. «Замнога даведаўся я,—гаворыць Лятальскі камісару,—пра вашы паступкі з маімі падданымі ў час маёй адсутнасці». Лятальскі праганяе камісара Банаватуру і прызначае адданага служку Шчырэцкага—панскай ласкай зволенага ад паншчыны, але які ў падзяку за гэта застаўся пры двары. У вобразе Шчырэцкага аўтар таксама, як і ў вобразе Наума, ідэалізуе хамскія пачуцці, узводзіць іх у добрачыннасць, імкнецца прышчапіць іх усяму сялянству.

Пан Лятальскі пазбавіўся заходняга ўплыву, пакахаў Юлю, прагнаў няшчырага камісара і запанавала навакол радасць, узаемная павага, гармонія класавых інтарэсаў. Такі сюжэт камедыі.

Мы ўзялі толькі агульную лінію сюжэта, мімаходзь спыніліся на асобных эпізодах, але і гэтага досыць, каб зрабіць абагульненне. Што характэрнага ва ўсім гэтым творы? Якія ідэі выяўляюцца ў вобразах «Сялянкі»? Перш за ўсё варта спыніць увагу на адной характэрнай для светапогляду Дуніна-Марцынкевіча рысе на славянафільскім абвалачэнні ідэалогіі памешчыкаў-прыгоннікаў. Дунін-Марцынкевіч выступае ў сваёй оперы, як вораг усякай заходняй цывілізацыі, заходняй культуры. Ён асабліва яра ваюе супроць Францыі *. Заходнюю капіталістычную культуру аўтар утрыруе, зводзіць яе толькі да распусты. Распуснаму захаду ён супроцьстаўляе правінцыяльную ціш і спакой, самабытную красу і прыгожасць. Сваёй операй Дунін-Марцынкевіч імкнецца прапагандаваць ідэі рускіх славянафілаў 30-х—40-х гадоў мінулага века. Іменна ў 40-я годы XIX века ў рускай публіцыстыцы разгарнулася барацьба паміж так званымі «заходнікамі» і «славянафіламі». Рускае «славянафільства» з'явілася як рэакцыя на працэс развіцця капіталізма, як рэакцыя на ўплыў рэволюцыйнага руху захада, рэакцыя на нарастаючую сялянскую рэволюцыю ў Расіі. Славянафільства 40-х гадоў было ідэалогіяй памешчыцка-дваранскай самадзяржаўнай абсалютысцкай манархіяй. Асноўным

* Не выпадкова Д. Марцынкевіч асабліва ярасна ваюе супроць Францыі. Справа ў тым, што Францыя ў канцы XVIII і першай палавіне XIX в.в. была найбольш рэволюцыйнай краінай. Класавая барацьба ў Францыі была найбольш развіта. Ваюючы супроць Францыі, Дунін-Марцынкевіч ваюе ў першую чаргу супроць тых рэволюцыйных веянняў, якія ішлі з Францыі.

у «тэорыі» рускіх славянафілаў з'яўляецца погляд на Расію, як на краіну, унутры якой адсутнічаюць класы і класавая барацьба. «Класавая барацьба была ў вачох славянафілаў крыніцай усіх тых хвароб, ад якіх цярпеў захад, і ад якіх трэба было, што-б там ні стала, пазбавіць Расію» (Плеханаў). Славянафільскае адмаўленне заходняга духу было нічым іншым, як адлюстраваннем у галіне ідэалогіі, баязнь той класавай барацьбы, якая прасякае, пранізывае сабою гісторыю чалавецкага грамадства, якая з'яўляецца рухаючай пружынай развіцця грамадства.

Славянафільства такім чынам з'яўлялася рэакцыйнай ідэалогіяй прыгонніцка-памешчыцкіх сядзіб. Баязнь рэволюцыйных ідэй, якія ідуць з захаду, баязнь сялянскай рэволюцыі ўнутры краіны пранізвае сабою і творчасць Дуніна-Марцынкевіча. Неспакойнаму, бурлячаму барацьбой класаў, капіталістычнаму захаду Дунін-Марцынкевіч у сваёй творчасці супроцьстаўляе маёнткавае, правінцыяльнае зацішша, створаную яго фантазіяй гармонію класавых інтарэсаў прыгоннікаў памешчыкаў і прыгонных сялян, ідэалізацыю прыгонніцкіх адносін.

Вобраз памешчыкаў Дабровіча, вобраз яго дачкі Юлі—вось увасабленне ідэалаў Дуніна-Марцынкевіча. У гэтых вобразах ён імкнецца ўвасобіць, абагуліць усю чыстату, харство і прыгожасць, дабрату і сумленнасць «роднага краю». Гэтыя вобразы супроцьстаўлены вобразу Лятальскага, калі ён быў за мяжой. Пасля вызвалення Лятальскага ад «франкаманіі» ўсе гэтыя тры вобразы становяць адзіную ідылічную дабрачыннасць роднага краю, супроцьстаўленую распуснаму захаду.

Наўрад ці трэба даводзіць, што прыгоннікі ў сапраўднасці далёка не былі падобнымі на гэтыя вобразы, што вобразы памешчыкаў-прыгоннікаў, створаныя Дуніным-Марцынкевічам, з'яўляюцца пладом яго фантазіі, ідэалізацыі прыгоннікаў, а не рэалістычнымі вобразамі. Таксама далёкія ад сапраўднасці і вобразы сялян, ўзаемаадносіны паміж сялянамі і прыгоннікамі, якія паказвае Дунін-Марцынкевіч. Мы ведаем, што ў сапраўднасці настроі сялян былі часамі больш рэволюцыйныя, чым нават Ціт з оперы «Сялянка». Прыгонныя сяляне, як тыповая з'ява, у першай палавіне XIX века не толькі не пракланяліся перад панамі так пакорліва, як паказвае Дунін-Марцінкевіч, не толькі не падзялялі поглядаў Наума, што

„Мужык прывык цярпець
А калі мае балець,
Лепей ад свайго мацара, (пана)
Як ад гада камісара".

Сялянства ўжо тады пратэставала, змагалася, расплачвалася з памешчыкамі прыгоннікамі за здзекі і крыўды. Дунін-Марцінкевіч непаказвае рэальнай барацьбы сялян, а імкнецца паказаць іх не толькі як рабоў, але як хамаў пакорна і з падзякай падстаўляючых свае спіны пад панскі бізун, смакуючых сваё рабскае становішча.

> «Раб, сознающий свое рабское положение и борющийся против него, есть революционер. Раб, не сознающий своего рабства и прозябающий в молчаливой, бессознательной и бессловесной рабской жизни, есть просто раб. Раб, у которого слюнки текут, когда он самодовольно описывает прелести рабской жизни и восторгается добрым и хорошим господином, есть холоп, хам». (Ленин, том VIII, ст. 430).

Вобразамі халопаў, хамаў Наума і Шчырэцкага Дунін-Марцынкевіч імкнецца падмяніць рэальных сялян, якія тадыператварыліся ўжо з рабоў у рэволюцыянераў.

Уся вобразная сістэма твору «Сялянка», ідэі яго яўна накіраваны на затушаванне класавых супярэчнасцей паміж прыгоннікамі і сялянамі, на падфарбаванне прыгоннага рабства. Гэтай асноўнай ідэі падпарадкавана не толькі пабудова сюжэта, як аб гэтым мы ўжо гаварылі, але і ўсе іншыя элементы твору. Узяць хоць-бы для прыкладу прыказкі Наума. Імёны і прозвішчы дзейных асоб таксама арганічны са зместам твору: Дабровіч, Шчырэцкі, Наум, Лятальскі, Банавантура, Выкрутач ясна гавораць аб сімпатыях і антыпатыях аўтара, аб ідэйнай накіраванасці твору.

Мы спыніліся больш падрабязна на творы «Сялянка» таму, што ў ім ужо з самага пачатку творчасці Марцынкевіча ярка выяўляецца яго класавая фізіяномія, ва ўсёй яе шматграннасці, што гэты твор, будучы сам у вялікай фармальнай залежнасці ад «Жаніцьбы Фігаро» Бомаршэ, вызначыў фармальны і ідэйны напрамак большасці наступных твораў Дуніна-Марцынкевіча.

Наступным за «Сялянкай» буйным творам з'яўляецца сюжэтная паэма «Гапон». Сюжэт паэмы, як убачым, не новы для часу напісання яе. Паэма падзелена на чатыры песні. У першай песні Дунін-Марцынкевіч замалёўвае карчму, гулянку прыгонных сялян, стварае вобраз вясёлай, гучнай, бесклапотнай, сытай гулянкі сялян. Але ўжо і ў абмалёўцы гулянкі сялян адчуваецца памешчык, белая косць. Вось якімі параўнаннямі характарызуе Дунін-Марцынкевіч сялян, якія гуляюць у карчме.

„Ад пылу аж пацямнела,
Хохат, лопат, шум ды крык,
Як у гаршку закіпела,
Як на быдла напаў зык".

У самы разгар гулянкі расчыняюцца дзверы карчмы і ўваходзіць з войтам «сам аканом». Гапон, галоўны герой паэмы, убачыўшы аканома

„На ўсё горла закрычаў:
„Ой, будзе-ж нам цёпленька, браткі!
„Хто малады ўцякай з хаткі!
„Недарма сталі шаптаць,
„Што некрутаў будуць браць.
„Побірай іх ліхі бес!
„Хто дужы, уцякай-ма ў лес".

Людзі разбягаюць з карчмы. Гапон, ухапіўшы кол, пачаў ім біць усіх, хто да яго лез. Нарэшце ўсё-ж Гапона злавілі.

„Яго беднага звязалі
Дый у калодкі скавалі".

Першая песня завязвае далейшую дзею. Гапон сутыкаецца з ліхім аканомам. З пададзенай характарыстыкі ўчынка Гапона можна падумаць, што ён вораг прыгону і рэкрутчыны, што ён пратэстуе сваім учынкам. Аднак гэта толькі на першы погляд. Дунін-Марцынкевіч унікаў паказу сялянскіх бунтаў, пратэстаў супроць прыгону. Гапон бунтуе толькі супроць аканома і не таму, што аканом з'яўляецца прадстаўніком прыгоннікаў. Не, уся справа ў тым, што Гапон, сялянскі хлапец, любіць сялянскую дзяўчыну Кацярыну, якая падабаецца таксама і аканому. На гэтым канфлікце пабудаваны ўвесь сюжэт паэмы.

Для рэвалюцыйна-дэмакратычных расійскіх пісьменнікаў XIX века такія канфлікты з'яўляліся матэрыялам для аблічэння прыгонніцтва. Гэтыя пісьменнікі—ворагі прыгонніцтва, умелі надаць такім канфліктам соцыяльны характар, каб выкрываць і ганьбіць прыгонны лад. Дунін-Мар-

цынкевіч наадварот, бярэ гэты канфлікт для таго, каб падфарбаваць прыгонніцтва. Іменна гэтай асноўнай ідэі і падпарадкавана разгортванне сюжэта.

Аканом, пацярпеўшы няўдачу ад заляцання да Кацярыны, закляўся,—«маладых ён пагубіць». Аканом даносіць пані, што Гапон падбухторвае ўсіх хлапцоў на бунт, дадаўшы да таго, што «ўся воласць у трывозе». «Добрая» пані ад гэтага паведамлення аканома ў адчаі. Але Дунін-Марцынкевіч прагне паказаць, што яна ў адчаі не ад таго, што ёй пагражае небяспека, а ад таго, што «бедны люд» можа пастрадаць.

„Ато чыста кара неба!
Бедны люд ратоваць трэба“—кажа пані.

Каб «бедны люд» ратаваць, Гапона здаюць у рэкруты (у салдаты).

„Ён надзеў казённы ранец
І пашоў цару служыць“.

Каханка яго, Кацярына, засталася на мукі. Але вось

„Так раз яна ў садочку,
Дый у цёмным у куточку,
Горкі слёзы вылівала,
Сваю долю праклінала.
Бог пажалеў сірацінy,—
Трэба-ж у тую гадзіну
Пані па саду гуляць
І бедненьку спаткаць“.

Пані спытала Кацярыну, чаго яна плача. Кацярына расказала пані ўсю праўду аб сваім горы. Ад расказу Кацярыны

„У пані вушы павялі,
Аж валасы дыбам сталі,
Як пачула той расказ:
І ўспляснула рукамі
І палілася слязамі,
Дый такі дала прыказ:
„Штобы пана аканома
„Ні нагі тут каля дома
„За гадзіну ня было“.

Аконама прагналі з панскага сяла і двара. «Міласцівая», «добрая» пані ўзяла да сябе Кацярыну.

„З тэй жа пары Кацярына,
Як пакаёва дзяўчына,
Пры пані стала служыць;
Пані яе палюбіла,
Чытаць, пісаць навучыла,
Па ксёнжцы бога хваліць!“

«Добрая» пані абкружыла Кацярыну такой увагай, стварыла ёй такія ўмовы жыцця, што яна стала быццам паненка. За пяць год жыцця ў пані Кацярына

„Панску гаворку сумела
І сукеначку надзела—
Быццам паненка—маўляў!“

Гапон таксама за гэтыя пяць год многа дасягнуў

„Ён на вайне заслужыўся,
Ў афіцэрства дажыўся“,
Ён стаў прыёмны (для прыёма рэкрутаў) афіцэрам.

І вось праз пяць год, як здалі Гапона ў салдаты, у Магілеве, у час прыёму рэкрутаў з'яўляецца на прыём і былы аканом. Ён падкупвае доктара, каб той забракаваў яго. Але Гапон, верны служака цара, забірае аканома. Аканома здалі. Тады ён пазнаў у прыёмным афіцэры Гапона «дый са страху абамлеў».

«Прыгожанькі афіцэр» Гапон не забыўся пра сваю любую Кацярыну. Ён звяртаецца да дому, ідзе да пані і сустракае Кацярыну. Ён і Кацярына просяць пані, каб яна «зручыла» іх абодвух. «Міласцівая» пані «крэпка абнялася» з Кацярынай і благаславіла маладых. Паэма заканчваецца шчаслівым вяселлем Гапона і Кацярыны.

„А пані—не пані, маці!
Маўляў роднаму дзіцяці,
Прыгожы пасаг дала,
Радасну слёзку ўраніла,
Маладых благаславіла
Сама к вянцу павяла".

Разгледжаны сюжэт паэмы ясна выяўляе асноўную ідэю паэмы. Гэтай ідэі падпарадкаваны і ўсе іншыя элементы твораў: лексіка, тропы, фальклор. Фальклорны матэрыял, песні, прыказкі, шырока выкарыстоўваюцца пісьменнікам для стварэння атмасферы добрабыту, сытасці і давольства сярод прыгонных сялян, бацькаўскіх адносін паміж сялянамі і прыгоннікамі-памешчыкамі.

Як бачым, Дунін-Марцынкевіч і ў творы Гапон працягвае тыя-ж самыя ідэі, што і ў оперы «Сялянка». Паводле паказу Дуніна-Марцынкевіча паміж панамі і сялянамі няма класавых супярэчнасцей, няма класавай барацьбы. Памешчыкі і сяляне гэта адна сям'я. Памешчыкі—бацькі, памешчыцы—маткі сваіх сялян. Памешчыкі клапоцяцца аб сялянах як аб сваіх дзетках. Прыгонніцкая эксплаатацыя сялян, здзекі паноў над сялянамі, якія ярка намаляваны ў вобразах твораў рускіх рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменнікаў, як напрыклад Некрасава і інш. і творах украінскага рэвалюцыйнага паэта Тараса Шэўчэнка, адсутнічаюць у творах Дуніна-Марцынкевіча. Невыгадна было памешчыкам паказваць праўду. Бо праўда рэчаіснасці вяла да адмаўлення прыгонніцкай эксплаатацыі. Няма ў паказе Дуніна-Марцынкевіча і таго пратэсту барацьбы, якую вяло прыгоннае сялянства супроць прыгоннікаў. Барацьба, якую вяло сялянства супроць памешчыкаў, у паказе Дуніна-Марцынкевічаператворана ў хамскую адданасць панам. Сяляне ў паказе Дуніна-Марцынкевіча гэта істоты мірна настроеныя, любячыя свайго пана, пакорлівыя, паслухмяныя, з чыстай адкрытай душой, натуральныя і не папсаваныя фальшам культуры.

Сяляне ў паказе Дуніна-Марцынкевіча не могуць жыць без «бацькі пана» з той прычыны, што яны—ніжэйшыя істоты, не здольныя ні на вошта самастойнае. Адзінай умоваю шчаслівага жыцця селяніна з'яўляецца «бацькаўская апека пана» і добрасумленныя, адданыя адносіны селяніна да прыгоннай працы, да прыгонніка-памешчыка. У такіх ідылічных фарбах малюе Дунін-Марцынкевіч вобразы сялян і паказвае адносіны паміж імі і памешчыкамі ва ўсіх сваіх творах. Рэшта вершаваных твораў Дуніна-Марцынкевіча амаль нічога новага не даюць для яго характарыстыкі. Толькі твор «Хвілімон на каранацыі» дае новую рысу яго. У гэтым творы Дунін-Марцынкевіч выяўляецца як халуй царскага трону, і гэтую сваю якасць надае вобразам сялян у выглядзе іх «натуральнай, прыроднай пакорлівасці і адданасці цару». У гэтым-жа творы Дунін-Марцынкевіч, паказваючы, як Хвілімон вырataваў ад пагібелі багатую пані, вы-

чыць сялян ахвяроўваць сваім жыццём, каб ратаваць багатых, бо гэта робіцца «ў імя хрысціянства». Такім выглядае селянін з вершаў Дуніна-Марцынкевіча. Не варта гаварыць, што такі вобраз селяніна не з'яўляецца адлюстраваннем рэальнага селяніна, а з'яўляецца фантазіяй, марай пісьменніка; гэта хутчэй пародыя на селяніна, чымся здымак з сапраўднасці.

Аднак Дунін-Марцынкевіч заўважваў і рэальнае становішча прыгоннага селяніна, здзекі над ім, яго беднасць, рэвалюцыйныя настроі і т. д. У яго творах можна сустрэць характэрныя, часамі тыповыя рысы прыгоннага быту сялянства, паднявольнага і цяжкога становішча іх. Гэтыя моманты ў творчасці Дуніна-Марцынкевіча і становяць сабою пазнавальныя якасці яго твораў. Але, робячы часам рэалістычныя замалёўкі, па казваючы асобныя моманты становішча і быту сялян, Дунін-Марцынкевіч дае ім феадальна-памешчыцкую, прыгонніцкую трактоўку. Уся бяда сялян, паводле паказу Дуніна-Марцынкевіча, у тым, што ў некаторых паноў бываюць дрэнныя камісары, аканомы, якія не па чалавецку адносяцца да сялян. Калі-б не было дрэнных камісараў і аканомаў, сяляне былі-б задаволены сваім становішчам, сваім «бацькам-панам». Дунін-Марцынкевіч вучыць таксама і паноў, не цярпець дрэнных камісараў і аканомаў з той прычыны, што яны шкодзяць гармоніі класавых інтарэсаў паміж памешчыкамі і сялянамі. Ён вучыць паноў «добра, па-бацькоўску» адносіцца да сваіх сялян, хаця яны і «не панскай косці», хаця мужык «быдла», але ён сваёй пакорлівасцю заслугоўвае да сябе чалавечых адносін. Тым больш, што пры такіх адносінах селянін яшчэ больш старанна будзе працаваць на пана і больш пакорліва пераносіць цяжкасці свайго прыгоннага становішча. Як бачыць чытач, «народалюбіе» прыгонніка Дуніна-Марцынкевіча было занадта практычнага зместу.

Мы далі агульную характарыстыку ідэйнай накіраванасці творчасці Дуніна-Марцынкевіча да рэформенных часоў. З гэтай характарыстыкі мы бачылі, што творчасць Дуніна-Марцынкевіча ад першага да апошняга радка прыгонніцкая па сваім змесце, што яна абараняла ўстоі прыгонніцтва, ідэалізавала цалкам іх, як «святыя», натуральныя, раз назаўсёды дадзеныя і не падлягаючыя ніякім зменам. Феадальны лад паказваецца і ідэалізуецца пісьменнікам як класічная сістэма грамадскіх адносін, заснаваная на суадпаведнасці, гармоніі класавых інтарэсаў сялян і памешчыкаў.

Калі-ж Дунін-Марцынкевіч і закранае асобныя адмоўныя дробязі прыгонніцкай рэчаіснасці (дрэнны камісар і аканом, якія крыўдзяць сялян і абкрадаюць пана), дык толькі для таго, каб падправіць гэтую сістэму, каб зрабіць яе больш адпавядаючай інтарэсам прыгоннікаў.

Соцыяльнае прызначэнне гэтай творчасці заключалася ў абароне прыгонніцтва як сістэмы ў ідэалізацыі яго, у стварэнні ілюзіі для памешчыкаў аб іх «бацькаўстве» над сялянамі, у заспакаенні памешчыкаў, ахопленых жахам перад нарастаючай сялянскай рэволюцыяй. Памешчыкі-прыгоннікі гэтай творчасці імкнуліся прышчапіць прыгнечанаму сялянству смірэннасць, пакорлівасць, адданасць яго пану, зрабіць з селяніна вернага служку пану, а таксама гэтую творчасць пануючы клас выкарыстоўваў і для таго, каб пераключыць нездавальненне сялянства сваім паднявольным становішчам, адцягнуць увагу сялянства ад рэволюцыйных метадаў дзеяння супроць усёй сістэмы прыгонніцтва. Гэтага прызначэння сваёй творчасці Дунін-Марцынкевіч і сам не хаваў. У прадмове да паэмы «Гапон» ён адкрыта кажа: «Таму на мове сялян я пісаў, што каб часамі ў святочны дзень прачытанае ім магло прыцягнуць іх сэрца да паноў, у інтарэсах супольнай карысці, і шчыльней аб'яднаць» іх навакол памешчыкаў.

Дунін-Марцынкевіч разумны ідэолаг свайго класа, класа памешчыкаў-прыгоннікаў.

З пасляэформеннай (1861 г.) творчасці Дуніна-Марцынкевіча нам вядомы дзве яго камедыі: «Пінская шляхта» (напісана ў 1866 г.) і «Залёты» (1870 г.). Гэтыя творы напісаны аўтарам ужо ў іншых гістарычных, соцыяльна-эканамічных умовах,—пасля адмены прыгоннага права. Тым не менш яны не выходзяць з агульнага ідэйнага напрамку ўсёй творчасці Дуніна-Марцынкевіча. Праўда, абодвы гэтыя творы маюць адносна большае пазнавальнае значэнне, чымся папярэднія творы Дуніна-Марцынкевіча.

**«Пінская Шляхта»**—аднаактовая камедыя (фарс-водэвіль) напісана Дуніным-Марцынкевічам у 1866 г. Калі ў дарэформенных творах Дуніна-Марцынкевіча пан і селянін не зыходзяць са старонак яго вершаў, то ў творы «Пінская шляхта» гэтых вобразаў мы ўжо не сустракаем. Героямі тут выступаюць правінцыяльная шляхта і царскія чыноўнікі. Прыгоннае рабства ў той форме, у якой яно існавала да рэформы, перастала існаваць.

„Знаю: на место сетей крепостных
Люди придумали много иных".

Пісаў Некрасаў.

Ідылія гармоніі класавых інтарэсаў паміж памешчыкам і селянінам, якую ствараў Дунін-Марцынкевіч у сваіх творах, з адменай прыгоннага права згубіла свой сэнс. Фальшывым паказам рэчаіснасці, ідэалізацыяй прыгонніцкіх ланцугоў нельга было спыніць рух гісторыі, разгортванне класавай барацьбы.

Вобраз селяніна перастае цікавіць Дуніна-Марцынкевіча. На першы план у яго пасляэформеннай творчасці выступае «спасение чести» прыгоннікаў, памешчыкаў, саслоўнага гонару, высмейванне тыпаў пасляэформеннай эканомікі. Гэтыя ідэі характарызуюць сабою абодва творы, напісанныя пасля рэформы.

Разгледзім твор «Пінская шляхта». Шляхціц Ціхон Пратасавіцкі пабіўся са шляхціцам Іванам Цюхай—Ліпскім за тое, што Ліпскі назваў яго «мужыком». Для шляхціца Пратасавіцкага гэта было вялікай абразай, прыніжэннем яго гонару. Справа аб бойцы перайшла ў суд. Павінен прыехаць «найяснейшая карона» станавы прыстаў Кручкоў. Пратасавіцкі мае дачку Марысю, а Ліпскі сына Грышку, якія адзін другога кахаюць. Марысю кахае таксама і стары шляхціц, прайдоха Кутарга. Пратасавіцкі просіць Кутаргу бараніць яго ад пакарання. Кутарга згаджаецца даць хлуслівае сведчанне, калі Пратасавіцкія аддадуць за яго дачку Марысю. Яны згаджаюцца. Але Грышка ўжо з'ездзіў да прыстава, завёз яму добры гасцінец—хабару і той абяцаў прымусіць бацькоў пажаніць Грышку з Марысяй.

Прыехаў прыстаў Кручкоў са сваім пісарчуком Пісулькіным разбіраць справу. Кутарга, які хваліўся «задаць пары асэсару» Кручкову, трапіў пад арышт. Кручкоў «разабраў» справу, абабраў шляхту і паехаў, прымусіўшы Пратасавіцкага і Ліпскага пагадзіцца і пажаніць дзяцей. На ад'езд Кручкоў пасварыў яшчэ двух шляхцічаў, каб потым зноў прыехаць «разбіраць справу» і абіраць шляхту. Такі сюжэт гэтай камедыі.

Сюжэт гэтага твору, як і іншых твораў Дуніна-Марцынкевіча, не арыгінальны. Сусветная літаратура да Марцынкевіча багата мела такіх сюжэтаў, дзе бацькі сварацца, а дзеці кахаюцца. Не арыгінальны твор Марцынкевіча і ў іншых фармальных элементах, на ім занадта адчуваецца ўплыў французскага водэвіля.

Дунін-Марцынкевіч яркімі фарбамі малюе вобразы правінцыяльнай

шляхты, якая цягнулася да вышэйшай шляхты, імкнулася пераймаць яе звычкі і паводзіны. Прасмыкаючыся перад расійскай манархіяй, ён едка здзекуецца над «высокім гонарам» дробнай правінцыяльнай шляхты. Шляхціц сапраўды не мог мірыцца з тым, калі яго называлі мужыком. Мужык—халоп гэта прыгнечаная эксплаатаваная істота, шляхціц гэта некалі прывілеяваная асоба, маючая юрыдычныя правы асобы пануючага класа, асоба, якая абірала і эксплатавала ў свой час халопа-мужыка. Параўнанне з мужыком для шляхціца сапраўды было абразлівым, так-жа як для рускага двараніна параўнанне яго з селянінам. В. В. Вароўскі так характарызуе шляхту тых часоў: «Гэты грамадскі слой, які вёў яшчэ ў значнай меры натуральную гаспадарку, а таму не звязаны ўнутранымі узамі з рускімі сусветным рынкам, захаваў у сілу гэтай замкнёнасці ўсе старыя, ужо к таму часу (1863-64 гг. Л. Б.) устарэўшыя традыцыі» (Сочинения, том II, стр. 450).

Адной з такіх традыцый, адным з такіх звычаяў быў звычай, што шляхту каралі розгамі на дыване, на падсцілцы, а мужыка-халопа на голай зямлі. Калі-ж каралі шляхціца на голай зямлі, дык гэта лічылася вялікай абразай шляхэцкага гонару. Гэтых звычаяў найбольш доўга трымалася правінцыяльная шляхта. Вось чаму, смяючыся над шляхтай, Дунін-Марцынкевіч бярэ аб'ектам свайго смеху іменна гэтыя звычаі. Ён смяецца з адсталых звычаяў правінцыяльнай шляхты, якая, каб бараніць свой бессэнсовы гонар, не шкадуе грошай. Яго смех, у некаторай ступені нагадвае смех Фонвізіна, які ў камедыі «Недоросль» у асобах Прастакова, Прастаковай, Мітрафанушкі і Скацініна высмейвае дзікунства і некультурнасць правінцыяльных дваран. Дунін-Марцынкевіч з вышыні свайго саслоўнага становішча паказвае дробнамаёнткавай шляхце на нікчэмнасць яе гонару, на нікчэмнасць яе імкненняў цягнуцца за вышэйстаячымі. Дуніна-Марцынкевіча не тое турбавала, што дробная шляхта пагардліва і зневажліва адносілася да мужыка (як мы бачылі, ён сам параўноўваў селяніна з быдлам), а тое, што гэтая шляхта прэтэндавала на гонар, якім карысталіся буйныя землеўласнікі, буйная шляхта. У гэтым аснова смеха Дуніна-Марцынкевіча над Пратасавіцкімі і Ліпскімі.

Другім аб'ектам смеху ў камедыі «Пінская шляхта» з'яўляецца царская адміністрацыя—прыстаў з яго пісарам, якія ў той час мелі судовыя функцыі. У вобразе прыстава Кручкова і яго пісара Пісулькіна Дунін-Марцынкевіч намаляваў у юмарыстычных танах праўдзівы рэалістычны, ні ў якім выпадку не гіпербалізаваны вобраз правінцыяльнага правасуддзя. Сваволле, беззаконнасць, хабарніцтва—вось істотныя і характэрныя рысы царскага суда. За 50 гадоў да судовай рэформы (1864 г.) міністр юстыцыі Трашчынскі адклікаўся аб сваіх установах словамі біблейскага Давіда: «сіе море великое и пространное, в нем же гадов несть числа». Салтыкоў-Шчэдрын у сваіх успамінах аб судах піша: «На пасаду павятовых суддзяў выбіраліся большай часткай небагатыя і смірэнныя памешчыкі з адстаўных ваенных. Або француз пад Барадзіным скалечыў, або турак часць цела пашкодзіў—калі ласка. Толькі-б розум не падлягаў агляду... Наогул, на ўстановы павятовых судоў таго часу глядзелі нават сур'ёзныя людзі, як на багадзельню, але канцыляры судоў называлі «звярынцамі». Аб сакратарах казалі: «мярзаўцы», а пра пісараў «разбойнікі з вялікай дарогі», і баяліся іх». Нічым ад гэтых мярзаўцаў і разбойнікаў не адрозніваліся і прыставы. Кручковы, Пісулькіны—гэта сінонімы расійскага следства і правасуддзя.

Ствараючы вобраз Кручкова і Пісулькіна, Дунін-Марцынкевіч, не жадаючы таго, даў праўдзівы вобраз часткі бюракратычнай машыны расійскай манархіі. Іменна ў гэтым, у паказе хабарніцтва, сваволля, беззаконня

царскіх чыноўнікаў і заключаецца станоўчы бок, пазнавальная якасць камедыі.

Але было-б няправільна думаць, што Дунін-Марцынкевіч выкрывае і крытыкуе гэты суд у імя адмаўлення таго ладу, прадстаўніком якога з'яўляецца гэты суд. Зусім наадварот. Тут мы маем свайго роду «сямейную самакрытыку» недахопаў, якія вельмі ўжо выпіраюць на паверхню, «самакрытыку» для падпраўлення ладу, а не для яго адмаўлення.

Кручковы і Пісулькіны для Дуніна-Марцынкевіча з'явіліся аб'ектам смеху, вясёлай забавы. Для працоўных мас Кручковы і Пісулькіны не былі толькі пасмешышчам, а цяжкім прэсам, які душыў селяніна помпай, якая выпампоўвала кроў з жыл працоўнага сялянства. Кручковы і Пісулькіны—гэта частка царскай дзяржаўнай машыны. Так мы павінны іх ацэньваць, не гледзячы на тое, што Дунін-Марцынкевіч імкнецца іх паказаць толькі як пасмешышча.

Другая камедыя Дуніна-Марцынкевіча «Залёты» з'яўляецца памешчыка-прыгонніцкай рэакцыяй на рост капіталізма ў пасляРэформенны час. Дунін-Марцынкевіч выводзіць у персанажы Сабковіча, быўшага мужыка, які пасвіў свіней, а цяпер уладар золата-капітала. Усёй сваёй памешчыцкай сутнасцю ён навальваецца на гэтую новую ў пасляРэформеннай эканоміцы фігуру, не шкадуючы фарбаў, каб ачарніць яе. Ён паказвае Сабковіча, як самага дзікага эксплаатататара, які цягне апошні сок з тых-жа сялян, з якіх ён сам учора вышаў. У гэтай камедыі Дунін-Марцынкевіч становіцца нават у позу абаронцы бедных сялян. Ён паказвае густымі фарбамі, што бедныя сяляне цярпяць ад новага ўладара капітала больш, чым раней да рэформы ад крэпастніка-памешчыка. Зусім ясна, што тут мы маем справы не з абаронай інтарэсаў беднаты, а памешчыцкую рэакцыю на растучы капіталізм. Дзікаму эксплаататару Сабковічу Дунін-Марцынкевіч супроцьстаўляе добрага памешчыка, у якога раней працавалі цяперашнія слугі Сабковіча. Сімпатыі аўтара на баку памешчыка. Ён прымушае ахвяры эксплаатацыі Сабковіча шкадаваць прыгоннае права, ідэалізаваць яго, успамінаць аб ім, як аб добрым жыцці.

Такім чынам творчасць Дуніна-Марцынкевіча, адлюстроўваючы соцыяльную рэчаіснасць з пункту погляду памешчыкаў-прыгоннікаў, часамі паказвае, выкрывае, і вядомыя характэрныя, тыповыя рысы сучаснай яму рэчаіснасці. Праз сваю творчасць Дунін-Марцынкевіч крытыкуе асобныя бакі гэтай рэчаіснасці. Але як паказ рэчаіснасці ў творах Дуніна-Марцынкевіча абмяжованы класавымі інтарэсамі памешчыкаў, так і крытыка яго накіравана не на выкрыццё класавай сутнасці той рэчаіснасці, не для замены яе іншай, прагрэсіўнай, а ў імя ідэалізацыі старога, у імя звароту да старога, да прыгоннага права, да таго, што ўжо аджыло свой век, што ламаецца ходам грамадскага развіцця.

Такі класавы характар творчасці Дуніна-Марцынкевіча.

---

У заключэнні спынімся на крытыцы творчасці Дуніна-Марцынкевіча беларускімі нацыяналістычнымі літаратарамі.

Аб творчасці Дуніна-Марцынкевіча пісалі шмат, аб ёй пісалі не толькі беларускія літаратары і публіцысты, але і украінскія (Дарашэнка), рускія вялікадзяржаўнікі (Ч. Карскі) і польскія. Нам не ўдасца ў гэтым кароткім нарысе падрабязна разабраць усю гэтую крытыку, мы толькі коратка спынімся на найбольш характэрных ацэнках.

Характэрным для ўсіх гэтых немарксісцкіх буржуазна-памешчыцкіх крытыкаў творчасці Дуніна-Марцынкевіча з'яўляецца агульны метадалагічны падыход, падыход да творчасці Марцынкевіча як да «агульна-куль-

турнай» з'явы, ігнараванне класавай барацьбы, якая абумоўлівала, фармавала творчасць пісьменніка. Падрабязны разгляд метадалогіі гэтых крытыкаў мы зробім у асобным артыкуле.

Пры разглядзе творчасці Дуніна-Марцынкевіча мы ўжо гаварылі, што яна цалкам накіравана на ідэалізацыю прыгонніцтва, на затушоўванне класавай процілегласці і класавай барацьбы паміж прыгоннікамі-памешчыкамі і прыгоннымі сялянамі, на ўсхваленне прыгоннікаў і т. д. У гэтых мэтах Дунін-Марцынкевіч груба скажае рэчаіснасць, старанна ўнікае паказу жыццёвай праўды гэтай рэчаіснасці, падфарбоўвае яе ружовымі фарбамі. Аднак і гэты паказ рэчаіснасці не зусім задаволіў такога крытыка паэмы «Гапон», як Владыслаў Сыракомля. У 1855 год у № 188 «Газета Варшаўска» (польская) Сыракомля надрукаваў рэцэнзію на паэму Марцынкевіча «Гапон». Сыракомля знаходзіць, што паэма «Гапон» гаворыць праўду; ён лічыць, што нельга так пісаць аб прыгонным грамадстве. Ён упікае аўтара паэмы за тое, што Гапон—сялянскі хлапец—помсціць свайму ворагу (саперніку) аканому. Сыракомля спасылаецца на прыказкі, што «пакорнай галавы з плеч не знімаюць», што «ляжачага не б'юць» і т. д. Пані прагнала яго са двара, а гэтым самым ён пакараны ўжо, навошта-ж яго яшчэ караць аддачай у салдаты. Сыракомля далей гаворыць аб творы «Гапон», што ў ім няма «эстэтычнага погляду артыста, нехапае заслоны-фіранкі, якая прыкрыла-б занадта б'ючую ў вочы нагату самой праўды». Ён патрабуе ад аўтара яшчэ больш скажаць рэчаіснасць, падфарбоўваць яе, глыбей захоўваць за заслоны-фіранкі праўду жыцця і т. д. Не варта гаварыць, што ў паэме «Гапон» занадта мала праўды, што «заслоны-фіранкі» занадта шчыльна зацягнуты. Дунін-Марцынкевіч сам добра ведаў, без праўды Сыракомлі, што паказваць «нагату самой праўды» невыгодна было класу памешчыкаў і ён яе не паказваў. Калі-ж пісьменнік і браў асобныя язвы прыгону (дрэнны аканом), дык зноў-жа для таго, каб даць ім сваю прыгонніцкую трактоўку, каб захаваць ад працоўных мас сапраўдную сутнасць прыгонніцтва.

Погляд Сыракомлі, што Дунін-Марцынкевіч у паэме «Гапон» паказвае «нагату самой праўды», падзяляюць і ўсе буржуазныя крытыкі творчасці Марцынкевіча. Больш таго, яны гэтае палажэнне распаўсюджваюць як характарыстыку ўсёй творчасці Дуніна-Марцынкевіча.

Вялікадзяржаўнік Е. Карскі таксама піша аб паэме «Гапон»: «Всем нравился хороший язык, живость в описании быта и вообще жизни белорусса, верность действительности». (Е. Карский «Белоруссы», стар. 52, т. III, ч. 3).

Украінскі буржуазны публіцыст Дарашэнко ў сваёй кніжцы «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» (1908 г.) таксама скажонае адлюстраванне рэчаіснасці ў творах Марцынкевіча прымае за «праўдзівыя малюнкі народнага жыцця» беларусаў. «Марцынкевіч—піша Дарашэнка—падае ў сваіх творах праўдзівыя малюнкі народнага жыцця, і беларускія патрыёты называюць яго сваім дударом».

Беларускія патрыёты сапраўды называлі гэтага ідэолага прыгонніцтва «сваім дударом». У 1910 г. у адзнаку 25-гадавіны смерці Дуніна Марцынкевіча 48 нумар «Нашай Нівы» цалкам прысвечаны яму. Як перадавы артыкул рэдакцыі, так і рэшта артыкулаў (Ромуальда Земкевіча, А. Бульбы, Ядвігіна Ш.) поўная хамскага, халопскага прэсмыкання перад ідэолагам прыгоннікаў. У перадавым артыкуле пішацца: «Сёлета беларускі народ справуляе памінкі па бацьку беларускай літаратуры—Вінцуку Дуніну-Марцынкевічу, каторы зышоў у магілу 25 лет таму назад». Далей гаварыцца, што Марцынкевіч «песняр наш бадай першы смела і ясна выказаў думку, што беларуская кніжка ёсць найлепшая дарога да

прасветы нашага народу». У такіх панегірычных тонах напісаны ўсе артыкулы гэтага нумара «Н. Н.»

Нашаніўскі крытык Земкевіч, разглядаючы «жыццё і літаратурнае значэнне» Дуніна-Марцынкевіча, дае характарыстыку і яго асобным творам. Гаворачы аб оперы «Сялянка», ён піша: «Апрача паноў, войт і грамада мужыкоў абмаляваны добра і праўдзіва, хаця не надта выразна (ярка)». Гэты крытык таксама лічыць, што скажоны паказ сялян у творы «Сялянка», паказ іх, як хамаў, пакорных, смакуючых сваё рабскае становішча і панскі бізун,—з'яўляецца праўдзівым паказам, праўдзівым здымкам з рэальных сялян. У такім-жа духу Земкевіч ацэньвае і паэму «Гапон», называючы яе «перлам усёй літаратурнай працы Марцынкевіча». Ацэньваючы значэнне ўсёй творчасці Марцынкевіча, Земкевіч піша: «Значэнне Марцынкевіча для беларускай літаратуры ды народнага адраджэння аграмаднае. Ён ужыўся ў душу простага селяніна, зразумеў яго думкі, яго гора, яго тайныя душэўныя жаданні, палюбіў яго горача і ўвесь свой літаратурны талент пасвяціў падняццю яго да лепшага, людскога жыцця, каб цёмны, загнаны, забіты беларус мог свабодна аджыць і развіцца ў лепшай долі.

Праз усе творы Марцынкевіча праходзіць-цягнецца, быццам чырвоная нітка, яго праўдзівы дэмакратычны погляд, які апіраўся на шчырым зразуменні патрэб і жаданняў беларусаў, каторых ён любіў усім сэрцам і душой».

Адмаўляючы класы і класавую барацьбу ў беларускай нацыі, абараняючы інтарэсы памешчыкаў і капіталістаў, нашаніўскі крытык не мог прыйсці да іншага вываду. Фальсіфікацыя гістарычных фактаў, захаванне ад чытача сапраўднага класавага зместу творчасці Марцынкевіча, залічэнне яго ў разрад дэмакратаў, прыяцеля і выразніка «патрэб і недахопаў» беларускага народа, было ў інтарэсах памешчыкаў і капіталістаў. Таму крытык старанна абыходзіць той факт, што Дунін-Марцынкевіч быў выразнікам «патрэб і жаданняў» беларускіх памешчыкаў, што ён «любіў простага селяніна», як авадзень любіць вала.

Паказаць класавы змест творчасці ідэолага прыгоннікаў, гэта значыла праясняць класавае сазнанне эксплаатаваных, а гэта не ў інтарэсах нашаніўцаў—ідэолагаў эксплаататараў. У іх інтарэсах было зацямняць класавае сазнанне эксплаатаваных, прывіваць ім смірэнне перад эксплаататарамі, рабіць тую-ж самую справу, што рабіў і Дунін-Марцынкевіч. Іменна для зацямнення класавага сазнання працоўных мас беларускія лібералы і дэмакраты выкарыстоўвалі творчасць Марцынкевіча.

Максім Багдановіч—найбольш таленавіты нашаніўскі крытык, у сваім артыкуле «Белорусское возрождение» (1916 г.) наступным чынам ацэньвае творчасць Марцынкевіча:

> «Писатель грузный и тяжеловесный, сосредоточившийся исключительно на эпосе, Марцинкевич писал стихом неизящным и неповоротливым, сплошь отступающим от требований белорусской просодии (влияние польских образцов). Можно даже сомневаться, был ли он вообще поэтом». (М. Богданович «Творы», т. II, стар. 130).

Трэба сказаць, што гэтая ацэнка мастацкай якасці творчасці Дуніна-Марцынкевіч вельмі блізкая да сапраўднасці. Верш Марцынкевіча сапраўды «грузный и тяжеловесный», часта прымітыўны, з наіўнай рыфмай. Аднак у агульнай ацэнцы сутнасці і значэння творчасці Дуніна-Марцынкевіча Багдановіч цалкам падзяляе погляды Земкевіча і нават ідзе далей. Ён піша: «Однако, заслуги Марцинкевича перед белорусской литературой лежат все же не в области художественных достижений, а в об-

ласти чисто исторической. Они в том демократизме, который веял от сентиментально народнических поэм Марцинкевича, в той гуманизаторской тенденции, которая явственно проступает из каждой их строки и которая была по своему времени очень не лишней». (Там-жа, стар. 130.

М. Багдановіч, як і Земкевіч, адмаўляецца ад класавага аналіза творчасці Марцынкевіча, ад аналіза той канкрэтна-гістарычнай рэчаіснасці, якую скажона, у інтарэсах памечшыкаў, адлюстроўвае Дунін-Марцынкевіч. Ён аперыруе агульнымі ліберальнымі фразамі і тэрмінамі, старанна абыходзіць змест творчасці пісьменніка, не зрывае маску знешняй спагады простаму народу, за якою захаваны драпежныя інтарэсы прыгоннікаў, не шукае класавых карэнняў тых якасцей, якія адзначае ў яго творчасці. Калі Земкевіч называе Дуніна-Марцынкевіча дэмакратам, дык М. Багдановіч называе яго яшчэ і народнікам, гуманізатарам і т. д.

Рэшта пазнейшых беларускіх нацыяналістычных крытыкаў творчасці Дуніна-Марцынкевіча, пачынаючы ад Жылуновіча і канчаючы Піотуховічам, нічога новага не прыбавілі к дадзеным ацэнкам Земкевіча і Багдановіча. Жылуновіч у сваіх лекцыях па беларускай літаратуры, чытаных ім у Беларускім народным універсітэце ў Маскве ў 1918 годзе, гаворыць: «Творчасць В. Марцынкевіча адбівала сабою пачуццё спагады да прыгнечанага народу і выказвала сабою гэта пачуццё. Ён прышоў да яго з боку, пакахаў за мяккасць і пакору народ-гарацешац, і гэта настроіла яго струны ля апеву свайго пачуцця аб ім. Струны задрэнчалі і выпусцілі сабою гарачыя шчырыя зыкі». («Курс белоруссоведения», стар. 262). Жылуновіч, як бачым, не толькі не ўскрывае класавага, памешчыцкага зместу творчасці Марцынкевіча, а так-жа, як і іншыя нацыяналісты, з'яўляецца яе апалагетам; «мяккасць і пакору народа-горацешца» ўзводзіць у добрачыннасць. Няма чаго гаварыць, што гэта самая амярзіцельная і подлая атрута сазнання працоўных мас у інтарэсах памешчыкаў і капіталістаў *. В. І. Ленін пісаў:

«Уплыў памешчыкаў на народ не страшны. Абмануць колькі-небудзь шырокую рабочую і нават сялянскую масу колькі-небудзь на доўга ім не ўдасца. Але ўплыў і н т э л і г е н ц ы і непасрэдна не прымаючай удзелу ў эксплаатацыі, абучанай аперыраваць з агульнымі словамі і пачуццямі, якая носіцца са ўсякімі «добрымі» заветамі, часамі па шчыраму тупавумію ўзводзячай сваё паміжкласавае становішча ў п р ы н ц ы п па-закласавых партый і па-закласавай (внеклассовой) палітыкі,—уплыў гэтай буржуазнай інтэлігенцыі на народ небяспечны. Тут і толькі тут ёсць навочна заражэнне шырокіх мас, здольнае прынесці сапраўдную шкоду, патрабуючае напружання ўсіх сіл соцыялізма для барацьбы з гэтай атрутай» (Ленін, т. VIII, стар. 429). «Культурныя лёкаі класа памешчыкаў» і буржуазіі Земкевічы, Багдановічы, Ігнатоўскія, Гарэцкія, Карскія і др. нацдэмакрытыкі сваёй халуйскай апалогіяй памешчыцкай ідэалогіі атручвалі сазнанне рабочых і сялянскіх мас.

У такім-жа духу, як і Жылуновіч, выступаў і праф. Піотуховіч у сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры». «Ён (Марцынкевіч) спачувае народнаму гору, імкнецца паказаць нам светлыя бакі селяніна, глыбокія чалавечыя струны яго душы» (стар. 69).

Правакатар, шпіён пад маскай прафесара, Ігнатоўскі таксама піша аб творчасці Марцынкевіча ў духу вышэй названых крытыкаў. «Калі мы ўглядаемся,—піша ён,—у творы Марцынкевіча, то адразу бачым, што перад намі—песняр народнік... Аб'ектам яго творчасці з'яўляецца просты беларускі люд і наогул вёска... ён любіць беларускага селяніна, добра

* У 1930 г. Жылуновіч выступіў у часопісі „Полымя" з другой ацэнкай творчасці Дуніна-Марцынкевіча, назваўшы яго „прыгоннікам у вопратцы народніка".

ведае яго побыт, гора і радасць і шчыра жадае паляпшэння цяжкай долі яго. Аўтар сам кажа, што лічыць сябе дударом простага народу». (Ігнатоўскі, «Гісторыя Беларусі», стар. 154, Менск, 1925 г.). А яшчэ раней ён-жа пісаў: «Заслуга Марцынкевіча ёсць у тым, што ён першы пачаў лічыць сябе «дударом» простага беларускага народу». («Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі», стар. 16, Менск, 1921 г.)

Як бачыць чытач, усе цытаваныя намі нацыяналістычныя крытыкі даюць аднолькавую ацэнку творчасці Дуніна-Марцынкевіча. Усе яны, крадучы адзін у другога, сходзяцца на тым, што Дунін-Марцынкевіч выражае «патрэбы і жаданні простага народу» (Земкевіч), што ён «спагадае прыгнечанаму народу» (Жылуновіч), «спачувае народнаму гору» (Піотуховіч), што «ён любіць беларускага селяніна» (Ігнатоўскі), што ён дэмакрат і народнік.

Пры разглядзе творчасці Дунін-Марцынкевіча мы ўжо бачылі якім ён быў «дэмакратам» і «народнікам». Мы бачылі, што яго «дэмакратызм» і «народніцтва» такога-ж гатунку, як «дэмакратызм» і «народніцтва» рускага паэта Жукоўскага і нават Карамзіна, славянафілаў Языкова, Аксакава, Хомякова, Пагодзіна і іншых.

Адкуль-жа нацыяналістычныя крытыкі выводзілі «дэмакратызм» і «народніцтва» Дуніна-Марцынкевіча? Зразумела, што не з аналіза класавай сутнасці яго творчасці, яе соцыяльнай функцыі, а са знешніх адзнак, з таго факта, што «аб'ектам яго творчасці з'яўляецца простыя беларускі люд і наогул вёска, што «ён любіць беларускага селяніна» (Ігнатоўскі), што ён спачувае народнаму гору» (Піотуховіч) і г. д.

Яны выводзяць «народніцтва» Марцынкевіча з таго, што ён паказвае сялян, як смірных істот, паслухмяных пану, натуральных і непапсутых «фальшам культуры», «мяккіх і пакорных» сваім эксплаататарам. Такіх сялян «любіў» Марцынкевіч, як любілі іх усе памешчыкі, бо такія сяляне пакорліва пераносілі цяготы эксплаатацыі, з падзякай згіналі свае спіны і т. д. Але часы Дуніна-Марцынкевіча характарызуюцца не столькі наяўнасцю такіх сялян, колькі наяўнасцю сялян, якія, у той ці іншай форме, пратэставалі супроць свайго бяспраўнага, прыгнечанага становішча, якія змагаліся супроць прыгоннікаў. Дунін-Марцынкевіч у сваіх творах такіх сялян не паказваў. Ён ствараў вобразы халопаў, хамаў, выдаючы іх за вобразы сапраўдных сялян, як агульную характарыстыку. Падобныя вобразы сялян мы сустракаем і ў Карамзіна, і ў Жукоўскага і раду іншых дваранска-прыгонніцкіх паэтаў і пісьменнікаў. Рускія славянафілы таксама ідэалізавалі маянтковае з'явішча, ідэалізавалі рускую абшчыну, таксама стваралі ў сваіх творах вобразы пакорлівых сялян, «любілі просты рускі народ», стваралі ў сваёй фантазіі гармонію класавых інтарэсаў паміж памешчыкамі і сялянамі. Аднак, з гэтага факта ніхто не збіраецца прыпісваць гэтым ідэолагам рэакцыйных памешчыкаў-прыгоннікаў дэмакратызма і народніцтва.

Народніцтва гэта не ідэалогія прыгоннікаў, а ідэалогія сялянскай дэмакратыі. «Народніцтва ёсць ідэалогія (сістэма поглядаў) сялянскай дэмакратыі ў Расіі» (Ленін, том XII, ч. II, ст. 522). Прыпісванне «народніцтва» Дуніну-Марцынкевічу ёсць грубая фальсіфікацыя сапраўднасці. Легенда аб дэмакратызме і народніцтве Дуніна-Марцынкевіча не ёсць адлюстраванне гістарычнай сапраўднасці, а выражэнне класавых інтарэсаў беларускай буржуазіі і памешчыкаў, імкненне ў інтарэсах буржуазіі і памешчыкаў затушаваць наяўнасць класаў і класавай барацьбы ўнутры беларускай нацыі, імкненне выдаваць усякае беларускае, у тым ліку і рэакцыйнае, за прагрэсіўнае, дэмакратычнае і т. д. Іменна класавымі інтарэсамі буржуазіі і памешчыкаў прадыктавана гэта грубая фальсіфікацыя

сапраўднасці. З падобнага роду фальсіфікацыяй нам яшчэ прыдзецца не раз сустрэцца. У 1907 г. В. І. Ленін пісаў: «Яшчэ Некрасаў і Салтыкоў вучылі рускае грамадства распазнаваць (различать) пад прыглажанай і напамажанай знешнасцю адукованасці прыгонніка памешчыка яго драпежныя інтарэсы, вучылі ненавідзець ліцамер'е і бяздушша падобных тыпаў, а сучасны расійскі інтэлігент,... вучыць народ хамству...» (Ленін, т. VIII, ст. 432). Іменна хамству, прэсмыканню перад прыгоннікам Марцынкевічам вучаць нацыяналістычныя яго крытыкі.

У сваім халуйскім прэсмыканні перад ідэолагам прыгоннікаў памешчыкаў беларускія нацыянал-лібералы і дэмакраты не столькі арыгінальны, сколькі паслядоўныя прадаўжацелі «славутых» традыцый «асвечаных дэмакратаў», «адукаваных паноў» з «Товарища», якіх Ленін у 1907 годзе ў артыкуле «Памяти графа Гейдена» прыгваздзіў да ганебнага слупа. «Адукаваныя паны» з «Товарища» якраз так пісалі аб памешчыку-прыгонніку Гейдэну, як беларускія лібералы і дэмакраты пішуць аб ідэолагу прыгоннікаў Марцынкевічу.

«Асвечаныя дэмакраты» з «Товарища» пісалі аб Гейдэну, што ён «быў перш за ўсё чалавек», што ён «быў чалавек адукаваны, культурны, гуманны, цярпімы» і т. д. Беларускія лібералы і дэмакраты пішуць аб Марцынкевічу, што ў яго грудзях «білася досыць чулае і гуманнае сэрца, спачуваўшае народнаму гору» (Піотуховіч), што ён «дужа любіў жартаваць» (Земкевіч), што ён мае найлепшыя думкі, найлепшае сэрца, пачуццё грамадзянства», што «Марцынкевіч добры пан—дбае аб сваіх людзей і пасля сябе пакідае добрую памяць» (А. Бульба), што ён культурны і адукаваны і т. д. і т. п. У дзень 25-годдзя смерці Марцынкевіча нашаніўцы пусцілі такую-ж слязу аб ім, як і паны з «Товарища» па графу Гейдэну. «Занеслі яго на сваіх плячах на магілкі пры каплічцы ў Тупальшчыне, плачучы быццам дзеткі па бацьцэ, суседзі-мужыкі» (Земкевіч).

В. І. Ленін адказваў панам рускім інтэлігентам:

«Так, Гейдэн быў не толькі чалавек, але і грамадзянін, які ўмеў узвышацца да разумення агульных інтарэсаў свайго класа і адстойваць гэтыя інтарэсы вельмі разумна (умно). А вы, паны асвечаныя дэмакраты, вы—проста слёзатачывыя дурачкі, прыкрываючыя ліберальным юродствам сваю няздольнасць быць чым-небудзь іншым, як культурнымі лёкаямі таго-ж памешчыцкага класа» (Ленін, т. VIII, стар. 429).

І далей Ленін піша: «Гейдэн быў чалавек адукаваны,—уміляюцца нашы салонныя дэмакраты. Так, мы ўжо гэта прызналі і ахвотна прызнаем, што ён быў больш адукаваны і **р а з у м н ы** (гэта не заўсёды бывае злучана з адукаванасцю) за саміх дэмакратаў, бо ён лепш разумеў інтарэсы **с в а й г о** класа і **с в а й г о** контррэвалюцыйнага грамадскага руху, чым вы, паны з «Товарища», разумееце інтарэсы вызваленчага руху. Адукаваны контррэволюцыйны памешчык умеў тонка і хітра абараняць інтарэсы свайго класа, удала (искусно) прыкрываў флерам благародных слоў і знешняга джэнтльменства, карысныя імкненні і драпежныя апетыты прыгоннікаў, настайваў (перад Сталыпінымі) на ахове гэтых інтарэсаў найбольш цывілізаванымі формамі класавага панавання. Усю сваю «адукацыю» Гейдэн і яму падобныя прынеслі на алтар служэння памешчыцкім інтарэсам» (Ленін, т. VIII, ст. 431).

Гэтая ленінская характарыстыка памешчыка Гейдэна цалкам распаўсюджваецца і на ідэолага прыгоннікаў Дуніна-Марцынкевіча. Іменна ён быў адукаваным і разумным абаронцам ітарэсаў прыгоннікаў памешчыкаў, умеў разумна, тонка і хітра адстойваць гэтыя інтарэсы, прыкрываць іх знешнім народалюбіем і «спагадаю прыгнечаным». Беларускія «адукава-

ныя лёкаі» эксплаатататараў, «слёзатачывыя дурачкі» паны-крытыкі не толькі не жадалі за знешняй «спадобай прыгнечаным» выкрыць карыслівыя інтарэсы прыгонніка памешчыка, а наадварот, усімі сіламі прагнулі захаваць гэтыя інтарэсы, абараняць іх, і ўсхваляць хамства, якое Марцынкевіч прышчэпліваў прыгонным сялянам.

Таму ленінская адпаведзь панам з «Товарища» цалкам і поўнасцю адносіцца і да беларускіх крытычных паноў.

«Вось вы іменна такія хамы... Вы з амерзіцельным благадушшам уміляецеся тым, што контррэвалюцыйны памешчык, падтрымліваючы контррэвалюцыйны ўрад, быў адукаваны і гуманны чалавек. Вы не разумееце таго, што, замест таго, каб ператвараць раба ў рэвалюцыянера, вы ператвараеце рабоў у халопаў. Вашы словы аб свабодзе і дэмакратыі—напускны лоск, вывучаныя фразы, модная балбатня ці ліцамер'е. Гэта размаляваная шыльда. А самі па сабе вы—труны павапляныя. Душонка ў вас наскрозь хамская, а ўся ваша адукаванасць, культурнасць і асвечанасць ёсць толькі рознавіднасць кваліфікаванай прастытуцыі. Бо вы прадаеце свае душы і прадаеце не толькі з патрэбы, але і з-за «любві к мастацтву».

(Ленін, т. VIII, ст. 430).

І. Плашчынскі

# НОВЫ РАМАН ПЛАТОНА ГАЛАВАЧА

I

«Праз гады»—так называецца новы раман Платона Галавача. Ужо сама назва рамана гаворыць, што ў ім ахоплен значны адрэзак часу, што людзі і падзеі паказваюцца на працягу некалькіх год. Пярэдадне імперыялістычнай вайны і пачатак калектывізацыі, царскі Пецярбург і будаўніцтва электрахімічнага камбіната на Яснаўскім балоце—вось храналагічныя рамкі і прастор дзеі рамана.

Больш як на працягу дзесяці год пісьменнік паказвае падзеі, жыццё людзей, іхныя імкненні, змаганне за ажыццяўленне сваіх лепшых ідэалаў, робіць іх жывымі сведкамі ператварэння самых дарагіх мар у жыццё, робіць іх творцамі новай рэчаіснасці.

Пісьменнік паказвае доўгі і складаны шлях чалавечага перавыхавання, чалавечага перараджэння, нараджэння новай ягонай соцыяльнай маладосці.

Пісьменнік паказвае і рэакцыйныя соцыяльныя сілы, носьбітаў соцыяльнай струхлеласці, якія ашчарэпам трымаюцца за самае горшае ўчарайшага дня, нянавісцю ворагаў ненавідзець усё тое, што адмаўляе права на існаванне ўчарайшай іхняй соцыяльнай бытнасці.

У соцыяльным, класавым змаганні крок за крокам перамагае рэакцыю рэволюцыя пролетарыята, партыя—у гэтым соцыяльная накіраванасць рамана. Галавач бярэ тыповых прадстаўнікоў розных класаў, соцыяльных груп і паказвае іх у змаганні, у тыповых абставінах. Вось чаму ў рамане адчуваецца каларыт часу, эпоха, якая ў ім паказваецца. У жывых вобразах людзей паўстае і праклятая мінуўшчына, і перамогшае праз рэволюцыю вялікае сёння. Тут людзі жывуць, перавыхоўваюцца, растуць у працэсе класавага змагання. Не рознасць пабытовых умоў выклікае супярэчнасці, антаганізм, а рознасць іх класавага быцця, што аднымі ўжо усвядомлена, а другімі паступова ўсведамляецца.

Раман «Праз гады» прасякнут ідэяй пагібелі ўсяго старога, ідэяй перамогі пролетарскай рэволюцыі, ідэяй вялікага соцыяльнага ператварэння рачаіснасці праз пролетарскую рэволюцыю. Гэтай ідэі ўсё падпарадкавана ў творы, яна жыве ў вобразах людзей, у іх узаемадачыненні, развіцці, набываючы мастацка-канкрэтны сэнс. Буднік жыве ў барацьбе за рэволюцыю, без чаго няма Будніка. Тарэнта і Галынскі выражаюць па рознаму перамогу гэтай ідэі ў чалавечай свядомасці. Пілацеявы, бацька і сын, Ягупла, кулак Мікіта і іншыя прадстаўнікі старога свету ў сваім змаганні са светам Будніка вымушаны воляй гісторыі «уступіць» сваё месца гаспадароў жыцця, перамагаюцца, выражаюць учарайшы дзень, у якога адабрана рэволюцыяй права на бытнасць.

Паказваючы з'явы, людзей, Галавач не спяшаецца рабіць публіцыстычных ацэнак іх. Жыццё паказваецца так, што яно гаворыць само за сябе, самі людзі выклікаюць спагадлівыя, або глыбока адмоўныя да сябе

дачыненні. Гэта асабліва трэба падкрэсліць як станоўчае, бо яно гаворыць пра рост творчай сталасці пісьменніка. Уменне выказваць свае непасрэдныя адносіны да падзей і людзей так, каб яны не выпіралі, і разам з гэтым быць глыбока тэндэнцыйным—такое ўменне прыходзіць не адразу, набываецца толькі творчай практыкай. Мастацка паказаць з'яву значна цяжэй, але затое і больш удзячна, чым падменьваць паказ абстрактна-публіцыстычнымі выказваннямі. Я не хачу сказаць, што Галавач поўнасцю ад гэтага пазбавіўся. Яно яшчэ ў некаторай ступені ёсць, аб чым гутарка будзе пазней. Я толькі падкрэсліваю асноўнае.

Тут дарэчы прывесці заўвагі Энгельса, зробленыя да апавядання Гаркнес «Гарадская дзяўчына». Энгельс пісаў:

«Я далёк ад таго, каб паставіць вам у віну, што вы не пісалі чыста соцыялістычнае апавяданне, «тэндэнцыйны раман», як мы, немцы, гаворым, у якім праслаўляліся-б соцыяльныя і палітычныя ідэі аўтара, гэта зусім не тое, што я думаю. Чым больш схаваны погляды аўтара, тым гэта лепш для твору мастацтва».

Тут з выключнай яснасцю выражана адна з важнейшых умоў мастацкасці твору і шкоднасць для мастацтва патрабавання, каб мастак абавязкова ў непасрэднай форме выказваў свае адносіны да таго або іншага персанажа, тэй або іншай з'явы. Мастак павінен выражаць свае дачыненне праз паказ з'явы, чалавека—і яно будзе гучэць у сто разоў больш пераканальна, чым аголеная тэндэнцыя. Гэта не абыякавасць—так можа паказацца літаратурнаму мешчаніну, у якога не хапае творчай здольнасці. Мастацтва не павінна ілюстраваць «погляды аўтара», а павінна паказваць, раскрываць асноўную тэндэнцыю развіцця рэчаіснасці.

Возьмем к прыкладу хоць бы лёс Паўла Шкробата ў рамане «Праз гады», узаемаадносіны паміж Паўлам, Тарэнтам і Мікітам. Што тут характэрнага ў сэнсе мастацкай пераканальнасці? А тое, што праз тыповыя ўзаемаадносіны ў тыповых абставінах пісьменнік паказаў заалагічнасць, ідыятызм дробна-уласніцкай вясковай рэчаіснасці. Павал фізічна скалечаны жыццём чалавек. Тарэнта не можа дапамагчы брату, бо ён сам вельмі бедны. Мікіта не хоча дапамагчы, гэты кулак ўвесь у прагнасці да ўласнасці. Павал быў вымушан выбіраць: або ісці ў старцы, або канчаць самагубствам—іншага ва ўмовах капіталістычнага ладу жыцця для яго не было. Самагубства спыніла пакуты чалавека. Гэтыя ўзаемаадносіны паміж братамі, самагубства чалавека, як выхад, з'яўляюцца жорсткім абвінаваўчым актам супроць таго жыцця. Яно ўразаецца ў памяць і пераконвае ў цяжкай праўдзе мінулага. Яно хвалюе і выклікае нянавісць да мінулага. Гэта «дэталь» дробнаўласніцкай вёскі не выпадкова робіць такое моцнае ўражанне на прафесара Галынскага. Голас безвыходнасці чуваць у Паўлавых словах: «І ніколі мы за ўвесь свой век не пажылі, як людзі, ні разу не пад'елі ўволю... А я так бы рабіў, я-ж так люблю працу, гэта-ж у нас усе ведаюць, які я быў». Чалавек прагне жыцця, а ўмовы прымушаюць трагічна яго абарваць.

Галавач бадай зусім пазбавіўся ад уласцівага яму раней народніцкага сентыменталізма, які адчуваўся ў паказе чалавечых перажыванняў, людскіх узаемадачыненняў, у малюнках прыроды. Рэалістычны план паказа жыцця больш сфармаваўся, стаў больш строгім і ўдумлівым і таму робіць малюнак больш вытрыманым. Раман «Праз гады» гаворыць пра значны рост творчага размаху пісьменніка.

## II

У пісьменніка ёсць свае ўлюбёныя героі, якія пераходзяць з твора ў твор. Пісьменнік жыве разам з гэтымі героямі, яны з'яўляюцца носьбітамі ягоных лепшых ідэалаў, іхнія думы і пачуцці, пакуты і ўзлёты, ра-

дасць і сум з'яўляюцца блізкімі і роднымі пісьменніку. Лепшыя радкі, найбольш прачутыя вобразы і яркія фарбы аддаюцца ім, каб больш поўна паказаць іхняе жыццё, каб сказаць чытачу: глядзі, што гэта за людзі, яны варты таго, каб браць з іх прыклад!

Галавачова творчасць вельмі арганічная ў гэтым сэнсе, яна ідзе паступовa ўгору. Улюбёны Галавачоў вобраз пераходзіць са старонак аднаго твора на старонкі другога, становячыся больш складаным. Рост гэтага вобраза выражае ў значнай ступені ўзвышэнне, ідэйнае і мастацкае, творчасці пісьменніка.

Што гэта за чалавек, якое жыццё фармавала яго, якія ідэалы ён вызнаў за сэнс свайго ўласнага жыцця і куды ён імкнецца? Гэта часта выхадзец з бядняцкіх пластоў вёскі, які паспрабаваў горкага перцу жыцця, вынес яго цяжар, што выхавала ў яго вялікую нянавісць да старой дробнаўласніцкай вясковай рэчаіснасці, якая здзекавалася над чалавекам і калечыла яго. Гэта комсамолец або партыец, адданы і чэсны змагар за ператварэнне старога і будаўніцтва новага, мараль якога, дачыненні да людзей вызначаюцца толькі інтарэсамі гэтай барацьбы, якой ён аддае ўсяго сябе. Гэта чалавек надзвычай чулы і эмацыянальны. Найбольш поўна гэты вобраз раскрываецца ў аповесці «Спалох на загонах». Такім з'яўляецца Панас, якога парткалектыў завода пасылае на калектывізацыю, чалавек вялікіх арганізатарскіх здольнасцей, які ведае жыццё, і да канца верны справе партыі, за якую аддае сваё жыццё. Павал Буднік з рамана «Праз гады» выражае далейшае станаўленне гэтага вобраза—гэта больш складаны вобраз station становчага героя ў Галавачовай творчасці.

Буднік прайшоў складаны і цяжкі шлях жыцця, а шлях ягонага жыцця—шлях рэволюцыйнага змагання. Ён быў студэнтам-большэвікам пецярбурскага універсітэта ў часы царызма. Пасля вольнае пасяленне і настаўніцтва ў глухой вёсцы Шапятоўцы «Северо-западного» края. Далей ссылка ў Сібір. Затым старшыня рэўкома ў павятовым морадку. І нарэшце арганізатар і кіраўнік будаўніцтва электрахімічнага камбіната—цэлага морадка заводаў, пра што ён марыў яшчэ ў першыя гады рэволюцыі.

Займаючыся ў пецярбургскім універсітэце, Буднік з'яўляецца членам арганізацыі большэвікоў. Адносіны да людзей, іх ацэнкі, усе паводзіны абумоўліваюцца прыналежнасцю Будніка да партыі. Пісьменнік з выключнай яркасцю падкрэслівае прастату і чэснасць, паслядоўнасць і вытрыманасць, самастойнасць і непрымірымасць, як характэрнае ў Буднікавых паводзінах. Менавіта, такім Буднік выступае ў сваіх дачыненнях да Кулікоўскага, такім выступае ў спрэчках з членам дзяржаўнай думы абшарнікам-прафесарам Пілацеевым, смела выкрываючы чорнасоценства гэтага шавініста «у белых чысценькіх пальчатках», які «гэткі-ж брыдкі, як і шавінізм чорнасоценца, які арудуе дручком».

Буднікава выступленне ў актавай зале царскага універсітэта—гэта выступленне чалавека з чоткай палітычнай праграмай прагучэла як смелае выкрыванне замераў рэакцыі напярэдадні імперыялістычнай вайны. Выступаючы пасля лекцыі Пілацеева, Буднік з універсітэцкай трыбуны кажа: «Ганьба, гаворым мы, бачачы, што пад вучонай тогай прафесара, уцелясненнем гуманнасці і справядлівасці крыецца мундзір ваяўнічага афіцэра-нацыяналіста, які, ратуючы за нацыянальнае вызваленне балканскіх славян, заклікае грамадскасць да нацыянальнай нянавісці да аўстрыйцаў і турак. Нарумянены падсалоджаны патэтычнымі словамі пра дэмакратыю і свабоду, пра крэўнасць славян, пра адзінства веры і іхных імкненняў, прафесарскі шавінізм яшчэ больш прыкры, яшчэ больш брудны, чым голы, нічым непрыкрыты шавінізм палітыкаў чорнасоценцаў... Дзе ёсць шавінізм, там няма дэмакратыі, там няма свабоды! Страшны

жудасны твар вайны выглядае з-за заслоны прыгожых прафесарскіх слоў».

Патрэбна была вялікая мужнасць, каб так гаварыць. Гэта прамова большэвіка Будніка з'явілася ўзрывам бомбы ва ўніверсітэцкім будынку ў прысутнасці ідэйных ахоўнікаў царызма. Не выпадкова паліцыя паспяшалася ў тую-ж ноч арыштаваць Будніка, а пасля зусім выслаць з Пецярбурга.

Народ, нацыя, еднасць, вера, дэмакратыя, свабода—толькі заслона для буржуазных палітыкаў, за якой хаваюцца брудныя нечалавечыя справы. Буднік зрывае маску з прафесара Пілацеева і агаляе сапраўдны сэнс выступлення шавініста—члена дзяржаўнай думы.

Буднік—моцная валявая натура, дужы чалавек, радасць і сэнс жыцця для якога ў змаганні за ягоператварэнне, якой-бы цяжкай справай гэта не было; радасць і разам упэўненасць у перамозе сваіх лепшых, выпеставаных у барацьбе ідэалаў. Поўнай яго процілегласцю з'яўляецца Кулікоўскі, надзвычай хістскі, неўстойлівы чалавек хоць і поўны ненавісці да царскай Расіі, але бязсільны рэалізаваць гэтую ненавісць у дзеянні, падаючы самагубцам перад «глухой сцяной» у ног «сытай ненавіснай морды ротмістра», у вобразе якога паўставала перад ім царская Расія. Гнеў і ненавісць у яго далей слоў не ідуць. Ягоныя выказванні—гэта злоснае бічаванне тагочаснай Расіі і разам прызнанне сваёй бездапаможнасці, нерашучасці, соцыяльнай бесперспектыўнасці, няздольнасці на які-небудзь актыўны ўчынак. Вобраз Кулікоўскага адцяняе, больш выпукляе вобраз Будніка. У Будніка няма істэрыкі. Ён кожны ўчынак цвяроза абдумвае, узважвае. Гэта чалавек выключна акрэсленай мэтанакіраванасці, не толькі адданы рэволюцыйнаму змаганню, а ўлюбёны ў яго, калі так можна сказаць. У такім плане вобраз Будніка вытрыманы да канца.

Будучы настаўнікам у Шапятоўцы, Буднік перш за ўсё праводзіць рэволюцыйную работу сярод сялянства, лічачы гэта за першы свой абавязак. Ён арганізуе сялян на актыўнае выступленне супроць Пілацеева, каб не даць магчымасці ажыццявіць яму свой план сталыпінскай рэформы—высялення сялян на хутары, іх грабяжа. Буднік адмаўляе існаванне нейкай справядлівасці ва ўмовах царызма, на якую спадзяюцца некаторыя з сялян.

Дзейнічаць, а не спадзявацца, не шукаць, а ўласнымі рукамі тварыць гэтую справядлівасць вучыць сялян Буднік. Ён вельмі добра разумее, што «пытанне пра зямлю вырасце ў страшную сілу і адыграе калі небудзь у рускіх падзеях не апошнюю роль», што гэта пытанне рэволюцыянізуе сялянства і таму ён намагае свае сілы на паскарэнне соцыяльнага канфлікта, вырошчванне соцыяльнай непакорлівасці ў сялянстве, разбурэнне веры ў нейкую магчымую справедлівасць царскіх законаў—словам, змагаецца за палітычны рост сялянства. Тут пісьменнік паказвае тыповае для таго часу і яно вырастае ў мастацкае абагульненне. У Шапятоўцы Буднік выступае як сфармаваны палітычны баец, які кіруецца ў сваіх паводзінах заусёды адзінай мэтай. Пісьменнік зусім слушна ставіць большэвіка Будніка ў цэнтр падзей.

Вельмі характэрнымі для Будніка з'яўляюцца ягоныя ўзаемаадносіны з прафесарам Галынскім, упершыню з якім ён сустрэўся ў час настаўніцтва ў Шапятоўцы, пасля ў сваю бытнасць старшынёй рэўкома, а затым кіраўніком будаўніцтва электрахімічнага камбіната. Узаемаадносіны гэтых двух персанажаў выражаюць асноўную лінію сюжэтнага развіцця. Іхнія паводзіны, лёс—сюжэтны касцяк рамана. У гутарцы з Галынскім Буднік разгортваў сваю вострую палітычную крытыку самаўладства. У сустрэчы з Галынскім пасля рэволюцыі ён выказвае свае погляды на су-

часнасць, якая для яго з'яўляецца часам сапраўднай чалавечнасці, бо тут няма месца соцыяльнаму здзеку над тымі, хто творыць жыццё. Гэта ён перад прафесарам у захапленні, як гаспадар і творца жыцця, кажа: «Мы павялічым прасторы сваёй зямлі. На былой балотнай багне вырастуць два з паловай дзесяткі заводаў камбіната, вырасце новы соцыялістычны гарадок».

Буднікавы адносіны да людзей, як ужо адзначалася, заўсёды вельмі акрэсленыя. Вартасць таго ці іншага чалавека для яго вызначаецца ягонай карыснасцю для грамадства, ягоным месцам у грамадстве. Асабліва ярка гэта паказвае Галавач на ягоных адносінах да Галынскага. Тут няма нічога супольнага з вузкім практыцызмам: «Я паважаю людзей, якія мысляць незалежна, людзей, якія не прымаюць дадзенага намі наверу, або, што самае горшае, з рознымі карыснымі мэтамі, а толькі пераканаўшыся ў тым, што дадзенае намі ёсць найбольш правільным з усяго, найбольш мэтазгодным з пункту гледжання чалавецтва». І далей: «Рэволюцыі не патрэбны людзі, якія служаць ёй, бо яны заўсёды гатовы здрадзіць. Рэволюцыі патрэбны людзі, якія яе справу лічаць за сваю і выконваюць яе, як самы ганаровы абавязак». Гэтым ён кіруецца ў сваіх вельмі чулых, тактычных і разумных адносінах да Галынскага. Тут Галавач паказвае двайныя адносіны партыі да лепшай часткі старой тэхнічнай інтэлігенцыі. Для Будніка наш час не толькі пара вялікага будаўніцтва, але і час стварэння багатых і цэльных чалавечых натур, людзей без тых канфліктаў і разладу, якія ведае чалавек капіталістычнага грамадства,— час ператварэнне чалавека ў працэсе вялікага будаўніцтва.

Буднік не толькі чалавек вялікай волі, ён інтэлектуальна вышэйшы за сваіх папярэднікаў у ранейшых Галавачовых творах. Але, кажучы пра далейшае станаўленне гэтага вобраза, трэба адзначыць, што Галавач меў магчымасці паказаць вобраз станоўчага героя больш выпукла. Вялікай заганай з'яўляецца тое, што вобраз Будніка бадай не ведае вялікага развіцця. Якія новыя чалавечыя якасці з'явіліся ў гэтага чалавека пасля таго, як мы з ім упершыню сустрэліся ва універсітэце, а пасля ў Шапятоўцы; як выраслі гэтыя якасці? Пісьменнік бярэ бадай адразу ўсяго чалавека і таму мы не бачым ягонага развіцця, як фармаваўся і ягоны светапогляд. Мы не бачым усяго багацця перажыванняў гэтага чалавека, не бачым ягоных унутраных супярэчнасцей. Няўжо ён не ведаў іх—ён-жа жывы чалавек, ды яшчэ чалавек вялікай справы. Усё гэта адбілася і на разгортванні сюжэта, паколькі Буднік з'яўляецца асноўным яго рухаючым фактарам. Трэба было даць вобразу Будніка больш страстнасці і вырастання думкі, надаць ягоным паводзінам, дачыненням да людзей больш складанасці, больш мастацкай інтрыгі.

## III

Крытыка ўжо адзначала, што Галавач добра ведае вёску, што вясковая рачаіснасць ім паказваецца найбольш глыбока і мастацка праўдзіва. Гэта, бясспрэчна, так. Вясковая тэматыка з'яўляецца стрыжнёвай у творчасці пісьменніка, з вёскай звязана большасць ягоных герояў. Але адсюль ні ў якім разе не вынікае, што Галавач «вясковы» пісьменнік—наогул такога паняцця не існуе. Тэматыка яшчэ не вызначае соцыяльнай прыроды творчасці. Яна толькі гаворыць пра тое, што пісьменнік у сваей творчасці найчасцей зварочваецца да таго, што яму больш вядома, што ім больш вывучана, што яму больш непасрэдна блізка. Важна, з якіх ідэйных пазіцый раскрываецца тая ці іншая тэма. Вось чаму тэматычная дамінанта ў Галавачовай творчасці зусім не пярэчыць таму, што Галавач вызначыўся ў нашай літаратуры як пісьменнік з светапоглядам пролета-

рыята. Важна, каб жыццё паказвалася праўдзіва, каб твор быў напісан у стылі соцыялістычнага рэалізма.

Раман «Праз гады» у пэўным сэнсе паглыбляе тэматыку Галавачовай творчасці. Асноўны фон рамана—вёска, спачатку дарэволюцыйная, а пасля совецкая. Тут трэба падкрэсліць непаўтарэнне ранейшага. Персанаж у гэтым творы падаецца на працягу доўгага часу ягонага супярэчлівага развіцця, мы маем тут даволі вялікую гісторыю чалавека, вобраз становіцца больш манументальным. Перад намі паўстаюць людзі розных соцыяльных груп, з рознымі поглядамі, з рознымі дачыненнямі да жыцця.

Паказваючы дарэволюцыйную вёску, пісьменнік глядзіць на яе, як на соцыяльна не аднародную. Побач з беднасцю тут выростае кулак. У паказе гэтай вёскі няма соцыяльнай застойнасці, супакоенасці, агульных месц. Пісьменнік абвастрае куты. Ён на першы план выпукляе нарастанне соцыяльнай непакорлівасці дарэволюцыйнага сялянства, рост нездаволенасці, што пасля выліваецца ў адкрытае выступленне супроць абшарніка Пілацеева, у бунт. Ужо тут у абрысах некаторых персанажаў, як напрыклад, Мікоды Жука, Міхалкі Хвойчыка вырысоўваюцца актыўныя барацьбіты з сялянства, яго бядняцкай часткі супроць існуючага ладу. Гэта робіць малюнкі вясковага жыцця праўдзівымі, надае ім патрэбную соцыяльную завостранасць, складае адзінства развіцця дзеі рамана з вобразам большэвіка Будніка ў цэнтры.

Перад чытачом разгортваецца гісторыя двух братоў—кулака Мікіты і бедняка Тарэнты. Вобраз Тарэнты Шкробата—адзін з найбольш удумліва распрацаваных вобразаў сялян. Тут бадай цэлая гісторыя развіцця чалавека, хай сабе і не ўсюды з аднолькавай сілай паказаная. Перад вачыма чытача праходзіць паўтара дзесятка год жыцця гэтага чалавека з вечнай і такой характэрнай для яго марай «стаць чалавекам». Пісьменнік намаляваў тыповы і ў тыповых абставінах вобраз селяніна, узняў яго на вышыню мастацкага абагульнення.

Тарэнта праходзіць тры стадыі развіцця. Гэта тыповы бядняк да рэволюцыі і ў першыя яе гады, пасля атрымання зямлі становіцца серадняком і нарэшце—калгаснікам.

Тарэнтава жыццё пачалося ў лахманах беднасці. Безвыходнасць беднасці прымусіла яго шукаць «лепшай долі» у далёкай Сібіры, каб адтуль прыехаць зноў назад у яшчэ горшую беднасць, без усякіх перспектыў на заўтрашні дзень. Такі шлях пакутнага шукання «лепшай долі» прайшоў не толькі Тарэнта. Яго прайшлі ва ўмовах царызма дзесяткі тысяч сялян-беднякоў, якія, правандраваўшы тысячу кілометраў, страціўшы ўсё, што мелі варочаліся назад у свае струхлелыя, разбураныя хацінкі, пападаючы ў лапы кулаку і памешчыку. Пісьменнік паказвае гэта, як тыповае для эпохі мінулага, паказвае пераканальна і праўдзіва і яно ўспрымаецца, як трагедыя селяніна-бедняка.

Тарэнта, выхаваны светам прыватнай уласнасці, хай сабе і надзвычай мізернай, вечна марыць пра ўласнасць, марыць да пакут, будучы пераконаным, што толькі ў ёй адзіны ратунак. Набыць «сваё»—зямлю, гаспадарку—адзіная ягоная мара.

«Па-над полем плывуць лёгкія мяккія вятры. Ад вятроў шамаціць спелае калоссе ў снапах, састаўленых бабкамі. Далёка, куды сплываюць вятры, над балотам чарнее ў поцемках малады яшчэ лес. Густая цемрадь вісіць над тым лесам, а Тарэнта спыніўся ў полі і блукае ў той далячыні вачыма, шукаючы ў яе нямотнасці адказу на свае мары. Нерухома, як укопаны, стаіць ён. Нешта неабдымнае, вялікае, урачыстае і трывожнае прышло ў чалавека ад шырокага палявога прастора, ад прахлады і цішыні, узяло чалавека ўчэпістымі рукамі сваімі за самае балючае, спыніла яго,

і тады чалавек, як ніколі яшчэ блізка ўбачыў самога сябе, зразумеў сваю прыкованасць да зямлі, сваю вечную ад яе залежнасць і свае бяссілле. Дзяцінства, юнацтва, моладасць, сілы—усё, усё будзе аддадзена ёй...

Усё жыццё чалавек гэны прагне большае блізкасці да зямлі, спадзяючыся ў гэнай блізкасці знайсці самога сябе—гаспадара. А зямля ляжыць вакол яго поўная загадкавасці, вабіць сваёй блізкасцю, дражніць сваімі багаццямі і не перастурае іх.

— Каб хоць колькі, каб хоць кавалачак нейкі мне сваёй зямлі, хіба-ж я тады жыў-бы так?.. Хіба-ж бы шляўся па чужым, губячы там свае сілы? Эх-ха...»

Якая сіла праўды, колькі тут цяжкага чалавечага болю і пакуты. Мара застаецца недасяжнай і таму яшчэ больш жаданай,—«знайсці самога сябе—гаспадара». Пачуццё глыбокага адзіноцтва і безвыходнасці апаноўвае чалавека, калі ягоныя вочы спыняюцца на сваёй хаце—старой, улезшай вугламі ў зямлю, стопцы: «От, здохнеш у гэтай хаце і ніхто табе не дапаможа, ніхто табе не спагадае». Гэта ўспрымаецца сёння як адмаўленне рачаіснасці Расіі самаўладства, выклікае да яе яшчэ большую нянавісць, заклікае больш мужна змагацца за пабудову соцыялістычнай рачаіснасці, дзе няма месца адчаю і адзіноцтву. У гэтых словах нечакана для самога Тарэнты адмоўлена існаванне нейкае справядлівасці ў капіталістычным грамадстве, у што верыў і чаго шукаў Тарэнта, верыў у тое, што «праўда верх возьме», шукаючы свайго месца ў жыцці, разумеючы праўду, як нейкую маральную катэгорыю, а не як праўду класавую і таму дзейную, актыўную, а не рабскую сілу. Жыццё разбівала на кожным кроку і нарэшце пераканала ў ілюзорнасці такой праўды.

Рэволюцыя адчыніла перад Тарэнтам шлях да ажыццяўлення ягонай мары, зрабіла яе сапраўднасцю. Прайшоўшы імперыялістычную вайну, Тарэнта пераканаўся, што ва ўмовах царызма не можа быць справядлівасць, ранейшай веры ў яе не стала. Ён зразумеў, што не прасіць, а самому сілаю трэба браць. «Праўда яна ў кулаках, а не ў паясніцы». Ранейшы Тарэнта ўзначальвае падзел панскай зямлі, ён безагаворачна ідзе за большэвікамі, якія аддалі абшарніцкія землі сялянству. Ён рэволюцыю ўспрыняў і зразумеў па-свойму: «Рэволюцыя яна тут уся ў зямлі... Паноў гэтых, як ветрам ліст з зямлі, знясе. Годзе ім панаваць». Ён цешыць сябе, што і сына ў навуку аддасць, бо «рэволюцыя ўсім дзверы адчыніць». Галавач пераканальна паказвае гэту рысу селяніна—дробнага ўласніка і гэта робіць вобраз Тарэнты больш тыповым.

Тарэнта з вялікім гонарам кажа: «Я за такое жыццё біўся, каб чалавекам стаць, галаву пад кулі падстаўляў». Дэкрэт аб зямлі, сваё чырвонагвардзейскае пасведчанне ён хавае, як самае дарагое для яго. Верыш Тарэнту, калі ён кажа: «Няхай пачнецца заўтра што, і я зноў пайду ў чырвонагвардзейцы. Хату кіну, усяго адчураеся, а пайду, як і ў 1918 годзе». Але Тарэнтавы погляды і тут не выходзяць за межы поглядаў селяніна-дробнага ўласніка. Ягоныя словы гучаць моцна, але гучаць як словы толькі такога селяніна, які глыбока пераконан, у якога вякамі выхоўвайся погляд што: «... Чалавек і рукамі і зубамі за зямлю трымаецца... Усё за яе трымаецца і лішні ты чалавек на зямлі, калі не маеш свайго ўласнага месца на ёй...»

Ён не мог разумець, што рэволюцыя зруйнавала самыя асновы прыватнае ўласнасці і ў сваім далейшым поступе павінна была дайсці і да перабудовы, адмаўлення ранейшай бытнасці ў шырокім рэальным станаўленні новых соцыялістычных форм жыцця на вёсцы. Гэтага не мог разумець Тарэнта, бо яго яшчэ трымае пад сваім панаваннем учэпістымі рукамі прыватная ўласнасць. Вось чаму да гутаркі з Буднікам пра арганізацыю калгаса ён ставіцца староннe, ухіляецца ад пэўнага адказу.

Тарэнта прыкаваны да свайго двара, баіцца, што ў калгасе прыдзецца рабіць на другіх, што ён не можа «рашыцца ўсяго і ў табун ісці». Ён раіцца з сваім сынам комуністам, але не знаходзіць і ў яго «спагады». Тарэнта прыпамінае ўвесь свой жыццёвы шлях, прыпамінае Сібір, куды ездзіў шукаць шчасця, прыпамінае, як ён змагаўся на фронтах грамадзянскай вайны, каб жыць без пана, і яму яшчэ бліжэйшым становіцца здабытае: «Столькі вёсен і лет, запоўненых працай, пражыта тут на гэтым кавалку зямлі, так цяжка здабытым. А цяпер як прыдзе вясна, як-жа будзе? Каля хаты зямля і не свая? Куды захочуць, туды пагоняць рабіць? Усё-ж роўна зямля? Як-жа ўсё роўна, калі ты не будзеш мець месца, за якое заўсёды трымацца можна, якое толькі тваё, а ні нейчае яшчэ?» Праходзіць многа бяссонных начэй, пакуль вырашаецца пытанне «тваё яно ці не тваё?»

Пісьменнік не паказвае, як Тарэнта вырашыў сваё пакутнае пытанне, як ён стаў калгаснікам, як у яго змяніліся адносіны да новага ладу жыцця. Пра тое, што Тарэнта стаў калгаснікам—рупным гаспадаром большага і адменнага ад ранейшага—пра гэта становіцца вядомым у канцы рамана. Тут хочацца адзначыць, што заключэнне рамана гучыць па-сапраўднаму аптымістычна.

Высокае аптымістычнае гучэнне надае адна дэталь. Вечарэе. Тарэнта едзе з работы з калгаснага поля. На фоне пэйзажа соцыялістычнай вёскі адбываецца гутарка паміж Тарэнтай, яго дачкой Марыляй і ўнукам. Вось урывак:

— Там жыў твой дзед,—гаворыць Марыля да сына, паказваючы рукой у поле паміж рэчкай і тапалёвай прысадай. І хлапчук, і сам Тарэнта паварочваюць галовы ўлева.

— Там?—пытае здзіўлена хлапчук.

— Ага, там.

Хлапчук маўчыць нейкі час, пазіраючы ў цёмную глухую далячынь, а пасля кажа:

— Там страшна. Я там адзін ніколі не жыў-бы. А ты, дзед, не баяўся жыць там?».

Рачаіснасць змянілася. Растуць новыя, адменныя людзі. Здаецца мелькам пісьменнік закрануў, што для самага маладога падрастаючага пакалення дробнаўласніцкая вёска становіцца гісторыяй без уласных успамінаў, яна забываецца, бо гэтыя людзі вырастаюць у іншым свеце. Пісьменнік гэта закрануў толькі адной рыскай, але зрабіў па-мастацку. Дэталь стала нібы светляком, які асляпляе сваім яркім святлом чалавека. Хочацца, каб такіх дэталей, такіх светлякоў было больш, бо ад іх ідзе вялікае святло нашай рэволюцыі.

## IV

На вобразе прафесара хіміі Галынскага, на ягоных узаемаадносінах з Буднікам Галавач паставіў цікавую і складаную праблему краха дробна-буржуазных ілюзій ва ўмовах царызма і перараджэння лепшых прадстаўнікоў старой тэхнічнай інтэлегенцыі ва ўмовах будаўніцтва соцыялізма. Менавіта, гэта праблемнасць надае вобразу Галынскага мастацкую выражальнасць. Галавач не спрацііў пастаўленай праблемы, не пайшоў у яе вырашэнні шляхам схематызацыі. Гэта праблема ў беларускай савецкай літаратуры яшчэ не ставілася шырока, як не пастаўлена ва ўсю шырыню наогул праблема перавыхавання чалавека, хоць і закраналася, але часта так няўмела і павярхоўна, што тут яшчэ не створана вялікага і хвалюючага вобраза.

Асноўнае пытанне, якое вечна хвалюе Галынскага, гэта пытанне яго-

нага грамадскага месца ў жыцці. Галынскі паказваецца на працягу дзесятка год, чытач бачыць, як зменьваюцца погляды, як ён пакутна ідзе па лесвіцы соцыяльна-прагрэсіўнага ўзвышэння. У гэтым сэнсе вобраз Галынскага ўдумліва паказан, ён новы ў творчасці пісьменніка, шлях развіцця яго выражае адну з праяў паступовай перамогі соцыялізма ў свядомасці чалавека, вобразную матэрыялізацыю гэтай ідэі ў працэсе класавага змагання. Галынскі—прафесар пецярбурскага універсітэта і Галынскі—даследчык на будаўніцтве Яснаўскага электрахімічнага камбіната—гэта два розных чалавекі. Галынскі да соцыялізма прышоў зусім адменным, толькі яму ўласцівым шляхам і гэта робіць яго вобраз індывідуалізаваным, не падобным да іншых. Гэта не шлях рэволюцыянера (Галынскі такім ніколі не быў), а шлях адданага навуцы, яе сумленнага работніка, выйшаўшага з дробна-буржуазнага асяроддзя і падпаўшага ўплыву буржуазнага грамадства, дзе фармаваўся ён, як чалавек, а пасля перарадзіўшагася.

Да вайны Галынскі быў «вядомы ў Пецярбурзе, як крайні радыкал ў сваіх палітычных перакананнях», гэта значыць, што на межы буржуазнага грамадства не выходзілі ягоныя погляды. Галынскі не прымае поглядаў Пілацеева, у якім ён бачыць абарону самаўладства, дэспатыі. Ён супроць рэакцыі, кажучы, што «чалавецтва тады толькі-б было счаслівым, калі-б ішло да сваіх ідэалаў крокамі маладасці, а не старасці...» Але канкрэтна што гэта азначае, і сам прафесар не адказаў-бы. Неакрэсленасць поглядаў, іх няпэўнасць пісьменнік ускрывае праз сустрэчу прафесара з Буднікам—чалавека вельмі акрэсленых палітычных вызнанняў. Галынскі ніякіх сімпатый да царскай Расіі не адчувае, ён прыхільнік Расіі, «якая будзе ўвасабленнем панавання розуму і справядлівасці». Але ягоныя перакананні не пераконваюць і яго самога, што ён асабліва адчуў пасля гутаркі з Буднікам.

Ілюзорны, цмяны вобраз «новай Расіі» адразу знікае, як толькі Галынскі сутыкаецца з вясковай рачаіснасцю: «І тады з усёй сілай давала адчуць сябе адсутнасць цвёрдае глебы пад нагамі, таго, на што можна было-б абаперціся. І вось гэтай апоры не было. Разуменні, якімі ён аргументаваў свае мыслі, былі пустымі, не мелі канкрэтнага рэальнага зместу... Прыходзіў выпадкова чалавек, народны вучыцель і пачынаў гаварыць пра зямлю. Тады цень новай Расіі, створанай ім у выбражэнні, засланяўся жабрачымі постацямі галодных сялян. Постаці брылі адна за другой натоўпамі і вобраз новай Расіі знікаў, расчыняўся ў струмені галодных людзей, а ён адзін бездапаможны стаяў у баку, не ўмеючы дапамагчы гэтым галодным, не ўмеючы захаваць у памяці вобраза, які стварыў для сябе і Расіі». Даволі было Галынскаму сустрэцца з цяжкай вясковай рачаіснасцю, каб ад ягоных відомых перакананняў нічога не засталося, каб адразу выявілася адсутнасць якой небудзь становучай уласнай палітычнай праграмы, у якую-б ён сам цвёрда верыў. Для прафесара многае застаецца незразумелым.

Пісьменнік падкрэслівае смешнасць поглядаў Галынскага ў параўнанні з Буднікавымі. Неабвержанасць гісторычнай логікі Буднікавых поглядаў даводзіць на кожным кроку жыццё, нават розныя выпадкі, як, напрыклад, самагубства Паўла Шкробата, якое гаварыла пра ўвесь цяжар вясковага жыцця, не зусім зразумелага для Галынскага. Бачанае парадзіла пачуццё бездапаможнасці. Вёска прымусіла Галынскага больш задумацца над жыццём, над сваімі поглядамі. Галавач пераканальна разбройвае погляды Галынскага самім жыццём. Такім прафесар сустракае Октябрскую рэволюцыю.

Да рэволюцыі Галынскі не паставіўся варожжа, але і не прыняў яе адразу. «У жыцці, якое пачалося, Галынскі адчуваў сябе разгубленым, бездапаможным. Ён хацеў-бы прыняць гэнае жыццё, але шмат што ў ім

палохала яго, было незразумелым і ён чакаў, што ўрэшце ў нейкі час ўсё ўтаймуецца, стане больш простым, больш лёгкім для разумення». Галынскі зайздросціць свайму бацьку—доктару, які проста паставіўся да рэволюцыі, ўбачыўшы там карыснасць сваёй работы. Ён «таксама хоча прыняць рэволюцыю», але яго палохае жорсткасць у рэволюцыі, ён хоча, каб яна была больш «чалавечнай». Ён шкадуе, што не можа так паставіцца да рэволюцыі, як яго бацька. Пра гэтую-ж жорсткасць рэволюцыі ў адносінах да пераможных ёю ворагаў Галынскі гаворыць і ў першай сустрэчы пасля некалькіх год Будніку, хоць і не пярэчыць, што рэволюцыя прынесла сапраўдную чалавечнасць і справядлівасць.

Галынскі хоча застацца ў баку, «застацца самім сабою», «быць ні там ні тут...». Прафесар праходзіць яшчэ доўгі шлях. Ён парывае з людзьмі, да якіх блізка стаяў калісці, хоча замкнуцца ў адзіноту, «каб спакойна прадумаць усё, каб адышоўшы неяк ў бок крыху ад наваколь-нага, збоку ўважлівей прыглядзецца да яго, асмысліць яго і азначыць свае адносіны да яго». Галынскаму здалося, што ў навуковай рабоце на Яснаўскім камбінаце ён знайшоў такое месца—быць незалежным, «стоячы ў баку рабіць сваю справу»,—займацца навуковымі доследамі, не падпадаць пад ўплыў людзей новага грамадства. Але-ж гэта ілюзія, такім вырашэннем пытання яшчэ не здымаецца супярэчнасць. Галавач крок за крокам паказвае ілюзорнасць такога вызнання і нават сам професар заўважае, што ён міжвольна падпадае пад уплыў людзей новага свету ў асобе Будніка. Павінны прайсці гады, каб Галынскі рашуча парваў з усім старым, каб ягоныя дачыненні да соцыялізма сталі дачыненнямі, як да роднай справы. Менавіта ў гэтым кірунку ідзе яго развіццё. У працэсе соцыялістычнага будаўніцтва перавыхоўваецца Галынскі.

Звароту ў старое, якое было не ягоным, няма. Сустрэчы з людзьмі мінулага адчуваюцца, як прыкрасць. У адносінах нацдэма Ягуплы і сына абшарніка Пілацеева адчуваецца нацягнутасць, нейкая непрыязнь, процілегласцю чаму з'яўляюцца яго адносіны да Будніка, якога не можа не паважаць прафесар. Дачыненні да першых паступова вырастаюць у канфлікт, у канчатковы разрыў з імі. Галынскі спачатку ўцякаў ад гэтых людзей, а пасля іх выкрывае. Трэба было прайсці вялікі шлях, каб зрабіць гэты выключны акт для такога чалавека, як Галынскі.

Прафесар знайшоў нечаканы раней прастор для сваёй навуковай работы, пра які ён раней і марыць не мог. Голас вялікага захаплення гучыць ў прафесаравых словах аб будаўніцтве і навуковых доследах, аб перспектывах практычнай рэалізацыі навукі на ранейшым непрыступным і страшным для чалавека балоце «Сыты мох», пра якое складзена шмат паданняў. Прафесар у захапленні ад перамог навукі над дзікімі сіламі прыроды, хоць яшчэ і не кажа, што яны сталі магчымымі толькі дзякуючы пролетарскай рэволюцыі. Але ўжо з яго вуснаў чуваць такія словы як **«нашы** лабараторыі», **«свае** заводы».

Нябачныя перспектывы выкарыстання торфа, якія разгортвае ў дакладзе на Совнаркоме Галынскі, выклікаюць нешта новае, чаго раней сам прафесар так выразна не адчуваў і што з'яўляецца па сутнасці гімнам рэволюцыі, гімнам будучыні: «Далёкія балотныя імшары ажываюць ва ўяўленні прафесара. Ён бачыць як падымаецца з багны, з дрыгвы, затоптаная туды тысячагоддзямі, зямля. Амалоджаная падымае яна на паказ бясконцыя свае багацці і шчодрая ў сваіх дарунках перадае іх людзям. Прафесар бачыць гэтых людзей. Яны непадобны на тапельца, які некалі на яго вачах кінуўся ў возера. Яны непадобны і на тых, што некалі прыходзілі ў панскі двор прасіць Пілацеева аб сваёй зямлі. Непадобны яны і на тых, якія ішлі некалі пясчанай дарогай наперадзе страж-

нікаў. Яны іншыя». Гэта нараджаецца новы прафесар, ўжо не бесстаронні чалавек да будаўніцтва соцыялізма.

Ранейшы Галынскі пачынае станавіцца іншым. Таму ён так хоча хутчэй прыехаць у Совецкі Саюз з-за мяжы, куды ездзіў у навуковую камандыроўку, таму яму там «чагосці не ставала ў працягу ўсіх чатырох месяцаў падарожжа» па Чэхаславакіі, Аўстрыі і Германіі. У прафесара яшчэ няма выразнага ўсведамлення гэтага, палітычнага ўсведамлення, ён яшчэ па-ранейшаму думае, што «навука ніколі не належала адной якой-небудзь партыі або класу». Але ён тут-жа заяўляе Пілацееву—сыну, што, за большэвікоў «аб'ектыўная хада падзей», што большэвікі «ператварылі балота ў важны прамысловы вузел. Зрабілі Расію пісьменнай». На размовы пра зварот буржуазнага ладу ён глядзіць як на смешныя. У гутарцы з Пілацеевым ён на баку калектывізацыі. Прафесар кажа Пілацееву: «Вы цягнеце Расію назад. І я рад, што з гэтага нічога не выйдзе». Галынскі актыўна ўрастае ў палітыку, што завяршае развіццё яго, як мастацкага вобраза.

V

Свет соцыяльнага адыходу, рэакцыі паказваецца ў вобразах Пілацеевых бацькі і сына, Ягуплы, кулака Мікіты Шкробата і інш. У вобразе Пілацеева—бацькі паказан тып ваяўнічага шавініста—абшарніка. У вобразе Ягуплы паказан тып лёкая. Лакейства, ліслівасць характарызуе ўсе ягоныя паводзіны. «Погляды» Ягуплы прадыктаваны колішнім яго гаспадаром—абшарнікам Пілацеевым. Выхадзец з мяшчанскіх колаў ён застаўся верным іх сынам. Ягоная роль ўся ў паслугацтве колішнім гаспадарам жыцця. Ягоныя адносіны да рэволюцыі—гэта адносіны мешчаніна, які, не маючы за душой ніякіх ўласных ідэй, прэтэндуе на нейкую «ідэйную» незалежнасць, самастойнасць. Галавач ускрывае ідэйную пошласць гэтага выкідыша рэакцыі, які праз некаторы час, прыкрыўшыся маскай, пралазіць у «рэволюцыйныя паэты» і пачынае іграць у любоў да соцбудаўніцтва, будучы яго закончаным ворагам. Галавач падкрэслівае ўсё паказное, пазёрскае, ненатуральнае і таму акрамя агіды вобраз Ягуплы да сябе нічога не выклікае. Пісьменнік усё больш і больш раскрывае нутро гэтага нацдэмаўскага пасланца ў літаратуру. Гістэрыка авалодвае Ягуплай, калі ён бачыць як рушыцца адзіная і апошняя яго апора —ліквідуецца кулацтва, як клас. Ён гістэрычна крычыць аб жорсткасці, трагізме «цэлага пакалення людзей». Ён становіцца ў позу выражальніка праўды, апелюе да гісторыі, якая «жорстка адпомсціць» тым, хто маўчаў, а «наступнае пакаленне абзаве іх хлусамі і баязліўцамі». У гэтым «ваяўнічым» крыку—мізэрнасць і бяссілле перад поступам рэволюцыі, адчуванне канчатковай утраты месца і права на жыццё.

У паказе людзей класава-варожых свету ёсць адзін істотнейшы недахоп. Трэба было паказаць гэтых людзей у дзеянні. Якраз з гэтага пункту гледжання слаба паказана кулацтва ў рамане. Якую канкрэтна перашкоду рабіла кулацтва ў калектывізацыі не паказана. Кулакі збіліся ў кучу і толькі разважаюць пра свой лёс. Яны занадта пасіўныя і таму мала тыповыя. Пісьменнік павінен быў паказаць, як надыход соцыяльнай пагібелі кулацтва актывізаваў іх апошнія сілы на барацьбу з рэволюцыяй, што толькі яшчэ больш выпукліла-б непераможнасць хады рэволюцыі і бяссілле перад ёй апошняга капіталістычнага класа—гэтага патрабавала ад пісьменніка праўда нашых дзён.

Мікіта ходзіць за Тарэнтам і просіць, каб ён дапамог яму «выратавацца» ад раскулачвання. Іншыя кулакі таксама толькі гавораць, далей разважанняў не ідуць. Не відаць варожай справы. Магчыма тут было-б дарэчы больш прыкрыць, для чаго збіраў Пілацееў—сын кулакоў.

Калектывізацыя павінна была з'явіцца арэнай для паказу надзвычай вострых класавых сутычак. Гэта надало-б і сюжэтнаму разгортванню высокую напружанасць. Тут не трэба было баяцца паўтарэння ўжо раней сказанага (аповесць «Спалох на загонах»). Не можа быць там паўтарэння, дзе ёсць паказ. Паўтарэнне толькі там, дзе паказ падменьваецца апісаннем. Галавач не адзін раз пісаў пра беднасць старой вёскі і, не гледзячы на гэта, тэма беднасці ў рамане «Праз гады» гучыць высока, напружана, бо ўзнята на больш мастацкую вышыню, чым было раней. Можна і трэба патрабаваць ад пісьменніка паказваць калектывізацыю, як вялікую соцыяльна-філасофскую праблему, якая паспяхова вырашаецца. Пара ўзняць тэму пра калектывізацыю на заслужаную ёй філасофскую вышыню—гэта пазбавіць і ад паўтарэння і дасць твору вялікае ідэйна-мастацкае дыханне.

Дарэчы тут трэба адзначыць яшчэ адно. Мне здаецца, што Галавач невыстарчальна паказаў эксплаататарскую сутнасць кулацтва. Мікіта ўвесь ў прагнасці да ўласнасці, ён служка царскай паліцыі. Мікіта жыве ў дастатку, але Мікіта «гаспадар»—эксплаататар мала відаць. Параўнайце вобраз Мікіты з вобразам Сурвілы з «Бацькаўшчыны» Кузьмы Чорнага (нават не гледзячы на ўсю індывідуальную розніцу вобразаў), каб ўбачыць слабасць вобраза Мікіты.

VI

Сюжэт рамана разгортваецца проста. Тут няма гульні ў вонкавыя, бутафорскія інтрыгі. **Цэнтральны герой не стыхійна плавае па падзеях, ён арганізуе іх, актыўна ў іх удзельнічае, што надае яму сілу, ён урастае ў сюжэт, як дзейная сіла.** Гэта станоўчы факт. Бессюжэтнасць многіх твораў нашай літаратуры якраз ёсць вынік няўмення надаць герою належную сюжэтную функцыю, зрабіць яго фактарам развіцця сюжэта.

Але гэта ў сваю чаргу патрабуе, каб персанаж жыў багатым і цікавым жыццём, каб ён многа думаў і перажываў, каб паводзіны героя былі сюжэтна напружанымі, каб з кожнай падзеі адкрывалася, вырастала і мацнела ў вядучым персанажы якая небудзь новая, раней невядомая і цікавая якасць. Толькі такі сюжэт будзе сюжэтам вялікіх, незабываемых, страстных, тэмпераментных характараў.

Як раз з гэтага боку вобраз станоўчага героя ў Галавача раскрываецца невыстарчальна, бо ён не паказан на ўвесь рост у сваім развіцці. У трэцяй частцы рамана ён засланяецца вобразам Галынскага, ў значнай ступені яго роль зводзіцца да штурхача ў развіцці вобраза прафесара. Вось чаму ў трэцяй часці рамана, дзе асабліва павінен быў вырасці вобраз Будніка, жыць эмацыянальнай напружанасцю, мы не бачым усяго багацця гэтай багатай асобы. Пісьменнік больш цікавіцца вобразам Галынскага, чым Будніка. А гэта зніжае і эмацыянальную выражальнасць рамана, яго заключных акордаў. У параўнанні з трэцяй часткай першая стаіць вышэй: тут і галоўны персанаж жыве больш напружаным жыццём, тут больш страсці і напружання ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі.

Гэтым я не адмаўляю вышэйсказанага пра арганізуючую ролю галоўнага персанажа ў развіцці сюжэта. Ён застаецца рухаючай яго сілай. Без Будніка не было-б Галынскага. Перамога Галынскага над пачуццямі і поглядамі, якія ў яго былі ад старога свету, ўспрымаецца як перамога Будніка, які актыўна дачыняўся да перавыхавання Галынскага.

Але абвастраць і ўскладняць супярэчнасці трэба непасрэдна па лініі галоўнага персанажа, паколькі ён выражае асноўную сюжэтную лінію. У канцы рамана «Праз гады» абвастраюцца супярэчнасці паміж Галынскім з аднаго боку, Пілацеевым і Ягуплай—з другога. Буднік стаіць у баку, не мае непасрэднага дачынення да гэтага. Таму тут няма нарастання

вядучай сюжэтнай лініі. Вазьміце, напрыклад, вобраз бясстрашнага пролетарскага палкаводца Чапаева. Кожная сцэна адкрывае у ім новае. У заключных сцэнах гэты чалавек уздымаецца да вышынь вялікай страснасці, выключнай сілы, усё кандэнсуецца на ім і таму так чыста і высока гучыць фінал карціны, не гледзячы на смерць Чапаева.

Ідэйная выражальнасць патрабуе, каб развіццё сюжэта ішло па ўзыходзячай лініі, з кожнага раздзела твора ўсё вышэй і вышэй, каб не было сюжэтных пауз, прыпынкаў, каб дасягнуць кульмінацыйнага пункта. Гэта патрабуе майстэрства канцэнтраваць падзеі, сціскаць узаемадачыненні вобразаў—персанажу, абвастраць супярэчнасці да іх найвышэйшага пункта, усё больш і больш напальваць страсці, пачуцці, мыслі, пастулкі—тады не будзе агульных палажэнняў, шэрых месц, якія не вырашаюць, а ілюструюць ідэю аўтара, і твор будзе мець сапраўдную мастацкую інтрыгу.

Гэтаму яшчэ не навучыліся нашы пісьменнікі. З гэтага боку мае значныя хібы і раман Платона Галавача «Праз гады». Інтрыга ў рамане слаба адчуваецца, яна не мае высокіх нот. Пра значэнне вялікай інтрыгі гаварыць непатрэбна.

Галавач узяў вялікі адрэзак часу, багаты падзеямі, вельмі шырокія рамкі для рамана. Гэта тым больш ускладняе задачу, як мага скандэнсаваць дзею, выбраць такія пункты, праз якія найбольш удала можна выразіць сюжэтнае нарастанне. Падзеі зменьваюцца ў іх храналагічнай паслядоўнасці, але ў іх не заўсёды адчуваецца лінія сюжэтнага ўзыходжання, узвышэння. У творы не адчуваецца належнай кандэнсацыі дзеі, хоць сама дзея ёсць.

Сюжэт не можа захапляюча разгортвацца, калі ў творы няма згусткаў дзеі, згусткаў эмоцый, згусткаў страсцей, калі яны разраджаюцца, а часамі нават засланяюцца сюжэтна пабочным. У рамане ёсць шэрыя месцы, ёсць залішнія апісанні—надзвычай статычныя ў агульным сюжэтным развіцці, затрымліваюць яго. Напрыклад, арганічна не звязана з асноўным у творы, да некаторай ступені выпадае, арганізацыя комсамольскай ячэйкі ў Шапятоўцы і паказ комсамольцаў. Раздзелы, прысвечаныя комсамольцам, самыя слабыя ў рамане. Гэта бытуе зусім самастойнай тэмай. Якраз пра гэтыя месцы можна сказаць, што яны ілюструюць ідэю пісьменніка, а не ідэя выплывае з вобразаў. Тут шмат выпадковага і блёклага.

Мілоўскага пасылае акругком партыі на загатоўкі лесу і збор прадразвёрсткі. Ён пападае ў Шапятоўку, сустракаецца з Рыгорам. Рыгора надзвычай зацікавіў комуністычны знак на грудзях у Мілоўскага. Адбываецца гутарка. Рыгор раней нічога не чуў пра комсамол. І адразу праз некалькі хвілін, ён выказвае жаданне стаць комсамольцам. Назаўтра сустракаецца з некаторымі таварышамі і арганізуецца ячэйка. Усё гэта не пераконвае, бо тут няма паказу вырастання магчымасці ў рэальнасць, а ёсць адразу данасць. Не ўскрыты перадумовы. Вышла вельмі лёгка, але затое і не ўспрыймаецца, як сапраўдны ідэйны рост, як нараджэнне новай чалавечай якасці. Рыгор, стаўшы комсамольцам, нечакана раптоўна становіцца вельмі палітычна граматным. Яго даклад на ячэйцы аб міжнародным становішчы варты сфармаваўшагася, надзвычай развітага комсамольца і таму гучыць з яго вуснаў не зусім натуральна. Ад таго, што робіцца ўсё раптоўна, не ўспрымаецца, як акт вялікага ідэйнага самаўсведамлення, і тое, што комсамольцы добраахвотна ідуць на фронт. Усе гэта тыповыя акты, але з іх ідэя вырастае не паступова, тэндэнцыя раскрываецца адразу, яны яе ілюструюць, тут не прашчупваецца тэндэнцыя росту з'явы, а бярэцца адразу гатовай. Тут залішне голай

публіцыстыкі. Міжвольна прыгадваюцца словы Энгельса: «Чым больш схаваны погляды аўтара, тым гэта лепш для твора мастацка».

Не апраўдана сюжэтна з'яўленне сына Пілацеева на хутары Ермалая і ў сваім быўшым маёнтку. Гэты момант зусім выпадае з сюжэта. Прыкладам расцягнутага апісання могуць быць апісанні сустрэч Кастуся з Аксанай, пакоя Мілоўскага. Залішне падрабязна часамі пісьменнік апісвае адчуванні Галынскага, хоць бы ў час звароту з замежнай камандыроўкі. Мо' ўсё гэта дробязь, але такая, ад якой трэба вызваляцца, г. зн. больш сюжэтна адшліфоўваць твор, каб не было сюжэтнай расцягнутасці. Раман, магчыма, больш выйграў-бы, каб пісьменнік не імкнуўся ўсяго паказаць. Трэба тэму ўмець звужваць, сціскаць, каб паглыбіць яе, выдзеліўшы максімальна асноўнае.

VII

Калі я падкрэсліваў паасобныя недахопы рамана «Праз гады», то гэта зусім не супярэчыць таму, што раман выражае творчае ўзыходжанне пісьменніка. Гэта твор найбольш складаны ў параўнанні з іншымі Галавачовымі творамі і належыць да самых лепшых твораў беларускай савецкай літаратуры. Але раман «Праз гады» павінен вучыць самога пісьменніка, як трэба больш працаваць. А ў гэтым сэнсе ў ім ёсць шмат чаго павучальнага. Хочацца, каб у творы было больш смелых парываў.

Ацэньваючы дасягнутае, ужо створанае—быць вечна незадаволеным, не ў плане песіміста, які не бачыць перспектыў, а ў плане сапраўднага рэволюцыйнага аптымізма, каб з яшчэ большай упартасцю і натхненнем працаваць над стварэннем прыгажэйшага, багацейшага і больш узнёслага— такім пачуццём павінен жыць савецкі пісьменнік, пісьменнік нашага часу. Ён-жа стаіць на ідэйных аванпостах незвычайных дзён чалавечай гісторыі—пары пабудовы соцыялістычнага бяскласавага грамадства.

Такое пачуццё для пісьменніка з'яўляецца вялікім чыннікам у справе стварэння вялікіх твораў соцыялістычнага мастацтва, якія не толькі будуць вучыць чалавека сучаснасці, узбагачаць ягонае пазнанне жыцця і заклікаць больш мужна змагацца за стварэнне соцыялістычнай рэчаіснасці. Гэтыя творы павінны жыць у пакаленнях нашых наступнікаў, расказваючы ім пра незвычайнасць нашага часу, пра любоў і нянавісць цэлага народа; расказваць, як працоўны народ згуртаваны і натхнёны воляй комуністычнай партыі, тварыў ніколі раней невядомае жыццё, з якой адданасцю ён за яго змагаўся, якой вялікай любоўю любіў сваіх правадыроў і ненавідзеў ворагаў, як ён радаваўся сваім перамогам, мужна стоячы на варце іх свяшчэннасці.

Гэту незмерную любоў і нянавісць трэба перанесці ў творы. Чалавек—гігант просіцца на старонкі твораў нашых пісьменнікаў. Больш сапраўды вялікіх думак, эмоцый, пачуццяў і страсцей.

**Кузьма Чорны**

# ЗАЎВАГІ ДА СТЫЛЕВЫХ ТЭНДЭНЦЫЙ У ТВОРЧАСЦІ СЯРГЕЯ ЗНАЁМАГА

Першыя кніжкі Сяргея Знаёмага вышлі ў 1930 годзе. Там ёсць нарыс «Дом № 31». У нарысе гэтым расказваецца, як у рабочым пасёлку не ў ладах жылі. сварыліся жанчыны. Аднойчы «чорны, худы, брудны з з вачыма задекшымі гноем, прыплёўся аднекуль сабака на двор дома № 31. Сваім галодным енкам і брэхам ён пабудзіў сварлівую Матруну. Яна дала сабаку кавалак хлеба». Назаўтра таксама накарміла сабаку. А суседка, убачыўшы гэта, кінула сабаку кавалак кілбасы. Суседкі, не сварачыся, пагаварылі адна з адной і пачалі разам карміць сабаку. Да іх далучылася яшчэ некалькі жанчын. Сабака вартаваў пасёлак і належаў ўсяму калектыву. Гэтая малая справа як быццам унесла змену ў дачыненні жанчын паміж сабою. У іх знайшлася нейкая агульная, хоць можа і нязначная справа, яна належала ўсім ім і з-за яе не было прычыны сварыцца. Гэта навяло аднаго рабочага на думку завесці на пасёлку калектыўнага кабана. Тут пашла ўжо большая калектыўная справа, якая дэкляроўвала выразную карысць. Справа яшчэ больш памірыла сварлівых жанчын.

Гэта аснова нарыса. Як бачым развіццё падзей тут паслядоўнае, лагічнае. Але да гэтай «асновы» у нарысе дадаюцца яшчэ іншыя моманты (напрыклад вучоба рабочых). Калі мы гэтыя «дадатковыя» моманты выведзем з нарыса, нарыс не толькі нічога не страціць у сваёй закончанасці, а яшчэ набудзе больш кампазіцыйнай стройнасці. Калі-ж мы адкінутыя «дадатковыя» малюнкі будзем разглядаць, як самастойны нарыс, то таксама яны ў сваёй цэласці нічога не страцяць.

Тое самае мы можам сказаць і пра нарыс «Каця Астаповіч» і пра шмат іншых тагочасных нарысаў Сяргея Знаёмага. У тыя першыя гады сваёй літаратурнай работы, аўтар рабіў толькі зарысоўкі (і чарнавыя) сырога матэрыялу, і як-бы не стараўся ператвараць яго ў якасці літаратурнага твору. Там зарысоўваліся факты, натура. І калі самае развіццё падзей зарысованых аўтарам, у натуры, нагадвала як-бы нейкую лінію даволі стройнага сюжэта, такую якасць набываў і сам нарыс, што мы бачым у нарысе «Дом № 31». Аўтарам валодаў матэрыял, аўтар не перамагаў яго, не вылушчваў з гэтай сыравіны толькі тое, што патрэбна і важна для твора. Тут мы бачым збор пад адным загалоўкам многіх фактаў, многіх дэталяй, выпадковых адзін каля аднаго, супярэчлівых адзін аднаму. Факты гэтыя не прыведзены ў сістэму, а таму іх, непадобраных і не адабраных, цяжка накіраваць на ўдалае вырашэнне пэўнай ідэі, якая лажылася ў аснову твора, паводле замысла аўтара. Чытачу даводзілася перамагаць аўтара, самому пра шмат што здагадвацца, самому рабіць вывады, шукаць іх недзе па-за творам. Такім парадкам часта зніжалася, а часамі сыходзіла на нішто, мастацкая якасць некаторых першых нарысаў.

Падзеі, факты браліся часам тады аўтарам не ў развіцці, не ў руху, а ў застыласці толькі аднаго моманту. Браўся момант, а не злучэнне момантаў, якія адзін з аднаго выходзяць, адзін з аднаго паслядоўна развіваюцца.

У Каці Астаповіч ёсць блізкі хлопец Віктар Корзун. Паміж імі блізкія, радасныя, маладыя дачыненні. Але Кацю пасылаюць на работу ў іншы горад. Там яна забываецца на Віктара, уцягваецца ў нядобрыя бытавыя з'явы, якія там ёсць сярод пэўнай часткі рабочай моладзі і нават у асяродзішчы комсамольцаў, даходзіць да мяжы з распустай. Цяжарная, думае аб самагубстве, пасля канчаюцца гэтыя цяжкія моманты і яна зноў становіцца на добрую дарогу актыўнай работніцы і комсамолкі.

У гэтым нарысе найбольш можна ўбачыць адмоўнасці і дадатнасці тагочаснага Сяргея Знаёмага як пісьменніка. Тут сабрана найбольш канкрэтнага матэрыялу, самага непасрэднага і жывога. І простая, калі льга так сказаць, бесхітрасная падача яго, не абцяжарана якімі-небудзь аўтарскімі высновамі, або імкненнем да філасофскіх абагульненняў.

Не важна колькі тут аўтарскай фантазіі, ці зусім тут яе няма, а проста запісаны здарэнні і факты. Для разумення тагочаснага стану творчасці Сяргея Знаёмага, тут важна бачыць, што тут не асмысляюцца праявы быту, даюцца ў сваёй момантнай застыласці. Часамі гэтыя факты могуць глыбока хваляваць, але гэта ад іх саміх, ад таго, што яны ад самага жыцця. Што-ж да аўтара, то часам яго тут трэба перамагаць. Замест таго, каб кампазіцыйнай камбінацыяй гэтых самых фактаў, адпаведнай абрысоўкай людзей, узмацненнем і аслабленнем (дзе як трэба) пэўных рыс і дэталей весці чытача праз твор да пэўнай ідэі, узяць яго ў палон вобразаў і такім парадкам дзейнічаць на яго, аўтар пакідае чытача перад тварам голых, адарваных ад працэса свайго развіцця і ператварэння, застылых у пэўным моманце, фактаў, страшна супярэчлівых, супроцьлеглых, без яснага апраўданага канца і пачатку. Аўтар пакідае чытача перад тварам фактаў, непрыведзеных у сістэму, характэрную кожнаму мастацкаму твору. Аўтар абмяжоўваецца толькі фатаграфічнай падачай матэрыяла, падачай застылага і нерухомага моманту.

Каця Астаповіч з комсамольскай вышыні спусцілася ў мяшчанскае балота, пасля зноў узышла на ранейшую дарогу. Гэта толькі азначэнне факта, без якога-б там не было абагулення, тыпізацыі, доказу; без сістэмы, якая выходзіць з пэўнай ідэйнай устаноўкі. Часта факт не выцякае з факта. Наадварот, супярэчыць яму.

У чым фатаграфічнасць момантаў, іх застыгласць саміх у сабе, без сувязі з папярэднім і наступным? У адным месцы нарыса малады рабочы так гаворыць яўрэйскай дзяўчыне, работніцы: «Нашы-та бацькі, дарагая Тырца, Смольны бралі, а вашы-та на рынку з людзей скуру дралі!» Пасля ўжо чытач пачынае з нарыса бачыць апраўданне гэтай фразы: бацькі гэтай дзяўчыны былі гандляры. Але пакуль да гэтага, то ў пэўнай часткі чытачоў (выхоўванню і перавыхоўванню якіх спрыяе літаратура) могуць вынікнуць нечаканыя і непажаданыя для аўтара асацыяцыі. Гэта ад таго, што дзея застыгла сама ў сабе, без сувязі з думкамі таго, хто яе сказаў.

«Тырца нацэлілася на эканомпрацаўніка Сцёпку Васюковіча. Прыгожы хлопец. З залатымі зубамі заўсёды чысценькі». Зафіксаваны адзін момант. Калі на адну секунду зірнуць на чалавека і пасля адвесці ад яго вочы, то сапраўды можа быць так: прыгожы. Што можа мільгануць у гэтую хвіліну для вока? Скажам, колер валасоў, рост, стройнасць, колер і характар адзежы і бляск залатых зубоў, калі ён, скажам, усміхнуўся. Прыгожасць яго можна заўважыць. Таксама можна заўважыць і тое, што

ў яго залатыя зубы. Але для Тырцы, якая даўно яго ведае—ці ўвайходзяць залатыя зубы ў арсенал тых уласцівасцей, якімі ён ёй падабаецца? Напэўна не, гэта хутчэй дэфект.

«А ён, прытуліўшыся да грудзей, слухае, як б'ецца яе сэрца. Яго рука непрыкметна спаўзала на Каціна сцягно... Ён мацней пачаў прыціскаць да сябе Кацю, тужачыся паваліць яе на траву».

У гэтыя часы сваей літаратурнай работы Сяргей Знаёмы мог, часамі, распісваць падобныя моманты без усякай патрэбы, не думаючы, якую функцыю нясе ў творы падача такога моманту. Момант проста зафіксоўваўся. Таму ў гэтых нарысах мы маглі спаткаць моманты, якія не заўсёды адпавядалі нормам эстэтыкі. І такая вульгарызацыя ў паасобных мясцінах уносіла блытаніну ў чытацкае адчуванне асоб і падзей у нарысе, зневажала, так сказаць, тых людзей, душу якіх аўтар стараўся паказаць перад чытачом. Тут чытач павінен быў перамагаць аўтара. Ён павінен быў, чытаючы твор, не ўсё браць пад увагу, а карыстацца творам для таго, каб думаць, што сапраўды ў жыцці ёсць такія факты і рабіць з іх свае высновы, незалежныя ўжо ад самога твору. Матэрыял куды мацнейшы за самы твор.

У гэтых першых сваіх нарысах аўтар яшчэ рыхтуецца да літаратурнай работы, будучы абкружан фактамі жыцця. Ён яшчэ не можа адрозніць характэрнага ад нехарактэрнага, патрэбнага ад непатрэбнага. Лішнія эпітэты, няўдалыя на пэўным месцы словы, лішнія малюнкі і эпізоды—як нейкая прыкрасць праходзяць праз шмат якія нарысы.

У нарысе «Выпадак на хутары» (выданне 1932 г.) трэба даць карціну тых вялікіх чалавечых пакут, з нетраў якіх вышла дзіця—дзяўчынка, далейшая гераіня нарыса. От як творыцца гэтая карціна: «Амаль увесь эшалон галадаючых з Паволжжа выкаціў тыфус. Возьнікі вазамі тарабанілі мерцвякоў на могілкі». Два вельмі ўдалыя на пэўным месцы словы (выкаціў, тарабанілі) узятыя непасрэдна з народнай мовы, у няўдалым іх ужытку, надаюць фразе адваротны сэнс. Фраза аддае здзекам з тых людзей, лёс якіх павінен служыць матэрыялам для стварэння аўтарам абстаноўкі, з якой вышла дзіця.

Усё гэта мы маем справу з неўмельствам аўтара карыстацца матэрыялам. У ранейшых прыкладах быў матэрыял у форме жыццёвых падзей і здарэнняў, тут у форме мовы. Але калі ў першых выпадках мы вельмі часта бачылі адсутнасць арганізацыі матэрыяла, даволі часта не бачылі пераплаўкі яго ў новую якасць (якасць літаратурнага твора, замест сырой падачы матэрыяла), то ў другім выпадку аўтар мацнейшы. У справе ведання народнай мовы (слоўнік, фразеологія) аўтар даволі моцны. І гэта вельмі часта аздараўляе агульны каларыт усяго нарыса. Часта ўдалая фраза адыгрывае ролю дэталі і характарызуе тып. Напрыклад, такі дыялог:

— Усім цэхам трэба абвесціць сябе ўдарнымі.

— Ну дык абвяшчай, хто табе не дае!

Апошняя фраза нагэтулькі жывая, сакавітая і характэрная, што за ёю як жывы чуецца тып. Такую з'яву мы даволі часта сустракаем ў творчасці Знаёмага. Гэтая дадатнасць шмат што выратоўвае ў першых яго нарысах.

Але аўтар і тут не да канца паслядоўны. Мы ўжо бачылі, як «возьнікі вазамі тарабанілі мерцвякоў на могілкі». Апроч гэтага нельга не заўважыць і яшчэ аднаго моманту. Ведаючы даволі добра народную мову і, што вельмі важна, любячы, адчуваючы яе, аўтар аднак часта вытрымлівае свае творы, ці прынамсі шмат іх тэксту, у духу пэўных стылізацый пад народную мову. Па лініі гэтых стылізацый ідуць часта і аўтарскія рэ-

маркі. Калі слова, фраза, насычана бытам, сам кірунак мовы рэалістычны, здаровы, дзе мова іскрыцца ўсімі сваімі шматлікімі гранямі, калі ў адной фразе гучыць народны юмар, у другой непаразуменне, у трэцяй сарказм і змрочны здзек, у чацвертай весялосць—такія фразы і словы ствараюць здаровы і цікавы элемент у рабоце аўтара. Але аўтар часта без разбору карыстаецца гэтымі якасцямі мовы, часта перамешвае іх з якасцямі іншымі. Аўтар карыстаецца стылевымі якасцямі фольклору. З фольклору ён уносіць элементы ў свой стыль. А тут трэба быць вельмі асцярожнымі, выпрацоўваць у сабе пачуццё меры і густу. Выпрацоўваць у сабе мастацкі густ—гэта трэба і пісьменніку і чытачу.

У фольклоры ёсць усялякія элементы. Там ёсць і сантыментальнасць, і суровасць. Побач з дамавітай гаспадыняй і, разам з тым, разгульнай бабай Лявоніхай, там ёсць і сумная сірата—дзяўчына, якая сыпле слёзы ў крыніцу. Побач з «Чорнаморцам», які не толькі прынёс з вайны ў цэласці сваю галаву, а яшчэ і сямёра коней прывёў, выступае самотная і слязлівая постаць божай маці, якая сумна глядзіць на «небаракаў-сіротак». Тут і сасонка, якая вырасла, на свае няшчасце, пры вялікай дарозе і на карэннях і пад голлем якой падарожныя купцы, вязучы тавары, агонь клалі і таму сасонка «не зелена, бо яе карэнне гарэла, бо яе голлейка смылела», тут і ваяка Янка, які едзе «ваяваці» і якому ў гэты момант дзяўчына толькі замінае. Усё гэта фольклор. Ён не аднолькавы ў самай прыродзе сваёй. У ім аддадзена багатая даніна месцу, часу, абставінам. Тут відзён характар народнай творчасці, супроць каго і за каго яна, чыя яна і адкуль. Супроць якога класа яна і за які клас. Песня пра Лявоніху гэта адно, пра сірату—гэта другое. У народнай творчасці мы можам вельмі выразна заўважыць зусім супроцьлеглыя адзін аднаму стылі.

І от, у першыя часы свае літаратурнай работы, Сяргей Знаёмы трымае каларыт сваіх фраз вельмі часта ў плане як-бы фольклорных форм, але выключна такіх, дзе, «сцежачкі і крынічанькі, сонейка і матачка». Не пра гэта піша Сягрей Знаёмы. Ён піша пра заводы і комсамольскую моладзь, пра фабрычныя карпусы і соцыялістычнае будаўніцтва. Але стыль свой ён мае нахіл зводзіць да вышэйназванага плана. Ён піша:

«Плакала Каця, калі давялося разлучыцца з фабрыкай, з горадам, са знаёмымі. Плакала ад таго, што даводзілася пакідаць Віктара».

Або: «Тадора з сынам у горад пераехала. Тадора ваду насіла. Янка памёлы з мётламі вязаў. Спрабаваў Янка ў школу хадзіць. Дзве зімы правучыўся, а на трэцюю маці і кажа:

— Навука не для цябе, Яначка. Лепш-бы табе на завод.

Ціхі быў Янка. Па бацьку ўдаўся».

Параўнаем з такім тэкстам:

«Хадзіў Хрыстос з Пятром па зямлі, ды вучыў людзей як жыць на свеце... Было ў іх трохі хлеба. Не вытрымаў Пятро, ушчыкнуў крыху хлеба ды і есць. Пазнаў Хрыстос, што робіць Пятро дый пытае ў яго: што зрабіць людзям на патрэбу?»

(Народная казка «Адкуль пашлі грыбы»).

У пададзеных урыўках мы бачым блізасць стылёвай дынамікі.

«И жить, говорит божий человек, больше не охота. Только-б помереть....

Безнадежный я теперь остался человек.

И сказал ему старичок:

— Не хорошо ты говоришь... нам нельзя божи дела судить» (Л. Толстой «Где любовь, там и бог»).

Талстоўскі геній глыбока адчуваў, што свае пропаведзі «непротивления злу» ён найбольш блізка давядзе да «кроткой» душы, так сказаць,

масавага свайго Платона Каратаева тады, калі зробіць іх у стылі якраз такога стылевога кірунку народнай творчасці.

Усе вышэй пададзеныя тэкставыя вытрымкі маюць аднолькавы свой унутраны рытм.

Цяпер возьмем такую вытрымку:

— Прышлі яны раненька і паглядаюць сюды-туды. Вёска, як вёска. Шырокая вуліца, паабапал хаты, а на канцы вялізная хата з крыжам на даху». І далей «Пачалі людзі разыходзіцца з царквы, от наш чалавек і пытае тамашняга старога: што гэта ў вас за свята і што гэта вы рабілі ў царкве? А той і кажа: сёння святога Дрыгуна, от мы і рабілі святое падрыгванне».

Нельга гаварыць, што гэтая вытрымка не мае нічога агульнага ў сваім стылі з вытрымкай пра Хрыста і Пятра. Справа ў тым, што гэтая казка «Святое падрыгванне» запісана адначасна з казкаю «Адкуль пашлі грыбы» і запісаны яны ў адной мясцовасці з расказаў жывых людзей. Гэтыя старыя казкі запісаны ўжо ў эпоху капіталізацыі вёскі, былі ўжо тады павевы вайны і рэволюцыі. К таму-ж абедзве гэтыя казкі, як і наогул казкі паляшукоў, вельмі мала маюць хрысціянскага духу. Але ўсё-ж у стылі гэтых двух казак можна вельмі лёгка заўважыць неаднолькавыя, нават супроцьлеглыя, моманты. Там фраза ўкладваецца ў Хрыстовы вусны, тут чалавек высмейвае праваслаўнае багаслужэнне. І гэты змест кладзе свой след на ўвесь стыль казкі.

Возьмем такі тэкставы ўрывак з Сяргея Знаёмага:

«У Янкі Шарко бацька быў ляснікам. Каб сказаць чалавек дрэнны, дык не. Ат, так сабе. З сялянамі не сварыўся і перад панам Рыгаровічам не выслужваўся. Жыў як шмат хто з сялян. Ціхі быў чалавек. Жыў ціха і памёр ціха».

А от з народнай казкі «Дзеўкі і чорт». «Ён рана заўдавеў і астаўся толькі з маленькаю дачкою. Прыгожая ды здатная на ўсялякую работу была сіротка, але, вядома, дзіця—не можа ўправіцца і ў дамоўцы, ні то каб яшчэ даглядзець гаспадарку».

От дзе цікавы стыль; рэалістычны, з густым водырам быту. Такі-ж каларыт мае і прыведзеная вытрымка з Сяргея Знаёмага.

Вядома, той будзе самы сапраўдны вульгарызатар, хто стане гаварыць, што Сяргей Знаёмы кладзе перад сабою якія-небудзь зборнікі народнай творчасці і кіруецца імі ў час сваёй работы. Усё гэта ў аўтара ідзе ад таго, што ён ведае народную мову і любіць яе і яна робіць свой уплыў на ўвесь стыль яго твораў. Але паколькі народная мова не маналітная, не аднолькавая для розных пластоў насельніцтва, паколькі яна развіваецца, зменьваецца ў залежнасці ад часу, то трэба глядзець каторы стыль народнай мовы можа быць на месцы тут, а не там і наадварот. Іначай кажучы, трэба ведаць, як карыстацца мовай.

Таксама трэба ведаць, як карыстацца і фольклорам. Тут справа яшчэ вастрэй стаіць. У Сяргея Знаёмага, у першых яго нарысах і аповесцях мы не заўсёды бачым асцярожнасць і ўмельства ў справе карыстання фольклорнымі стылямі. (Неважна, што адзнакі фольклора прыходзяць тут у стыль аўтара мусіць толькі праз народную мову, а не непасрэдна з фольклору). Неўмелае карыстанне фольклорнымі стылямі, прыводзіць часта аўтара да самага поўнага сантыменталізма і да разрыва зместа з формай. Гэтая супярэчлівасць даволі выразна праходзіць праз стыль усіх першых нарысаў С. Знаёмага і праз часткі тэкста аповесці «Ганчары». І гэта ідзе побач з здароваю і цікаваю, рэалістычнай плынню ў яго стылі.

«Зялёна-жоўты мох упрыгожваў улонні бору. Дзе-ні-дзе валялася

сухое галлё. Рознае птаства знайходзіла тут сабе сельбішча. Бесперапынна звінела жаўна... А на тоўстай даўжэзнай сасне адпачываў каршун, пасля начной стомы. Азіраючыся навокал, сарока цікавалася сесці ў свае гняздо».

Стройныя суровыя фразы, быццам разьба па сталі. Здаровы стыль, з нахілам у здаровую рэалістычную рамантыку. Гэта вытрымка з нарыса «За дамбаю». А от пачатак аповесці «Ганчары».

«Каля лесу віецца-сцелецца сцяжынка. Ой бяжыць-бяжыць, непратаптаная каля пушчы, верасы абапал нахіліліся, тонкае голлейка сухое наваліласся. Трашчыць голейка сухое пад нагамі, колюць гліцы-чамерыцы ногі босыя. Ідуць хлопцы моўчкі. Ідуць, пазіраюць... паперадзе ідзе меншы... за ім другі з плячыма шырокімі і грудзьмі пакатымі. Ступае ён цвёрда, крокі робіць шырокія. Дзе ступіць, дык і прыцісне долу верас. Далёка адыдзецца, але верасок ляжыць, не ўстае...»

(От вытрымка з старасвецкага народнага рэлігійнага вершу: «Гараць агні неўгасімыя, кіпіць смала незгараемая»).

Сапраўды паміж перадапошняй і апошняй вытрымкай з Сяргея Знаёмага няма нічога агульнага. Сваімі стылевымі накіраванасцямі, яны супроцьлеглы адна адной, як агонь і вада. Возьмем вытрымку з «Ганчароў». Можа быць гэта аўтарскі прыём? Можа быць гэта сумысля ствараецца атмасфера нейкага казачнага лесу, нейкай легендарнай сцяжынкі, нейкай містычнай хады двух хлапчукоў, пасля якіх верасок ляжыць і не ўстае? Можа гэтыя хлапчукі ідуць ад суеты чалавечай, цераз лясы, у які-небудзь манастыр стаць схімнікамі? Не, гэта ідуць нашы сучаснікі, ранейшыя парабчукі, а пасля рабочыя савецкага завода.

У чым-жа справа? Чаму Сяргей Знаёмы, аўтар такіх цікавых стылевых узораў, пра якія я ўспамінаў, калі падаваў нядаўна вытрымку з нарыса «За дамбаю» збіваецца на такія «ой сцяжынкі»? Мне здаецца, што тут зноў-жа простае неўмельства пературыць стыль народных гутарак і стылі фольклорныя ў сваю пісьменніцкую зброю.

У той-жа аповесці «Ганчары» ёсць такое месца. Уміраe змучаная адвечным жыццёвым горам маці і гаворыць свайму сыну хлапчуку: «сынок мой Максімка, Юрачка яшчэ маленькі, яшчэ дурненькі. Ты-ж большанькі, глядзі за ім. Ды помні, што бацька твой, маці твая, век свой пражылі ў чужой хатачцы і на той свет пашлі на чужой лавачцы. Нічога не мелі і вам не пакідаюць. Дык самі майце розум. Падрасцеце—рупціся, дбайце, каб хоць пад старасць меңь свой куток, свой прытулачак».

Тут такая стылізацыя на месцы. Такі маналог гармaніруе з вобразам гэтай жанчыны. Як уяўляе свет гэтая жанчына? Законы развіцця чалавечага грамадства недасяжны яе разуменню. Яна не разумее тых сацыяльных прычын, з-за якіх яна не жыла на свеце, а пакутвала. І яна думае, што «і калі брат брату не паможа, то і ніхто не паможа». Гэтая цёмная жанчына-пакутніца прасіла шчасця ў бога. Ей былі вядомы і стыль сірочых песень і жабрачых стогнаў. Прычым яна перажывала ў момант смерці нечалавечыя пакуты душы, пакідаючы ў «такім жорсткім свеце» сваіх небаракаў-дзяцей сіратамі. І гэты надрыў, гэтае вялікае замілаванне ў яе гучэла праз словы «Максімка, Юрачка, хатачка, лавачка, прытулачак». Замілаванне ў час пакуты стварыла інтымнасць, але своеасаблівую, уласцівую толькі гэтаму моманту і гэтай абстаноўцы. Калі-ж стыль гэтай жанчыны перанесці на ўсю аповесць, або, прынамсі, на шмат якія яе мясціны, то самы змест яе пойдзе пад уплыў гэтага стыля, што мы і бачым у пачатку, калі адпаведная стылізацыя пейзажа пераварае двух вясковых парабчукоў у нейкіх таемных лясных вандроўнікаў, надае ім траха не містычны каларыт. Значыцца, першае з'яўленне перад

чытачом двух братоў, зроблена неўдала. Атмасфера інтымнасці ў абрысоўцы гэтых сірат-хлапчукоў павінна была ісці ў іншым кірунку, каб іх вобразы перад намі паўставалі з нашага пункту погляду, а не з пункту погляду іх маці, да якое наша замілаванне і пашана павінны мець таксама наш стыль. З пункту погляду нашага стылю, мы глядзім і на яе стыль. Наш светапогляд узвышаецца над яе светапоглядам. Аўтар павінен узвышацца над тым стылем, які ёсць прадукт, так сказаць, хоць дарослых, але дзяцей.

Трэба сказаць проста: нацдэмаўская літаратура кананізавала гэты сантыментальны стылёк. Наша-ж літаратура нічога агульнага не можа мець з ім: ён скажае самы змест нашай літаратуры.

Сам жыццёвы матэрыял скіроўвае аўтара на здаровы стыль, узоры якога я падаваў вышэй. Нездаровыя-ж плыні ў яго стылі ідуць на разрыў са зместам.

Імкненне стварыць каларыт інтымнасці ідзе ў аўтара вельмі аднабока. Яно ідзе па лініі ўжывання паменшальнай формы слоў, эпітэтаў. Напрыклад «заработак невялічкі», «у руках з кіёчкам», «цэглы-красуні», «запрасіў хуценька», «ветрык». Наданне паняццям і рэчам эпітэтаў з неадпаведнай ім катэгорыі: «мароз-абібока», «вые вецер-злодзей». (Вядома, тут усё ў пераносным сэнсе, але гэта не абы-дзе і як трэба ўжываць, а толькі ў адпаведных стылізацыях).

Паменшальнасць пранізвае наскрозь яго нарысы і аповесць «Ганчары». У гэтых рэчах гэта стала неадменнай адзнакай стыля. І замест інтымнасці, блізасці да герояў, налажыла на творы каларыт нейкай шэрасці, аднастайнасці, дробнасці. Як-бы загароджваючы ўзлёты ў шырокія маштабы. «Рашылі назваць сабаку так: Жук, бо ўвесь чорны, поўстачка маленькая, адкорміцца і будзе як жучок». Такія словы, як «невялічкі» «звычайны такі», «просценькі»—гэта нязменныя характарыстыкі амаль што усіх людзей, з'яў і рэчаў у нарысах Сяргея Знаёмага, уключаючы сюды і аповесць «Ганчары».

«Вялізарныя карпусы Гомсельмашу. Увойдзе чалавек і незначным робіцца. Невялічкім... У зборачным цэху закурваць пачнуць, слоўцам перакінуцца, глядзіш—гадзіна на вецер. У ліцейнай на дзяўчат хлопцы заглядзяцца, шпільку адколюць па іх адрасу, у выніку гадзінка ў расход».

«Ён нагінаўся над верстаком і хутка з яго рук выскокваў невялічкі гарнушачак». Як быццам бы назнарок пісьменнік падводзіць чытача да свайго героя якраз тады, калі ён робіць не які-небудзь гаршчочак, а якраз маленькі гарнушачак.

Пра Сяргея Знаёмага можна сказаць, бяручы на ўвагу яго тэматыку, што гэта пісьменнік рабочы, але не якіх-небудзь буйных індустрыяльных цэнтраў, а рабочых ускраін, рабочых пасёлкаў, рабочых з ранейшых павятовых гарадоў. Блізасць к сялянству—гэтая пячаць даволі выразна пакладзена на творчасці Сяргея Знаёмага. Глыбокае веданне быта, жыцця, працы вышэй успамянутага рабочага асяроддзя—гэта рыса Сяргея Знаёмага, як пісьменніка. Веданне гэтае вельмі канкрэтнае, вельмі выразнае і арганічнае. З гэтым матэрыялам Сяргей Знаёмы адчувае сябе, як гаспадар. У падачы гэтага матэрыяла ён канкрэтны. Тут няма аніякае лакіроўкі, аніякае надуманасці. Гэты момант вельмі важны для пісьменніка. Але сюды ўкліньваецца наносная стылізацыя—шэранькі каларыт дробнасці, сантыментальшчына.

«Невялічкі горад», «шэранькія людзі». У гэтым горадзе і ў гэтых людзей трэба шукаць вялікіх спраў, заўважаць іх і на гэтым самым матэрыяле надаваць творчасці вялікі размах. Трэба біцца ў большыя творчыя маштабы. Трэба вучыцца ў класікаў.

Першыя старонкі «Ганчароў», вытрымку з якіх я падаваў, ёсць літаратуршчына, уплыў, ці наплыў, але гэта наносная непатрэбшчына. Яна абсалютна не вынікае ні з аўтарскага светапогляду, ні з яго творчых установак. Яна ёсць чужародная з'ява ў дачыненні да таго здаровага і цікавага матэрыялу, з якога зроблена аповесць. І мы бачым, што далей, на працягу ўсёй аповесці, гэты стылёк мала дзе з'яўляецца. Рэалістычнасць—галоўная, стрыжневая плынь гэтай аповесці. Тут ужо відны адзнакі аўтарскага творчага твару.

Гісторыя двух братоў—гэта тэма «Ганчароў». Аўтар вельмі добра ведае матэрыял, гэта відаць адразу. І гэта паспрыяла таму, што асобы двух братоў не кепска вырысоўваюцца перад намі, як вобразы. Дыялагі тут цікавыя, а не стылізаваныя з дрэнным густам.

Стылізацыя аўтарскіх рэмарак пад мову герояў ужываецца толькі ў спецыфічных выпадках. У «Ганчарах» такая з'ява ёсць і, мне здаецца, гэта зроблена часта не кепска. Гэтым прыёмам аўтар часта дасягае таго, што ствараецца інтымная абстаноўка, каларыт інтымнасці навокал хоцьбы сабе Юркі, аднаго з персанажаў аповесці. Мне здаецца, што ў далейшым, калі аўтар пачне ўжо дыфэрэнцыраваць мову па персанажах, калі ў аўтара персанажы загавораць кожны сваёй мовай, аўтару трэба будзе старацца захаваць гэтую інтымнасць і не страціць яе ў дачыненні да персанажаў нам блізкіх. Аўтар тады павінен будзе расчляніць народную мову на элементы сарказма і ласкі, смеху і змрочнасці, суму і весялосці. Трэба знайсці ў мове і ласкавае слова, і гром, і замілаванне, і нянавісць. Можа быць у гэтай «інтымнасці» і хаваецца тое зерне, якое павінна выявіць арыгінальнасць Сяргея Знаёмага, патрэбную кожнаму пісьменніку.

Аўтар дасягнуў інтымнасці ў шмат якіх мясцінах свае аповесці. Але мову ён узяў узроўня, так сказаць, такога, дзе няма вялікіх хваляванняў, агністых людскіх навальніц. Ён узяў мяккі юмар, часамі лірычны, але на ўзроўню сярэдняга абыходку, быта людзей глухога гораду, дробных майстэрань, арцеляй. Усё гэта добра. І сама дзея аповесці разгортваецца ў такім гарадку, і людзі сваю шэрасць скідаюць не лёгка. Але-ж мы помнім, як умірала маці двух братоў. Мы помнім на якой мяжы свайго душэўнага ўздыму яна была ў той момант. Мы там па-за радкамі адчуваем у гэтай істоце больш можа, чым сказаў сам аўтар. І от паўстае пытанне: чаму-б да ўзроўню большых чалавечых хваляванняў, да большай дзейнасці, да большых і гарачэйшых сутычак не давесці герояў? Калі фактычны матэрыял вывучаны аўтарам, не такі, то трэба выклікаць да жыцця фантазію. Без творчага вымысла няма вялікага мастацкага твору, без фантазіі няма творчасці. Я не гавару, што ў аўтара «Ганчароў» няма фантазіі, але яе трэба ўзнімаць да большага ўзроўню, трэба патхняцца ўсім важным і глыбокім. Сяргею Знаёмаму, які так шмат пісаў і піша дакумантальных нарысаў, трэба ў такіх жанрах, як аповесць і апавяданне, не захапляцца вельмі фактычнай дакументальнасцю, а ў сваёй фантазіі выклікаць да жыцця тыя сітуацыі, якіх хоць і няма ў пэўных дакумантах і з'явах, з якімі аўтар меў справу, але якія могуць быць (дзенебудзь, скажам, у іншым месцы, а можа нават і ў часе) на аснове рэальных законаў жыцця чалавечага грамадства. Часта і сам матэрыял можа схіляць аўтара да большай глыбіні («Каця Астаповіч»), але аўтар як-бы не мае смеласці пераступіць парогі простага быту і перайсці ў сферу большых праблем. Ранейшы малавядомы, шэры чалавек у нашай савецкай краіне скідае сваю шэрасць і робіцца выдатным чалавекам. Мы ведаем, што героі Савецкага Саюза—і чэлюскінцы, і лётчыкі, што іх ратавалі, і ўсе нашы выдатныя людзі—людзі гіганцкіх узлётаў думкі,

людзі сусветных большэвіцкіх спраў—вышлі з нашых звычайных гарадоў і вёсак.

Трэба выбраццa ў шырокія размахі і вывесці туды сваіх герояў, праблема «малога, незначнага, несмелага, шэрага» чалавека таксама можа быць тэмай. Але-ж гэты чалавек зменьваецца, асімілюецца. Ды ўрэшце не павінен ён накладаць свае пячаці на ўвесь стыль. Стыль гераічных размахаў нашай эпохі, гэта не «невялічкасць». Гэты эпітэт можа быць ужыты толькі да паасобнага героя, але не класці свайго адлюстравання на ўвесь стыль. Тая смеласць, размах, якая, напрыклад, закладзена ў матар'яле нарыса «Каця Астаповіч» зніжаецца такім стылем, а часта зводзіцца на нішто.

У 1934 годзе надрукавана аповесць Сяргея Знаёмага «Біяграфія майго героя». Гэтая аповесць для Сяргея Знаёмага ёсць не малы крок наперад. Тут ён развітваецца з сантыментальным стылем. Тут герой не прыціскае ўжо нагамі нейкі легендарны верас, тут ужо няма і знарочыстае стылізацыі пад «гліцы-чамерыцы». Праўда, тут матэрыял крыху іншы. Тут вялікі горад. Але на самым пачатку літаратурнай работы, аўтар мог-бы і сюды ўнесці сантыментальны стыль.

Назва гэтай аповесці характэрная. Гэта сапраўды біяграфія. У гэтым сэнсе яна мае падабенства да «Ганчароў». «Ганчары» таксама ёсць біяграфія двух братоў. «Біяграфія майго героя» пабудавана так, што дзея разгортваецца, кажучы ўмоўна, унутры героя. Я разумею тут тое, што ўсе падзеі, якія адбываюцца навокал героя, займаюць толькі тое месца, дзе яўляецца ў пэўны момант герой. Тут няма такіх падзей, якія-б незалежна ад таго ці трапіўся-б тут герой, ці не, усёадно зрабілі-б уплыў на яго лёс, накіравалі-б яго на пэўную далейшую дарогу. Тут ёсць толькі тыя падзеі, што адбываюцца на месцы дзеяння героя. Герой ёсць той стрыжань, на які нанізваюцца справы, рэчы і падзеі—усё, што трапляецца на яго дарозе. Калі герой адыходзіць у іншы пункт, тое, што яго на ранейшым месцы абкружала, ці мела да яго дачыненне, тут-жа канчаецца і больш у аповесці не з'яўляецца. Шмат што з гэтых момантаў пакідае свой след на далейшым руху героя. Аўтар ходзіць поплеч з героем і яны абодва бачаць адны і тыя-ж рэчы.

У аповесці ёсць такі момант. Герой, будучы бяспрытульнікам, выпадкова спаткаў жанчыну (тады работніца большэвіцкага падполля). А пасля ўжо, у нашы дні, гэтая жанчына, ужо выдатная работніца соцыялістычнага будаўніцтва, бярэ таго ранейшага бяспрытульніка пад сваю апеку і ён становіцца працаўнікам на фабрыцы і ўдарнікам. Гэты момант ў аповесці зроблен так, што ўсё як-бы зрабілася выпадкова. Па-мойму гэты момант трэба аднесці да слабых момантаў аповесці. Замест такой выпадковасці, трэба, каб была логіка грамадскага развіцця. А дынаміка развіцця героя, аснаваная не на выпадку, выцякае з самага стылю аповесці. Толькі часамі аўтар паддаўся лягчэйшай лініі.

Вышэйназваная структура аповесці выходзіць з самай прыроды літаратурнай работы Сяргея Знаёмага. Я вышэй гаварыў пра элементы інтымнасці ў стылі яго твораў. Імкненне трымацца непасрэдна свайго героя, ісці толькі яго следам, не ствараючы ў часе і прасторы пэўных сітуацый, незалежных ад героя—гэта ёсць даволі выразная асаблівасць Сяргея Знаёмага. Тут ужо ў яго пэўныя навыкі і сваю гэтую аўтарскую рысу пісьменнік павінен развіваць і ўдасканальваць. У вялікай літаратуры мы маем прыклад такіх прыёмаў. Такія прыёмы мы спаткаем напрыклад, у аповесці «В людях» Максіма Горкага. Гэта я гавару для ілюстрацыі таго, што прыёмы гэтыя ўваходзяць у арсенал вялікай літаратуры. Наогул-жа няма таго закона, які ўзаконьваў-бы пэўныя прыёмы, як аб-

салютна верныя, і адкідаў бы другія, як нягодныя. Справа ў тым, з якой сілай, як ужываюцца і выконваюцца пэўныя прыёмы.

Ужо ўспаміналася, што «Біяграфія майго героя» ёсць для аўтара дасягненне. Перш за ўсё ён тут развітаўся з сантыменталізмам. Тут аўтар развівае далей тыя здаровыя тэндэнцыі, якія вызначаліся ў той ці іншай меры ў яго ранейшых творах. Удасканальваючы яшчэ далей гэтыя тэндэнцыі, узнімаючы іх да далейшых дасягненняў свайго майстэрства, аўтар павінен разам з тым імкнуцца да большай стройнасці свайго твору, большай гарманічнасці ў змене эпізодаў, сітуацый, большай прычыннай сувязі, большай ступені іх узаемадзеяння, іх узаемнага ўплыву. Каб твор быў адзінай мелодыяй, да канца цэлай, а не паасобнымі акордамі, хоць паміж сабою блізкімі.

У дачыненні да «Біяграфіі майго героя» трэба зрабіць яшчэ наступную заўвагу. Тут даецца абстаноўка, тут вырысоўваюцца персанажы, але тут ёсць яшчэ рэшткі той схематычнасці, якую мы наглядалі ў ранейшых творах і асабліва ў нарысе «Каця Астаховіч». У «Ганчарах» такой схематычнасці мала. Можа быць у «Біяграфіі майго героя» аўтар слаба не да канца ведае матэрыял? Гэтую думку можна дапусціць. Сцэна, напрыклад, у падпольнай кватэры схематычная, не напоўнена жывымі рысамі і дэталямі жыцця і быту, якія вызначаюцца ў «Ганчарах» і пад якімі ажываюць героі, чуюцца як жывыя, з жывым сваім облікам. Такой неканкрэтнасцю грэшыць не адно гэтае месца ў аповесці. Больш ажываюць, адчуваюцца выразна як жывыя, людзі ў другой палове аповесці, дзе дзея адбываецца на заводзе. Заводскі матэрыял аўтар ведае і адчувае добра.

Мне думаецца, што асаблівасць прыёмаў і навыкаў Сяргея Знаёмага ідзе на ўнутранае развіццё інтрыгі, а не знадворнае (якое можа даходзіць да эфекта ў развіцці сюжэта). Тут інтрыга ўнутраная, без якіх бы там не было знадворных вострых сітуацый.

У свой час Сяргей Знаёмы напісаў шэраг кароткіх нарысаў, сабраных галоўным чынам у кніжцы «Дом № 31». Гэта аперацыйныя публіцыстычныя нарысы, злабадзённыя. У нашым перыядычным друку яны заўсёды адыгрываюць вялікую ролю. Гэта першыя нарысы Сяргея Знаёмага. Элемент газетнай публіцыстыкі там больш, чым элемент вобразнасці. Тут аўтар сам робіць перад чытачом вывады сваімі словамі, растлумачвае чытачу факты, не разгортваючы перад ім сістэмы вобразаў, не ствараючы карцін, з якіх бы чытач сам сабою бачыў тое, што хацеў сказаць і паказаць аўтар.

Напрыклад, «Мы ўпэўнены, што рабочыя заводу «Комунар» прыкладуць усю моц і энергію, каб імя іхняга заводу не сцерлі з чырвонай дошкі».

Гэтыя нарысы ў свой час друкаваліся ў нашай перыядычнай прэсе. Яны адлюстравалі змаганне за прамфінплан на заводзе, моманты ўсялякіх кампаній, яны адзначаюць добрае і выкрываюць адмоўнае ў жыцці і працы нашых заводаў. Ясна, што тут не йшла справа аб шырокіх абагульненнях сістэмай вобразаў, аб стварэнні чалавечых вобразаў і тыпаў. Тут падаваўся фактычны матэрыял публіцыстычнымі прыёмамі. Тут не ішла справа аб сюжэтным развіцці твора, аб аўтарскай творчай фантазіі. Тут ішла справа аб тым, каб дасканала вывучыць і падаць матэрыял, каб да канца ведаць справу і людскія ўчынкі.

Гэта адыграла добрую ролю ў справе фармавання літаратурных навыкаў Сяргея Знаёмага. Знаёмячыся з усім ім напісаным, мы заўважаем адну цікавую рысу, якая праходзіць праз ўсе яго творы. Гэта тое, што аўтар ідзе ад самага жыцця, а не ад абстрактнай ідэі. Сваю ідэю ён ста-

раецца давесці ўсім комплексам самага супярэчлівага матэрыялу. Ужо само гэта вымагае складанасці творчай работы. І мы бачым, што ў такіх рэчах, як «Каця Астаповіч» узяты самы найцяжэйшы і найсупярэчлівейшы матэрыял. І калі рэч аўтару не ўдалася, то гэта з прычыны яшчэ малой спрактыкаванасці аўтара.

Тое-ж самае і з такім нарысам як «Выпадак на хутары». Аўтар не пабаяўся вельмі цяжкой тэмы, але яе не перамог, як матэрыялу. Таму вышла толькі зарысоўка. Такія зарысоўкі, як «Выпадак на хутары» ёсць як-бы толькі збор фактаў ў пісьменніцкім блокноце для яго далейшай работы. Сапраўды «Выпадак на хутары» ёсць найцікавейшы матэрыял для рамана ці драмы. Гэта да жаху цікавая тэма. Тут захаваны такія найвялікшыя магчымасці для пісьменніка, якіх заўсёды пісьменнікі-прафесіяналы шукаюць. З гэтага матэрыяла, з тых намёкаў, якія там ёсць, льга стварыць найскладанейшы раман або драму. Тут можна даць душу эпохі.

Мне думаецца, што далейшая ступень, на якую павінен ўзыйсці аўтар ў справе свайго росту, гэта заўважаць тое вялікае, што ёсць у жыцці і адпаведна гэтаму ўскладняць сваю творчасць. Маштаб і глыбіня павінны быць большыя. З улюбёнага аўтаравага «невялічкага, такога звычайнага, просценькага» чалавека трэба стварыць героя, ўбачыць у гэтым чалавеку справы і рэчы глыбейшыя, мераць яго інакшай мастацкай меркай. Больш даць яму агністасці і гэтую агністасць перанесці ў стыль.

Дыферэнцыраваць мову па героях, больш акрэсліць моўныя стылі для ўласных аўтарскіх рэмарак, для маналогаў, ўсяго аўтарскага расказа і паказа, для ўсёй апавядальнасці.

Удасканальваць свой мастацкі густ, развіваць у сабе творчую фантазію, пачуццё меры і такта.

Сантыментальны стыль ужо не пагражае аўтару. У апошнім яго нарысе ўжо няма і адзнак гэтага стылька. Падам вытрымку з апошняй рэчы.

«Ён зноў зірнуў на рэчку. Цяпер чалавек аберуч пхаў пад ваду тоўстае бервяно. Адагнаўшы далёка, ён прымайстраваўся на бервяне і павольна паплыў, разлёгшыся плашмя. І добра відаць было, як павольна пакачваецца яго шырокае і моцнае цела, адліваючы добрым загарам пад пякучым сонцам. Даплыўшы да таго месца, дзе ляжала вопратка, ён моцна пхнуў бервяно ў тоўсты торэц і сам пашоў апранацца. І ўжо надзеўшы трусы, доўга глядзеў як калыхалася і плыло пасярод плёсы бервяно».

Або вось з нарыса «На шляхах шчасця».

«За дамавінай ішла ўся слабада. Разгневаны і нездаволены такой раптоўнай смерцю, ішоў збоку слабадскі доктар Антон Сцепанавіч. Ён важка перастаўляў ногі і часта праціраў акуляры. Над зямлёй цярушылася імгла і на пакудлачаных валасах сялянскіх галоў віселі невялікія кроплі вады».

Калі мы выкінем ужыты ў дачыненні да кропель эпітэт «невялікія» як неўласцівую ў гэтым месцы і непатрэбную, а таму і не мастацкую, дэталізацыю, то нішто не будзе парушаць строгай гарманічнасці гэтага тэкставога ўрыўка.

Што тут ёсць ад ранейшай сантыментальшчыны? Нічога.

Трэба да канца выгнаць публіцыстычнасць адтуль, дзе развіваецца сістэма вобразаў. Карыстацца публіцыстыкай, як прыёмам, а не як самамэтай.

Строга прытрымлівацца моўных норм. І яшчэ важней: упартая праца над мастацкай дэталлю, развіваць у гэтым кірунку свой мастацкі густ. У гэтым моманце часта яшчэ вызначаюцца слабасці Сяргея Знаёмага.

Важны момант—гэта да канца перамагчы «невялічкага, звычайнага, такога просценькага» чалавека ў тым сэнсе, каб уплыў яго не адчуваўся на ўсім стылі. Захаваць тую інтымнасць, якая ёсць у «стылевой душы» твораў аўтара. Трэба біцца ў большыя размахі свайго творчага палёту, ў большыя ўзлёты тых інтарэсаў, якімі жывуць персанажы творчасці. Бесперапынна займацца справамі тэхналогіі мастацкай літаратуры.

Міх. Бекер

## СПРАВЫ І ДНІ ЛІТГУРТКА ЦАГІ

Агульнавядомай з'яўляецца фенаменальная, выключна-карысная работа М. Горкага з маладымі пісьменнікамі. Няма ніводнага выступлення М. Горкага, ў якім-бы ясна не прасвечвалі кроўныя клопаты аб лёсе маладых пісьменнікаў. Яго даклад на Ўсесаюзным з'ездзе пісьменнікаў з усёй выразнасцю ставіць пытанне аб выхаванні арміі літгурткоўцаў, вылучаемых масай рабочых і калгаснікаў.

Ї вось перад намі новы дакумент: заключнае слова на пленуме савецкіх пісьменнікаў. М. Горкі зноў і зноў ставіць пытанне аб літгурткоўцах, аб маладых.

У парадку самакрытыкі адзначым, што мы маем надзвычай слабае ўяўленне аб змесце і кірунку работы літаратурных гурткоў. У нас да гэтага часу няма (як у гэтым ні сумна прызнацца) аніводнай больш-менш добрай брашуры, аніводнага значнага артыкула пра новы этап у масавым літруху. А між тым цяпер, як ніколі, патрэбна ўдумлівае вывучэнне ўсіх тых працэсаў, якія адбываюцца ў масавым літруху на грунце культурнай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва.

Думаем, што гэтую работу трэба распачаць з канкрэтнага вывучэння канкрэтнага вопыта нашых лепшых гурткоў. Вельмі цяжкая, але затое надзвычай удзячная задача расказаць аб справах і працы нашых літгурткоўцаў, аб іх штодзённай рабоце і літаратурнай вучобе. Зразумела, што перадаючы вопыт таго, або іншага гуртка, мы не можам не паставіць перад сабою практычных задач. Асваенне добрага вопыта трэба ператварыць ў зброю барацьбы за новую якасць работы, за новыя формы і метады кіраўніцтва.

Літгуртож ЦАГІ, які не раз адзначаўся, як адзін з лепшых, зусім не з'яўляецца гуртком без «сучка и задоринки». Труднасці і супярэчнасці, перажываемыя гэтым гуртком, з'яўляюцца вельмі тыповымі для многіх нашых гурткоў: match рознашэрсны склад, неаднолькавы культурны ўзровень, недахват працоўнай дысцыпліны.

Аднак, пры ўсіх сваіх недахопах, амаль неўнікнёных ў рабоце любога гуртка, гурток ЦАГІ заслугоўвае ўвагі як своеасаблівы творчы калектыў. які правёў цікавую і значную работу.

### ЛІТГУРТОК—АЎТАРСКІ КАЛЕКТЫЎ

Што можна сказаць аб уласцівасцях ліпеньскага дня пасля тых шматлікіх апісанняў, якія пакінулі нам Тургеневы розных эпох?

«Была нязвычайная спякота». Такое апісанне ліпеньскага дня пачынае ўсякі шануючы сябе рамантыст.

І сапраўды. Дзень быў спякотны. Калі паверыць маладому канструк-

тару ЦАГІ, Міхаілу Смірнову, «сонца пякло сотняю печаў». Але па яго-ж выразу «радасць за сонца гарачэй».

Што-ж ўласна здарылася?

Сёння літгурткоўцы ЦАГІ робяць свой першы палёт на АНТ-14— машыне, якую яны будавалі сваімі рукамі і ў якой для іх знаёмы кожны вінт, кожная шайба.

«Ззяючы срэбрам, раскінуўшы магутныя крыллі, паблісквае дзецішча нашага завода, наша праца, наша мысль, наша творчасць. Пяццю маторамі ён горда ўрэзаўся ў неба і, як здавалася мне, рэвам прапелераў крычаў пра сваю ўладу над сінявой, над пакоранымі хмарамі».

Такімі словамі захаплення перадаў сваё ўражанне ад сустрэчы з прыгожым-самалётам рабочы А. Камкоў. Але яго нарыс не быў адзіным. Амаль ўсе ўдзельнікі адзначылі свае палёты нарысамі, апавяданнямі і вершамі. Такая была ўмова. Кожны піша аб сваім палёце.

Заняткі гуртка, на якіх абмяркоўваліся гэтыя творы, надоўга застануцца ў памяці літгурткоўцаў, як ярка-красачная падзея іх творчага жыцця. Супастаўляючы свае творы, гурткоўцы ў гэты момант асабліва востра адчулі значэнне калектыўнай работы.

Тады-ж многім стала ясна, што паўзучыя эмпірыкі водзяцца і ў кабіне самалёта...

Значэнне калектыўнай творчасці зрабілася асабліва відавочным у працэсе работы над кнігай, якую ў сучасны момант гурток заканчвае.

Было так. Двойчы чырвонасцяжны ЦАГІ пачаў пабудову самалёта-гіганта імя гіганта літаратуры М. Горкага. Уся грамадскасць адгукнулася на прапанову Ўсесаюзнага Камітэта ўдзельнічаць у зборы сродкаў. Самалёт будавала ўся краіна.

Ці-ж мог гурток заставацца ў баку ад кіпучай і радаснай работы па стварэнню агітсамалёта?

Безумоўна, не!

Гурток аб'явіў сябе ўдарнай літаратурнай брыгадай. Ён рашыў напісаць кнігу аб ударніках «М. Г.».

У газеце сістэматычна сталі з'яўляцца:

нарысы,
апавяданні,
фельетоны,
вершы

Гурток рос не днямі, а гадзінамі. У гурток прыбывалі ўсё новыя і новыя людзі. Яны прыносілі з цэхаў гарачае дыханне барацьбы і заражалі адзін аднаго энтузіязмам творчасці.

Ён яшчэ не быў пабудаван—гэты дзівосны самалёт, але гурткоўцы ўжо бачылі яго сабраным, мысленна ўяўлялі сабе яго палёт.

„И гулкому небу, и синей песне
Ответила дружным раскатом земля:
Вперед, агитатор, гигант-буревестник,
На стройки наши, на наши поля!"

Так пісаў Міхаіл Смірноў задоўга да заканчэння пабудовы самалёта.

Гурток рос і падыходзіў на дрожджах калектыўнасці. Іменна калектыўнасць, іменна мэтанакіраванасць у рабоце абумовілі «адзінае дыханне» гуртка, баявы напрамак яго работы, яго творчы разгон.

Тут нельга не ўспомніць даклада таварыша Стаўскага, ў якім ён падрабязна ахарактарызаваў на з'ездзе значэнне аўтарскіх калектываў.

«Бяда многіх літаратурных гурткоў іменна ў тым і заключалася, што іх удзельнікі не складалі творчага адзінства, што гэта не быў творчы

арганізм, ячэйка творчага асяроддзя, працаваўшая над пэўнай тэмай, пэўным матэр'ялам, пэўным сюжэтам.

Літгурток найчасцей па сутнасці сваёй быў механічным злучэннем шэрага тарарышоў, якія пішуць уразброд, на розныя тэмы (часам на тэмы, зусім некарысныя і непатрэбныя).

У пошуках вагароў ўздзеяння на творчую работу літгурткоўцаў не адзін кіраўнік знясільваўся. Бо, сапраўды, у такіх выпадках, вельмі цяжка не толькі арганізаваць творчасць, але і кіраваць работай пачынаючых пісьменнікаў.

А таму В. Стаўскі прапанаваў арганізаваць гурткі на прадпрыемствах па тыпу «аўтарскіх калектываў, пішучых кнігу, аповесць, нарыс, апавяданне, вершы па гісторыі свайго прадпрыемства, сваёй фабрыкі, свайго завода».

Практыка літгуртка ЦАГІ паказвае, што аўтарскі калектыў з'яўляецца зусім рэальнай і жыццёвай формай, якая адкрывае перад кожным ўдзельнікам шырокія магчымасці творчага развіцця.

## ПРА ШТО І ЯК ПІШУЦЬ „ЦАГАЎЦЫ“.

Нярэдка прыходзіцца чуць думку, што калектыўная работа над кнігай стварае нейкую ўраўнілаўку, выключае «свабоднае творчае спаборніцтва». Наконт гэтага, М. Горкі правільна заўважыў:

«Калектыўная работа над матэр'ялам соцыяльных з'яў,—работа па адлюстраванню працэсаў жыцця,—гэта работа над бясконца-рознастайнымі фактамі і кожная індывідуальная адзінка, кожны пісьменнік мае права выбраць для сябе той ці іншы рад фактаў, адпаведна яго схільнасці яго інтарэсам і здольнасцям».

Ці-ж звучае работа над кнігай творчыя індывідуальнасці гурткоўцаў? Зусім не і ні ў якай ступені! Кожны лігуртковец пісаў аб тым, што яго цікавіла і ў тым жанры, які для яго з'яўляецца ўласцівым. Іваноў пісаў аповесць, Каваленка і Салавейчык—нарысы, Станілевіч і Смірноў—вершы, Максімачоў—фельетоны і раешнікі, Несветаў—казку і г. д. І калі многія літгурткоўцы да работы над кнігай не мелі свайго твару і пісалі пра што папала, то ў працэсе работы над кнігай яны выявілі свае творчыя пазіцыі. Гурток узброіў іх тэмай, вылячыў ад беспрадметнасці і рушыў з усёй быстрынёй на шлях сур'ёзнай літаратурнай работы.

Не маючы магчымасці падрабязна спыніцца на творчасці гурткоўцаў, мы пастараемся коратка ахарактарызаваць іх дасягненні і недахопы.

**Іваноў.**—Піша аповесць «Начало» аб ударнай рабоце комсамольскіх брыгад. Пасля «Осады» Буткоўскага гэта будзе другая спроба асвятліць у мастацкіх вобразах работу заводскага комсамола, але ўжо ва ўмовах канца першай і пачатку другой пяцігодкі. Адсюль тэхнічны пафас, які пранізвае ўсю аповесць.

Іваноў увесь у руху, у развіцці. Вытворчы аскетызм—а ён раней назіраўся ў яго работах,—зжываецца. Моладзь паказваецца не толькі на вытворчасці, але і ў абстаноўцы адпачынку, спраўляючай свята працы і чэрпаючай поўнымі жменямі радасць жыцця.

І ўсё-ж «Начало»—гэта толькі пачатак работы маладога літаратара. Супярэчнасці будаўніцтва пакуль што ў аповесці выступаюць крыху аднабакова і занадта прамалінейна. Больш скрытых і глыбокіх супярэчнасцяй, выклікаемых перажыткамі капіталізма, некультурнасцю і г. д., ён яшчэ не бачыць, або бачыць недастаткова. Людзі праяўляюць пэўную непаваротлівасць. Яшчэ патрэбна вялікая работа, каб гэтыя людзі набылі сапраўдную стопроцантную жыццёвасць.

Таццяна Станілевіч ў пафасных вершах апявае магутнасць совецкай авіяцыі.

Радкі:

„Летать не умеем—
Мы пели веками.
Теперь наша песня поет:
Из наших металлов,
Своими руками
Мы строим
„Агитсамолет"—

каштоўны сваёй шчырасцю і просяцца ў песню. Добрымі з'яўляюцца і радкі ў вершы «Наши летчики», прысвечаным выратванню чэлюскінцаў:

„Ведь не было
В эти горячие дни
Далеких
От лагеря Шмидта".

Можна працытаваць і шэраг іншых удачных радкоў і нават строф, але, як правільна заўважыў Багрыцкі, «трэба пісаць не добрыя радкі, а добрыя вершы». (Пры гэтым мелася на ўвазе, што дрэнных радкоў наогул не павінна быць).

Ф. Салавейчык—дае ў сваіх нарысах летапіс падзей па пабудове самалёта «М. Г.». Яго нарыс паслядоўна рысуюць найскладанейшыя этапы і моманты будаўніцтва самалёта, пачынаючы з яго нараджэння і канчаючы перавозкай на аэрадром. Яны не пазбаўлены некаторай своеасаблівасці. У іх паказаны людзі, якія на рабоце растуць, авалодваюць тэхнікай і ўзнімаюць свой агульны культурны ўзровень.

Рабочы Цярэнцьеў—адзін з лепшых ударнікаў на будаўніцтве «М. Г.» Але калі яму запрапанавалі напісаць у насценгазету заметку пра Горкага, ён прымушан быў прызнацца, што твораў Горкага не чытаў. У гэты дзень Цэрэнцьеў адчуў у сабе супярэчнасць і затаіў глыбокую прыкрасць да самога сябе. Як-жа так? Будуе самалёт імя Горкага, а твораў гэтага пісьменніка ён, «стары дурань», ніколі ў рукі не браў. І Цэрэнцьеў рашыў, што лепш позна, чым ніколі. Ён па начах пачаў чытаць Горкага і пад канец пабудовы гіганта асвоіў поўны збор твораў Алексея Максімавіча.

Цікавую паэму напісаў М. Несветаў. Глыбока аптымістычная па тону, яна ў занімальнай форме рысуе паасобныя моманты будаўніцтва і дае апісанне самалёта.

„Великан летит вперед
И ревет,
И воздух рвет.
И над ним,
Под ним,
Кругом
Страшный гул
И страшный гром.

Вдруг из тучи серебристой
Самолет взлетает быстрый.
Загремел, смеясь, гигант:
— Это мой братишка АНТ!
У братишки вид серьезный,
Хоть не так уж очень грозный.
Он немножко недорос,
Он немножечко курнос,
Между крыл сияет спинка,
И кабинка,—
Как корзинка.

И блестящий винт—как бант...
Вот каков наш первый АНТ.
Вновь раздался рев гиганта:
—Ты устал, мой милый АНТА?
Сядь на хвост мне, не робей!
И, вздохнув мотором тяжко,
Примостился АНТ, бедняжка,
Словно малый воробей.

Усё-ж, у казцы Несветава адчуваецца некаторы прысмак тэхніцызма, надуманасці. Мала паэтычнай непасрэднасці і «дзіцячага ўспрыймання свету», якое так патрэбна ў казцы. Несветаву трэба асвоіць эмацыянальную дзіцячую мову і распрацаваць яе на высока-паэтычнай аснове.

Вось якой з'яўляецца творчасць гуртка. Літгуртkоўцы актыўна дапамагалі сваёй творчасцю будаўніцтву самалёта, заахвочваючы лепшых ударнікаў і выяўляючы канкрэтныя недахопы. Прачытаўшы пра сябе нарыс Салавейчыка, вядучы інжынер Арлоў сказаў: «Цяпер буду працаваць яшчэ больш і... лепш». Высокім каэфіцыентам уздзейнічання ўладаюць фельетоны Максімачова і Гваздзёва—яны памагалі грамадскасці ЦАГІ змагацца з бесгаспадарчасцю, закаранеласцю, бюракратызмам, пядбайнымі адносінамі да соцыялістычнай уласнасці.

## ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА І ВУЧЫЦЦА

Зразумела, самае галоўнае ў гуртку— гэта сістэматычная літаратурная вучоба, без якой немагчымы ніякі літаратурна-творчы вопыт. Гурток усвядоміў гэта з самога пачатку і паставіў сваю вучобу на належны ўзровень.

Якімі-ж прынцыпамі кіраваўся гурток, складаючы сваю праграму?

1. Вывучыў магчыма большую колькасць твораў савецкай літаратуры. Поднятая целіна» Шолахава, «Скутаревский» Леонава, «День второй» Эрэнбурга, апавяданні Бабеля, «Разгром» Фадзеева, «Осада» Буткоўскага, «Пётр 1» Ал. Талстога—гэта далёка не поўны пералік твораў, прапрацаваных гуртком. З прычыны вялікай зацікаўленасці творамі Алексея Максімавіча, прышлося арганізаваць спецыяльны семінар яго імя.

Натуральна, што літгурток не мог не цікавіцца і літаратурай, якая адлюстроўвае авіяцыю ў нас і заграніцай. Ён прапрацаваў фельетон Кальцова «Хочу летать», апавяданні В. Талстога «Люди, которые летают», вершы аб авіяцыі, раман Гельдэрса «Разрушение Парижа».

2. Асаблівую ўвагу гурток удзеліў класікам. Творы Шчэдрына, Горкага, Чэхава, Мопасана, Беранжэ і інш. вывучаліся гуртком надзвычай уважліва (ў асаблівасці творы Горкага і Чэхава). Пытанні літаратурнай спецыфікі не сыходзяць з парадку дня гуртка ЦАГІ. Мова, вобраз, пейзаж, сюжэт, літаратурны памфлет, мастацкая дэталь—усё гэтыя пытанні стаялі і будуць яшчэ не раз стаяць перад гуртком. Як правіла, гэтыя пытанні ставяцца не адарвана ад твораў гурткоўцаў, а на іх аснове. Гэтым дасягаецца канкрэтнасць пастаноўкі пытанняў творчасці.

Частка-ж заняткаў вырастае непасрэдна з задач дня, з той барацьбы, якая праводзіцца партыяй на ўсіх участках будаўніцтва.

Партыя рыхтуецца да свайго з'езда. Гурток распрацоўвае сваю праграму, ставіць даклады аб паказе комуністаў у мастацкай літаратуры, аб праблеме партыйнасці літаратуры, чытае артыкул Леніна «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура», ставіць перад сабой практычныя задачы—даць партрэты лепшых комуністаў ЦАГІ.

Такім чынам, гурток стварыў жывую, руховую праграму, прадыктаваную творчымі запатрабаваннямі гуртка і ў значнай меры—падказаную жыццём краіны, задачамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Але для таго, каб чытач атрымаў больш яснае і наглядное ўяўленне аб метадах і змесце літаратурнай вучобы, мы падамо некалькі цікавых момантаў з нашай вучэбнай практыкі.

## ГЕЙНЭ, БЕРАНЖЭ І МАКСІМАЧОЎ

П. Максімачоў піша раешнікі і сатырычныя фельетоны. У сваіх творах ён бічуе не абстрактныя заганы, а зусім канкрэтныя недахопы, якія ёсць у рабоце аддзела ці цэха.

Але Максімачову—як і большасці літгурткоўцаў—не хапае культуры. І вось гурток прыходзіць яму на дапамогу, узбройвае яго томікамі Гейнэ і Беранжэ, у якіх ён і вучыцца культуры гумару і сатыры.

Зразумела, што вывучэнне Беранжэ карысна не толькі для гурткоўцаў, як правільна заўважыў Горкі ў сваім заключным слове на пленуме Саюза совецкіх пісьменнікаў. Маладыя паэты шмат бы выгралі, калі-б яны «ішлі той дарогай, якою ішоў Беранжэ і якой ідуць французскія шансон'е ».

На занятках, прысвечаных Беранжэ, якраз і падкрэслівалася значэнне геніяльнага французскага песняра для маладой совецкай паэзіі. І гэта не прайшло дарэмна для гуртка, асабліва для Максімачова, які моцна захапіўся творамі Беранжэ. Праз некаторы час Максімачоў прынёс на заняткі чарговую песню, якая на гэты раз мела ў сабе новую якасць. Насценгазетны «Беранжэ», звяртаючыся да сваіх заслужбоўцаў, пісаў:

„Выходит что-то редко
Наш Цосовский стенгаз...
—Иль вовсе нет заметок?
—Рабкоров нет у нас?
Напрасная тревога,
Ребята говорят:
—Ну, вот, еще немного—
Дела пойдут на лад".
Нужна нам техучеба—
Свой уровень поднять.
Ты говоришь: „Еще бы,
Как это не понять?!"
А сам хоть только ногу
В трамвай закинуть рад...
—„Ну, вот еще немного—
Дела пойдут на лад".
В нас искренни стремленья
В борьбе за новый быт.
К культуре тяготенье,
Мы за опрятный вид...
И тут же: в душу, в бога"—
Густой несется мат...
—„Ну вот еще немного—
Дела пойдут на лад".
За воспитанье взяться
(Делишки не восторг),
Но редко шевелятся
Парторг наш і профорг;
„Не трожьте, ради бога,
Мы знаем „говорят".
—Ну, вот, еще немного—
Дела пойдут на лад".
Мы долго песню пели
Про скромные дела
И думаем, что к цели

Она вас привела.
Хотим забить тревогу
Путем таких рулад,
Чтоб вправь—еще немного
И все пошло на лад.

Песня Максімачова з'яўляецца не зусім дасканалай.

Гэта толькі перайманне ў Беранжэ, але ў творчым развіцці Максімачова гэтае перайманне адыграе станоўчую ролю.

## АДКРЫТАЕ ПІСЬМО Н. БУХАРЫНУ

З'езд пісьменнікаў, як і трэба было чакаць, уліў свежы струмень у работу гуртка. З якой велізарнай цікавасцю і прагнай увагай лавілі гуртко ўцы кожнае слова, яно гучэла з трыбуна з'езда.

Аднак, сапраўдная прапрацоўка дакладаў пачалася пасля з'езда. Гурткоўцы па чарзе вывучалі даклады Горкага, Радэка і Бухарына, перакладаючы іх на творчую мову сваёй уласнай работы.

Надзвычай жыва прайшло абмеркаванне даклада Н. Бухарына.

Спрачаліся з палемічным задорам аб паасобных формулах. А яшчэ больш разгарэліся спрэчкі, калі дайшлі да наступнага сцвярджэння:

«Стары рэалізм быў да пэўнай ступені антылірычным, у той час, як старая лірыка была таксама да пэўнай ступені антырэалістычнай».

Ці-ж гэта так? Гурткоўцы падзяляюцца на два лагеры: адны адстойваюць гэтае палажэнне і безагаворачна з ім згодны, другія заўзята абвяргаюць. І вось—нечая прапанова:

— Давайце напішам Бухарыну пісьмо!

Прапанова прымаецца. Пісьмо распрацоўваецца, зачытваецца на гуртку, падпраўляецца і, нарэшце зацвярджаецца ў наступным выглядзе:

— Дарагі Нікалай Іванавіч!

Першы Ўсесаюзны з'езд пісьменнікаў закончыўся, але яго цудоўны рэзананс чуецца скрозь і ўсюды. Няма такога прадпрыемства, калгаса, аула, дзе не гучэлі-б прамовы, сказаныя з трыбуны з'езда.

Вось ужо на некалькіх занятках мы абмяркоўваем пытанні, пастаўленыя ў дакладах на з'ездзе. Для нас—як, і для ўсёй масы літгурткоўцаў—гэтыя даклады з'яўляюцца велізарнай каштоўнасцю. На іх мы вучымся і расцём.

Вялізнае значэнне мы надаем і вашаму дакладу, Нікалай Іванавіч!

Услед за вамі мы паўтараем:

— Культура, культура і яшчэ раз культура!

Прызнаючы значэнне вашага даклада, мы аднак не думаем, што ў ім усё бясспрэчна. І нам здаецца, што гэта—не мінус, а—плюс. Даклад дае багаты матэрыял для разгорнутай творчай дыскусіі па пытаннях паэзіі. Але дзіўна: крытыка наша, як набраўшы вады ў рот, упарта маўчыць. Як быццам у дакладзе няма пытанняў і палажэнняў, пра якія трэба спрачацца і гаварыць! Як быццам у нас даклады чытаюцца толькі для ведама?!

Мы не крытыкі. Не наша справа ўваходзіць у абгаварэнне ўсяго даклада. Але мы не можам прайсці міма аднаго палажэння, якое моцна нас зацікавіла і выклікала цэлую дыскусійную буру. Вось яно:

«Стары рэалізм быў да пэўнай ступені антылірычным, у той час, як старая лірыка была таксама да пэўнай ступені антырэалістычнай».

Адносна гэтага тэзіса мы доўга і горача спрачаліся, прычым да гэтага часу ў нас няма ў гэтым пытанні адзінага пункту гледжання.

Перш за ўсё—пра якія такі стары рэалізм ідзе гутарка? Стары (вярней, буржуазны) рэалізм не з'яўляецца нечым адзіным і непадзельным.

Вы самі дасканала ведаеце, што ўнутры буржуазнага рэалізма, як стыля, адбываліся і адбываюцца процэсы складанай дыферэнцыяцыі. На гэта ўказваў у сваім дакладзе Горкі, выдзяляючы крытычны рэалізм, як асобны напрамак у літаратуры буржуазнага грамадства. Крытычны рэалізм з прычыны сваёй апазіцыйнасці не мог быць бесстароннім рэгістратарам з'яў і фактаў. Ён шырока ўжываў юмар, іронію і лірычныя адступленні. Нават Флобер,—а ён прапаведваў найвышэйшы аб'ектывізм, абвяргаючы гэта на практыцы—упадаў у грахі тэндэнцыйнай літаратуры. Бестароннасць, як правільна сказаў хтосьці—гэта толькі форма класавай небесстароннасці.

Нам не зусім зразумела, які змест вы ўкладваеце ў паняццё «лірызм». У прыватнасці, якімі бываюць формы праяўлення лірычнасці ў прозе. Калі гутарка ідзе аб лірычных адступленнях шляхам якіх суб'ект выказвае свае адносіны да аб'екта, то іх у старой літаратуры знойдзецца не мала. Узяць Гогаля. Яго творы надзвычай багаты лірычнымі адступленнямі, многія з якіх выклікаюць жывое хваляванне і бяруць, як кажуць, за душу.

Як даказаць, што шмат у чым абмежаваны рэалізм Тургенева з'яўляецца антылірычным (хоць бы у пэўнай ступені)? Лірызм, як настрой, які эмоцыянальна афарбоўвае прадметы і падзеі, складае значную ўласцівасць Тургенеўскага стылю.

Вельмі цяжка згадзіцца з тым, што старая лірыка, хоць у пэўнай ступені была антырэалістычнай. Сіла лірыкі якраз і заключаецца ў тым, што яна моцна звязана з зямлёй і гаворыць мовай рэальных, зямных, у канчатковым рахунку класавых страсцей. Гэта лірыка рэальных людзей, рэальных адносін, рэальных пачуццёў. Адмаўляць гэта, значыць аб'ектыўна аслабіць соцыяльнае гучэнне буржуазнай лірыкі да некаторай ступені выхаласціць яе рэальны класавы змест.

Але ўявім сабе такую пастаноўку пытання.

Буржуазны рэалізм перыяду росквіту буржуазіі, як класа, не быў антылірычным. Гэта быў рэалізм вялікіх абагульненняў, мужных пачуццяў, глыбокіх дум, яркіх страсцей (гл. характарыстыку Фауста ў вашым дакладзе). Але дарэмна пачалі-б мы шукаць гэтыя якасці ў літаратуры буржуазнага заняпаду. Адрываючыся ад зямлі, лірыка ідзе ў «асоцыяльную стратасферу», жывіцца настроямі містыцызма, падалі, становіцца ірэальнай. Пазбаўлены галоўнай крыніцы натхнення, рэалізм вяне, робіцца цмяным, эмацыянальна як-бы бескаляровым.

О, тады іншыя справы! З такой пастаноўкай мы згодны.

З другога боку, было-б найвялікшым вульгарызатарствам сцвярджаць, нібы буржуазны рэалізм цяпер высушыў сябе настолькі, што ў яго нетрах не могуць забіць крыніцы тых альбо іншых пачуццяў. Могуць, напрыклад, паявіцца творы, прасякнутыя эмоцыямі суму, выражаючага трагічную асуджанасць класа, лірычна афарбаваную. Але мы ведаем, што гэта за лірыка. Гэта, кажучы словамі Плеханава, «песня скнары, аплакваючага згубленыя чырвонцы». Гэта лірыка, якая не выклікае, не можа выклікаць спачування мільёнаў.

Наша пісьмо канчаецца. Мы сумленна расказалі вам пра тыя спрэчкі, якія выклікала ў нас абмеркаванне вашага дакладу. Але мы не зусім упэўнены ў правільнасці нашай пастаноўкі пытання. Мы ўсё яшчэ адчуваем неяснасць, непэўнасць—і тут ваша дапамога надзвычай патрэбна. У прыватнасці нас цікавіць яшчэ такое пытанне: ці з'яўляецца наяўнасць лірыкі ў рэалізме выражэннем сілы мастака? І наогул, ці ёсць так званая лірычнасць характэрным і абавязковым атрыбутам соцыялістычнага рэалізма.

Вось па сутнасці гэтых пытанняў хацелася-б атрымаць з вашага боку падрабязнае вырашэнне. «На праклятыя пытанні адказы дайце нам прамыя».

*Літактыў гуртка ЦАГІ*

## „ПОКАЖИТЕ ЯЗЫК"

Пытанні моўнай культуры не адзін раз стаялі, дый не могуць не стаяць перад літгуртком. Асаблівая цікавасць да гэтых пытанняў пачала праўляцца пасля артыкулаў Алексея Максімавіча.

Гурток прачытаў пісьмо Серафімовіча, другія артыкулы, развіваючыя погляды Горкага. Але хіба-ж толькі ў гэтым справа? Самае галоўнае— выхаванне гурткоў у духу беражлівых адносін да слова на падставе уважлівай вучобы ў лепшых майстраў мастацкага слова. І літгурткоўцы разам з кіраўніком змагаюцца з неграматнасцю, штампаваннем, вульгарна зразумелым фальклорам, залішнім натуралізмам мовы, змагаюцца за яснасць, чыстату і мастацкую выразнасць мовы.

«Покажите язык». З лёгкай рукі Гр. Розе гэтыя словы сталі своеасаблівым дэвізам для літгурткоўцаў у іх барацьбе за культуру мовы.

У цябе сказана: «взметались листовки». А трэба «взметнулись».

Вы пішаце: «Снег таял, обнажая голые, вымытые камни». А калі «вымытые», то значыць «голые» і «обнаженные».

Заўвагі літгурткоўцаў сыплюцца без канца. Удзячны аўтар ледзь паспявае іх запісваць.

Безумоўна, справа не абмяжоўваецца гэтымі беглымі, але надзвычай патрэбнымі заўвагамі. Пытанні работы над словам «цагаўцы» часта ўзнімаюць і на больш высокі ўзровень.

Літгуртковец Ф. С., будучы пад уплывам Талстога, піша даўжэзнымі талстоўскімі перыядамі. Яму дзельна заўважаюць, што капіраванне сінтакса Талстога яшчэ не стварае ўражання мастацкай значнасці.

«Адна справа афарбоўваць» людзей і рэчы, другая—паказаць іх так пластычна і жыва, што паказанае хочацца крануць рукой, як хочацца гэта часта зрабіць у адносінах герояў Талстога ў рамане «Вайна и мир» (Горкі. «Як я вучыўся пісаць»).

Заслугоўвае ўвагі і тая акалічнасць, што пытанне сваёй літаратурнай вучобы гурткоўцы звязваюць з жыццём і культурнымі запатрабаваннямі свайго прадпрыемства. Максімачоў расказвае:

«Уваходжу ў нашу дыетсталовую. Перада мной плакат, а на ім буйнымі літарамі напісана:

Хворым у галошах харчаванне не падаецца».

Паведамленне Максімачова выклікае смех.

— Ну, добра,—кажу я Максімачову,—а вы так і прайшлі міма плаката і нічога не сказалі.

Максімачоў не дае мне закончыць фразу:

— Ну, як-жа, я выклікаў загадчыка і растлумачыў яму, што так пісаць нельга. Ён загадаў перарабіць плакат.

— У тым-то і справа—заўважвае літгуртковец К.,—барацьба за культуру мовы павінна весціся не толькі ў рэдакцыі, дзе мы праводзім заняткі, але і ўсюды.

## АБ НОВЫМ ТЫПЕ ЛІТАРАТУРЫ

Наша характарыстыка была-б непоўнай, калі-б мы прайшлі міма новага літаратурнага асяроддзя, фармаванне якога можна назіраць у гуртку ЦАГІ. Гэта яшчэ больш неабходна зрабіць пасля артыкула Горкага пра

«Літаратурныя забавы», артыкула, які з усёй вастрынёй ставіць пытанне аб тыпе пісьменніка.

Многім маладым пісьменнікам, якія лічаць сябе «геніямі», варта павучыцца скромнасці ў шмат каго з рабочых-літгурткоўцаў.

Хто-ж ён гэты новы тып літгурткоўца. Што характэрна для яго ідэйнага і творчага аблічча?

Новы тып літгурткоўца—гэта гуртковец, для якога літаратуршчына з'яўляецца чужой. У ім няма нічога ад літаратурнага жрэчаства. Нічога ад «гульні» ў літаратуру. Калектывіст па натуры, ён дапамагае адстаючаму таварышу, уцягвае ў гурток новых людзей, далучае іх да жывой творчай работы.

З некаторага часу гурток асабліва востра пачаў адчуваць нажніцы паміж кваліфікаванай і малападрыхтаванай часткай. У выніку—прапанова Станілевіч: арганізаваць спецыяльную групу і праводзіць з ёю дадатковыя заняткі па асобнай праграме. Аўтар прапановы сам бярэцца ажыццяўіць яе.

Гэты факт яскравы паказчык калектыўнасці, якая ўзнікла, як рэзультат творчай дружбы.

Далей, новы гуртковец шукае сустрэч з чытачом. Ён ахвотна выступае ў цэхах, бараках і на лётных станцыях.

Ён таксама шмат і старанна працуе над сабой.

Мы звярнуліся да актывістаў літгуртка ЦАГІ з просьбай назваць кнігі, якія яны прачыталі за два апошнія месяцы.

І вось што яны напісалі:

І в а н о ў: «Неточка Незванава» Дастаеўскага, «Я люблю» Аўдзеенка, «Партийная организацыя и партийная литература» Леніна, альманах «Год шестнадцатый», «Семейная история» К. Фіна, «Социалистический план науки» Куйбышэва, апавяданні Балея, артыкул у «Красной Нови» пра тэхінтэлігенцыю «Шарыкападшыпніка», зборнік «Военлеты», «Атаку», Стаўскага, «Большой конвейер» Ільіна, артыкулы ў «Литкритике» и «Литгазете».

С м і р н о ў. Шэкспіра «Макбет», «Отелло», «Та ночь», альманах «Проблемы поэтики», пад рэдакцыяй В. Брюсава, вершы Асеева і Пастэрнака.

П а т о ц к і. «Наталья Тарпава» Сямёнава, «Скутаревский» Леонава, «Натан Мудрый» Лесінга, «Литературный критик» № 5—6, «Дело Жуковской» Нікуліна, «Происхождение христианства» Каўцкага і хрыстаматыя дыямата.

На першы погляд гэты спіс нічога асаблівага не кажа. Спіс, як спіс. Адзін прачытаў менш, другі—больш, але не цяжка заўважыць адну асаблівасць, якой нельга не радавацца, а іменна—рознастайнасць чытацкіх інтарэсаў. Літгуртковец разумее, што на адной літаратуры далёка не заедзеш, што апроч «высока-мастацкай славеснасці» патрэбна яшчэ палітыка, філасофія, гісторыя, авіяцыя і тэхніка. У яго галаве надзвычай дасканала ўжываюцца Шэкспір, вершы Багрыцкага і тэзісы Кагановіча.

Бясспрэчна, не ўсе гурткоўцы дасягнулі гэтых якасцей. Індывідуалізм і верхаглядства канчаткова сябе не зжылі і даюць сябе адчуваць у паводзінах некаторых літгурткоўцаў. Роўным чынам, новы літгуртковец не з'яўляецца «рыцарам без дакору», гарманічным чалавекам. І ў яго здараюцца ««прарывы», якія сведчаць аб страшнай сіле перажыткаў. Але істотным з'яўляецца тое, што калектыўнасць, як метад і прынцып, глыбока ўкараняючыся ў работу гуртка і атрымліваючы перамогу над індывідуалізмам, паступова становіцца стылем яго жыцця і працы.



## ЗМЕСТ



Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ*.



АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменніка.**

Рэдактар *М. Лынькоў* Тэхрэдактар *Х. Абрамава*

Здана ў друкарню 5/V—35 г. Падпісана да друку 21/VI—35 г. Аб'ём 10½ друкаван. аркушоў.
Папера 72×105 1/32. Знакаў у друкаваным аркушы 62.016. Тыраж 5.685 экз. Зак. № 452.
Уп. Галоўлітбела № Б 1886.

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, 2.

